

3

САКАВІК

МІНСК, 1970

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **П. Лысенкі.**

Шмуцтытулы **М. і У. Басалыгаў** (3 стар.) і фота **В. Ждановіча «Мінская камвольшчыца Лена Маслава»** (77 стар.).

Галоўны рэдактар **Алесь АСІПЕНКА.**
Рэдакцыйная калегія: **Вячаслаў АДАМЧЫК, Генадзь АНЦІПАЎ, Мікола АЎРАМЧЫК, Генадзь БУРАЎКІН, Васіль БЫКАЎ, Арсень ВАНІЦКІ, Іван ГРАМОВІЧ, Васіль ЗУЁНАК** (нам. галоўнага рэдактара), **Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Пімен ПАНЧАНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ** (адказны сакратар).

# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

● Раман **ТАРМОЛА** ● Уладзімір **ФАМІН** ● Клара **ПІШЧЫКАВА** ● Еўдакія **ЛОСЬ** ● Алесь **РЫБАК** ● Святлана **ЛОБАЧ** ● Віктар **ЯРАЦ** ● Уладзімір **ШЫЦІК**



Раман ТАРМОЛА

● *Роздум у дарозе* ●● *Сон і ява* ●●● ——————

●●●● *Кватэра ў Крамлі* ●●●●● *Ля Маўзалея*

●●●●●● *Замест эпілога — зварот*

●

По мясцінах ленінскіх крочу я —
Да пазнання душа ахвочая
Вядзе.
І пытанні на дзіва простыя
Падымаюць мяне, выпростваюць:
Як?
      Калі?
            Дзе?
Як ён жыў у завейным Шушанскім?
Дзе ён сілы чэрпаў,
                                    калі
Днём і ноччу над ім шушукалі
Шпікі царскія,
                        сцераглі?..
. . . . . . . . . . .
Шумны горад і вёска ціхая —
Усё мясціны яго,
                        хаця
Добра ведаю, каб прайсці па іх,
Мала мне аднаго жыцця.

Аднаго толькі сэрца — мала мне.
Мала ног адных
                        і вачэй:
Хадака, як Ільіч, не знала, не,
І планета Зямля яшчэ!
Паралелямі, мерыдыянамі
Шлях вялікі пад ногі лёг.
Людзі ўслед пешаходу глянулі:
«Як дабрацца да нас ён змог?»

І шчыльней атулялі іскарку —
Думку ленінскага агню.
І яна уздымала высака
Душу не адну...



●●

Хоць нямала прайшоў
Па мясцінах я ленінскіх.
Не цяжэе мяшок,
Што прыхоплены з Менеска.

Лепшы харч для душы
У мяшку гэтым складзены.
Пачытаю ў цішы —
Зноўку сіла мне дадзена.

Зноў наперад іду
І нідзе не зварочваю —
Праз нядолю, бяду
І праз слёзы сірочыя.

Я пытаю ва ўсіх:
Ці не бачылі волата?
Ён на Белай Русі
Раздае людзям золата.

Не, не звонкі метал —
Словы праўды гаючыя?
Толькі дзе б ні пытаў,
Быў адказ мне: «Замучылі...

Катавалі яго
У ланцугі закаванага...»
Катавалі ЯГО?!
. . . . . . . . . . . . .

Прачынаюся рана я.

Адчыняю акно,
Чуцен голас мне ленінскі...
Праз стагоддзе ажно
Будзе ў нашым ён Менску.
Будзе толькі праездам...
Прайсціся ж — час выкраіць.
Горад першага з'езду...
Першага выраю
Нашых думак...
                        Ідэй...
Прабіваліся з мукамі...

...Далей поезд ідзе,
Як, грамы, колы грукаюць.

●●●

За акном дрэмле край,
Белы-белы,
                  знясілены...
У лясах небакрай,
Вочы сінія-сінія.
І Нява недзе спіць,
Туманамі укрытая.
Прысвячаюць ёй спіч
Слугі царскія з крыкамі.
За спакойную плынь
Шумна звоняць бакаламі...

...Поезд мчыць праз палын,
Што зялёнымі хмарамі
Спавівае людзей
І хаціны іх курныя.
Ля акна цэлы дзень
Пасажыр... Вочы хмурныя...
То зіхцяць, як зірне
У палі неаглядныя.
Гэта ён для мяне
Лёс інакшы выглядвае...



У кватэры ленінскай сціпла,
Быць не можа яшчэ сціплей...
Пакаленне маё прыціхла,
Думкі лезуць: «Як жыць далей?»

Кожнай рэччу душу пакратаў,
Усхвалёвана
сэрца
б'е...
О, нікчэмным арыстакратам
Паказаўся я тут сабе.

Перад гэтаю зрэбнай коўдрай
І сасновым яго сталом —
Выглядаю сапраўднай контрай.
Сэрца, грукай: «Далоў! Далоў!»

К д'яблу гонар мяшчанскі, пыху,
Я ж краіны ягонай сын!
У кватэры утульна,
ціха.
Вось бы сціпласць такую ўсім!

Уціскаем галовы ў плечы
Перад ім,
прад яго жытлом.
Ачышчэнне,
як ты дарэчы
Да мяне ў гэты час прыйшло.

Праз мінуту — ужо на плошчы.
Коле ў вочы іскрысты снег.
Сцяг, здаецца, па твару хвошча,
Толькі болю не чую, не...



Ён жывы!
Ён жыве!
Не меншае
Шэсце люду
З усіх
Краёў.
Хто нясе яму
Радасць першую,
Хто —
Збалелае
Сэрца
Сваё.
Самы раз
І мне
Далучыцца.
Зліцца мне
З бясконцай
Чаргой:
Як ніколі,
Сэрца
Імчыцца
Да яго!
Зноў трашчаць
Маразы
У студзені.
Ды яны,
Закаваўшы
Ртуць,
Не людзей,
А сняжынкі
Спудзілі —
Над чаргою
Лятуць,
Лятуць...



Уладзімір Ільіч, прабачце,
Зноўку я прыйшоў па адказ.
Я упэўнен: адны Вы бачыце
І сягоння
заўтрашніх нас.

Кожны раз, як душа натоміцца,
Я, каб скінуць з яе цяжар,
Прыпадаю да Вашых томікаў —
Вашых думак і Вашых мар.

І заўсёды ўстаю прасветлены
І абноўлены зноўку я,
Вашы вочы з усмешкай ветлівай
Прад маімі вачмі стаяць.

Уладзімір Ільіч, даруйце,
Што звяртаюся ўсё да Вас.
Я хачу, каб на цвёрдым грунце
Будаваўся наш Новы Час.

Каб яго толькі Вы зацвердзілі,
Як і сённяшні ясны дзень.
Да яго ж ідзем не ў адведзіны —
Назаўсёды ідзем!

**Вянок санетаў Анатоля Сербантовіча — у наступным нумары.**




## ● *У Разліве*

●



Разліў.
Будан.
Начная цемень.
Ля невялічкага кастра
Сядзіць
і штосьці піша
Ленін.
Прыжмур вачэй правадыра
Такі нам блізкі і знаёмы...
Навек запомнілі яго
Яшчэ з бацькоўскага мы дому
І з кроку першага
свайго.
Праз тоўшчу год
глядзеў і бачыў
Ільіч
сягоняшні наш дзень.
І зараз
той будан рыбачы —
На бальшаку
людскіх надзей.
І хоць даўно пагас
касцёр той,
Але ад іскраў
ад яго
Па ўсёй зямлі
палае горда
Нязгасны
ленінскі агонь.






# МЕРА ШЧАСЦЯ І БОЛЮ

АПОВЕСЦЬ



Ззаду завуркатаў старэнькі, зліnялы газік. Надзя спынілася і нерашуча прагаласавала. Газік ахутаў яе гаркавым пылам, пракаціўся яшчэ трохі і спыніўся. Расчыніліся дзверцы, і шафёр, зусім малады хлопец, сказаў:

— Калі ў Грозава — сядайце!

Надзя села. Юнак палажыў вялікія, звыклыя да цяжкай працы, рукі на баранку, газік, як прастуджаны, чхнуў і пабег па няроўнай прасёлачнай дарозе.

Побач з шафёрам сядзеў каржакаваты мужчына.

— Вы на партызанскую сустрэчу? — спрытна абганяючы маз, спытаў шафёр.

Дзяўчына здзівілася:

— Як вы здагадаліся?

— А сёння ўсе туды, — адказаў за шафёра каржакаваты мужчына. — Ну, давайце знаёміцца,— і ён працягнуў Надзі левую руку, правы рукаў быў пусты. — Таварыш Рагуля, старшыня калгаса,— сказаў ён пра сябе з павагай і пасля нядоўгага маўчання спытаў:

— Вы часам не карэспандэнт?

— Не.

— У такі час людзей ад працы адрываць! Вы толькі падумайце! — і ён зноў абярнуўся да Надзі.

Шафёр, па-ранейшаму пільна гледзячы наперад, кінуў:

— Там не толькі з нашага калгаса. Людзі хочуць прывітаць партызан...

Машына нечакана падскочыла — трапіла ў калдобіну.

— Ты ў мяне за такую язду пятнаццаць сутак заробіш! — знайшоў выйсце свайму настрою старшыня.

— Спачатку дарогу зрабіце, — агрызнуўся шафёр.

— Заладзіў: дарогу-дарогу!! Я ў вайну, можа, генерала вазіў — ды не па такой дарозе. А генерал са шпіталя ўцёк, раны яшчэ не загаіліся...

— Ну і як? — пацікавіўся хлопец.

— Што — як? Машына падскочыць, а генерал крычыць: «Запомні, яшчэ год турмы!» Я яму і кажу: «Усё памятаю, таварыш генерал. Вы мне ўжо дваццаць тры гады далі. Гэтак і жыцця не хопіць, каб адседзець. Дык, можа, я ўжо зараз у турму пайду?» «Не, брат! Хітрыкі... — смяецца генерал. — Пачакай, пакуль вайну скончым...» Харошы чалавек быў... Загінуў...

Газік збочыў на вузкую, з абодвух бакоў заціснутую лесам, дарогу. Хвілін праз дваццаць дарога абарвалася, і на вялікай прагаліне Надзя ўбачыла натоўп. Машына спынілася, і старшыня з маладым спрытам саскочыў на зямлю.

— Ты, Пецька, пачакай,— сказаў ён шафёру і памог Надзі вылезці з машыны.— Я ім зараз пакажу! Жыта асыпаецца, а яны раты паразяўлялі! Стаяць, во, слухаюць! — Наракаючы на сваіх калгаснікаў, старшыня падаўся да натоўпу.

Гаварыў чалавек з зорачкай Героя на грудзях, а вялікі, мусіць, у некалькі сот чалавек, натоўп уважліва слухаў. Надзю здзівіла цішыня. Здаецца, чуваць, як гойдаюцца ў высокім блакіце лапы магутных соснаў. Яна праціснулася наперад, угледзелася ў твар таго, хто гаварыў. Невысокі, паўнаваты. Валасы ў яго каратка падстрыжаныя, сівыя. У твары нешта мяккае, уважлівае і — нічога гераічнага...

— Таварышы!—узнімаўся над галовамі гучны голас.— Наш Кастрычніцкі раён вядомы ўсяму свету. Многія з вас памятаюць, што нямецкая акупацыя тут працягвалася некалькі дзён. Усю вайну над райцэнтрам палыхаў чырвоны сцяг. А якой цаной мы здабывалі свае перамогі...— голас сарваўся, быццам чалавеку раптам не хапіла паветра. Ён махнуў рукой і дадаў ціха:— Вы самі добра пра гэта ведаеце...

Прамоўцы мяняліся, а таварыш Рагуля ўсё стаяў і камячыў у руцэ капялюш. Відаць, забыўся, што асыпаецца збожжа... Шафёр пазмоўніцку ўсміхнуўся Надзі.

Ад гэтых узнёслых слоў, ад хлапечай усмешкі ў Надзі на душы зрабілася ўрачыста і лёгка. Яна нават забылася, дзеля чаго сюды прыехала, але, убачыўшы светлавалосую, невысокага росту жанчыну, успомніла. Жанчына ціха адышлася ад натоўпу. Задумлівым позіркам агледзелася, нібы шукаючы кагосьці. І Надзя збялела ад хвалявання: «Яна!» Прыгадалася тое, што чула яна яшчэ малою: «Лепш бы ты з ёй застаўся, Іон! Зразумей: ты вярнуўся да мяне чужы...»

Трэба было б падысці і сказаць: «Бацька прасіў перадаць вам...» Але засталася на месцы і з нейкай неадольнай цікавасцю сачыла, як стомлена ішла жанчына, як падышоў да яе прыгожы юнак, нешта спытаўся, яна лёгка дакранулася да яго пляча, і юнак вярнуўся ў натоўп.

Жанчына спынілася ля маленькага вогнішча і нерухома глядзела на агонь. Ён то знікаў, то зноў трапятаўся чырвоным грабеньчыкам. На жанчыне была простая льняная сукенка. На моцных загарэлых нагах — туфлі з нізкімі абцасамі. Яна выглядала б маладзейшай, каб не сівы дым у светлых, лёгкіх валасах.

Надзя ўжо зусім рашылася падысці, але жанчыну паклікалі.



— Ларыса! — высокі, па-юнацку падцягнуты чалавек з дакорамківаў лысай галавой, — Ла-а-рыса, а Ла-а-рыса! Ну як табе не сорамна? Няўжо ты мяне не пазнаеш? — Ён гаварыў, неяк вельмі старанна вымаўляючы кожнае слова. Жанчына лёгка падхапілася.

— Карэл! Ну, падыдзі бліжэй! Я цябе сапраўды не пазнала. Дзе ты свае кучаравыя валасы згубіў?

— Ты чакала, што я прыеду да цябе малады, прыгожы? А старога Карэла пацалаваць не хочаш?

— Ты ўсё такі ж... Ну, сядай! За запрашэнне дзякуй. А прыехаць — усё не выпадала. Расказвай, як жывуць у тваёй Браціславе.

— Жывём, як вы кажаце, хлеб жуём. А людзі, ведаеш, усюды неаднолькавыя... Розныя яны...— ён кінуў у агонь некалькі сухіх галінак, спытаў: — Іон твой таксама тут?

Ларыса не адказала, і Карэл зразумеў, што зрабіў памылку: «Нехта ж пісаў, што Ларыса сама гадуе дзіця...»

Ларыса падняла галаву, паглядзела яму ў вочы і сказала, быццам суцешыла:

— Сын мой тут, Карэл!

Да вогнішча пачалі падыходзіць людзі. Карэл паціскаў працягнутыя рукі, усміхаўся шчаслівы і разгублены:

— Я такі рады, што бачу ўсіх вас. Часта я ўспамінаю тую пару, калі быў разам з вамі. Дзіўна, але мне здаецца, што гэтыя гады самыя значныя ў маім жыцці...

Жанчыны, якія прыехалі разам з мужчынамі, пачалі расстаўляць на белым абрусе ежу, бутэлькі. Яны весела размаўлялі. У Ларысы сціскалася сэрца ад крыўды: «Няўжо не прыедзе? Колькі год не бачыліся. Сам жа прасіў: «Прывязі Ігара...»

— Ларыса! Чаго засумавала? На, лепш выпі!

Яна ўзяла кубак і рашуча выпіла.

— Дзякуй, камісар!

Жанчына з валявым, прыгожым тварам, здаецца, жонка Токарава, працягнула ёй пластмасавую талерку. Сказала проста, як даўняй знаёмай:

— Пачастуйцеся, Ларыса Мікалаеўна! Сама збірала і саліла. У нас на Урале гэтыя грузды вельмі паважаюць.

— А ў нас на Магілёўшчыне іх і ў кошык не кладуць, — разглядаючы грузды, паведаміла жонка Студнева.

— А ў нас на Тамбоўшчыне самавар на стол нагамі ставяць, — умяшаўся ў жаночую размову Пайкін.

«Няўжо не прыедзе? Можа, здарылася што?»

— Ларыса, ты б вось жанчынам расказала, як ваявала з немцамі.

— Няхай у мужыкоў сваіх спытаюць...

— Ой, Ларыса Мікалаеўна! Я са сваім Токаравым дваццаць год жыву, а ніводнага слова не чула. І раптам выклікае нас дырэктар, кажа: «Запрашаюць вас разам з жонкай, таварыш Токараў, на партызанскую сустрэчу», а сам усміхаецца: «Не ведаў, што ў нашым калектыве працуе герой-партызан...»

— Жанчыны, пра што вы там? Ці не пра нас?

— Пра вас, пра вас. Пра каго ж нам яшчэ?

— Суньцеся бліжэй!

— ...я ж, ведаеце, трэнерам працую. Езджу са сваёй камандай па Саюзе і за мяжу. Дык каб вы пабачылі, як беларускіх спартсменаў прымаюць! І не толькі за сілу і спрыт. Тут, мне здаецца, удзячнасць за наша гераічнае мінулае. Дык вып'ем за гэта мінулае! — прапанаваў Студнеў.



Кацярына, жонка Пайкіна, глядзела на ўсіх ласкавымі, спакойнымі вачыма, нахілілася да Ларысы, спытала:
— Няўжо — такіх арлоў забівалі?
Ларыса паказала вачыма:
— Вунь могілкі. Дзе б ні загінуў партызан, мы стараліся прывезці і пахаваць тут.
Ларыса непрыкметна адышла ад агню. Зайшла ў лес. Знаёмыя сосны пасталелі, і парыжэлая кара на іх нагадала жанчыне падфарбаваную сівізну. «Вось пад гэтай мы з Іонам хаваліся ў дождж. І тады яна рыпела, скардзілася».
Нехта паклікаў: «Ларыса Мікалаеўна!»
Яна агледзелася, убачыла дзяўчыну. Бровы сышліся на пераносці... Ад хвалявання перасмягла ў горле...
— Я дачка...— пачала дзяўчына.
— Я ведаю, чыя Вы дачка,— ціха перапыніла Ларыса Мікалаеўна. — Вы вельмі падобны на свайго бацьку,— дадала яна з даверлівай і нейкай зычлівай усмешкай.
Надзя глядзела ў твар жанчыне — ужо немалады, не вельмі прыгожы — і раптам адчула прыязнасць да яе. Яна не ведала, як далей пойдзе размова і што скажа гэтай жанчыне, толькі зразумела, што ненавідзець яе, як ненавідзела ўсё жыццё, яна ўжо не здолее.



— У бацькі інфаркт. Гэта ўжо другі. Ён паслаў мяне сюды прасіць, каб вы прыехалі да яго разам з сынам.
— Гэта немагчыма...— раптам збялелымі губамі прамовіла Ларыса.
— Вы павінны выканаць яго просьбу! — упарта сказала дзяўчына.
— Але гэта немагчыма...— разгублена паўтарыла яна.
— Я разумею... вам цяжка сустрэцца з маёй маці. Вы многа перажылі. Яна таксама... Я не ведаю колеру яе валасоў: колькі памятаю, яна была сівая. Паверце, мая маці варта вашай павагі і вашай...— яна змоўкла, з хваляваннем падбіраючы належнае слова,— і вашай чалавечнасці.
— Я паеду. Паеду адна. Калі вы ведаеце ўсё, дык, мусіць, вы ведаеце і тое, што мой сын лічыць сваім бацькам іншага чалавека.
— Вашага мужа?
— Не. Я неяк расказвала яму пра аднаго мужнага разведчыка з нашага атрада. А потым пачула, як ён сябрам хваліцца: «Мой татка быў разведчыкам! Ён загінуў». Хлопчык сам сабе бацьку прыдумаў...
— Але ж цяпер ён дарослы і павінен ведаць праўду...
— У мяне ўжо не хопіць сілы сказаць яму гэтую праўду...
— Лары-ы-са! — крычалі здалёк.— Мы на возера! Ха-а-дзем!

Схавалася сонца, і лес спахмурнеў. Вецер са стогнам гойдаў сосны. Вада ў возеры пацямнела: збіраўся дождж. Партызаны моўчкі сядзелі на беразе — хто ведае, калі яшчэ давядзецца пабачыцца.
Але вось шэрая, набрынялая дажджом хмарка сплыла, і вялікае барвовае сонца кінула на ваду вогненны слуп. І па ім, як па сцежцы, пайшла лодка. Блакітна-шэрае неба на даляглядзе злілося з вадой, і ад гэтага возера здалося бязмежным. Сталёвы колер афарбаваў усё: паветра, хмары, ваду і лодку на вадзе. Асветленыя рэдкімі промнямі, выглядалі казачна прыгожымі постаці юнака і дзяўчыны ў лодцы. Ларыса раўніва сачыла за сынам. Ігар нахіляўся і нешта весела гаварыў Надзі. Вецер даносіў дзявочы смех. Ларыса адчула непрыемнае, трывожнае пачуццё: «Гэта ж павінна хутка здарыцца... Другая жанчына стане для яго даражэй за маці...»
— Добрага жаніха, здаецца, знайшла сабе дачка вашага Іона,— засмяялася Кацярына. Пайкін строга паглядзеў на жонку.
Кацярына разгублена азірнулася. Усе зрабілі выгляд, што не пачулі.
Лодка асцярожна дакранулася да берага. Надзя саскочыла на зямлю і падышла да Ларысы Мікалаеўны. Села побач, усміхнулася па-змоўніцку:
— А я не ведала, што ў мяне такі прыгожы брацік!
Ларыса быццам не пачула. Надзя спытала:
— Ларыса Мікалаеўна, Ігар кажа, тут недалёка лагер і яшчэ захаваліся партызанскія зямлянкі. Я хачу паглядзець.
Ігар размаўляў з высокім цёмна-русым чалавекам. Ларыса кінула ў іх бок:
— Я зараз папрашу Андрэя Міхайлавіча, каб паказаў. Ён настаўнік, часта водзіць сюды вучняў. Кажа, што тут яны сэрцам адчуваюць подзвіг бацькоў. — Андрэй! — паклікала Ларыса Мікалаеўна. —

Знаёмся, гэта — дачка Іона. — Надзя ўбачыла разумныя, добрыя вочы, на дзіва малады твар і прыкметную сівізну.— Яна просіць паказаць ёй лагер. Вазьмі Ігара, ды ідзіце разам.

Ларыса пасядзела яшчэ крыху, потым паднялася, падышла да былога камандзіра.

— Я на тым тыдні ў Кішынёў паеду. Іон цяжка хворы. Гэта ён па мяне дачку прыслаў...

З вакзала да дома Ларыса ішла пешшу. Быў ціхі, цёплы, зусім летні вечар. Толькі дрэвы адчулі восень: на іх там-сям стракацела жоўтае лісце. Ля свайго дома Ларыса спынілася. У вокнах святла не было. «Значыць, Міхаіл Іванавіч не вярнуўся з бальніцы. Так лепш. Не будзе распытваць, чаму дрэнна выглядаю. Мілы доктар Чыжык, каб ты ведаў, як часам твая ўвага цяжкая для мяне...»

Яна доўга адчыняла дзверы: замок не слухаўся. Потым прайшла ў свой пакой. Тут, акрамя раяля, паліцы з кнігамі і маленькага століка, нічога не было. Дваццаць метраў цішыні. Гэтая цішыня заўсёды памагала ёй вярнуць спакой. У цяжкім падсвечніку бялела свечка. Ларыса Мікалаеўна паднесла запалку, а потым сядзела ціха, нерухома, баючыся парушыць гэта трапяткое існаванне агню.

«Божа, дзе знайсці сілы, каб вытрываць гэта! Кажуць, чалавек адчувае ампутаваную руку. Так і маё каханне: заўсёды са мной, як нейкая здань. Ці забуду я калі-небудзь тваё ласкавае гартаннае: «Ла-а-ра!» Ці перастану адчуваць позірк тваіх вачэй?.. Чорныя, таямнічыя... Такія былі ў старажытных людзей... А можа, нават не ў людзей?..»

З калідора пачуліся гучныя галасы: размаўляла Надзя з Ігарам. Потым у дзверы пастукалі. Ларыса Мікалаеўна запаліла святло. Увайшла Надзя.

— А мы з Андрэем Міхайлавічам усё ніяк не маглі развітацца. Ён так цікава расказвае...

Дзяўчына была нечым узрушана.

— Ларыса Мікалаеўна! Там, у лесе, ён мне здаўся падобным на старажытнага віцязя, высакароднага, смелага. А ў вагоне, калі мы вярталіся, я заўважыла, што ён стомлены, прыгнечаны нечым.

«Пра каго гэта яна?»

— Ігар кажа, з жонкай не ладзіць... А яна прыгожая? Жонка яго? — спытала Надзя, і ружовымі зрабіліся дзявочыя шчокі і нават шыя.

Ларыса ўсміхнулася:

— Не ведаю. Пра такіх кажуць: цікавая. Дарэчы, паслязаўтра ў Тамары сольны канцэрт, а канцэртмайстрам я. Прыходзьце з Ігарам.

— Дзякуй, прыйду.— Надзя засталася сядзець у крэсле, ціха, нерухома. Думала пра сваё. Ларыса з нейкай балючай радасцю ўглядалася ў знаёмыя рысы: «Падобная на бацьку. Можа, з-за дачкі там застаўся...»

— Ларыса Мікалаеўна...— ціха паклікала Надзя.

— Што, дзяўчынка?

— Вы бацьку асуджаеце?

Ларыса разгубілася, не ведала, што адказаць.

— Асуджаць лёгка... Я ўсё жыццё імкнулася да іншага. Хацела зразумець яго, апраўдаць. Ёсць такая хвароба: туга па радзіме. І пачынаецца яна з маленькага. Успамінаецца рэчка, у якой купаўся з хлапчукамі, вуліца, дзе сабака не брахаў на цябе. А больш за ўсё дом, дзе засталіся дзеці, жанчына. Адным словам, птушка вяртаецца ў сваё гняздо...

...На сцэну лёгкай хадою выйшла спявачка і ўсміхнулася ўсім. Надзя пільна ўгледзелася ў яе твар, і твар гэты здаўся ёй няшчырым. Яна ўявіла Андрэя Міхайлавіча побач з гэтай жанчынай, убачыла яго вочы з затоенай чыстай марай, і ёй зрабілася шкада сябе. Быццам нехта пакрыўдзіў. Яна сама здзівілася гэтаму пачуццю, але разабрацца ў ім не паспела.

К ним приходят вдовы,
что забыли, как нежны у мужа были руки,
и старухи, что похоронили
вместе с сыном и мечту о внуке...

Надзя адчувала, як пачуццё духоўнай моцы, ачышчэння разам з простымі і трагічнымі словамі ўваходзіць у душу. І твар спявачкі, прыгожы, асветлены, раптам засцілаўся ўдовінай тугой.

Зелена трава под небом низким.
А меж ними — близко ли далеко —
белые застыли обелиски.

«Вось так бы і намаляваць гэта: жанчына ля белага з зорачкай слупа і ўсё ў мурмуровым, безжыццёвым месячным святле», — задумалася Надзя.

Спявачка пайшла са сцэны, але воплескі вярнулі яе. І зноў гучаў прыгожы голас, а кожная нота акампанементу падтрымлівала яго і пацвярджала праспяваную думку. Ларыса Мікалаеўна сціпла трымалася ззаду, быццам воплескі яе не датычылі. Раптам спявачка падышла да Ларысы Мікалаеўны, узяла яе за руку, вывела наперад. Надзя разам з усімі горача зааплядзіравала. Ларыса Мікалаеўна разгублена ўсміхалася, але твар яе ажывіўся, памаладзеў, і Надзя ўбачыла, якой прыгожай калісьці была яна, тая, якую кахаў бацька.

...Міхаіл Іванавіч у добрым настроі ішоў па бальнічным калідоры, калі яго паклікала старая няня:

— Доктар Чыжык, вам жонка званіла.

— Дзякуй, Сцепаніда Васільеўна.

Ён прайшоў у свой кабінет, сеў на канапу, стомлена склаў рукі. Падумаў, што адпачынак пачынаецца на тым тыдні і добра, што Ларыса Мікалаеўна згадзілася ехаць разам... Потым успомніў і пацягнуўся да тэлефона.

— Так, іду дадому. Два білеты да Кішынёва? Добра, вазьму,— рукі задрыжалі, трубка бразнула аб стол.

«Два білеты да Кішынёва...» — сам не заўважыў, як паўтарыў уголас. У Кішынёве жыве «ён». Міхаіл Іванавіч бачыў яго толькі раз і тады не здагадаўся, што гэта Ігараў бацька. Вялікі, шыракаплечы, ён неяк заняў адразу ўвесь пакой, адсунуў яго, Міхала Іванавіча. І зараз непрыемна ўспомніць, як разгубілася Ларыса, як потым па-маладому завіхалася, накрываючы на стол, і як пяшчотна, не адрываючыся, глядзеў на яе госць. Міхал Іванавіч піў чарку за чаркай, а потым не вытрымаў і сказаў яму:

— Вы заляцаецеся да маёй жонкі. Я не раўную. Толькі я і сам магу гэта добра рабіць.

Міхаіл Іванавіч заўсёды баяўся, каб не пакрыўдзіць чалавека, але



сёння яму прыемна ўспомніць гэтыя не зусім ветлівыя словы, якія ён сказаў госцю.

«Два білеты да Кішынёва...» — Міхал Іванавіч апрануў паліто і капялюш, але доўга яшчэ стаяў пасярэдзіне пакоя. Настрой у Міхала Іванавіча зменлівы. Як толькі выйшаў з бальніцы, сустрэў знаёмага:

— Добры дзень, Міхал Іванавіч! Ты ўсё такі ж! І старасць цябе не бярэ! Мусіць, сакрэт які маеш?

— Ёсць сакрэт. Дома не заседжваюся. То аперацыя, то хвораму дрэнна, а то жонка на канцэрт запросіць. Старасць прыйдзе, а мяне дома няма... Не застае мяне старасць!

На вакзал Міхал Іванавіч прыйшоў ужо ў добрым настроі. Стаў у чаргу, а яна доўгая і рухаецца марудна. Нечая спіна ў чорным скураным паліто заняла месца ля акенца касы, і чарга надоўга спынілася.

— Што ён там прымёрз? — абуралася жанчына з вогненна-рудымі валасамі.

— Пайду пагляджу,— азваўся Міхал Іванавіч.

Чалавек у скураным паліто браў білет ажно да Уладзівастока, і касірка вылічвала кошт.



— Ну, што там? — спытала жанчына, калі Міхал Іванавіч вярнуўся на сваё месца. Ён зноў паглядзеў на пафарбаваныя валасы, здзівіўся сам сабе, а потым быццам чорт за язык пацягнуў:

— Ды так. Нічога. Учора разам недзе на вяселлі гулялі, дык успамінаюць.

Жанчына аж падскочыла, кінулася да акенца, але хутка вярнулася і злосна глянула на Міхала Іванавіча. «А яшчэ ў капелюшы!» Ён прамаўчаў, панурыўся і пачаў думаць аб тым, што вось зноў прыйдзецца ехаць аднаму і адчуваць сябе сярод адпачываючых нікому не патрэбным дзіваком.

...Ноччу ў купэ Ларыса Мікалаеўна праз сон крычала. Надзя пабудзіла яе:

— Што з вамі?

— Нічога. Сон прысніўся страшны. Мне заўсёды ў поездзе гэта сніцца. Спі, дзяўчынка!

...Гэта быў сон, і — гэта было ў жыцці... Брэх аўчарак, крыкі «Шнель! Шнель!», і стук колаў таварнага поезда — моладзь везлі ў Нямеччыну. А потым,— быццам у сне ўсё гэта было,— на поўным хаду саскочыла з вагона. Пакалечаная нага не дала адразу падняцца. Доўга ляжала на халоднай, вільготнай зямлі, і зусім блізкімі здаваліся вялікія жнівеньскія зоркі.

Тры дні Ларыса блукала па лесе. Часта спынялася, прыслухоўвалася да гукаў. Шукала партызан. Але не толькі чалавека, нават прыкмет таго, што тут жывуць і змагаюцца людзі, не знаходзіла.

Лес даў ёй прытулак, схаваў і карміў, чым мог, і цяпер ён здаваўся Ларысе жывым і адзіна блізкім. Сонца яшчэ чаплялася за вяршаліны соснаў, а па густым ельніку ўжо краліся прыцемкі. Ларыса спынілася ля старой елкі. Елка стаяла спакойна, шырока раскінуўшы густыя, моцныя лапы. Ларыса паслала кофту і лягла пад дрэвам. Спаць не хацелася. Густы хвойны водар напаўняў паветра. Думала пра вясну, калі елка гасцінна сустракае птушак. «Ці дажыву да вясны?» Раптам заўважыла на ствале сляды куль. «Ды вось ты якая, старая елка! Як салдат — прыняла бой...» І ўсё ж заснула.

Прачнулася Ларыса сярод ночы. Мучыў голад. Успомніла, што ўчора, акрамя некалькіх арэхаў, у роце нічога не было. Хацела падняцца, але не змагла: нага апухла і балела. Так і засталася ляжаць пад елкай. Раптам на лес пачало насоўвацца цёмна-шэрае святло. Ларыса не адразу зразумела, што гэта світанне. Яна, гараджанка, ніколі не бачыла, як ідзе на зямлю дзень. Разам з першымі нясмелымі промнямі нешта пераўтварылася ў прыродзе. Вецер змоўк, і ўрачыстая цішыня агарнула лес. Усход загарэўся вогненнымі фарбамі, і гэта было падобна на водбліскі вялікага пажару. А потым ліловыя промні выхапілі са змроку вяршаліны дрэў, і птушкі, прачнуўшыся, усчалі песню. Захапленне ад гэтай прыгажосці прыглушыла адчуванне голаду, болю. Яна ўстала і зрабіла некалькі крокаў, але слабасць і боль прымусілі спыніцца. Села на нейкі корч. «Што рабіць далей?» Калі ўжо зусім развіднела, вецер прыгнаў заёмы прыемны пах. «Дым! Недзе блізка вёска! Але што з таго?.. Усюды немцы».

— Алесь! Ідзі снедаць! Бабуля бульбы наварыла! — пачула яна тоненькі галасок.

«Бульбы наварыла-а-а..»— адгукнуўся лес.

— Бульбы...— перасмяглымі губамі паўтарыла Ларыса. Яна паднялася і, перамагаючы боль, ступала да паляны. Тут ля статка гусей з дубцом хадзіў хлопчык. «Паклікаць ці не?»

— Хлопчык!
Ён агледзеўся, убачыў яе і, відаць, спалохаўся.
— Хлопчык, не ўцякай!
Ён падышоў бліжэй, моўчкі глядзеў на яе вялікімі, па-дзіцячаму шчырымі, вачыма. Яна спытала:
— Алесь, скажы, немцаў у вас няма?
— Учора тут былі... лётчыкаў расстралялі. А людзей сагналі, каб глядзелі.
— Якіх лётчыкаў?
— Нашых! — упэўнена сказаў Алесь. — Я тут пасвіў і ўсё бачыў.
— Што ты бачыў?
Алесь паглядзеў на яе недаверліва: ці варта расказваць? Успомніў, якая цёплая, добрая была раніца. Ён ляжаў у траве і глядзеў на прыгожыя гмахі з аблокаў. І раптам у небе з'явіліся самалёты, а ён ніяк не мог разгледзець — нашы ці нямецкія. І адразу — кулямётная чарга... Тры з чорнымі крыжамі стралялі ў наш самалёт.
— Разумееце, цётачка, адзін наш біўся супроць трох фашысцкіх. У мяне кулакі сціскаліся, але як я мог памагчы. А потым — полымя. Самалёт загарэўся. З-за дыму я нічога не мог разгледзець, але тыя, з чорнымі крыжамі, былі цэлыя. Значыць, загарэўся наш. Я лёг у кусты. Мне было крыўдна. Потым падняў галаву: дым разышоўся, і я ўбачыў, як з падбітага самалёта выкінуўся парашутыст. Потым другі. Я падхапіўся і пабег. Яны апусціліся на зямлю і адразу пачалі камбінезоны здымаць. «Хлопчык,— кажуць яны мне,— схавай куды-небудзь гэта!» А самі кінуліся бегчы да лесу. На зямлі засталіся два парашуты і камбінезоны. Я толькі паспеў адцягнуць у хмызняк адзін парашут, як бачу — немцы! Адкуль яны ўзяліся — не ведаю. Немцы пачалі страляць, і адзін з лётчыкаў упаў. Другі падбег да яго і пачаў адстрэльвацца. Ён добра страляў. Чатырох фашыстаў забіў. А потым перастаў: відаць, патроны скончыліся. Немцы накінуліся на іх, звязалі рукі. Аднекуль з'явілася машына, замаскіраваная зялёным веццем, і лётчыкаў укінулі туды. Учора іх расстралялі...
Хлопчык скончыў свой расказ. Ён стаяў моўчкі, нерухома, і такая горыч была ў яго вачах, у сціснутых вуснах, што Ларыса зразумела: пра гэта ён не забудзе ніколі, да самай смерці.
— Алесь, у цябе няма хлеба?
— Не, няма.
— А з кім ты жывеш?
— Мы ў бабулі жывём: я, мама і Васіль, меншы мой брат. Хата наша згарэла, вось і жывём у бабулі.
— А хто ў тваёй бабулі яшчэ ёсць?
— Яшчэ быў татка і старэйшы брат, Андрэй. Ён зараз у партызанах. Бацька таксама быў у партызанах. Яго там расстралялі.
— За што?
— Не ведаю.
— Алесь! — пачула Ларыса жаночы голас.— Ты чаму есці не ідзеш?
Жанчына падышла да Ларысы, прыўзняла тонкія бровы:
— А вы хто будзеце?
— Іду з горада. Галодная. Можа — пакорміце?
Жанчына падумала, а потым запрасіла:
— Хадземце!
Ларыса ўслед за хлопчыкам увайшла ў хату. Ля печы завіхалася старая ў бруднаватай сукенцы. Яна краем вока агледзела госцю, а на





прывітанне не адказала. Вялікі кот, што сядзеў на лаўцы, пацягнуўся, потым пільна паглядзеў на Ларысу: ты хто?

Алесева маці сказала старой:

— Яна з горада. Галодная. Пакарміце.

Старая буркнула, не гледзячы на Ларысу:

— Многа тут ходзіць!

Ларыса ўжо хацела падацца да дзвярэй, але жанчына па-змоўніцку паказала на лаўку. Ларыса села. Толькі зараз адчула, як баліць нага. Старая пачала рэзаць хлеб. Потым паставіла міску з гарачай бульбай. Ларыса з'ела тры бульбіны і паднялася: «Дзякуй вам».

Старой, відаць, спадабалася гэтая далікатнасць. Яна выйшла праводзіць госцю. Пацікавілася:

— Куды зараз ідзяце?

— Сама не ведаю.

Вёска, быццам падковай, з трох бакоў атулена лесам. Ён узнімаецца за пагоркам шчыльнаю сцяною. Старая глядзіць у бок лесу. Раптам яна ўзняла сухую руку:

— Зноў гэтыя...

Ларыса паглядзела туды, куды паказвала старая, і ўбачыла некалькі чалавек у цывільным, з аўтаматамі.

— Можа, партызаны?

— Партызаны, а то хто ж! — пацвердзіла бабка.

Людзі з аўтаматамі схаваліся за пагоркам, старая вярнулася ў хату, а Ларыса ўсё стаяла сярод двара. «Што рабіць? Ісці шукаць? Але хіба ў лесе знойдзеш?»

— Алесь, ты бачыў гэтых людзей?

Хлопец маўчаў.

— Памажы мне, хлопчык. Мне трэба да партызан...

Хлопец схапіў дубец, замахнуўся на курэй:

— Акыш!..

— Ты ж казаў, брат твой у партызанах. Ты з ім, мусіць, бачышся?

Алесь маўчаў-маўчаў і раптам пахваліўся: Андрэй загадаў, каб я ля моста сачыў, дзе немцы хаваюцца. Я і падгледзеў.

— Калі прыйдзе Андрэй, скажы яму пра мяне. Няхай спытае, ці можна мне ў атрад. А пакуль што пакажы хату, дзе гаспадароў няма.

Алесь паказаў на суседскі дом.

— Тут няма. Немцы ўсіх забілі. Лезце на гарышча.

З невялічкага акенца на гарышчы сонца не відаць. Яно грае толькі ў пыльным промні. «Каторая зараз гадзіна?»

З вуліцы данёсся грукат колаў і пах бензіну. Потым нечы крыклівы, надарваны голас патрабаваў для паноў нямецкіх афіцэраў масла, яек. Голас аддаліўся.

«Толькі б хлопчык не выдаў немцам, толькі б знайсці партызан!» Ларыса апусцілася на нейкую скрынку. Успомніла маленькі домік на ўскраіне горада і сад. Бацька пасадзіў яго сам, калі Ларыса была маленькая. У вольны час яны гулялі разам. Бацька мог гадзінамі расказваць пра якую-небудзь кветку ці дрэва. Бацька мажны, а хада мяккая, асцярожная, быццам баіцца закрануць каго. Калі да яго прыходзілі, ён пытаўся:

— Што я магу зрабіць для вас?

І рабіў усё, што мог. «Жывое хоча жыць»,— казаў ён, трымаючы на далоні павука. Ён не забіваў яго, а асцярожна адносіў куды-небудзь далей. Неяк яго адзінае паліто паела моль. Ён не злаваўся. «Моль — жывое стварэнне, ёй таксама трэба есці», — усміхаўся бацька.

Калі горад пачалі бамбіць, бацька амаль не бываў дома, эвакуіраваў хворых. Угаворваў: «Дачушка, едзь разам з маці». Ларыса адмовілася ехаць, засталася з бацькам. Потым у горад уварваліся немцы. Усе палаты бальніцы былі запоўнены: сярод хворых знайшлі прытулак параненыя салдаты і камандзіры. Як бацьку ўдалося пратрымацца паўтара года, Ларыса не ведала. Калі прыйшлі з гестапа, бацька, ужо са звязанымі рукамі, сказаў ёй словы, што былі зразумелыя толькі ім абодвум: «Моль не павінна жыць, і павук таксама». Гестапавец загадаў перакладчыку, і той паўтарыў гэта на нямецкай мове. Тады немец размахнуўся і ўдарыў бацьку ў твар. На падлогу паляцелі акуляры. Ларыса хацела падняць: ён жа без акуляраў нічога не бачыць. Але яе адштурхнулі. Больш яна бацьку не бачыла. «Ці жывы?»

Ад гэтых успамінаў адчула страшэнную стомленасць. У кутку валяўся стары кажух. Ларыса лягла.

Колькі яна спала, не памятае. Прачнулася з трывожным пачуццём: ці варта было давярацца хлапчуку? Пачало ўжо віднець. З акенца Ларыса бачыла, як цягнуцца да неба рукамі-галінамі маладзенькія таполі. Па лісці шапацеў дождж.

— Цётачка! — пачула яна хлапечы голас.

— Гэта ты, Алесь?

— Не, я — Андрэй,— сказаў хлапечы голас, і Ларыса разгледзела ў цемры постаць падлетка.— Камандзір дазволіў мне прывесці вас у атрад.

Яны ішлі праз агароды. Буйныя кроплі дажджу падалі на бульбоўнік. Моцна пахла ад лісця, ад мокрай зямлі. Хлопец не азіраўся. На яго босыя, пасінелыя ад ранішняга холаду ногі наліпалі сцяблінкі. «Толькі б не адстаць, не згубіць хлопца!» З кожным крокам боль у назе рабіўся ўсё вастрэй.

У лесе некалькі разоў хлопец спыняўся і некаму, каго не было відаць з-за дрэў, гаварыў пароль.

— Вось мы і прыйшлі. Заходзьце.

Наверсе рос хмыз, стаяла нейкае дрэўца. Андрэй адчыніў дзверы ў зямлянку. Ля вялікага стала з абодвух бакоў на лавах сядзелі мужчыны. Хлопец сказаў: «Камандзір загадаў спачатку накарміць...»

Людзі пасунуліся, і Ларыса села. Перад ёй паклалі кавалак хлеба, і яна сама не заўважыла, як пачала есці. Калі прынеслі міску з гарачай поліўкай, ад вялікай лусты нічога не засталося. Ларыса разгубілася. «Трэба ж гэтак перад чужымі людзьмі...»

— Вось вазьміце,— нечая кволая рука падала ёй хлеб.

Ларыса падняла вочы: Андрэй.

...Пра камандзіра Ларыса думала тады ноччу, на гарышчы. Уяўляла сабе суровага, мужнага чалавека, а ўбачыла спакойнага, з добрымі, уважлівымі вачыма. Ларыса падумала, што ён падобны на настаўніка, і пачала расказваць. Нават пра моль і павукоў расказала, і як везлі ў Германію, і як вырашыла саскочыць з вагона, і што пасля вайны будзе паступаць у кансерваторыю, бо музычнае вучылішча скончыла на выдатна. Ён не перапыняў, толькі моўчкі ківаў галавой.

— У кансерваторыю, кажаце... Гэта добра. Рукі вам трэба берагчы...

...Калі ў зямлянцы ўсе паснулі, з боку, ля акна, убачыла Андрэя, падцягнула саломы, накрыла хлопца і лягла побач.

Раніцай, калі ўсе яшчэ спалі, за Ларысай прыйшла старая жанчына.

— Хадзем, дачушка, на кухню. Паможаш крыху.

Справа нескладаная, абабраць вядро бульбы. Ларыса ўзяла нож і моўчкі прынялася за работу. Вялікі, цяжкі нож муляў палец, уся ру-

ка знямела ад стомы. «Нічога-нічога,— супакойвала сама сябе,— да фізічнай працы можна прызвычаіцца». Калі жанчына выйшла з кухні, Ларыса хуценька паклала нож і памахала стомленаю рукою. Рэштку бульбы яна абабрала хутка. Жанчына пахваліла:

— Малайчына! А баця — гэта мы так камандзіра завём — сказаў, каб работы табе не надта даваць, бо рукі тваe нязвыклыя.

— Не, яны ў мяне моцныя. Вось, цётачка, паглядзіце,— яна выцягнула свае рукі.

Жанчына ўсміхнулася:

— Сапраўды.

— Я ж піяністка. Музычнае вучылішча да вайны скончыла. А музыканту рукі трэба моцныя.

— От і добра, дачушка. Цяпер, калі не стамілася, памажы вунь Марылі бялізну мыць.

На траве ляжала куча пацямнелых, брудных кашуль. Ад іх ішоў моцны пах тытуню і поту. У Ларысы ажно дух перахапіла.

Марыля нейк скоса агледзела Ларысу і загадала:

— Бяры вёдры, бачыш, вады няма.

— Я ж не ведаю, дзе ваду бяруць.

— Андрэй пакажа. Гэта ён вас прывёў? — спытала Марыля і, не чакаючы адказу, паклікала: — Андрэй, хадзі сюды, пакажы, дзе вады набраць!

Ларыса зноў пайшла за хлопцам. Ён быў пануры, маўклівы. Ларысе хацелася выказаць сваю ўдзячнасць, але не ведала, як. Калі зачэрпнула ў маленькім, напалову высахлым азярцы вады, ён прапанаваў: «Давайце, паднясу». Яна падзякавала і адмовілася. Больш ён не сказаў нічога.

Ларыса паставіла паўнюткія вёдры, сказала, гледзячы ўслед Андрэю:

— Харошы хлопец. Толькі, чаму ён такі сумны? Можа яго хто пакрыўдзіў?

— Ніхто яго не крыўдзіў,— сказала жанчына, і Ларыса ўбачыла, што ў яе ўсе металічныя зубы.— Бацьку яго тут, у атрадзе, расстралялі.

— За што?

— Ішлі ў атрад чэхі. Яны былі яшчэ ў форме і са зброяй. А тут на дарозе фурманка. Спыняюць. А там дзядзька з хлопцам. Едуць па прадукты для немцаў. Чэхі загадваюць: падвязіце! Паехалі. Потым яны выцягваюць пісталеты і кажуць, каб дзядзька скіраваў у лес. Так пад канвоем і прывезлі ў атрад. Ну, каб быў чалавек харошы, дык застаўся б у атрадзе. А гэты — не. Два разы спрабаваў уцячы. Толькі пастоў нашых ён не ведаў — наткнуўся на іх. Першы раз даравалі, а потым...

Ларыса паглядзела на Марылю, і тая змоўкла.

— Больш вады не трэба?

— Будзе трэба — сама прынясу.

Ларыса вярнулася на кухню. Старая наліла ёй поліўкі, адрэзала дзве лусты хлеба: гэта табе, а гэта Марыльцы.

— Злосная яна, ваша Марылька!

— Чаму злосная? Хворая яна. Ні піць, ні есці не можа. Зубы павывальваліся. Дзякуй богу, у горадзе доктар — наш чалавек, дык металічныя паставіў. А ёй жа толькі дваццаць гадоў!

— А што з ёй такое было, цётачка?

Жанчына ўздыхнула:

— Такое, мая дачушка, толькі яна ды Хрыстос перажылі! Дзіця яе немец застрэліў. Ды ў яе на вачах... Няхай крые бог...



Работа на кухні Ларысе хутка абрыдла. Хацела змагацца, помсціць. Нарэшце камандзір згадзіўся: «Заўтра пойдзеш на заданне».

Потым, ужо ў мірныя дні, Ларыса дзівілася: няўжо гэта яна была такая мужная?

...Невялікае сяло спаўзло да берага ціхай рачулкі. Тут на ўскраіне жыве партызанская сувязная Ганна Мяцельская. Яна маці пяцярых дзяцей. Ларыса разам з двума партызанамі пастукалася да Ганны пад вечар.

— Цётка Ганна, у атрадзе няма солі і хлеба.

Ганна задумалася.

— Хлеба збяром. А солі няма. На складзе знайшлі, здаецца, калійнае ўгнаенне, яго замест солі спажываем. Але нічога, штo-небудзь прыдумаем. Пакуль што сядайце за стол.

Не паспелі выпіць збанок малака, як пачуўся грукат, і якраз ля Ганнінай хаты спынілася машына. Ганна збялела, але не разгубілася. Адкінула вечка прыпалля, загадала:

— Хутчэй хавайцеся!

Толькі зачынілася вечка над Ларысінай галавой, як у хату ўваваліся немцы. Закрычалі:

— Матка, яйка, куры!..

Ганна сустрэла гасцей спакойна. Запрасіла сесці, сказаўшы: ёсць яйкі і куры.

Ларыса з хлопцамі адпаўзлі аж у самы кут прыполля. Сядзелі, баючыся дыхнуць.

Немцы з хаты так і не выйшлі. Загадалі прынесці саломы. Перад тым, як легчы, адчынілі прыполле, спыталі: «Матка, там хто ёсць?» Ганна адказала абыякавым, роўным голасам: «Вядома ёсць — пацукі!»

Калі немцы паснулі, Ганна сказала старэйшай дзяўчынцы:

— Бяжы, дачушка, да Язэпавай Манькі, да старога Лук'яна, да Співачыхі, скажы: трэба хлеб партызанам!

Дзяўчынка пабегла, а Ганна зайшла ў хлеў, што прыбудаваны быў да хаты, узяла рыдлёўку і пачала капаць пад сцяной.

Недзе за поўнач выйсце было гатова, і Ларыса першаю вылезла з прыполля ў хлеў. Ганна перадала хлеб ды паказала, як лепей дабрацца да лесу.

Партызаны, крадучыся, выйшлі на край сяла. Месяц свяціў так, што хоць газету чытай. Раптам убачылі, што ля дрэва нешта блішчыць. «Хлопцы, глядзіце, што гэта?» — прашаптала Ларыса. Падпаўзлі бліжэй, бачаць — немец у акулярах і з аўтаматам. Не паспеў ён і пікнуць, як яму закрылі кляпам рот і звязалі рукі. У лесе растлумачылі — гэта цябе акуляры выдалі: шкельцы адбівалі святло месяца.

...Ну, хоць бы адна зорачка запалілася ў небе! Яшчэ з вечара апусціліся калматыя хмары, і цяпер — хоць вока выкалі. А стаяць тут трэба да рання.

Атрад размясціўся ў маленькай вёсцы. Адразу за вёскай — могілкі. Тут пост. Ларыса прыхінулася да нейкага дрэва. Прыслухалася. Вёска спала. Толькі недзе ў канцы сяла брахаў, мусіць, галодны сабака. Ларыса набрала поўныя грудзі веснавога паветра. У ім быў пах прэлага леташняга лісця і мокрай зямлі. Бадзёры ветрык шалясцеў сухімі галінкамі.

Раптам усё страсянулася, і Ларыса схапілася за вінтоўку. Рукі задрыжалі, але адразу супакоілася. Вялікі срэбны змей прарэзаў хмары. На момант святло выхапіла з цемры пацямнелы ад часу крыж і драўлянага Хрыста з раскінутымі рукамі. І зноў усё схавала цемра.

Схакаўшы, глуха і далёка стрэліў пярун. І калі зноў мільганула маланка і асвяціла драўлянае распяцце, Ларыса аж здзівілася: так сурова і гнеўна быў сцяты рот у Хрыста. Ларыса ўспомніла трупы на шыбеніцы пасярэдзіне спаленай вёскі і раптам зразумела, што хацеў перадаць людзям самавук-скульптар: нянавісць да катаў! Колькі іх прыходзіла на беларускую зямлю, каб паліць, рабаваць, заліваць крывёю! Гэта нянавісць да катаў завяшчалася нашчадкам і нараджала мужнасць.

...Ларыса ішла па тонкім лёдзе. Пад нагамі хлюпала вада. Пасля бяссоннай ночы трэба было адпачыць, але веснавая раніца ззяла такой непаўторнай прыгажосцю, што раптам здалося: другой такой у жыцці не будзе!

Нешта радасна-святочнае адбывалася ў прыродзе. Вось нязграбная сярод прыгожых сясцёр бярозка. Ажывілася, прыўзняла галінкі-рукі, пацягнулася да сонца. А трапяткая асіна так ціха трымае набрынялыя пупышкі, што хочацца спыніцца і чакаць таго ўрачыстага моманту, калі з іх пырсне зялёная кропля жыцця.

На ясені маленькая птушка пачала спрабаваць голас. Здаецца, шпак. Адчуўшы ўвагу да сябе, ён пачаў доўгай і тонкай дзюбай разгладжваць сваё пер'е, а потым сумеўся і пераляцеў на маладзенькі дубок. Адтуль пачуўся тоненькі свіст. Было падобна, што гэта ён дражніць некага. А потым шпак зашчоўкаў зусім па-салаўінаму і гэтак захапіўся, што ў такт мелодыі пачаў махаць крыламі. Ларыса стаяла ціха, баючыся неасцярожным рухам патрывожыць птушку.

— Што, прыгожа?—пачула яна нечы голас і ад нечаканасці здрыганулася. Павярнулася: незнаёмы чалавек, падобны на румына... і акцэнт не рускі. Ларыса схапілася за вінтоўку.

— Рукі ўгору!

Ён усміхнуўся, пагпядзеў на яе чорнымі з вясёлымі агеньчыкамі вачыма:

— Ого, якая партызанка! Але навошта так строга? Давайце лепш пазнаёмімся. Мяне завуць Іон.

— Мяне не цікавіць ваша імя. Я павінна адвесці вас у каравульнае памяшканне. І не ўздумайце супраціўляцца. Я буду страляць!

Так яна пазнаёмілася з Іонам Чабаном, што разам з групай дэсантнікаў высадзіўся тут, у беларускім лесе. Іон быў родам з Кішынёва.

...Андрэй сядзеў побач з Ларысай ля вогнішча. Праз кашулю ён адчуваў халодны дотык пісталета. Учора камандзір уручыў. «Цяпер,— кажа,— сынок, ты сапраўдны партызан». Чамусьці ўспомнілася школа. Якраз перад вайной... Рыхтаваліся да Першага мая. Дзяўчаты развучвалі «Лявоніху», а драмгурткоўцы толькі спрачаліся. Ніяк не маглі выбраць п'есу. Адны прапаноўвалі аднаактовую, бо лягчэй ставіць, а другія наадварот — класічную. Прыхільнікі аднаактовай з'едліва пыталі: «А хто вам зробіць дэкарацыі? Дзе вы возьмеце касцюмы?»

Спрэчку вырашыў кіраўнік гуртка, настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Ён сказаў: «Вось што, хлопцы,— хоць сярод драмгурткоўцаў была палова дзяўчатак,— я зараз вам нешта прапаную. Я выбраў п'есу, якая называецца «Партызаны». Гэту п'есу напісаў вядомы беларускі драматург Кандрат Крапіва. Настаўнік пачаў чытаць п'есу, і яна ўсім спадабалася. Тады Андрэйку даручылі ролю Данілы Дрыля, партызанскага камандзіра. Ён і зараз памятае ўсе словы, асабліва тое месца, дзе партызаны развітваюцца з Антонам, а Даніла Дрыль гаворыць: «Загінуў яшчэ адзін наш баявы таварыш! Загінуў за сваю радзіму, за свой народ, за яго шчасце, за новае жыццё, за савецкую ўладу...»



У зале было многа людзей — з усяго сельсавета, і нават з райкома партыі прысутнічалі.

А потым пачалася вайна. Бацька пайшоў працаваць на немцаў і сына прымусіў памагаць. Было балюча: быццам не толькі людзям, здрадзіў самому сабе, Даніле Дрылю здрадзіў... Раптам захацелася расказаць пра гэта Ларысе. Яна ўсё зразумее.

— Добры вечар!

«Зноў гэты Іон! Усё каля Ларысы круціцца. Людзі смяюцца...» Андрэй адвёў вочы, а Ларыса пачырванела і сказала ветліва:

— Добры вечар. Сядайце з намі.

Ён сеў насупраць, зазірнуў ёй у вочы. Маўчаў, але Ларыса зразумела ўсё без слоў:

«Я марыў пра цябе, я шукаў цябе...»

Яна адвяла вочы:

«Я не веру...»

Ён нахіліў галаву:

«Гэта праўда. Я кахаю».

«Гэта праўда»,— пацвердзіла дзявочае сэрца і страсянулася ад радасці і трывогі.

А ён спахмурнеў, і ў вачах яго быў смутак. Ларыса зразумела гэты смутак так: «Шчасця не абяцаю ні табе, ні сабе і не ведаю, як складзецца мой і твой лёс, толькі адчуваю: ты для мяне на ўсё жыццё рай і пекла...»

Андрэй не вытрымаў: надакучыла глядзець, як гэтыя дзівакі маўчаць і глядзяць адзін на аднаго. Падняўся і загадаў Ларысе:

— Ты кладзіся сёння раней. Заўтра, сама ведаеш, справа адказная.

...Ларыса вярнулася ў зямлянку, калі ўсе ўжо спалі. Ціха, каб не пабудзіць, прайшла на сваё месца ля акна. Салома зашуршэла, і Андрэй расплюшчыў вочы. Цяжкія ад сну вейкі зноў апусціліся. А Ларыса не магла заплюшчыць вачэй. Думала пра Іона...

Маладзік глядзеўся ў акенца зямлянкі. Ён кідаў бледнае святло Андрэю на твар, на яго цёмна-русыя кучаравыя валасы. Быццам упершыню ўбачыла яго густыя бровы, даўгаваты прыгожай формы нос, ледзь-ледзь прыпухлыя губы. Твар у сне быў напружаны, і нешта горкае было ў сцятых губах.

«Аб чым ты думаеш, маленькі мужчына? Што тоіць твая душа? Можа, вінаваціш сябе за бацькаву здраду? Лезеш у пекла — хочаш выкупіць віну? Ну, чаго ты ўздрыгнуў? Спі. Заўтра ў нас з табой цяжкі будзе дзень. Хоць бы ўсё добра абышлося! Нельга нам загінуць! Разумееш, нельга!»

Потым крыху забылася, заснула. У сне чула ласкавае: «Ла-а-ра...», і над ёй нахілялася чорная кучаравая галава. Вочы Іона блішчэлі. Ларыса працягнула радасна рукі, але твар Іона пачаў аддаляцца і нарэшце знік.

Ларыса прачнулася рана. У зямлянцы ўжо нікога не было. «Пайшлі без мяне. Пашкадавалі». Яна хутка апранулася, падышла да люстэрка, што вісела на сцяне. Маленькае падрапанае люстэрка давала слабы адбітак. Абветраны твар. Нос нічога сабе, але крыху таўставаты. Затое бровы прыгожыя. Вочы вялікія, шэрыя... Але сёння нейкія сумныя...

Не пачула, як адчыніліся дзверы і ўвайшоў Пайкін Хлопец любіў кпіць: «Прыгожая, прыгожая!» Ларыса, не глянуўшы на яго, кінула сваё: «Адчапіся» і выбегла з зямлянкі. Ёй раптам захацелася схавацца ад людзей, уцячы куды-небудзь. Ісці было на дзіва лёгка, быццам не чула пад сабой ног. Спынілася, калі лес расступіўся. Як зачараваная,

глядзела на срабрыста-блакітны туман, што ўзнімаўся над зялёным полем. У густым хмызняку сварыліся птушкі. А ёй чулася і ў птушыных галасах: «любіць, любіць...»

Настрой быў такі, што хацелася ісці і ісці, немаведама куды. А навокал якая прыгажосць! Колькі разоў была ў гэтым гаі, а не заўважыла цуду. Бярозы беглі да дубоў, але за некалькі крокаў спыніліся. Здаецца, што ў паветры застылі гукі нейкай велічнай мелодыі. Вось апусціць дырыжор палачку, і цуд знікне... Гукі, фарбы, лясныя пахі, уся зямная прыгажосць раптам раскрылася перад ёй.

Быў ужо, мусіць, поўдзень, але голаду Ларыса не адчувала. Млявыя дрэвы стаялі ціха. Нават птушкі змоўклі. Усё захмялела ад сонечнай ласкі. Ларыса пераводзіла погляд з вяршалін дрэў на неба, з неба на кветкі, а бачыла толькі яго вочы — чорныя, глыбокія, таямнічыя. Такія, мусіць, былі ў старажытных людзей... А можа, нават не ў людзей?..

Ларыса чула, як поўніцца зямля гукамі і трапяткім хваляваннем. І гэтыя гукі кранаілі душу. Душа адгукалася не радасцю, хутчэй, трывогай, толькі недзе ў глыбіні яе мацнела жаданне здабыць сабе гэтую радасць.

Раптам зямля здрыганулася. «Выбух! — падумала Ларыса.— Ці не ў майстэрні?» І пабегла. Перавяла дух толькі перад дзвярыма, на якіх вялікімі літарамі напісана: «Староннім уваход забаронены», але спыніцца ўжо не магла. Адчыніла. Іон разгублена спытаў:

— Ларыса! Што здарылася?

У руках ён трымаў толавую шашку.

Яна таксама разгубілася, не ведала, што сказаць.

— Ларыса, тут небяспечна...

Яны стаялі адзін супраць аднаго, як ворагі. Хацела крыкнуць: «Няўжо ты не разумееш, што я з табой!» Але не сказала нічога. Павярнулася, зрабіла некалькі крокаў, асцярожна зачыніла за сабой дзверы...

— Андрэй, я хачу ў цябе пра нешта спытацца.

— Пытайся,— дазволіў ён.

Ларыса сумелася: «Як пачаць? Як растапіць лёд?»

— Ты мяне паважаеш?

— Ну, паважаю,— глуха і не вельмі ўпэўнена адказаў ён.

Ёй захацелася апраўдацца, растлумачыць. Але як? «Відаць, да хлопчыка дайшлі нейкія чуткі...» Твар Андрэя спахмурнеў. «Можа, спрачаецца ў думках з кім-небудзь, заступаецца за мяне?»

— У кожнага чалавека ёсць свая вясна. Калі ён кахае, разумееш? А гэта вясна мая. Другой у мяне не будзе,— уздыхнула Ларыса і спужалася суровасці ўласнага прыгавору.

Далей яны пайшлі моўчкі. Пачынала цямнець. Лес, таямнічы, напоўнены гукамі, здаваўся Ларысе казачным. У думках працягвала спрачацца з Андрэем: «Ты асуджаеш Іона і мяне, думаеш, цяпер не час для кахання. Але каханне дае крылы. Калі-небудзь ты зразумееш гэта...»

Увечары Ларысу спыніў камандзір:

— Я даўно хацеў з табой пагаварыць. Але справа, як кажуць, далікатная...

У Ларысы сціснулася сэрца: «Як згаварыліся. Усе супраць».

Камандзір нягнуткімі пальцамі доўга круціў «казіную ножку», але так і не закурыў.

— Спадзяваўся, ты сама разумееш. У яго жонка, дзіця. Вайна



скончыцца, калі жывыя застанемся, яго дадому пацягне. Павер мне, так яно бывае. Што ты пра гэта думаеш?

Ларыса адказала са злосцю:

— Нічога не думаю. Кахаю яго.

Камандзір уважліва паглядзеў на яе і нічога не сказаў.

— Дазвольце ісці,— у голасе Ларысы была несхаваная крыўда.

— Ідзі.

Некалькі дзён Ларыса хадзіла сумная, задумлівая: «Жонка... Дзіця... Чаму ён сам ніколі пра гэта не гаварыў?» Думала многа і цяжка, але нарэшце рашылася: «Так і скажу: «Вяртайся да жонкі, мне ты не патрэбен!»

А назаўтра падбегла да яе заплаканая Марылька:

— Ларыса, няшчасце ў майстэрні! Міна разарвалася! Сямёна забіла, а Іон цяжка паранены...

Ларыса прыклала руку да грудзей, хацела спытацца: «Дзе ён?» Але не змагла.

Усю ноч Ларыса праседзела ля Іонавага ложка, а Іон у непрытомнасці ўсё зваў яе. Толькі пад раніцу зрабілася лягчэй, і ён заснуў.

Бяда, як кажуць, не ходзіць адна. Сувязныя паведамілі, што на лес пойдуць карнікі.

Камандзір сабраў партызан:

— Адступаць будзем праз балота. Немцам там не прайсці.

Ларыса слухала моўчкі: «Што будзе з Іонам? Як жа яго несці, калі доктар сказаў, што варушыць хворага небяспечна».

Яна падышла да камандзіра:

— Баця, у мяне ёсць план наконт Іона. Трэба зрабіць вялікую яму. А наверсе — дзёран, хмызняк. Я застануся з ім. Немцы нас не заўважаць. Камандзір пакруціў галавой:

— Калі карнікі прыйдуць з аўчаркамі, яны знойдуць вас.

Ларыса адказала цвёрда:

— Што будзе, тое будзе! Я не магу яго кінуць. Дазвольце застацца?

Камандзір маўчаў. «Паўвека пражыў ты на свеце, стары конь, а, што такое каханне, і не ведаеш. Думаў: баба яна і ёсць баба. Хто прылашчыць, таго і любіць. Калі пайшоў сватацца да сваёй Манькі, бацька казаў: «І не спадзявайся. Яна ж Лявонавага Васіля чакае з арміі. Даўно кахаюцца». А як сказаў Маньцы, што хача ўзяць яе замуж, адразу і згадзілася. Нават сам разгубіўся, спытаў: «А як жа Лявонаў Васіль?» Манька адвярнулася, засаромелася, а потым кажа: «Хто яго ведае... Можа пасля арміі ў горадзе застанецца. А калі вернецца, невядома, ці пасватаецца да мяне... Адным словам: лепей сініца ў руцэ, чым жораў у небе». Уголас сказаў:

— Рабі, Ларыса, як ведаеш!

...На шашы гоман. У вызвалены горад ідуць машыны, з лесу цягнуцца людзі. Разам з партызанамі па дарозе ішла Ларыса. Твар худы, абветраны. На зблякалай сукенцы — медаль «За адвагу». За плячыма — вінтоўка. Асцярожна ступаючы босымі нагамі, яна напружана думае. Хоча ўспомніць самыя значныя словы з таго, што гаварыў ёй у апошні вечар Іон, калі разам з іншымі параненымі адлятаў у Маскву. Чаму ён не сказаў, як ёй быць далей?..

На другім кіламетры ад горада партызаны сустрэлі вайсковую часць і пачалі абдымацца з чырвонаармейцамі. Ларысу акружылі салдаты. Яе называлі ласкава «сястрыцай», гаварылі, што цяпер будзе ўсё добра, а яна ўсё намагалася захінуцца, каб не заўважылі, што цяжарная, і разгублена, сарамліва ўглядалася ў салдацкія твары: ці не кпяць з яе?

Раптам маладзенькі салдат кінуўся да машыны, пачаў нешта выцягваць з рэчавага мяшка, ледзь не бягом кінуўся назад і паклаў ёй у рукі банку кансерваў. Ларыса падзякавала. Потым многа мужчынскіх рук цягнулася да яе, а яна, трымаючы шакалад, цукар, хлеб, разгублена гаварыла:

— Дзякуй. Мне не трэба! Мне нічога не трэба...

Потым яна ішла па вуліцах роднага горада і нічога не пазнавала. Усюды груды цэглы, пакарабачанае жалеза, пабітае шкло. Углядалася ў твары людзей: цёмныя, пасечаныя глыбокімі зморшчынамі, быццам зямля ў сухавей. «Якая сіла трэба, каб аднавіць тут жыццё, каб гэтыя людзі захацелі не толькі хлеба і даху над галавой, але і мастацтва, музыкі...» Потым заўважыла: на цёмных тварах свяцяцца вочы. І ад гэтага святла пахмурны дзень здаецца радасным. Зразумела: гэта не толькі радасць перамогі, радасць вызвалення, гэта ад усведамлення сваёй сілы адрадзіць жыццё!

...Ніколі яшчэ Ларыса не адчувала сябе такой адзінокай, як тады, калі прыйшла з двухтыднёвым сынам у пусты, халодны пакой. Хацела прысесці, адпачыць, але галоднае дзіця заплакала. Яна хуценька падхапілася, прынесла дровы. Калі ў хаце стала цёпла і дзіця, пад'еўшы, заснула, Ларыса пастукала да суседкі. Хацела спытаць, ці не было пісьма, але парашыла: «Каб яно было, аддалі б». Папрасіла ванначку купаць хлопчыка.

Пакуль гатавалася ў вялізным чыгуне вада, уключыла радыё: гучала арганная музыка Баха. Ларыса наліла ў ванначку вады — няхай астыне. Наплывалі думкі: «Яшчэ толькі дваццаць тры, а радасць адгучала. Каханне адышло. Наказала нікога не памінаць ліхам. Адна, зусім адна на цэлым свеце... Трэба забыцца пра ўсё. Але як? Не, гэта немагчыма». Прачнуўся і заплакаў хлопчык. Ларыса распавіла яго: «Папрэў увесь. Ну, нічога. Зараз выкупаемся, талькам пасыплем... Але як гэта зрабіць адной?» Да вайны бачыла, як купалі суседскае дзіця. Яно ляжала на надзейнай мужчынскай далоні, а жанчына асцярожнымі, пяшчотнымі рухамі мыла маленькае цельца.

Нешта сціснула горла. Яна падышла да вядра з вадой, у якой плылі льдзінкі, і выпіла цэлы кубак. Потым нерашуча ўзяла дзіця і паклала на сваю далонь. Адразу напружыліся мускулы, рука зрабілася дужай. Падтрымліваючы галоўку і спінку, апусціла хлопчыка ў ваду. Чакала, што заплача. Ён маўчаў, толькі маленькія вочкі з жахам глядзелі на яе, быццам прасілі ратунку. Ларыса здзівілася: гэта ж трэба — зусім па-чалавечы спужаўся! Дык ты ж — чалавек! Чалавек мой! А мамка твая, дурніца, плача, што зусім адна...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось мы і прачнуліся!— Ларыса глядзіць у вочы сыну, і ёй здаецца, што сёння яго погляд больш асэнсаваны.— Ну, хадзем! — яна бярэ сына, папраўляе кашульку, а ён ужо цягнецца да акна. Ён глядзіць на празрысты блакіт, па якім плывуць, немаведама куды, бялюткія хмаркі, і гаворыць:

— Та-та-та! — на яго мове гэта значыць: «Пойдзем гуляць!» Ларыса садзіць дзіця на канапу, дае плюшавага мядзведзіка, зайца, але ён адхіляе цацкі: «Та-та-та!»

Ларыса смяецца:

— Ну, што зробіш, калі пакой стаў табе цесным! Паснедаем і пойдзем.

Яшчэ рана, і ў парку амаль нікога няма. Толькі ветрык, ласкавы



весялун, бяжыць ад дрэва да дрэва і нешта шэпча лістоце. А сонейка ўсё гуляе ў хованкі — за хмары лезе. Раптам яно ўсміхнулася і паслала хлопчыку цэлы сноп залатых промняў.

Маленькі тварык сур'ёзны. Столькі тут для цябе цікавага! Ну, глядзі, глядзі!

Але што глядзець! Трэба ж памацаць! Ігар цягнецца з рук. Ларыса гаворыць строга!

— Нельга! Трава яшчэ мокрая!

Ігар не зважае на забарону і цягнецца з усіх сваіх сіл. Увесь ён,— і круглыя чорныя вачаняты, і гузічак-носік, і нават вушкі, што крыху прыўзняліся ад напружання,— цікаўнасць.

— Ну, што ты ўбачыў у траве? Не інакш, як цуд нейкі! — Ларыса ўглядаецца, але нічога, вартага ўвагі, не заўважае.— Ну, добра, тупай, яна апускае сына, і той адразу нахіляецца над маленькай жоўтай кветкай.— Гэта дрэнная кветка, яе нельга чапаць!

— Да-да-да! — у захапленні паўтарае Ігарок. Ларыса глядзіць на лютік — жоўтыя пялёсткі, абмытыя ранішняй расой, такія чыстыя, бліскучыя. Сапраўды, цуд!

Раптам выпаўз аднекуль жук, і хлопчык, забыўшыся пра кветку, пачынае: «Э-э-э!» Ён ужо амаль дацягнуўся, але жук паспеў у час схавацца.

— Ну, не плач, мой маленькі, не трэба. Лепш я цябе ў каляску палажу: бай-бай!

Ларыса з палёгкай уздыхнула, разгарнула кніжку. Але праз хвіліну з каляскі зноў пачулася: «Э-э-э!»

Калі яна ціхенька падышла да каляскі, з галінкі зляцела птушка. Ігар з жалем праводзіў яе вачыма. Ларыса вярнулася на лаўку, а хітрая птушка, зрабіўшы некалькі кругоў над каляскай, зноў села на галінку, засвістала. Хлопчык адказаў радасна:

— Да-да-да!

Ларыса ўсміхнулася: можа, дзеці і птушкі разумеюць адзін аднаго?

Раптам нізка праляцеў самалёт. Ігарок заплакаў.

— Не пужайся, сыночак! Гэта добры самалёт.

Ларыса вязе каляску ля будоўлі. Хлопчык загледзеўся на высокі кран-вежу. Спадабалася: весела размахвае рукамі, гугоча.

Насустрач ідуць дзве дзяўчыны ў камбінезонах, перапэцканых тынкам, нясуць раствор. Яны ўсміхаюцца. Ларысе радасна і чамусьці трывожна. Мір вам, добрыя людзі!

Надвячоркам хмары агромністай заслонай зацягнулі неба. Па шыбах застукалі дробныя кроплі. Адна злілася з другой, і ўжо тонкая вужака папаўзла ўніз на падаконнік. Яшчэ вужака, яшчэ...

Ігарок спіць. Ларыса села на крэсла ля акна, у руках — разарваная кашулька. Мелася зашыць, але збялелыя пальцы нерухома сціскаюць іголку. Пройдзе яшчэ колькі часу, і хлопчык спытаецца пра бацьку. «Што я скажу яму? Скажу, што бацька быў храбрым партызанам і загінуў...»

Ларыса ўспомніла Васіля Біжаку, разважлівага, мужнага хлопца. Ён быў з недалёкае вёскі і, калі выпадала, заходзіў да маці, браў хлеб, сала. «Падсілкуйцеся, сястрычка». Так ён яе называў і заўсёды клапаціўся, як брат. Калі аднойчы разведчыкі прывезлі смяротна параненага Васіля, яна гаравала больш за ўсіх.

Укалоўшы палец, Ларыса ўспомніла пра дзірку ў кашульцы і пачала хутка зашываць.

— Ларыса Мікалаеўна,— паклікала яе суседка,— вас шукаюць.

Калі ён з'явіўся на парозе яе маленькага пакойчыка, Ларыса адчула сябе на дзіва спакойна. Запрасіла:

— Праходзь, Іон.

З чорнага бліскучага дажджавіка сцякала вада. Ён зноў выйшаў у калідор, каб распрануцца і каб там схаваць сваю разгубленасць: не чакаў такой сустрэчы. Ён вярнуўся і сеў на крэсла, на якое яна паказала.

Пакуль Ларыса налівала чай, рэзала каўбасу, ён стаяў ля ложка, глядзеў на дзіця.

— Сын здаровы?

Яна адказа не адразу:

— Здаровы.

Ларыса ні аб чым не пыталася. І гэта стрыманасць больш, чым дакоры, кранула Іона. Ён зразумеў, як цяжка яна пражыла гэтыя гады.

— Тут будуюць па маіх праектах,— растлумачыў ён.

Яна не сказала нічога.

— Я так імкнуўся сюды, да вас... А ты зусім чужая...

— Я ранейшая, Іон. І не я вінавата (яна прыклала руку да грудзей), што тут усё скамянела.

Ён доўга сядзеў, апусціўшы галаву. Што ён мог сказаць? Што кахае па-ранейшаму, што для яго яна, стомленая, пастарэлая, самая лепшая жанчына ў свеце... Ён падняў галаву і раптам убачыў нейкі бляск у яе вачах. Слёзы! Яна не адвярнулася. Тады ён устаў і зрабіў крок насустрач. Яе галава пакорліва дакранулася да яго грудзей. Здаецца, яна чакала гэтага, каб выплакаць усю горыч.

Раніцай, калі развітваліся, Іон папрасіў:

— Скажы сыночку, што я яго бацька.

Ларыса паціснула плячыма: навошта?

...Удзень Ігарок у дзіцячым садзе, а ўвечары пакінуць няма з кім, і Ларыса бярэ яго з сабой. Усе дзівяцца, як уважліва слухае хлопчык музыку.

Аднойчы, калі вярталася з канцэрта з сонным сынам на руках, на лесвіцы сустрэла суседа, доктара Чыжыка, інтэлігентнага і трохі пастарамоднаму ветлівага чалавека.

— Дазвольце, Ларыса Мікалаеўна, я памагу вам.

Ён асцярожна ўзяў у яе з рук хлопчыка. Яна была ўдзячная, бо так стамілася, што ледзь-ледзь ступала. Моўчкі дайшлі да Ларысінай кватэры.

— Заходзьце, Міхаіл Іванавіч, вып'ем разам кавы.

Ён падзякаваў:

— Кава перад сном старому чалавеку шкодна, а ад чаю не адмоўлюся.

Яны пілі чай, і доктар Чыжык расказваў:

— Жаніўся я позна. Сын у мяне да вайны быў, крыху старэйшы за вашага Ігарка. Якраз перад самаю вайною мы з Зояй Пятроўнай — так звалі маю жонку — адправілі яго з дзіцячым садам на дачу. Як пачалася вайна, нас адразу мабілізавалі — жонка мая таксама медыцынскі работнік. Праз два дні Зоя Пятроўна паехала па хлопчыка, але вярнулася: немцы падыходзілі да горада. Усю вайну мы з жонкай былі на фронце. А пасля вайны я сустрэў выхавацельку, і яна расказала, як загінуў наш хлопчык. У дзяцей — вы толькі падумайце — гітлераўцы кроў бралі, іх зрабілі донарамі, і яны давалі кроў для нямецкай арміі. Дзеці паміралі. Зоі Пятроўне я пра гэта нічога не казаў, бо ў яе было хворае сэрца. Яна памерла на другі год пасля вайны.





Ларыса хацела нешта сказаць, каб суцешыць гэтага добрага чалавека, але не ведала, як гэта зрабіць. Доктар падняў блакітныя, выцвілыя вочы і папрасіў:

— Ларыса Мікалаеўна, каб вы пакідалі ўвечары Ігарка са мной, усё мой кут быў бы весялейшы...

Неяк непрыкметна доктар стаў сябрам сям'і, сваім чалавекам. І калі аднойчы Ігар, седзячы за сталом побач з Міхаілам Іванавічам, сказаў: «Мама, няхай у нас таксама будзе татка», Ларыса ўсміхнулася: «Няхай!»

...Ігар захварэў, і Ларыса Мікалаеўна рэпеціравала з маладой спявачкай дома.

— Тамарачка, яшчэ раз:

Пусть всегда будет солнце...

У суседнім пакоі тонкі хлапечы голас паўтарыў:

Пусть всегда будет солнце!

Па шчоках у спявачкі разлілася чырвань:

— Ларыса Мікалаеўна! Я так не магу! — Яна кінулася да дзвярэй: — Ігар, дрэнны ты хлопчык, замаўчы!

Ларыса Мікалаеўна ўсміхнулася:

— Тамарачка, не злуй! Дзіцячыя ноткі — гэта можа быць цікава! Паспрабуй, як Ігар:

Пусть всегда будет солнце!

Тамара зноў падышла да дзвярэй Ігаравага пакоя, прапанавала:

— Ігарочак, давай разам праспяваем.

Ігар пакрыўдзіўся:

— Больш я вам ніколі спяваць не буду!

У калідоры зазвінеў званок, і Ігар кінуўся адчыняць.

— Дзядзька Андрэй! А мамка ўсё хвалюецца, куды ты дзеўся!

Пакуль Андрэй распранаўся, Тамара шэптам спытала:

— Зноў ваш партызан? — і гарэзліва ўсміхнулася.— Не інакш, як у мяне закахаўся!

Ларыса выйшла насустрач, агледзела госця, паківала галавой:

— Схуднеў! Дзе ты два тыдні прападаў?

— Хадзіў са сваімі вучнямі ў Грозава. Я ж і твайго распусніка запрашаў. Хіба ён не гаварыў табе?

— Ну, і што там?

— Аднавілі нашу зямлянку, потым запрасілі Сяргейчыка і Патапава,— яны зараз у саўгасе працуюць,— каб расказалі, як партызаны змагаліся. Каб ты бачыла, як дзеці слухалі... Быццам сэрцам дакрануліся да подзвігу. Зразумелі, як нялёгка бацькі здабывалі перамогу.

Ларыса слухала моўчкі, думала сама сабе: «Можа гэта і занадта, такая памяць аб вайне! Сівы ўжо, а жыццё сваё ніяк не ўладкуе! Толькі пра сваіх вучняў ды пра паходы: «сэрцам дакрануліся да подзвігу».

— Хадзем, Андрэй, на кухню, я цябе пакармлю.

Увесь вечар Андрэй маўчаў, а калі Тамара пачала збірацца дадому, ён выйшаў услед, і Ларыса пачула з калідора:

— Дазвольце, я вас правяду.

«Можа, сапраўды мой партызан закахаўся? Вось была б добрая пара!»

...У пераднавагоднія дні было шмат клопату. Тамара і Андрэй рыхталіся да вяселля. Ларыса цэлы тыдзень варыла, смажыла. Вельмі хвалявалася. Але ўсё атрымалася добра.



Ужо вечарэла, калі яна пайшла да сябе на кватэру, каб пераапрануцца. Мяккія, вільготныя сняжынкі садзіліся на плечы, твар, бровы. Насустрач ішлі людзі з пакункамі. Той-сёй цягнуў ёлку. І раптам Ларыса спынілася. Пачала думаць, як апрануцца прыгожа, па-святочнаму, але прыдумаць нічога не магла. І тады непатрэбнымі здаліся і вяселле, і клопаты.

Міхала Іванавіча дома не было. На канікулы айчым, як і абяцаў, павёз хлопчыка ў Маскву. Ларыса ўвайшла ў спальню, адчыніла шафу. Тут на плечыках вісела чорная бліскучая сукенка — канцэртная. «Не надзяваць жа чорнае на вяселле?» Ці гэта — мышынага колеру. А можа гэта цёмна-сіняя — «бывай, маладосць!»

Ларыса сядзела сярод параскіданых сукенак: «Навошта сама сябе старыла? Старасць прыйдзе, яе клікаць не трэба». Але так лягчэй абараніцца ад паклоннікаў. Хто яна для іх? Кінутая жанчына... Адзін нават тэарэтычную базу падвёў: «Ларыса Мікалаеўна, каханне на вайне, усё роўна, што ў цягніку».

Пра ўсё забылася, калі зноў апынулася сярод сяброў. Яе прымусілі выпіць штрафны, а потым яна ўжо разам з усімі крычала «горка», глядзела на Андрэя, і раптам — успомніўся Іон. Ларысе захацелася пабыць адной. Выйшла ў другі пакой, села на канапу, закурыла. Выпіты каньяк і лёгкі дым цыгарэты прыўзнялі настрой. На душы было лёгка, радасна.

Нехта з гасцей сеў побач, нахіліўся да яе:

— Ларыса Мікалаеўна, дазвольце вас пацалаваць!

Яна падняла вочы:

— Хіба пра гэта пытаюцца?

Ён зразумеў па-свойму. Ларыса з агідай адкінула чужыя рукі. Ён разгубіўся.

— Прабачце. Я думаў...

— Што вы думалі? — Але злосць раптам знікла. Ларыса ўздыхнула і прапанавала: — Лепш запрасіце мяне на вальс.

Дадому яна вярталася пад раніцу. На бульвары спынілася, загледзелася на маладзенькія бярозкі, што, як нявесты, убраліся ў белае, і ёй зрабілася сумна. Мусіць, выпіла лішняе... Сказала ўголас: «Хачу быць нявестай у белай фаце!» І азірнулася: ці не пачуў хто. Навокал стаяла цішыня, і снежная неруш да болю рэзала вочы. Была першая раніца новага года.

...— Паважаная Ларыса Мікалаеўна. Ваш сын мае гонар запрасіць Вас на выпускны баль, каб Вы ўласнымі вушамі пачулі, што з гэтага дня перад ім расчыніліся ўсе дзверы і ўсе шляхі.— Ігар пачырванеў і дадаў: — Толькі, Ларыса Мікалаеўна, калі быць шчырым, ад Вашай прысутнасці будзе бянтэжыцца адзін таварыш, якога я, як і Вас, запрасіў на гэты баль. Таму я разлічваю на Вас, Ларыса Мікалаеўна...

— А я ведаю гэтага таварыша?

— Не. Гэты таварыш не меў гонару быць у Вашым доме. Я пазнаёміўся з ім некалькі дзён назад. Але запэўняю Вас, што таварыш вельмі прыгожы, чулы, і, самае цікавае, завуць таксама, як і вас — Ларыса.

Ларыса, усхваляваная, сядзела побач з Міхалам Іванавічам у актавай зале, і кожнае слова сына далятала да яе быццам здалёк:

— ...Дзякуй бацькам, што выхавалі мяне, дзякуй настаўнікам, што вывучылі мяне. Тут казалі, што з мяне атрымаецца музыкант. Гэта невядома. У кожным разе, да будучага яшчэ цяжкі і доўгі шлях. Ды я лічу: гэта не галоўнае. Галоўнае — не кім ты будзеш, а якім ты будзеш. Дык сёння я хачу запэўніць, што буду такім, каб не сорамна бы-

— Ла-а-ра! Як добра, што ты тут... Мне многа чаго трэба табе сказаць. Баюся толькі, каб нам не перашкодзілі.

Ён глядзеў занадта пільна, і яна спытала:

— Я вельмі пастарэла, Іон?

Ён адмоўна пакруціў галавой.

У гэтым бязлітасным ранішнім святле і паблеклыя вочы, і кожная зморшчынка на твары ў любай жанчыны нібы расказвалі Іону і пра бязрадасныя гады, і пра слёзы ўночы. Ларыса здагадалася, сумна ўсміхнулася:

— Не трэба, Іон!

— Я вінаваты перад табой...

Яна палажыла руку на яго лоб, потым яе далонь мякка паднялася і дакранулася да чорных з сівізной валасоў.

— Ты кахаў. А перад каханнем вінаватых няма...

— Перад каханнем трэба быць самім сабой. Ты гэта здолела зрабіць. Я — не. Я ведаю, ты даравала мне. Але хлопчык... Лара, мне трэба пагаварыць з ім, вельмі трэба.

У яго голасе быў боль.

— Так ты не гаварыў ніколі.

— Я гаварыў так, толькі ты не чула, не хацела чуць.

— Ты хочаш пагаварыць з ім па тэлефоне?

— Хіба гэта магчыма?

— А чаму не? — намагаючыся надаць свайму голасу спакой, адказала Ларыса. — У гэты час Ігар заўсёды дома. Я зараз закажу размову.

Калі зазваніў тэлефон і Іон узяў трубку, Ларыса выйшла з пакоя. Нешта перапаўняла сэрца, душыла яе. Усёй сваёй істотай яна жадала, каб сыну перадалося яе хваляванне, каб ён зразумеў і дараваў ім абаім.

Яна хутка саўладала з сабой і вярнулася. Дрыготкай рукой трымаючы трубку, Іон прасіў:

— Сынок, скажы хоць што-небудзь.

Калі Ларыса вярнулася, дык зразумела, што размовы не адбылося, і моўчкі ўзяла з рук у Іона трубку, асцярожна палажыла на рычаг, загадала:

— Супакойся!

Ён лёг, Ларыса моўчкі глядзела яму ў вочы: «Можа, гэта я вінавата? Я хацела, каб сын быў мой, толькі мой. Напэўна, так я помсціла табе...»

Дзверы расчыніліся і ўвайшла жанчына — сівая, састарэлая. Вочы абыякава глядзелі на Ларысу. Ларысе стала не па сабе: «Лепш бы злавалася, прагнала».

Роўным голасам, у якім не было ні раздражнення, ні прыязнасці да мужа, сказала, што ўжо час прыняць лякарства. Ён хутка праглынуў нейкія таблеткі, выпіў вады. Але жанчына не пайшла. Пачала прыбіраць на маленькім століку. Дзінькалі ў яе руках нейкія бутэлечкі, і Ларысе здалося, што хвіліны ў гэтым пакоі, быццам кроплі, пацяклі марудна і цяжка. Твар у жанчыны быў сумны.

Ларыса падышла да паліцы, узяла нейкую кнігу, але так і не магла прачытаць назвы: літары распаўзаліся, быццам тыя мурашкі. Вочы Іона пільна сачылі за ёй.

— Папраўляйся хутчэй, Іон! — яна павярнулася і, не глянуўшы на жанчыну, выйшла з пакоя. Потым, спяшаючыся, зняла плашч з вешалкі.



Адчыніла адны дзверы, другія і апынулася на лесвіцы. Маленькая лямпачка ледзь-ледзь асвятляла шырокія сходы. Раптам здалося, што не хапае паветра. Яна прыхілілася да парэнчаў. Стаяла нерухома, а перад вачыма плыла свежапафарбаваная сцяна з вялікімі, напісанымі крэйдай, літарамі: «Пеця+Таня».

У паветры было свежа. Мусіць, толькі прайшоў дождж, бо над гарачым асфальтам падымаліся белыя воблачкі пары.

На бульвары блішчалі мокрыя ад дажджу таполі. Ларыса села на лаўку. Лёгкі ветрык прынёс аднекуль тонкі пах язміну. Ларыса глыбока ўдыхнула. А лістота над галавой шаптала-шаптала, супакойвала: «У цябе ёсць сын і ёсць мастацтва, дзе адбілася шчасце тваё і боль. Слухачы адчуваюць, разумеюць і ўдзячны табе. А гэта заўсёды будзе цяплом і святлом у храме тваёй душы».

Ларыса доўга сядзела нерухома, слухаючы цішыню і шэпт лісця. Раптам да болю захацелся зноў убачыць Іона, паправіць стракаты плед і пачуць ласкавае: «Ла-а-ра!...» Яна паднялася. Гадзіннік на плошчы паказваў без чвэрці тры. Да адыходу цягніка заставалася яшчэ шмат часу...

**У красавіцкім нумары пачынаем друкаваць аповесць Івана СЯРКОВА «МЫ—ХЛОПЦЫ ЖЫВУЧЫЯ».**

— Ла-а-ра! Як добра, што ты тут... Мне многа чаго трэба табе сказаць. Баюся толькі, каб нам не перашкодзілі.

Ён глядзеў занадта пільна, і яна спытала:

— Я вельмі пастарэла, Іон?

Ён адмоўна пакруціў галавой.

У гэтым бязлітасным ранішнім святле і паблеклыя вочы, і кожная зморшчынка на твары ў любай жанчыны нібы расказвалі Іону і пра бязрадасныя гады, і пра слёзы ўночы. Ларыса здагадалася, сумна ўсміхнулася:

— Не трэба, Іон!

— Я вінаваты перад табой...

Яна палажыла руку на яго лоб, потым яе далонь мякка паднялася і дакранулася да чорных з сівізной валасоў.

— Ты кахаў. А перад каханнем вінаватых няма...

— Перад каханнем трэба быць самім сабой. Ты гэта здолела зрабіць. Я — не. Я ведаю, ты даравала мне. Але хлопчык... Лара, мне трэба пагаварыць з ім, вельмі трэба.

У яго голасе быў боль.

— Так ты не гаварыў ніколі.

— Я гаварыў так, толькі ты не чула, не хацела чуць.

— Ты хочаш пагаварыць з ім па тэлефоне?

— Хіба гэта магчыма?

— А чаму не? — намагаючыся надаць свайму голасу спакой, адказала Ларыса. — У гэты час Ігар заўсёды дома. Я зараз закажу размову.

Калі зазваніў тэлефон і Іон узяў трубку, Ларыса выйшла з пакоя. Нешта перапаўняла сэрца, душыла яе. Усёй сваёй істотай яна жадала, каб сыну перадалося яе хваляванне, каб ён зразумеў і дараваў ім абаім.

Яна хутка саўладала з сабой і вярнулася. Дрыготкай рукой трымаючы трубку, Іон прасіў:

— Сынок, скажы хоць што-небудзь.

Калі Ларыса вярнулася, дык зразумела, што размовы не адбылося, і моўчкі ўзяла з рук у Іона трубку, асцярожна палажыла на рычаг, загадала:

— Супакойся!

Ён лёг, Ларыса моўчкі глядзела яму ў вочы: «Можа, гэта я вінавата? Я хацела, каб сын быў мой, толькі мой. Напэўна, так я помсціла табе...»

Дзверы расчыніліся і ўвайшла жанчына — сівая, састарэлая. Вочы абыякава глядзелі на Ларысу. Ларысе стала не па сабе: «Лепш бы злавалася, прагнала».

Роўным голасам, у якім не было ні раздражнення, ні прыязнасці да мужа, сказала, што ўжо час прыняць лякарства. Ён хутка праглынуў нейкія таблеткі, выпіў вады. Але жанчына не пайшла. Пачала прыбіраць на маленькім століку. Дзінькалі ў яе руках нейкія бутэлечкі, і Ларысе здалося, што хвіліны ў гэтым пакоі, быццам кроплі, пацяклі марудна і цяжка. Твар у жанчыны быў сумны.

Ларыса падышла да паліцы, узяла нейкую кнігу, але так і не магла прачытаць назвы: літары распаўзаліся, быццам тыя мурашкі. Вочы Іона пільна сачылі за ёй.

— Папраўляйся хутчэй, Іон! — яна павярнулася і, не глянуўшы на жанчыну, выйшла з пакоя. Потым, спяшаючыся, зняла плашч з вешалкі.



Адчыніла адны дзверы, другія і апынулася на лесвіцы. Маленькая лямпачка ледзь-ледзь асвятляла шырокія сходы. Раптам здалося, што не хапае паветра. Яна прыхілілася да парэнчаў. Стаяла нерухома, а перад вачыма плыла свежапафарбаваная сцяна з вялікімі, напісанымі крэйдай, літарамі: «Пеця+Таня».

У паветры было свежа. Мусіць, толькі прайшоў дождж, бо над гарачым асфальтам падымаліся белыя воблачкі пары.

На бульвары блішчалі мокрыя ад дажджу таполі. Ларыса села на лаўку. Лёгкі ветрык прынёс аднекуль тонкі пах язміну. Ларыса глыбока ўдыхнула. А лістота над галавой шаптала-шаптала, супакойвала: «У цябе ёсць сын і ёсць мастацтва, дзе адбілася шчасце тваё і боль. Слухачы адчуваюць, разумеюць і ўдзячны табе. А гэта заўсёды будзе цяплом і святлом у храме тваёй душы».

Ларыса доўга сядзела нерухома, слухаючы цішыню і шэпт лісця. Раптам да болю захацелся зноў убачыць Іона, паправіць стракаты плед і пачуць ласкавае: «Ла-а-ра!...» Яна паднялася. Гадзіннік на плошчы паказваў без чвэрці тры. Да адыходу цягніка заставалася яшчэ шмат часу...

## У красавіцкім нумары пачынаем друкаваць аповесць Івана СЯРКОВА «МЫ — ХЛОПЦЫ ЖЫВУЧЫЯ».



Еўдакія ЛОСЬ

● *Бацькам Грыцаўца* ●●———— ●●● *Чаромхавы поезд* ●●●●———— ●●●●●————



●

Ваш сын жывы,
ён маладзенькі,
яму яшчэ не трыццаць год...
Вось назбіраў ён красак жменьку,
вось аглядае самалёт...
А вось ужо за шклом кабіны
сядзіць у шлеме баявым.
I будзе узрываць раўніны
пад ворагам пякучы дым.
Найбольшы у хлапечым гурце,
са здымкаў шчыра ён глядзіць.
Яго імя у кожнай юрце,
нібыта роднае, гучыць.
Таму сказаць я вам бяруся,
што войны сына не ўзялі...
На Халхін-Голе беларусы
былі!..

●●

Да грамады, як кажуць, «панскай»
мяне мой лёс не далучыў...
Ні польскай мове, ні іспанскай
ніхто ў маленстве не вучыў.

Не бачыла, як пэндзаль піша,
не чула, як пяе раяль,
і не спазнала, як калыша
абавязковы першы баль.

Ці буду гневацца на бога,
што часам трэслася ў буран,
што мела пацерак нямнога
і танцавала пад баян.



Затое чула я вясну,
свой дом здалёку пазнавала
і мову ведала адну —
на ёй «Курган» складаў Купала...

●●●

У вокнах бялеюць ахапкі цяжкія,
жывыя ў вячэрняй смузе.
Чаромхавы поезд імчыцца у Кіеў,
у Кіеў чаромху вязе.

Ірдзіцца расою духмянае голле,
гадунак прысадаў густых.
Вязе электрычка зялёным прыволлем
вясновае шчасце — для ўсіх!

І мне, беларускай жанчыне, так слаўна,
што ў гэтым вагоне імчу,
што бачу у квецені хаты і плаўні
і з Кіевам стрэчы хачу.

На белыя ногі хай сыплецца гравій —
дайду да ружовых муроў...
У сэрцы маім не абсыплецца травень,
у сэрцы не сціхне любоў!

●●●●

*П. Пестраку*

«Маці паэзіі — лірыка»...
Колькі гадоў дачку
гадуе сурова і шчыра,—
то водзячы за руку,
то адпускаючы смела
ў дарогу, у гнеўны бой!..
Маці, яна ссівела,
сочачы за барацьбой...
Але не абмінала
благаславеннем сваім.
Празрыстым крысом кранала,
калі асляпляў вочы дым...
На полі бітвы гаючай
сама была да канца
не толькі вярбой плакучай,
але і шабляй байца.

●●●●●

Звіслі ад кропель голькі,
мокра садам і пашам...
Шэпча мне дождж польскі:
«Пшэпрашам, пшэпрашам!»

А я пазіраю ўрачыста
на воблакі дажджавыя,
і сэрца выстуквае чыста:
«Нех жые, нех жые!..»



Алесь РЫБАК

Мал. Ю. ПУЧЫНСКАГА



# НЕЗАБЫЎНАЕ

АПАВЯДАННЕ

## 1



шашы, трохі прыпыніўшыся, машына збочыла на жвірыстую палявую дарогу.

Ганна Пракопаўна прыпала тварам да бакавога шкла. Усё глядзела і глядзела на віхорыстыя бярозы абапал дарогі, на шырокае, аж да самага лесу, поле, па якім каціліся адна за адной хвалі амаль ужо спелага жыта.

— Пачакай, Аніска, не гані так, — папрасіла яна.— Не на пажар спяшаемся.

Поле, пералескі, выганы... Зноў поле, засеянае то жытам, то аўсом, то лубінам. Вёскі і вёсачкі, да болю знаёмыя, знаёмыя нават валуны ля плота на вуліцах, старыя дрэвы — ліпы і клёны. А вось хаты мала якія пазнаць: гэта ж, глядзі, мінула больш як дваццаць гадоў! За гэты час хто нанава адбудаваўся, хто ашаляваў, паднавіў сваё жытло.

— Спыніся, Аніска, вунь ля той апошняй хаты.

Пасля доўгай язды ажно ногі здранцвелі, і Ганна Пракопаўна ледзь вылезла з машыны. Было пасля паўдня, але сонца стаяла яшчэ высока і пякло так, што хацелася схавацца ў цянёк.

Ля брамкі, на кучы свежага жвіру сядзеў хлопчык у насунутай на вочы белай панамцы і старанна ляпіў з пяску аладкі. Ён так заняўся гэтым, што не зварухнуўся ні тады, калі за дзесяць крокаў ад яго спынілася машына, ні тады нават, калі Ганна Пракопаўна дакранулася да яго панамкі, каб паправіць яе.

— Як жа цябе зваць? — ласкава спытала яна, прысеўшы на кукішкі ля хлопчыка.

— Бора, — падняў ён трошкі галаву і глянуў даверлівымі кругляўчкамі-каштанамі.— А табе цаго?

— Ну і сур'ёзны ж ты, Бора, чалавек,— як не рассмяялася Ганна Пракопаўна.— А дзе твая мама ці тата? Мы хочам вады напіцца.

— І мой тата сафёр, вот, на масыне паехаў...

З хаты выглянула маладая жанчына. Яна трымала ў руках драўляную лыжку, якой, відаць было, толькі што памешвала варэнне.

— Вам каго? — спытала, падышоўшы да брамкі, жанчына.

— Нам бы, калі можна, вады.

— То зайдзіце ў хату.

Ганна Пракопаўна, а за ёю Аніска ступілі на ганак новага, відаць, яшчэ нядаўна зрубленага дома. З-за вугла нечакана, ажно пад самыя ногі, кінуўся, залязгаўшы ланцугом, руды касматы сабака. Ад нечаканасці Ганна Пракопаўна нават ускрыкнула.

— Валет, марш у будку! — тупнула нагой гаспадыня.— Выбачце, што не папярэдзіла. Ды і не дастане ён.

На верандзе, зашклёнай рознакаляровымі шкельцамі, гарэла газавая пліта. Там стаяла вялізная эмаліраваная міска, з якой вілася густая пара.

Яны спыніліся ля парога на кухню.

— Зайдзіце ў хату, зайдзіце,— запрасіла маладзіца.— А я тым часам набяру свежанькай вады.

Яна выйшла з вядром да студні — тут жа, у двары.

Ганна Пракопаўна агледзелася. Пакой, куды прывяла іх гаспадыня, быў невялікі, але ўтульны. Зграбная, пафарбаваная ў зялёнае, падлога, простыя, але прыгожыя і чыстыя ходнікі, каля глухой сцяны за кафельнай грубкай — нікеляваны ложак з гарой падушак, ахінутых цюлевымі накідкамі. У куце, між вокан, тэлевізар «Рэкорд», на басцяне, у рамцы, фатаграфіі...

І раптам нібы здранцвенне найшло на яе. Ганна Пракопаўна ўтрапёна глядзела, не мігаючы, на чалавека пад шклом, з вялікай скулякай на шчацэ, каля вуха. «Няўжо ён?.. Скуль? Як трапіў у гэтую хату?..» Думкі роіліся, ліхаманкава мітусіліся ў галаве, апякалі сэрца. Яна адчувала, як наліваліся, нібы свінцом, ногі, шэрхла цела.

— Аніска! — асмяглымі губамі ціха папрасіла Ганна Пракопаўна.— Хадзем адсюль...

Ён здзіўлена глядзеў на яе збялелы твар.

— Вам дрэнна, Ганна Пракопаўна?

У дзвярах ужо з конаўкай стаяла маладзіца. Аніска выхапіў у яе з рук конаўку і падаў Ганне Пракопаўне. Яна глытнула чыстай халоднай вады і цяжка паплялася да дзвярэй. Ужо ля брамкі спытала ў маладзіцы:

— Гэты чалавек... са скулякай... што на фатаграфіі?.. Дзе ён?

— Свёкар? — маладзіца пачырванела, адвяла трохі ўбок вочы.— Быў у Сібіры, на лесараспрацоўках... Нядаўна памёр. А фатаграфію адтуль прыслалі...

Ганна Пракопаўна пагладзіла хлапчука па галаве, заглянула ў яго чыстыя кругляўчкі-каштаны і падалася да машыны.

І зноў дарогі, лясы, пералескі, вёсачкі і вёскі...

— Што з вамі, Ганна Пракопаўна? Мо стаміліся? Тады павернем назад, на Мінск.

— Ды не, Аніска, праедземся яшчэ трохі...
І спамянулася ёй другая дарога, тое, даўнейшае, што аж дасюль не-не і запячэ, засмыліць на сэрцы.

...Кірыла Адамавіч, сакратар райкома, у ваенным яшчэ фрэнчы, з забінтаванай і падвешанай на марлевай павязцы рукой, цяжка падняўся з-за стала, запрасіў Ганну сесці.

— Ганна Пракопаўна, зноў давядзецца вам збірацца ў дарогу. Цяпер яшчэ далей, аж у Мышкавіцкі сельсавет. Больш з райкома няма каму, самі ведаеце. З вамі паедуць Лявонаў з фінаддзела, ну, і...— сакратар усміхнуўся, трохі прыжмурыўся,— Васіль Кузьміч Буднік. Пяць калгасаў трэба стварыць у той зоне. Задача, сказаць шчыра, з нялёгкіх.

— Я гатова, Кірыла Адамавіч. Калі трэба ехаць?

— Сёння. Зараз жа. Паедзеце на кані, у брычцы. Цяпер толькі на кані і праехаць. Ды і машына наша зусім стала на прыкол. Запчастак няма. Усё ідзе на фронт, самі ведаеце, нябось. Пакуль не даб'ём фашыстаў у іх логаве, давядзецца з усім мірыцца...

— Ці не агітуеце вы мяне? — Ганна Пракопаўна пільна і мо залішне строга паглядзела ў вочы сакратару.— Мы не такое перажылі...

І вось яны ўжо ў дарозе. Малады, рудой масці конь бяжыць труцком. Гэта на сухім, там, дзе вышэй. У лагчынах дарога гразкая — толькі нядаўна сышоў снег, і каню тут цяжка, ён напінаецца з усіх сіл, і мужчыны па чарзе злазяць з брычкі, пасабляюць.

Наперадзе, з лейцамі — Лявонаў. Яны з Васілём — на заднім сядзенні. Лявонаў, хоць і гаворыць з імі, але не абарочваецца, пільна глядзіць перад сабой, нібы едзе не на кані па бязлюднай дарозе, а вядзе машыну па шашы.

Ганне Пракопаўне, як ніколі мо дагэтуль, хораша. Яна моцна прытулілася да Васіля, цяпер ужо яе Васіля, глядзіць у неба, дзе маленькімі кропкамі павіслі жаўрукі. І ніяк не верыцца ёй, што вось зусім нядаўна тут ішлі танкі, кіпеў бой, во, нават яшчэ і траншэі там-сям гарбацяцца насыпамі на ўзлесках. Не верыцца, што недзе і цяпер грыміць вайна, льецца кроў, паміраюць людзі. А тут цішыня і песня жаўрука над палеткам...

Першай высадзілі Ганну Пракопаўну — у Мазалях. Дамовіліся яшчэ загадзя, што Васіль астанецца ў Мышкавічах, а Лявонаў паедзе далей — у Пугачы.

— Ну, любая, жадаю поспеху. Не сумуй,— адышоўшыся трохі ад брычкі, сказаў Васіль.— Заўтра, глядзі што, я прыбягу да цябе... Гэта ж, відаць, кіламетраў пяць будзе.

Ганна, прыжмурыўшыся, гарэзліва паківала пальцам:

— Чакаю. І на маладзіц не зіркай. А то ведаю вашага брата...

Васіль засмяяўся і пабег даганяць брычку, якая ўжо была трохі далекавата. А Ганна, з кардоннай папкай пад пахай, нейкі час яшчэ стаяла і з любасцю глядзела яму ўслед. Васіль, родны, дарагі чалавек... Не, ніколі і нікому не аддасць яна яго. Ужо хай першае замужжа было няўдалае — выскачыла, дурніца, за п'яніцу, думала, што адвучыць, абы каханне было. Гэта ж пяць гадоў жыцця змарнавала, лепшыя, можна сказаць, гады. Кінула яго перад вайной і не магла дараваць сабе, што так доўга мучылася. Ну, хаця б дзеці тыя былі? А то ж, во, з чым прыйшла да яго, з тым і пайшла. Толькі душу вытравіла. Думала (праўда, у вайну не было асабліва калі думаць пра сябе), што ўжо ўсё, жыццё яе назаўсёды змарнавана... Каму патрэбны яе



трыццаць пяць гадоў?.. І ўжо не спадзявалася ні тады, калі ехала з Урала, з эвакуацыі, ні тады, калі накіравалі інструктарам райкома сюды, у гэты глухі, толькі што вызвалены куток Заходняй Беларусі, што знойдзе сваё шчасце, стрэне чалавека, які моцна і шчыра пакахае яе...

## 2

Сход у Мазалях наважылі сабраць у хаце Цімкі Булыкіна. Яна была не так большая за іншыя мазалёўскія хаты, як пустая і гулкая, бо Цімка жыў адзін і з мэблі толькі тое і меў, што палок ля печы і доўгую, на ўсю сцяну, лаву. Ды і з хутароў сюды зручней было ісці.

Калі ўжо трохі сцямнела, была пароблена ўся работа, пачалі прыходзіць на сход. Праз якія паўгадзіны набілася гэтулькі народу, што і пальца, каб хацеў, нельга было б праткнуць. Абляпілі нават палок і печ. Многія, хто бліжэй, папрыходзілі са сваімі зэдлікамі.

Ганна Пракопаўна сядзела ў куце за сталом, які быў вынесены сюды з кухні. Трошкі непакоілася. Яна глядзела на засяроджаныя, чамусьці надта ж сур'ёзныя твары і адчувала, што нешта сёння не тое, нешта не такі настрой у людзей, як было гэта ў Жухавічах тыдзень таму назад. Там адразу ўсе прагаласавалі за калгас. Толькі і работы той было, што акуратна запісаць усіх. А вось сёння не тое. Ці мо ёй толькі так здаецца? Ну, вядома, здаецца. Гэта ж не на вяселле, а на сход, на сур'ёзную гамонку прыйшлі людзі. Вырашаць свой лёс, крута мяняць жыццё. Дык хіба тут будзеш ахвочы да пустых, бяздумных жарцікаў?

Так супакойвала сябе Ганна Пракопаўна і гнала прэч благія думкі. Яна, калі сказалі, што ўсе сабраліся, папрасіла цішыні.

— Вы ведаеце, чаго я прыехала да вас,— устала з-за стала Ганна Пракопаўна.— І агітаваць асабліва не буду. Трэба думаць пра будучыню, пра тое, як далей быць. Не будзем пра цяперашняе казаць, але і да вайны, нават маючы зямлю, вы жылі, як той казаў, адзін лапаць, адзін чунь. Увесь і ратунак для чалавека — калгас. Думаю, што вы нямала чулі, як жылі людзі ў калгасах да гэтай калатнечы...

Яна гаварыла як мага прасцей, старалася закрануць сэрцы людзей, прыводзіла прыклады. Калі скончыла, папрасіла, каб выступалі людзі. Але, на дзіва, ніхто нават і з месца не кранууся. Ганна Пракопаўна глядзела ўсё на тых, каго яна ўжо ведала трошкі раней, на каго больш за ўсё спадзявалася. Аднак дарэмна.

— Ну, калі ніхто не хоча выступаць, то і бяды такой,— рашыла выйсці з няёмкага становішча Ганна Пракопаўна.— Кажуць жа мудрыя людзі, што маўчанне — знак згоды. Думаю, што запісацца ў калгас будуць згодны ўсе. То давайце...

Яна села за стол, з кардоннай папкі дастала сшытак і хімічны алоўак, нарыхтавалася запісваць. Мужчыны чадзілі самасадам, жанкі нервова шапталіся, але ніхто не падышоў да стала.

— А мо перапынак зробім,— счакаўшы яшчэ трохі, прапанавала Ганна Пракопаўна.— Мужчыны, хто курыць, хай выйдуць на двор, на свежае паветра. А то мы, жанкі, і задыхнёмся тут.

Яна і сама не згледзела, хто і як паклаў на стол паперку, згорнутую ўдвая. Ганна Пракопаўна ўзяла яе і, паклаўшы ў сшытак, неўпрыкмет разгарнула, пачала чытаць. Пісаныя спехам, літары мітусіліся, бегалі туды-сюды, што спачатку і да сэнсу цяжка было дабрацца. Ганна Пракопаўна прабегла вачыма яшчэ раз і адчула, як моцна і нервова закалацілася сэрца. «Таварыш упаўнаважаны,— гаварыла-

ся ў паперцы,— мала хто з нас не хоча ў калгас, але цяпер нічога не палучыцца. Нехта, яшчэ да пачатку сходу, пусціў пагалоску, што ў вёсцы заявіўся Чорны Лапаць са сваімі бандытамі. Наказаў, што, калі хто першы запішацца ў калгас, таму пад страху пеўня пусцяць. Асцерагайцеся і вы. Начаваць (толькі, крый божа, каб ніхто не бачыў) прыходзьце да нас, на хутар, да Ляшкевічаў».

Што гэта? Кулацкія выкрутасы, запалохванне сумленных людзей? Але ж яе, Ганну, не здзівіш гэтым. Нешта такое было ў яе ўжо. Але тады, во, помніцца, падняўся на мыліцах, у вайсковым шынялі Іван Рэйка і такое сказаў, што жанкі ажно вушы пазатыкалі, а пасля сыпанулі заявы. А чаму ж цяпер ніхто не скажа? Няўжо і праўда напалохаліся нейкага «лапця»?

Спамянулася ёй, што ўжо чула недзе пра яго. Ага, здаецца, Кірыла Адамавіч неяк казаў, што ў суседнім раёне аб'явіўся былы нямецкі паслугач Вінька Мурадаў з мянушкай «Чорны Лапаць». Рабуе магазіны, запалохвае актывістаў. Няўжо і сюды дапяў?..

Ганна Пракопаўна ліхаманкава думала, як ёй быць далей. Пасмяяцца з гэтай пісулькі?.. А калі не пераканае людзей? Не, лепш ужо і выгляду не падаваць, што ведае пра нешта. Лепш ужо сёння адпусціць людзей, сказаць, каб заўтра прыходзілі на сход, а сёння, бо позна ўжо, усе, відаць, стаміліся, а такое важнае дзела нельга вырашаць, добра ўсё не абмазгаваўшы...

У хаце ўжо амаль нікога не асталося, як на парозе нечакана з'явіўся Васіль.

— Васіль!? Вось дык маеш! — што тая дзяўчынка, узрадавалася і адначасова занепакоілася Ганна.— Ты ж заўтра меўся... І ў цябе нічога не выйшла?

— Ты пра што? — у голасе Васіля чулася здзіўленне.

— Як? Хіба ты правёў ужо сход?

— Ды не, на заўтра назначыў. Сёння я толькі прыглядаўся, прыкідваў, што і як трэба будзе зрабіць...

Ганна душою адчувала, што Васіль нешта тоіць ад яе, нечага недагаворвае... Ну і няхай...

Яна паказала паперку. Васіль прачытаў і засмяяўся, хоць па вачах пазнала — нешта ён ведае.

— І зусім не смешна. Людзей можна зразумець. Можа яно і праўда — гэты «лапаць» прыгразіў.

Яны выйшлі на двор. Адразу пасля святла, хоць і не вельмі ярка гарэла там лямпа, было, як вока выкалі. Пастаялі колькі хвілін ля плота, каб трохі абвыкнуцца ў цемры. Людзей на вуліцы ўжо не было чуваць — паразбягаліся па хатах. Стаяла нязвыклая цішыня. Нават вецер нібы затаіўся за вуглом, чакае, калі міне гэтая ноч.

Ганна перасмыкнула плячыма і мацней прытулілася да Васіля.

— Холадна? — спытаў ён, паклаўшы на плечы цяжкую руку.

— Ды не. Так неяк... Якая глушэча! Ні аднаго агеньчыка. І як жывуць толькі людзі?

— Жывуць і будуць жыць. Паглядзіш вось, як яно будзе тут гадоў праз дзесяць-пятнаццаць. Многаму навучыла нас вайна...

На хутар трапілі праз якую гадзіну, не раней. Ганна Пракопаўна, хоць і ведала, дзе жывуць старыя Ляшкевічы (спынялася ў іх яшчэ напрадвесні, як прыязджала па ваеннай пазыцы), трохі ўсё ж заблудзілася. Але добра, што знайшла. Гэта ж, канечне, яго хата. Вунь і павець з аблупленай страхой, і пустая жалезная бочка на шасце. А гэта, во, і бярэзнік падыходзіць да саменькага плота.

Не вельмі гучна, але настойліва пастукала ў шыбіну. Там, у хаце,





матлянулася фіранка, і праз хвіліну ў сенцах пачуўся прыглушаны шоргат засаўкі.

— Заходзьце,— стары Ляшкевіч, так-сяк наспех адзеты, стаяў на парозе. — А я думаў, што вас ужо не будзе. Гэта ж хто з вамі яшчэ?

— Муж мой,— Ганна пяшчотна сціснула Васілёву руку. І ўжо ў кухні дадала: — Сакратаром ён у выканкоме. Разам вось прыехалі. Толькі ён у Мышкавічы, а я да вас.

З печы ўпоцемках злезла старая Ляшкевічыха, коўдрай завесіла акно і тады ўжо чыркнула запалку. Чорнымі вузлаватымі пальцамі абцёрла нагар з кнота і запаліла газоўку. Бляклае хісткае святло выхапіла счарнелую печ, чыгун на падлозе з намытай бульбай, дашчаны, на козлах, стол, на якім ляжаў з жаўтаватай скарынкай праснак. На сцяне каля парога вісела паляўнічая стрэльба...

— Маці, што ў цябе тамака ёсць? Падсілкуй трохі людзей, — азваўся стары Ляшкевіч.

Ганна, коўтаючы сліну, сказала:

— Дзякуй, Іван Захаравіч, і вам, гаспадыня. Мы не вельмі галодныя.

Але яны ўсё ж паелі праснака з малаком. Ганне здалося, што нічога смачнейшага яна даўно ўжо не брала ў рот.

Стары Ляшкевіч сядзеў на ўслоне ля печы, чамусьці накручваў анучы на нагі. Ганне Пракопаўне карцела спытаць пра запіску, пра ўсё, што надарылася на сходзе. Мо гэта ўсё няпраўда, выдумка якога-небудзь зламысніка? Яна чакала, што зараз гаспадар пра ўсё раскажа. Сама ж спытаць не наважвалася: яшчэ, чаго добрага, і Васіль, і Ляшкевіч смяяцца будуць, падумаюць, што напалохалася. Але гаспадар больш маўчаў, засяроджана пра нешта думаў. Усяго і сказаў за гэты час: «Заўтра пагаворым, а сёння позна ўжо».

Было за поўнач. Толькі цяпер Ганна адчула, як натамілася за дзень. Спаць ім паслалі ў чыстай палавіне, за перагародкай. Тут, побач з кухняй, было свяжэй — відаць, старыя Ляшкевічы мала хадзілі сюды і не спалі на ложку. Васіль распрануўся першы і кінуўся на мяккую, нібы праваліўся куды, пярыну.

Ганна пакуль што не клалася — сядзела побач і расплятала касу. Гэта ў яе стала ўжо звычкай: нанач, дзе б ні была — у вагоне ці ў чужой хаце — расплятаць касу. Каса ў яе доўгая, да пояса, і хапае клопату з ёй. Апошнім часам хацела ўжо адрэзаць, але Васіль не дазволіў, настаяў на сваім. Ён любіў, калі Ганна расчэсвала валасы.

Вось і цяпер, павярнуўшыся, ён глядзеў на яе твар, які ў паўзмроку падаўся яму яшчэ больш прывабным. Васіль нават не стрываў, працягнуў руку, дакрануўся спачатку да валасоў, пасля абхапіў Ганну за шыю і моцна прытуліў да сябе, пацалаваў у цёплыя, мяккія губы.

— Харошая ты ў мяне... Як добра, што мы разам!

— Кахаеш?

— Вельмі. А ты?

— Пытаешся! Я з жахам думаю, што магла б не прыехаць сюды, не ўбачыць цябе і састарэць адна.

— Ты прыгожая, і адна не асталася б.

— Хіба гэта самае галоўнае — быць прыгожым з твару?

— Не, але ўсё ж...

Яны памаўчалі.

— Калі ж у нас будзе свой куток?

— Будзе. Вось хай толькі скончыцца вайна...

— А я хацела табе нешта сказаць...

— Скажы. Ну, чаго ж ты маўчыш?..

Ганна знайшла яго руку, паднесла да грудзей і, задыхаючыся, шапнула:

— У нас будзе дзіця. Я хачу, каб быў хлопчык.

Васіль моцна прытуліў яе да сябе...

## 3

...Яны караскаюцца ўсё вышэй і вышэй. Адной рукой Васіль памагае ёй, другой хапаецца за вострыя выступы скалы. Яна стараецца не глядзець уніз — баіцца, што як толькі гляне, то і зваліцца ў бездань. Ногі ўжо ледзь слухаюцца, з цяжкасцю намацваюць апору. «Ну, трымайся, яшчэ трошкі...» — умольна глядзіць на яе Васіль. Але вось апошняе намаганне — і яны на роўнай каменнай пляцоўцы. Ганна глянула перад сабой, і ў яе дых заняло. Сіняе-сіняе ад берага там, дзе горы кідаюць няроўны цень, і мігатліва-залацістае далей бязмежнае мора... А вунь там, далёка ў дымцы, дзе яно мякка зліваецца з даляглядам,— сілуэт нейкага казачна прыгожага карабля. «Ты паглядзі, Вася!» — у захапленні крычыць яна і не чуе свайго голасу: растаў у гэтым абсягу неба і мора.

Яны стаяць, абняўшыся, ля саменькага абрыву. Вецер цярэбіць Васілёў чуб, мякка песціць твар. Пасля Васіль дае ёй фотаапарат, а сам ідзе да нейкага дрэва, каб прыхінуцца да яго. Ганна перакручвае плёнку, прымерваецца, глядзіць у вочка. І раптам... Раптам, у адно якое імгненне, з трэскам ляціць у бездань дрэва, а з ім Васіль.

— Ва-а-а-ся!

— Што, што такое? — аж прыўзняўся на пасцелі Васіль.

Яна і сама прачнулася, уся ў халодным поце.

— Я крычала?

— Ага. Відаць, сніла пра нешта?

Яна маўчыць, толькі з радасцю кладзе галаву на Васілёву руку і зноў заплюшчвае вочы. Васіль таксама сцішваецца. Ганна яшчэ трохі чуе яго роўнае дыханне. Потым паволі праваліваецца нібы ў якое забыццё.

Але што гэта?.. Чые гэта боты тупаюць па двары? Яна ўсхопліваецца, садзіцца на ложку, услухоўваецца. Цішыня. Мо падалося?.. Глядзіць у акно, у ноч. Божухна, калі гэта ўжо раніца будзе? Нешта зусім здаюць нервы... Што гэта з ёю?





Скрыпяць з кухні дзверы, гаспадар, пасля і сама гаспадыня, крадучыся, прыпадаюць да акна.

— Глядзі, Іван, ці не Ляхно гэта? Вунь, стаіўся ля шула,— устрывожаная, шэпча гаспадыня. — А вунь яшчэ трое, з вінтоўкамі...

— Ага, ён. Во гад печаны, вылюдак пракляты! Высачыў і прывёў...

І ўжо бразгат у дзверы.

— Уставайце, Ганна Пракопаўна! І вы, таварыш! — перапалоханая гаспадыня стаіць каля іхняга ложка.— Бандыты прыйшлі. Ляхно прывёў. Божачка, што ж гэта будзе?..

Дзверы ходырам ходзяць, здаецца, вось-вось вылецяць.

Васіль спехам адзяецца, а яна, Ганна, як нежывая, сядзіць на ложку.

— Скарэй, скарэй! — Васіль цягне яе за руку.

— Мо праз кухню...— шэпча гаспадыня.

Ганна Пракопаўна, нечым абхінуўшыся, бяжыць услед за Васілём. Гаспадыня ціха адчыняе акно — у кухню цягне роснай ноччу.

Васіль, не раздумваючы, скача туды, у гэтую росную сырасць за акном. Ганна кідаецца яму на рукі. І ў гэты ж час грымяць стрэлы — адзін, другі. Куля дзынкае каля саменькага вуха, здаецца, апякла валасы.

— Вунь яны, ка-а-амуністы!..— чуваць нечы злы голас.

— Бяжы! — ужо не шэпча, а крычыць Васіль.

— А як жа ты, Вася? Я не магу адна. Разам...

— Бяжы, кажу,— моцна штурхае яе Васіль. — Я цябе даганю.

Ганна, не памятаючы, куды і як, бяжыць. Па твары б'е мокрае голле, недзе збоку чуваць цяжкі тупат ботаў, стрэлы. Сэрца гатова вось-вось выскачыць з грудзей. Дзе ж Васіль? Дзе? Мо ён уцёк, чакае яе там, далей, у гушчы?..

Яна бяжыць, падае, зноў устае і бяжыць. Чапляецца за нейкую патарчаку, пластам падае на мокрую зямлю. Адно на секунду чуе, як нясцерпна запякло каля скроні...

«Годзе, спыніце!» — каторы раз просіць, моліць яна.

А карусель усё круціцца і круціцца... Мільгаюць дрэвы, расплываюцца нечыя твары. Баліць, аж расколваецца, галава. «Хопіць! Я больш не магу»,— крычыць, зноў надрываецца яна ў млявай немачы. Але вось нешта моцна яе тузанула, і карусель спынілася...

Ганна цяжка расплюшчвае павекі, узнімае галаву, налітую нібы свінцом, няўцямна глядзіць перад сабой. Віднее. Недзе заліваецца жаваранак. Проста перад вачыма — пляскаты камень, і на ім лужынка крыві. Ганна цягнецца рукой да скроні, там, дзе тупы боль, мацае. Падносіць руку да вачэй. Ага, кроў... Свежая і запечаная...

Колькі ж гэта часу? Яна, хістаючыся, устае. Што гэта? Кроў перад вачыма? Ці мо неба ў крыві там, адкуль яна бегла?

Страшная здагадка абпальвае нутро. Яна бяжыць туды, дзе крывавіцца неба. Да слыху даносяцца спачатку слабыя, як з-пад зямлі, пасля ўсё мацнейшыя галасы, крык людзей. Едкі дым ужо засціць вочы. На ўскрайку бярэзніку Ганна спыняецца як укапаная. Вось адкуль чырвань і едкі, удушлівы дым — гэта ж гарыць, шугае полымем Ляшкевічава хата! Бегаюць, мітусяцца людзі. Галосяць над некім жанчыны.

Якоесьці нутранае чуццё гаворыць ёй, Ганне, што здарылася непапраўнае, страшнае.

Знясіленая, хістаючыся, яна ідзе да людзей...



— Вось, Аніска, як яно часам бывае. Мо і не ўсё расказала, што нагадалася мне сёння, але хопіць і таго. А ты пытаешся, чаго мяне нячыстая пацягнула сюды. Цягнула заўсёды, але цяжка было вярэдзіць рану. Год ці два яшчэ пасля таго, як не стала Васіля і як дачасна нарадзіўся нежывы хлопчык, я спадзявалася, што гора маё забудзецца, што неяк абвыкнуся. Але не змагла асіліць сябе. І папрасілася на работу ў другі раён. А цяпер вось наважылася прыехаць. Думала, што зажыла тая рана, і — на табе — маеш... Надараецца часам такое з чалавекам, што ўсё жыццё смыліць гэтая рана. Вось так і ў мяне. Усё іншае мела я: спагаду, спачуванне майму гору, увагу людзей, любімую работу. Не год і не два — усе гэтыя гады, аж, во, пакуль не пайшла на пенсію. Я, праўда, і працавала, як апантаная, — заўсёды прасілася на самае цяжкае. Але каб хто знаў, колькі начэй я праплакала адна, ні з кім не перакінуўшыся і словам. А раніцай ішла на работу, нібы нічога і не было... Зрэшты, Аніска, прабач: нешта надта раскісла я сёння. Старая, бач, ужо зусім. А яшчэ гэтая нечаканая стрэча...

— Вы пра што? — Аніска пільна глядзіць на Ганну Пракопаўну.

— Ды ўсё пра таго Ляхно. Гэта ж яго фота ўбачыла я на сцяне, калі заходзіла вады напіцца. Вось чаго я ніяк не чакала. Ажно гэта сынава хата... А бацька, глядзі, так і не вярнуўся сюды... Ну, хоць бы, сказаць, гаспадарку вялікую меў тады, што так збаяўся калгаса і з бандзюгамі знюхаўся. А то ж, во, і дагэтуль не магу даўмецца: жыў голы, як бізун, ні кала свайго не меў, ні двара. А такім, бач, вылюдкам аказаўся. Праўда, гультаём і зайздроснікам ён быў і да гэтага...

Ганна Пракопаўна аціхла, пра нешта задумаўшыся.

Яны ехалі ўжо назад, у Мінск.

## У наступным нумары — апавяданні Аляксандры УС і Васіля ХОМЧАНКІ.



Святлана ЛОБАЧ

● *Вяснянка* ●●———— ●●●———— ●●●●————



●

Вятры-праныры бачылі
Вяснянку у сасонніку,
З усмешкаю дзіцячаю
Як выбегла на сонейка.

За ёю пералескамі
Ручай цягнуўся стужкаю,
Нёс кошык ёй з пралескамі
І рыжымі вяснушкамі.

Нібы дзяўчо увішнае,
Кідалася гарэзніца
Пухнатымі пупышкамі
У плямістым бярэзніку.

Касою залацістаю
За дрэва зачапілася,
А ветры полю чыстаму
Шапнулі, што згубілася.

Сустрэла я свавольніцу,
Не ў лесе, а на вуліцы.
Вяснянка — нібы школьніца,
Ідзе сабе і жмурыцца.

Вясёлая і жвавая,
Шчабеча звонкай птушкаю,
А сонейка ласкавае
Цалуе твар з вяснушкамі.

●●

Ячмень варушыць вусамі,
Калючымі, нібы з дроту.



Гамоняць вятры з аўсамі —
Я слухаю іх з ахвотай.

Гайдаецца поле, як рэчка,
Там гукам прастор адкрыты:
Ціхутка спявае грэчка,
Аб нечым шапоча жыта.

І хораша, як ніколі,
Прыпеўкі вядзе пшаніца.
Здаецца жывым мне поле,
Калі яно каласіцца.

Не ветразь па сінім моры,
Камбайн павяду па нівах.
Насыплю я збожжа горы,
Хай людзі жывуць шчасліва.

●●●

Не сумуй аба мне...
Не гартай мае сшыткі, кнігі.
Прылячу па вясне,
Калі пойдуць ракою крыгі.

Ты пабеліш наш дом,
Нагатуеш ўсяго, нібы ў свята.
І паваляць гуртом
На сустрэчу са мной дзяўчаты.

Станеш ты маладзей,
За усмешкай схаваеш трывогу.
І чаму ўсё часцей
Забываем дадому дарогу?

Прыпаду да пляча...
Як вясёла у хаце і ўтульна!
Ты не плач на начах...
Чым суцешыць цябе, матуля?

●●●●

Як сустрэчы выпадаюць
рэдка!
Дні ляцяць услед за жоўтым
лісцем.
Светка, Светка, палявая кветка,
Ты зусім такая, як калісьці.

Валасы, як травы, парудзелі.
Фарбы восені цяпер у модзе...
Светка, Светка, горкае ты
зелле,
Прытулю цябе пры ўсім
народзе.

Неба, будзь маўклівай нашай
сведкай!
Прастаім без слоў з табой
да рання.
Светка, Светка, палявая
кветка,
Першае нялёгкае каханне.



## Віктар ЯРАЦ

● *Радзіме* ●● *Камісары* ●●● *Свет маіх цягнікоў*

●●●● ————————



●

Не клянуся табе ў адданасці,
у любві да тваіх гаёў,
хоць і слухаю з дзіўнай радасцю
спеў вясёлых тваіх салаўёў.

Ты даўно зразумела добра,
што не ў клятвах жыве любоў.
У любві ёсць маўклівая гордасць
і святы патаемны боль.

Калі ж цяжка бывае часам
і стамлёных не ўзняць павек —
жыватворнай вадой, бы ў казках,
прычашчуся з гаючых рэк,
па няскошаных летніх травах
асцярожна прайду басанож...
Хай мяне запалоняць хмары
і да ніткі прамочыць дождж,—
буду вечна я ўдзячны лёсу
за радзіму цёплых дажджоў,
дзе спакойна плывуць нябёсы,
дзе без слоў разумеюць любоў.

●●

І я на свеце жыў бы бесклапотна
у сваіх думках, снах і марах,
калі б не бачыў раненых і гордых,
жывых і сёння камісараў;
калі б не бачыў сівізны трывожнай,
глыбокіх шрамаў, рукавоў нямых...
Гады прайшлі, нібы дажджы абложныя,
каб нівы расквітнелі для жывых.



Я ваш нашчадак па крыві і думках
і вам не здраджу ў бітвах за жыццё.
Агонь змагання на зямлі не тухне.
Я вашых сэрцаў слухаю біццё.

●●●

Цягнікі з дзяцінства ў маёй памяці
ўсё бягуць у невядомы край,
і бясконца доўга колы раяцца
з рэйкамі, што не вядуць у рай.

І праз ноч —
на хуткасцях шалёных,
і праз дзень — пад развітанне шпал
праляцяць залёныя вагоны
у другія ночы, дні і даль.

Ім вазіць любімых і знаёмых,
ім спяшацца вечна напралёт
да паўстанкаў шумных і перонаў
па мастках над сцішанасцю вод.

Гэта лёс такі
сягоння выпаў нам:
на зямлі трывожнай, як душа,
захлынацца ветрамі ахрыплымі,
што гудуць, як мора, у вушах...

●●●●

Помню далёкі ранак туманны,
бераг рыбацкі над роднай ракой,
яблыні ў бела-ружовым убранні,
хаты і чайкі над самай вадой.

Зноў я вяртаюся ў досвітак дзіўны,
нібы ў дзяцінства, што неяк сплыло
лодкай пад ветразем лёгка-наіўным
ўдалеч, што ўзяла таемным святлом.

Сняцца мне звонкія хвалі дняпроўскія,
лодкі, прычалы ля самай гары,
рукі рыбацкія, рукі сяброўскія,
што узнімалі мяне да зары.

Край мой зялёны,
майскія плёсы, —
Я не забыў вас у дальніх шляхах.
Хоць заціхаў я,
як лодкі увосень,
думкі плылі
у вясновы працяг.



Уладзімір ШЫЦІК

Мал. К. ЦІХАНОВІЧА

# СЛЯДЫ ВЯДУЦЬ НА ЗЯМЛЮ

## Аповесць

### V

Двухмесны глайдар павольна плыў над Андамі. Яшчэ напярэдадні Чаўр з Шарланам намецілі гэты горны раён, дзе мог некалі быць патаемны касмадром. На здымках, якія зрабіў аўтаматычны разведчык, яны заўважылі некалькі камяністых і даволі вялікіх пляцовак, абкружаных непрыступнымі скаламі. Чаўр рашыў пабываць ля іх, пагутарыць, калі ўдасца, са старажыламі, ці не помняць яны якіх-небудзь паданняў аб стартах ракет.

Удалечыні бліснуў марскі заліў. Бухта глыбока ўразалася ў сушу. Яе берагі, вымытыя ў гарах, былі высокія і абрывістыя, як сцены небаскробаў. А крыху далей бухта, здавалася, пераходзіла ў доўгае плато — зверху яно, узгорыстае, выглядала, нібы працяг мора. Толькі хвалі яго былі нерухомыя і светла-шэрага колеру, які нагадваў бетон.

— Адна з неразгаданых загадак Зямлі,— заўважыў Чаўр, углядаючыся ў плато. Ён спыніў і без таго амаль не заўважны рух глайдара. Апарат павіс, як прымацаваны да неба.— У дваццатым веку тут шукалі сляды касмічных прышэльцаў.

— Недзе тут загінуў мой продак.

— Хто ён быў? Раскажы мне.— І, нібы просячы прабачэння за сваю назойлівасць, Чаўр дадаў: — У час найбольш бурных падзей, што прывялі да змены ладу ў Цэнтральнай амерыканскай рэспубліцы, я знаходзіўся далёка адсюль.

— На Гарыстай,— адазваўся Шарлан.— А мяне тады яшчэ не было наогул. Аднак я ведаю. Гэта ж радзіма маіх бацькоў. Дзеду, калі ён загінуў, было столькі год, колькі мне сёння. Але я чамусьці ўяўляю яго старым, з шырокай сівой барадой. Гэта ў мяне, напэўна, ад старых кніжак. Там, калі дзед, дык абавязкова з барадой.

Шарлан змоўк, задумаўся. Чаўр зрушыў з месца глайдар, і яны зноў паплылі ўглыб гор.

Пачатак гл. у № 2.



— Дзед быў спецыялістам па ядзерных рухавіках. Улады Цэнтральнай рэспублікі не абменьваліся з суседзямі навуковымі дасягненнямі. Таму зразумела, як патрэбны ім былі ўласныя канструктары — яны ні ў чым не хацелі адстаць ад вас. Канечне, гэта былі дарэмныя патугі. Эканоміка, абумоўленая адсталым рэакцыйным ладам, адарваная ад астатняй Зямлі, не магла забяспечыць поспех у асваенні Космасу. Іх караблі, як ты ведаеш, далей Марса не заходзілі.

— Ім прапаноўвалі супрацоўніцтва,— уставіў Чаўр.— Прынамсі, у нашу экспедыцыю мы запрашалі вучоных Цэнтральнай рэспублікі.

— Ведаю, адмовіліся, як высветлілася пазней, забараніў урад. А ў заяве, апублікаванай тады, гаварылася, што хутка караблі Цэнтральнай рэспублікі накіруюцца да зорак. Хадзілі чуткі, што нібыта мой дзед дабіўся высокага каэфіцыента ядзернага распаду рэчыва, а гэта давала магчымасць значна павялічыць хуткасць і разам з тым намнога зменшыць колькасць неабходнага запасу паліва. Задуму не ўдалося ажыццявіць. Дзед, які кіраваў работамі, загінуў. Разбіўся рэактыўны самалёт.

— Ён загінуў адзін? — спытаў Чаўр.

— Разам з усімі памочнікамі. Работы па стварэнню рухавікоў спыніліся. Гатовы касмічны карабель, амаль поўнасцю аснашчаны для дальняга і працяглага палёту, не змог адарвацца ад Зямлі.

— Цікава,— Чаўр павёў глайдар на пасадку.— Яны звычайна вельмі бераглі сваіх спецыялістаў. А тут загінула столькі, ды яшчэ якіх людзей! Між іншым, як мне помніцца, гэта адзіны няшчасны выпадак. Рэспубліка не мела дасканалай касмічнай тэхнікі, гэта праўда. Але зямная была на вельмі высокім узроўні.

— Ты хочаш сказаць...— Шарлан не дагаварыў, ашаломлены вывадам свайго начальніка.

— Нічога я пакуль не хачу сказаць, хаця не выключаю, што яны камусьці заміналі і іх проста прыбралі з дарогі. Ты ж сам гаварыў, што твой дзед не вельмі шанаваў тагачасных уладароў краіны,— адказаў Чаўр. І тут жа здзівіў Шарлана новым паваротам думкі:— Гэта было, здаецца, за два гады да падзення ўрада Цэнтральнай рэспублікі. Так? Задам я адно пытанне статыстычнаму архіву. Якое? Вось паслухай. Будаўніцтва зоралёта — вялікая нагрузка на эканоміку. Яна не магла прайсці бясследна і, напэўна, адлюстравана ў розных справаздачах і зводках. А пакуль прыйдзе адказ, мы паходзім тут. Вунь даліна. З яе можна пехатою дабрацца да плато.

Густы лес, што пакрываў схілы гор, хаваўся ў паднябессі, ахутаны шызай смугой. Сюды, у глыбокую даліну, не пападалі вятры, і лес стаяў спакойны, нерухомы. Ніжнія дрэвы ўжо былі кранугы блізкай восенню — там-сям на іх пракідалася пажоўклае лісце, вышэй зеляніна была сакавітая, як аксаміт; а на самым версе аж сіняя — там быў пояс хвойных.

Чаўр і Шарлан спыніліся, уражаныя спрадвечнай цішынёю.

— Аказваецца, ёсць яшчэ на Зямлі такое харavство,— сказаў Чаўр.

Шарлан стаяў, ціха ўсміхаючыся. Пачуўшы Чаўра, схамянуўся, спахмурнеў.

— Тут была рэзервацыя.

— Што? — перапытаў Чаўр.

— У космасе іх не сустрэнеш,— сумна адказаў Шарлан.— Гэта слова не з лексікону астралётчыкаў. Дый, наогул, людзі ўжо забылі яго. Мажа і я не ведаў бы, што яно азначае, каб не дзед. У рэзервацыі жылі абарыгены гэтай зямлі, рэшткі старажытных плямёнаў інкаў, якіх да таго часу новыя гаспадары не паспелі канчаткова знішчыць. Калі перамог народ, інкі атрымалі, нарэшце, роўныя правы. Але іх засталося ўжо мала. Яны павыязджалі з гэтага цудоўнага месца, якое ненавідзелі і праклялі.

— А я лічыў, што сустрэну тут каго-небудзь...— збянтэжана сказаў Чаўр.

— Наўрад. Аднак пойдзем. Нам усё роўна трэба падняцца на плато. Пойдзем пешa. Не часта бывае...

Яны пайшлі нацянькі праз лес, выбіраючы радзейшы зараснік — відаць, некалі тут былі або прасекі, або дарогі. Неўзабаве выбраліся на паляну. У свой час, напэўна, тут знаходзілася паселішча: калі Шарлан разварушыў адзін з курганчыкаў, якіх навокал было нямала, ён знайшоў чарапкі гліняннага посуду, нейкія іншыя не вядомыя яму рэчы.

— І гэта побач з касмічнымі караблямі! — абурыўся Чаўр.

Шарлан, для якога ўсё гэта было няновае, толькі пацісну плячыма: маўляў, чаго можна было чакаць яшчэ ад уладароў Цэнтральнай рэспублікі.

— Не разумею,— не супакойваўся Чаўр,— як людзі ўсёй Зямлі маглі дапусціць, каб побач з іх светлым жыццём існавала такая няроўнасць і несправядлівасць.

— Старое ў Цэнтральнай рэспубліцы трымалася даўжэй. На тое былі свае прычыны,— растлумачыў Шарлан.— У іх, увогуле, быў досыць высокі ўзровень жыцця, магутная прапагандысцкая машына і не менш магутны паліцэйскі апарат, які жорстка караў незадаволеных.

Вышэй ад паселішча ў абрывістай гары віднеліся пячоры.

— Засталіся з даўніх часоў. Калісьці служылі жытлом,— сказаў Шарлан, убачыўшы, што Чаўр паглядае на іх з цікавасцю.

— Можа — паглядзім? — падыходзячы да пячораў, папрасіў Чаўр.

Гэта былі своеасаблівыя музеі мясцовых жыхароў. Аб гэтым Чаўр з Шарланам падумалі адразу, зайшоўшы ў першую з іх. На сценах было шмат малюнкаў — і вельмі старажытных, калі з каменнай сякерай чалавек паляваў на рагатага быка, і больш навейшых, калі невядомы мастак, упершыню ўбачыўшы самалёт, перанёс свае ўражанні на закамянелую гліну. Малюнкі ў кожнай пячоры адрозніваліся сюжэтамі, манерай выканання: яны належалі розным людзям.

— Пойдзем. Забавіліся...— прапанаваў Шарлан, калі яны выйшлі з дзевятай ці дзесятай пячоры.— Усюды — адно і тое.

— Ай-яй-яй, таварыш даследчык,— пажартаваў Чаўр,— а яшчэ гісторык! Не, давай ужо да канца агледзім. Тым болей — іх засталося тры...

У адной з іх у цемнаватым кутку Чаўр убачыў невыразны малюнак. Быццам нехта спачатку намаляваў, потым вырашыў, што сюжэт не варты ўвагі. Чаўр запаліў ліхтар. На сцяне, падсвечанай знізу, былі відаць абрысы трох... касмічных караблёў. Нацэленыя ўвышыню, яны ўжо адарваліся ад Зямлі. Яшчэ імгненне, і яны пакінуць за сабою толькі вогненны след...

Чаўр і Шарлан выйшлі з пячоры, ураджаныя знаходкай. Малюнак быў невыпадковы. Аўтар недзе бачыў тры касмічныя караблі, інакш ён не нанёс бы іх на сцяну.

— На якім касмадроме ён пабываў? — Чаўр сказаў уголас тое, пра што думаў і Шарлан.

— Можа, па тэлебачанні? Іх жа з рэзервацыі не выпускалі.

— А калі на плато? — Чаўр паказаў на горы.

— Задачка...— адказаў Шарлан.— Згодна з усімі дадзенымі, тут ніколі не было касмадрома.

На плато яны паспелі да заходу сонца. Чаўр даў па радыё загад аўтапілоту прывесці туды глайдар: абысці ўсю гэту вялікую плошчу было немагчыма. Са стометровай вышыні плато выглядала ідэальнай пляцоўкай для любога касмадрома — роўнае, як выбрукаванае агромністымі каменнымі плітамі. У чаўравай памяці зноў ажылі легенды аб зорных прышэльцах, якія быццам бы будавалі тут сабе стартавую пляцоўку. Ён пашукаў вачыма. Недзе павінен быў быць славуты храм, высечаны ў чырвоных скалах. Ага,





ёсць! Час пакінуў толькі руіны. Але не наведаць хоць бы іх, маючы выпадак, будзе недаравальна.

Замігцеў індыкатар на прыборнай дошцы глайдара. Фіялетавы агеньчык успыхнуў, заярчэў і пачаў гаснуць. Чаўр павярнуў глайдар назад. Зноў агеньчык стаў яркі, як маланка.

— Рэшткі бетараспаду...— гэта Чаўр ведаў.— А над якім палівам працаваў твой дзед? — звярнуўся ён да Шарлана.

— Даліся табе ў знакі малюнкі,— засмяяўся Шарлан.— Выпраменьванне ў такіх нязначных дозах можа быць натуральнае.

— Ты не адказаў на пытанне.

— Ён навучыўся расшчапляць любое рэчыва, калі гэта цябе цікавіць.

— Між іншым, крыніц выпраменьвання тры,— забыўшыся ўжо на сваё пытанне, сказаў Чаўр.— Я не здзіўлюся, калі неўзабаве ўбачу элінгі.— Сустрэўшы недаверлівы позірк таварыша, усміхнуўся: — Калі памыляюся, згодзен больш ніколі не пакідаць Зямлю.

Наведанне храма і пошукі прыдуманых Чаўрам элінгаў прыйшлося, аднак, адкласці. Сонца ўжо схавалася ў моры, і змрок, які даўно панаваў у даліне, разам з туманам прыпоўз на плато. Чаўр і Шарлан вярнуліся дадому.

Іх чакалі ўжо матэрыялы статыстычнага архіва. Звесткі, каб не было ранейшых знаходак у пячоры і на плато, вельмі здзівілі б Чаўра. Паводле самых мінімальных дадзеных, у той час у Цэнтральнай рэспубліцы адначасова будаваліся чатыры караблі — столькі выдаткавалася каштоўных матэрыялаў і сродкаў немаведама на якія мэты.

— Ты і зараз не хочаш паверыць мне? — Чаўр паказаў разлікі Шарлану.

— Быць табе да скону касмічным бадзягам,— засмяяўся Шарлан.— Але як ты дадумаўся?

— А што было рабіць? Твае любімыя дэтэктывы сцвярджалі: калі няма прамых доказаў, шукай ускосныя. Баюся толькі, што, нават знайшоўшы прамыя доказы, мы не наблізіліся б да свае асноўнае мэты. А час ідзе.

На світанні на плато была ўжо вялікая пошукавая група. Яе выклікаў Чаўр. Пакуль яна абследавала плато, ён разам з шукальнікамі павярнуў да храма. Нават разваліны яго мелі велічны выгляд. Тоўстыя сцены, высечаныя з чырвонага прыбярэжнага каменя і немаведама як дастаўленага сюды, на завоблачную вышыню, былі фантастычныя, як сама легенда, што ўславіла іх. На адным кавалку Чаўр убачыў рэшткі таго таямнічага календара, што так і застаўся неразгаданым. Рытм якой планеты данёс ён да людзей? А можа гэта быў зусім і не каляндар, а нешта іншае, вядомае толькі творцу і яго сучаснікам? Чаўр адчуў, што хвалюецца, быццам ён ходзіць не па Зямлі, а ў складзе касмічнага дэсанта высадзіўся на чужую планету. Бо ўсё наўкол успрымалася надзвычай ясна, нават абвострана. Нібы яму сапраўды трэба ўстанавіць, што гэта за пабудова і што з ёй сталася. І разам з тым, яго цікавіла, чаму трывалыя сцены, перажыўшы стагоддзі, раптам абваліліся. Ён загадаў шукальнікам: «Загляніце пад руіны». І стомлены, як пасля працяглай напружанай працы, адышоў.

Неўзабаве Чаўру паведамілі, што пад абломкам калоны знойдзены лаз. Чаўр не здзівіўся: які гэта храм без патаемнага хода? Аднак з гэтым ходам ён звязваў іншыя спадзяванні: верыў пячорнаму малюнку.

— Пачакайце, я пайду сам,— сказаў Чаўр і спытаў:— Дзе Шарлан?

Яму адказалі, што яшчэ не прыбыў. Чаўр падумаў, што, відаць, пільная справа затрымала памочніка, і пайшоў адзін. Лаз быў вузкі — каменны калодзеж з прыступкамі-выступамі. Апусціўшыся метраў на дзесяць, Чаўр пасвяціў ліхтаром. Аслізлыя сцены хаваліся недзе глыбока ўнізе. Было падобна на тое, што гэтаму калодзежу столькі ж гадоў, як і самому храму.





Чаўр павёў ліхтаром. Жоўты промнік пабег па сценах, пераскокваючы з аднаго каменя на другі, слізгануў уніз. Дна не было відаць, яно знікла ў вечнай цемры. Чаўр павесіў ліхтар на пояс, тузануў за трос, даючы знак угару, што ў яго ўсё ў парадку, і палез далей. Ён ставіў ногі асцярожна, каб не аступіцца на пакрытых цвіллю выступах, і ўсё-такі не разлічыў. Пад нагамі вынікла пустата, ён праваліўся ўніз, адчуваючы, што павіс на тросе. Але раней, чым трос нацягнуўся, нага зноў стала на нешта цвёрдае. Каб не паслізнуцца яшчэ раз, Чаўр пасвяціў сабе. І аж крыкнуў: ён стаяў ля ўвахода ў тунель, які ішоў ад калодзежа. Чаўр адразу здагадаўся, што тунель зроблены значна пазней. Гэта быў ход, па якім, не нагінаючыся, маглі ісці засаб два ці тры чалавекі.

Чаўр мінуў некалькі паваротаў, зробленых, напэўна, для светамаскіроўкі, і апынуўся ў прасторнай галерэі. Цьмяны прамень прабег па голых сценах і спыніўся на невялікім пульце. Некалькі цыферблатаў глядзелі на Чаўра мёртвымі вачыма. Побач быў шчыток з выключаным пускальнікам. Чаўр перадаў на паверхню, каб людзі адышлі далей, і, счакаўшы, уключыў яго. Нічога, аднак, не адбылося. Тады ён уважліва агледзеў энергападводы. Яны былі абсечаныя.

Здагадка прамільгнула ў Чаўравай галаве. Па яго просьбе шукальнікі прыцягнулі электракабель і падключылі яго да шчыта. Чаўр зноў уключыў пускальнік. У галерэі ўспыхнула святло. Чаўр агледзеўся. Сям-там столь і сцены ўжо абсыпаліся. Шматгадовы пласт пылу пакрыў і некалі чорную паверхню пульта.

Чаўр націснуў кнопку, якая, відаць, павінна была даваць сілкаванне прыборам. Ён не памыліўся: цыферблаты засвяціліся, недзе ўнутры, набіраючы сілу, заспявала рэле. Побач з першай была яшчэ адна кнопка, толькі адна, і Чаўр, не ўтрымаўшыся, націснуў пальцам на яе. Унутры пульта нешта пстрыкнула і... сціхла. Чаўр пaглядзеў на цыферблаты, дзівячыся, як папаўзла ўправа стрэлка паказальніка адбору магутнасці. І раптам у дынаміку сувязі з паверхняй пачуўся голас Шарлана.

— Начальнік Чаўр, я ледзь не зваліўся па тваёй міласці ў тартарары...

Потым варухнулася бакавая сцяна, і яркае сонечнае святло ўварвалася ў галерэю. Асепленыя, Чаўр і яго памочнікі не адразу разгледзелі, што знаходзяцца ў агромністай зале і што над імі, нібы палавінкі дзвярэй, расрылася столь.

— Гэта элінг, начальнік Чаўр! — данеслася да Чаўра. І ён зноў адчуў незвычайную стому. Сумненняў больш не засталося. Тут збіралі касмічныя караблі, адсюль яны падымаліся на паверхню, пераходзілі на плато і стартавалі... Таямніча... Невядома куды...

Чаўр не адразу зразумеў, што побач прысеў Шарлан. Падумаў, што варта было б папытаць, дзе ён знаходзіўся зранку, і не сказаў нічога. Урэшце, яны ўжо выканалі даручэнне Рэпса. І цяпер, калі іх справа скончана, хай ёй займаюцца іншыя, а яму трэба шукаць Бадзяя.

— Ты спіш, ці што? — Чаўр адчуў, што Шарлан трасе яго за плячо.— Караблі адправіліся да Сатурна.

— Жартуеш?!

— Наведаў маці,— расказаў Шарлан.— У яе, аказваецца, захавалася тое-сёе з дзедавых нататкаў. У адным месцы ён упамінае, што малыя спадарожнікі Сатурна раптам зацікавілі тэарэтыкаў касмічных палётаў. Гэта чамусьці захоўвалася ў вялікай тайне, і дзед даведаўся пра яе выпадкова. Праз некалькі дзён загінуў. Можа і загінуў цераз гэта. Зараз я ўсё магу дапусціць. Нават, што гібель «Талнаха» мае дачыненне да таго самалёта.

— Даліся вам у знакі гэтыя невядомыя касмічныя гангстэры! — Чаўр не пагаджаўся з думкай памочніка: — Хутчэй, гэта нешта сапраўды накшталт варыянта лятучага галандца. Гэта я магу яшчэ дапусціць. Толькі,

замест здані, Бадзяй убачыў касмічны карабель. Магчыма, у ім ужо нежывы экіпаж. І блукае гэты карабель у прасторы, як астэроід. Мы, вядома, павінны яго адшукаць, каб гісторыя не паўтарылася.

— На Энцэладзе?

— Напэўна, бліжэй. У прасторы. А можа...— Чаўр быццам хацеў нешта ўдакладніць, але перадумаў: — А можа, і не на Энцэладзе. Там нічога не было, мы ўжо шукалі.

— Я выбраў бы Мімас,— раптам уставіў Шарлан.— Людзі пра яго даўно забыліся. А, дарэчы, тыя караблі накіроўваліся ў раён Сатурна. Дзе, як не на яго забытым спадарожніку, лепш за ўсё хавацца зданям, калі яны існуюць на самай справе? Не разумею толькі — навошта?

## VI

Пасажырскі планеталёт «Талнах» мінуў арбіту Юпітэра. Гэта падзея, аднак, прайшла для пасажыраў незаўважна. Яны не кідаліся да ілюмінатараў, не прасілі месца ля тэлескопаў. Усе, нават навічкі, ведалі, што на трасе іх палёту на многія-многія мільёны кіламетраў наўкола — пустынны космас, чорны, маўклівы і аднастайны. Ён ужо не выклікаў цікаўнасці, як у першыя дні, калі ўсё — і на планеталёце, і за бортам — здавалася новым і незвычайным. Пасажыраў больш вабілі спецыяльныя гадзіны бязважкасці, якія давалі магчымасць па-сапраўднаму адчуць сябе ў космасе, фільмы, знятыя астралётчыкамі ля чужых зорак і якія нібы рабілі іх удзельнікамі смелых дэсантаў, і, нарэшце,— прагулкі па шматлікіх карабельных галерэях, ля адсекаў, куды быў забаронены ўваход, што само па сабе было незвычайна і несла ў сабе элемент касмічнай экзотыкі.

З сямідзесяці пасажыраў толькі адзін меў іншы інтэрас. Гэты адзін быў Юрась Батура. Фільмы ён глядзеў яшчэ на Зямлі і ведаў усё да дробязі, на памяць. У будове планеталёта ён не знаходзіў нічога цікавага — ён ведаў, як зроблены зоралёты. Юрась быў адзіным пасажырам, які мог доўгія гадзіны сядзець нерухома ў рубцы побач з дзяжурным пілотам і гэтак жа, як ён, неадрыўна сачыць за прыборамі. Юрась нікому не перашкаджаў, і яму дазвалялі заходзіць і ў ходавую рубку, і ў штурманскую залу, дзе на ўсю сферычную сцяну заўсёды былі адкрыты ілюмінатары, а на вялікай карце Сонечнай сістэмы бліскучай лініяй з караблікам на канцы адзначаўся шлях «Талнаха».

І ў той час, калі перасякалі арбіту Юпітэра, Юрась быў у штурманскай. Убачыўшы, як караблік насунуўся на пункцір, што на карце азначаў нябесны шлях Юпітэра, Юрась саскочыў з крэсла, у якім звычайна ціхенька сядзеў, і запляскаў у далоні.

— Толькі не крычы ўра,— засмяяўся штурман.

Юрась збянтэжыўся і выслізнуў з залы. Яму стала ніякавата, што не стрымаўся. Ён ужо хацеў быў пайсці ў сваю каюту, але падумаў, што пілот не ведае пра гэты яго ўчынак, і падаўся ў рубку. Ён паспеў. Капітан карабля Бадзяй і пілот са здзіўленнем глядзелі на экран лакатара: там узнікалі абрысы карабля. Гэта быў нейкі свой карабель, ён пасылаў звычайныя імпульсы. Невядома толькі, як ён тут апынуўся.

— Зараз даведаемся,— сказаў Бадзяй і выклікаў радыста.

Паслаць запытанне не паспелі. Незнаёмец светлавымі сігналамі паведаміў, што ў іх сапсавалася рацыя і выйшла са строю рэгенерацыйная ўстаноўка.

— Патрэбна дапамога? — гэтак жа светлаграмай запытаў Бадзяй.

— Так,— адказалі з карабля.— Мы падыдзем да вас.

Адлегласць паміж абодвума планеталётамі паменшылася, і Юрась убачыў на экране, як выглядае карабель. Хлопчык здзівіўся і, падбегшы да Бадзяя, закрычаў:

— Старая чарапаха! Старая чарапаха!

Бадзяй зірнуў на экран і ўсміхнуўся. Карабель быў сапраўды старой канструкцыі. Такія будавалі ў мінулым стагоддзі, калі ён, Бадзяй, разам з Рэпсам, Чаўрам і Плыгам адпраўляліся ў свой першы палёт да зорак. Здаецца, пазней гэтыя караблі так і празвалі «чарапахамі». А ўголас пагадзіўся з хлопчыкам:

— Ну і пасудзіна!

— З якога музея яе выцягнулі? — спытаўся пілот.

Тым часам сустрэчны карабель падышоў зусім блізка. Яго камандзір перадаў просьбу:

— Дазвольце наведаць вас.

Бадзяй запрасіў і адкрыў ілюмінатары. Карабель візеў побач, якіх-небудзь дваццаць-трыццаць метраў аддзялялі яго ад «Талнаха». Бадзяй крыху ўстрывожыўся: «Звар'яцелі яны там, ці што? Гэтак і сутыкнуцца можна!»

— Капітан,— падаў голас па ўнутранай сувязі радыст,— эфір зусім маўчыць.

— Не можа быць.— Не паверыў Бадзяй.— Трэба ж паведаміць, што мы сустрэлі карабель.

Юрась, які сядзеў у кутку, незаўважна для астатніх, выцягнуў з кішэні маленькі прыёмнічак. Гэта была яго ўласная канструкцыя, і яму вельмі захацелася зараз паздзекавацца з карабельнага радыста. Прыёмнічак зачэ ніколі не падводзіў. Праз усё падарожжа прымаў станцыі Зямлі, Марса, Нептуна. Але як Юрась ні круціў верньеры настройкі, ніводны гук не варухнуў мембрану. Эфір, сапраўды, як знямеў.

А госці ў гэты момант уваходзілі ў рубку. Яны выглядалі так, быццам сышлі са старой карціны. Нязграбныя скафандры з адкінутымі назад гермашлемамі, паголеныя галовы, за поясам промневыя пісталеты. Юрась аж скалануўся ад захаплення і здзіўлена паглядзеў на Бадзяя, які раптам нахмурыўся. Не адрываючы вачэй ад прышэльцаў, капітан запытаў у радыста:

— Сувязь ёсць? — і звярнуўся да іх.— Як пра вас паведаміць?

— Не турбуйцеся, капітан,— з усмешкай сказаў адзін з іх.— Мы для Зямлі не існуем.

— Сувязі няма,— паведаміў радыст.

Бадзяй устаў, накіроўваючыся да выхаду.

— Не турбуйцеся, капітан,— паўтарыў прышэлец і паклаў руку на пісталет.— Ваш «Талнах» абкружаны сілавым полем. Рацыя тут ні пры чым.

— Што гэта значыць? — больш здзіўлена, чым абурана, запытаў Бадзяй.

— Нам патрэбны ваш планеталёт, вашы касцюмы, прыпасы і, наогул, вы самі,— адказаў прышэлец. Потым нешта буркнуў двум другім сваім спадарожнікам, і тыя выйшлі. Напэўна, ён быў іх начальнікам.

— Вы жартуеце? — Бадзяй сеў у сваё крэсла, а Юрасю здалося, што ён сціснуў кулакі і, каб гэта не заўважылі, схаваў іх пад сталом.

— Нам зараз, як і вам, думаю, капітан, не да жартаў.

Тым часам вярнуліся тыя два і прывялі з сабой радыста «Талнаха».

— Так будзе болей надзейна,— сказаў начальнік няпрошаных гасцей.— А то ў нас энергія не лішняя, каб доўга захоўваць поле.

Ён нешта гаварыў яшчэ, але Юрась не слухаў. Адна думка завалодала ім і не давала спакою: ён зразумеў, што адбылося нешта вельмі непрыемнае, іх «Талнах» паланілі, ці што, і ніхто ва ўсёй сістэме пра гэта не ведае і можа не ўведаць. У Юрася аж мурашкі папаўзлі па спіне: было і цікава, і

адначасова страшна. Але ён, Юрась, можа абхітрыць гэтых людзей, бо ў яго кішэні ёсць не толькі прыёмнічак, а і такі ж маленькі перадатчык. Яны ж ужо знялі ахоўнае поле, значыць, сігнал вырвецца адсюль.

Юрась агледзеўся. Ніхто на яго не звяртаў увагі. Ён уціснуўся ў вялікае крэсла. Нахіліўшыся, далучыў перадатчык да карабельнай антэны і пачаў гаварыць у малюсенькі, як булавачная галоўка, мікрафон: «Нас захапілі піраты са старой чарапахі, якая не мае назвы...»

Грозны вокліч адарваў Юрася ад перадатчыка. У рубцы зноў нешта рабілася. Начальнік піратаў,— Юрась яго назваў ужо сабе так,— аддаваў рэзкія і незразумелыя каманды. Яго людзі выбеглі ў калідор, а тыя, што засталіся, пачалі абшукваць пілота, радыста, накінуліся на Бадзяя.

Капітан варухнуў плячыма, і яны адскочылі ўбок.

— Я буду страляць,— папярэдзіў старэйшы і навёў на Бадзяя пісталет.

Капітан развёў рукі, паказваючы, што ў яго касцюме кішэняў няма.

— На «Талнаху» запрацаваў перадатчык,— не выпускаючы зброю, растлумачыў старэйшы.— Дарэмная спроба. Мы своечасова хапіліся. Поле зноў дзейнічае.

Юрась ледзьве не заплакаў ад крыўды.

Пачалі вяртацца астатнія чужынцы. Яны нешта сказалі, і старэйшы спахмурнеў. Нарэшце вярнуўся апошні. Старэйшы ўстаў, абвёў вачыма рубку і заўважыў Юрася. Не рухаючыся з месца, ён пальцам паклікаў хлопчыка. Як зачараваны, не маючы сілы адарваць позірку ад халодных і пустых вачэй гэтага чалавека, Юрась паслухмяна злез з крэсла і пайшоў да яго. Бадзяй ірвануўся з месца.

— Спакойна, кэп! — зусім як у старым прыгодніцкім рамане, сказаў чужынец і загадаў хлопчыку: — Вывернi кішэні.

Юрась не апамятаўся, як пірат ударыў яго і вырваў з рук перадатчык. Ударыў бы яшчэ, каб не засланіў Бадзяй. Маленькі перадатчык, якім так Юрась ганарыўся, круцілі ўжо чужыя, злосныя рукі.

— Капітан, сабярыце пасажыраў. Я растлумачу ім сітуацыю. Нам няма часу бавіцца.

Юрась думаў, што Бадзяй адмовіцца, і са страхам чакаў, што будзе



тады. Аднак капітан пaглядзеў на штурмана, потым на пілота і, пагладзіўшы Юрася па галаве, раптам сказаў:

— Я падпарадкоўваюся сіле. Але папярэджваю, законаў супраць разбою ніхто не адмяняў.

— У нас свае законы, кэп,— адказаў пірат і злавесна ўсміхнуўся. У Юрася аж пахаладзела ўсярэдзіне.

Прамова касмічнага пірата была кароткая. Юрасю яна запомнілася слова ў слова. Ён сказаў, што яны перасяленцы з Зямлі і ў космасе знайшлі сабе новую, лепшую і справядлівейшую, радзіму. Зямляне ім не даюць жыць, як яны хочуць. Таму ім прыйшлося, каб папоўніць свае запасы і атрымаць новую тэхніку, захапіць зямны планеталёт. Яны, аднак, не лічаць гэта злачынствам. Іх высокая мэта дае ім права на гэта.

— Што такое — высокая мэта? — шапнуў Юрась Бадзяю, які ўсё яшчэ трымаў яго на руках.— Чаму яна дае ім права?

— Пасля, пасля, мой хлопчык. Яны не збіраюцца нас адпускаць...

Быццам у пацвярджэнне бадзяевых слоў, начальнік чужынцаў сказаў:

— Мы бярэм вас усіх на сваю планету. Вы можаце далучыцца да нашага незалежнага жыцця.

— Гэта мы яшчэ паглядзім,— скрозь зубы прамовіў Бадзяй.

— Капітан, запрашаю вас на свой карабель. Вы адмаўляецеся? — чужынец, здавалася, быў здзіўлены і пакрыўджаны такой няўдзячнасцю.— Дарэмна. Вы будзеце мець камфорт, які належыць вам па чыну. А-а, разумею. Капітан хоча падзяліць лёс свайго планеталёта. Цаню рамантычнасць. Але дазволіць не магу.

Прышэльцы забралі з сабой усіх, хто ляцеў на «Талнаху». На месцы пілота і штурмана селі маўклівыя навігатары з чужога карабля.

Пакуль змяньваўся экіпаж, Бадзяй паспеў адшпіліць ад пояса корцік. Аддаючы яго Юрасю, сказаў:

— Падарунак майго лепшага сябра.

— Чаўра? — успыхнуў Юрась.

— Яго. Ён будзе шукаць нас. Аддасі яму,— і Бадзяй усміхнуўся Юрасю, як роўнаму.

Юрась не заплакаў, калі яго забіралі на чужы карабель. Ён трымаўся, бо хацеў быць такім жа мужным, як капітан Бадзяй.

Яшчэ раз Юрась убачыў «Талнах» на нейкай планеце. Яна была зусім блізка ад Сатурна. Юрась пазнаў славутае кольца. Іх вывелі з карабля, і яны стаялі на волі, здавалася, бездапаможныя перад магутным Сатурнам, які пагражаў прыціснуць іх да голай, няветлай паверхні. Людзі захвалявaліся, заварушыліся. Але яны не маглі нават паскардзіцца адзін аднаму — іх рацыі былі знятыя. Чужынцы ўзнялі пісталеты і павялі іх некуды далей.

Ісці было лёгка, як на планеталёце ў час бязважкасці, толькі ногі разпораз чапляліся за камені і абломкі скал. Іх прывялі ў нейкую глыбокую пячору. Яны сядзелі маўклівыя, разгубленыя. Юрась шукаў вачыма капітана і не знаходзіў. Яго, напэўна, з імі не было. Начальнік гэтых піратаў не дазволіў капітану быць разам са сваімі.

Моцны штуршок скалануў пячору, са столі паляцелі камені. Але шкоды не прычынілі. На гэтай малой планеце была невялікая сіла цяжару.

Зямлян не выпускалі з пячоры некалькі гадзін. Юрась стаміўся, захацеў есці. Назад іх вялі іншай дарогай. І вось, ідучы міма якойсьці катлавіны, яны ўбачылі груду абломкаў. Зямляне пазналі свой «Талнах», усхваляваныя, уражаныя, спыніліся над высокім абрывам. І тады Юрась падумаў, што Чаўр абавязкова знойдзе гэтыя рэшткі. Ён падбег да канваіра і пачаў жэстамі паказваць, што яму трэба ўніз. Канваір, відаць, не зразумеўшы, махнуў рукой, і Юрась пабег. Азірнуўшыся, ці не сочыць хто за ім, ён адшпіліў Бадзяеў корцік і кінуў яго ў груду абломкаў.



Канваір ні аб чым не здагадаўся. Перад пасадкай у карабель ён пералічыў зямлян. І хутка яны зноў, напэўна, узняліся ў космас (ілюмінатары ў іх памяшканні былі задраеныя), бо Юрась адчуў перагрузку, якая ўзнікае пры ўзлёце. А можа, яму гэта толькі здалося? Калі іх неўзабаве вывелі з карабля зноў, вакол была быццам бы тая ж самая прырода, толькі не вісеў у небе Сатурн.

Аднак пячора, куды зямлян прывялі на гэты раз, мела іншы выгляд. Як толькі яны зайшлі, з бакоў высунуліся тоўстыя пліты і ўваход зачыніўся. Потым успыхнула святло: пад нізкімі скляпеннямі віселі цьмяныя электрычныя лямпачкі.

Знямоежаныя, палоннікі апусціліся на цвёрдую каменную падлогу.

## VII

Пошукі зайшлі ў тупік. Ні на Энцэладзе, ні на Мімасе не было знойдзена ніякіх прыкмет, што там былі людзі.

Асабліва даўся Чаўру ў знакі Мімас. Невялікі, як астэроід,— усяго 650 кіламетраў у дыяметры,— ён быў пад самым бокам Сатурна, ад якога яго аддзяляла меней двухсот тысяч кіламетраў. Калі Чаўр глядзеў на Сатурн, яму часам здавалася, што славутае кольца — гэта не проста каменьчыкі, часцінкі лёду і пылінкі, прыцягнутыя вялізнай масай планеты-гіганта, а нейкая піла, што ў любы момант можа разануць па Мімасу, і тады ён распадзецца на дзве палавінкі, і бяздонны космас паглыне іх, як пясчынкі. А потым густую атмасферу Сатурна пачыналі калмаціць хвалевыя цыклоны. Іх доўгія зялёныя языкі пульсавалі ў прасторы, і то адзін, то другі паглынаў Мімас. Усё наўкола патанала ў рухомай, як навальнічная хмара, імгле, і ўжо не было ні Мімаса, ні Сатурна, а нешта адно цэлае, вечнае, бясконцае, з якога, здавалася, ніколі не выбрацца.

У такія хвіліны Чаўр і Шарлан сядзелі ў ракетаплане. На Мімасе, дзе ўся паверхня была ўсеяна кратэрамі і расколінамі, мог выручыць толькі ён. Пазіраючы ў ілюмінатары, яны зноў і зноў вярталіся да знаходкі ў Андах і сваіх меркаванняў аб магчымым палёце тых зямных караблёў на Мімас.

На Зямлі ўсё здавалася відавочным, неаспрэчным. А зараз думалася, што ці маглі людзі памяняць Зямлю на гэты вечна цёмны і страшны спадарожнік Сатурна. Чым яны кіраваліся, зрабіўшы так? Ні Чаўр, ні Шарлан не маглі нават уявіць сабе прычыну, вартую гэтай ахвяры. У Сонечнай сістэме ёсць больш прывабныя месцы, напрыклад, спадарожнікі Юпітэра або астэроіды.

А час ішоў. Чаўр пачаў нервавацца:

— Каб хаця ведаць, што тыя даўнія ўцекачы не маюць ніякага дачынення да «Талнаха»...

— Уся справа ў тым, якую яны ставілі сабе мэту.— Шарлан, у адрозненне ад Чаўра, быў упэўнены, што тут ёсць сувязь.— Не хацелі ж яны, пакідаючы Зямлю, загубіць сябе? Мы павінны дакапацца да ісціны.

— Словы Рэпса,— уздыхнуў Чаўр.— Я толькі баюся, што ў нашых пошуках, можа здарыцца, «Талнах» адыдзе на другі план.

Атмасфера Сатурна ўсё яшчэ бунтавалася. Здавалася, цемры не будзе канца. І не было на Сатурне службы надвор'я, якая магла б прадказаць, калі тутэйшая непагадзь скончыцца. Чаўр зірнуў на гадзіннік і падумаў, што, напэўна, некалі такую службу створаць. Бо ўсё, што робіцца на гэтым гіганце, пэўным чынам уплывае на Сонечную сістэму і, у прыватнасці, на Зямлю. І ў галаве адразу пачала складвацца схема, якую ён абавязкова прапанаваў бы для ўстаноўкі аўтаматычных назіральных станцый на Мімасе.

Злавіўшы сябе на гэтым, Чаўр усміхнуўся. Вось заўсёды так: калі трэба вырашыць нешта вельмі сур'ёзнае, думка збягае на нешта іншае, дробнае, нязначнае. А па празрыстым пластыку ілюмінатара ўсё паўзло і паўзло зменлівае зеленаватае месіва.

Прагучаў сігнал. Чаўр уключыўся ў канал агульнай сувязі.

— Як справы, начальнік Чаўр?

— Ты да нас? — здзівіўся Чаўр, бо аказалася, што яго выклікаў Рэпс.

— Будзем разам думаць,— адзначыў Рэпс.— Што вы робіце?

— Правяраем усе выяўленыя тут крыніцы выпраменьвання, а таксама залежы металаў. На паверхні мы нічога не знайшлі. А на Зямлі яны зарываліся ў горы.

— Дарэчы,— перабіў Рэпс,— за гэтыя дні знойдзены яшчэ тры элінгі з недабудаванымі караблямі.

— Пра нешта падобнае я падумаў, калі знаёміўся са статыстычнымі справаздачамі. Для трох караблёў матэрыялаў трэба менш, чым было выдаткавана,— сказаў Чаўр.— Яны, што, паўрэспублікі хацелі вывезці?

— Баюся, была іншая задума,— адзначыў Рэпс.— Недабудаваныя караблі належаць да класа грузавых. Сярод прызначанага, напэўна, для вывазкі мы знайшлі некалькі магутных выпраменьвальнікаў...

— Гэта ж зброя! — усклікнуў Шарлан.

— Так,— кіўнуў Рэпс.— Спецыялісты ўчора прыкідвалі... Якраз адсюль можна да Зямлі дастаць.

— Навошта? — Чаўр не разумеў нічога.

— Вось і я думаю. А можа,— Рэпс спахмурнеў,— каб удалося іх вывезці, мы пра гэта даведаліся б раней.

— Слухай, Эсквайр, гэта неверагодна! Няпраўда! Нічога не адбылося ж!

— Не паспелі. А сведак няма.

Чаўр паблядпеў.

— Але гэта...— пачаў ён.

— Не думаю,— сказаў сурова Рэпс.— За гэты час шмат што змянілася. Наўрад ці зробяць яны што кепскае палоннікам. Баяцца за сябе. Хіба пазней, калі пераканаюцца, што мы паверылі ў няшчасны выпадак.

— Я падпісаў акт. Хаця, калі яны на Мімасе, то заўважылі нас...

— Некалькі дзён мы выйгралі,— усміхнуўся Рэпс.— Не верыш? Я толькі што з Энцэлада. Аўтаматы праз суткі пасля вас нешта падазронае заўважылі недалёка ад таго месца, дзе загінуў «Талнах». На здымках можна разгледзець фігуры ў скафандрах вельмі даўняй канструкцыі. А потым быў зарэгістраваны выбух цеплавой энергіі. Відаць, упэўніўшыся, што мы там пабывалі і знайшлі прыёмнік з перадатчыкам, іх разведчыкі пакінулі Энцэлад. Як бачыш, упэўненасць падвяла і яны нарабілі памылак.

Чаўр пачаў апранацца для выхаду на паверхню. Ужо надзеўшы касмічны касцюм, ён папрасіў карту Мімаса. Гэта была не зусім звычайная карта. На ёй значыліся толькі месцы канцэнтрацыі металаў і выпраменьванняў, якія выявілі апараты штучных спадарожнікаў. Гэтыя спадарожнікі, запушчаныя Шарланам адразу, як толькі ён прыбыў сюды, усё яшчэ снавалі вакол Мімаса, адзначаючы самыя дробязныя змяненні ў нетрах планеты. І Чаўру з таварышамі заставалася толькі высветліць, якія адносіны яны маюць да іх справы. Але менавіта гэта з'яўлялася самым складаным, бо ніводнае,— а месцаў такіх было на карце некалькі дзесяткаў,— не паказвала, што іменна яно з'яўляецца падземным сховішчам.

На першы раз Чаўр намеціў для агляду пункты, якія знаходзіліся там, дзе былі ўтварэнні лававага паходжання. Яны лепш за іншыя пароды паддаваліся апрацоўцы і, галоўнае, мелі меншую цеплаправоднасць. А гэта



мела вялікае значэнне ў асяроддзі, дзе знешняя тэмпература ніжэйшая за мінус сто пяцьдзесят градусаў па Цэльсію.

— Ну, я пайшоў,— сказаў Чаўр. Для падарожжа па Мімасе яго і Шарлана чакала невялікая ракета.

— Я буду сачыць за прыборамі,— адказаў Рэпс.— Але ты не маўчы, трымай мяне ў курсе.

Чаўр вёў ракету, а з галавы ў яго не выходзіла, што ўсё гэта сон — зацяжны, які не можа скончыцца з таго самага дня, калі прапаў «Талнах». Раней, пачынаючы пошукі, ён быў упэўнены, што гэта здарэнне — выпадак, ад якога ніхто не гарантаваны. Але тое, што паведаміў Рэпс, прымусіла яго, нарэшце, зірнуць праўдзе ў вочы. Гэта аказалася самым цяжкім. Людзі на Зямлі даўно забыліся пра слова «злачынства», аб ім ведалі хіба толькі зацятыя аматары гістарычнай літаратуры, накшталт Шарлана. Аднак і для іх яно было толькі словам, пазбаўленым канкрэтнага сэнсу. А для самога Чаўра яно наогул не існавала. Ён не ведаў, як гэта можна зрабіць крыўду іншаму чалавеку. Гэта ж дзеля людзей ён і яго таварышы-касманаўты хадзілі ў паходы да зорак. І кожны з іх лічыў сваё жыццё раз і назаўсёды аддадзеным людзям. І вось нехта, таксама зямлянін, пасягнуў на чалавека! Чаўр адчуў, што зараз яму куды больш цяжка, чым тады, калі забаранілі пакідаць межы Сонечнай сістэмы і калі яму здалося, што яго жыццё ўжо скончана. І, разам з тым, ён са здзіўленнем заўважыў у сабе не знаёмую дагэтуль суровасць. Да тых, хто стаў насуперак людзям. Ён адчуў, што прымае выклік і знойдзе злачынцаў, якіх бы сіл гэта ні каштавала.

## VIII

— Я патрабую, каб мяне трымалі разам з экіпажам і пасажырамі!

— Давайце знаёміцца,— чалавек не звярнуў ніякай увагі на бадзяевы словы.— Мяне завуць Хуан — камандор першай пазаземнай калоніі.

— Быццам ёсць другая,— усміхнуўся Бадзяй.

— Не трэба іроніі, капітан. Я не дзеля гэтага прыйшоў.— Ён урачыста ўзняў руку.— Я прапаную вам супрацоўніцтва.

Бадзяй пільна паглядзеў на камандора. Падумалася: такі самы архаічны тытул, як і яго носьбіт — стары, жоўты, зморшчаны. Колькі яму гадоў? Напэўна, пад сто. Уголас сказаў:

— Няўжо ў гэтым скляпенні прайшло ўсё ваша жыццё?

— Вы вельмі здагадлівы,— нахіліў галаву Хуан.— Так. Я ўжо шэсцьдзесят гадоў жыву тут.

— Навошта? Людзі ж не ведаюць пра вас?

— Якія людзі? Там, на Зямлі? — вытрымка на імгненне здрадзіла Хуану, у яго вачах бліснулі злосныя агеньчыкі.— У нас з імі няма нічога агульнага! — сказаў ён напышліва і, авалодаўшы сабой, ужо спакайней дадаў: — Вы павінны ведаць, што, пакінуўшы Зямлю, мы ўтварылі справядлівейшае грамадства. На жаль, не ўсім, хто хацеў, удалося вырвацца з Зямлі. Гэта абмежавала нашы магчымасці. Мы вымушаны былі, урэшце, прыняць свае меры. Ваш планеталёт — першы, які адкрыў рахунак кампенсацыі нам за панесеныя страты.

Бадзяй засмяяўся гучна і весела.

— Няўжо вы думаеце, што вам людзі дазволяць разбойнічаць?

— О-о, мы не такія дурні! — камандор насмешліва прыжмурыўся.— Ніхто і ніколі не дазнаецца, што з вамі сталася. Праўда, гэты ваш шчанюк ледзьве не сапсаваў усё. Але мы ў час спахапіліся. Тым не менш, на ўсякі выпадак, мы ўзарвалі «Талнах». Хай думаюць, што гэта няшчасны выпа-

дак. Дарэчы, так яно і выйшла. Вось запіс афіцыйнага паведамлення Службы бяспекі ўнутрысістэмных зносін.

— Самі прыдумалі? — Бадзяй не хацеў паказаць, як уразіў яго подпіс Чаўра пад паведамленнем. Гэта магло азначаць, што яны сапраўды акажуцца безабароннымі перад гэтымі рабаўнікамі.

— Не буду пераконваць. Час пакажа.— Камандор ужо не хаваў сваіх думак.— Страту вашага карабля мы неўзабаве папоўнім. Тады ў нас будзе навейшы флот, і мы паступова заваюем увесь космас.

— Якая бязглуздзіца! — ускіпеў Бадзяй.

— Мы даўно павінны былі паставіць Зямлю на калені. Выпадак, які зямная прэса тады называла рэвалюцыяй, спыніў нашы планы. Мы не наракаем на лёс. Мы цвёрда верым у сваё прызначэнне — яно здзейсніцца.— Камандор сыпаў словамі, як у экстазе.— Я павінен быў стаць прэзідэнтам Цэнтральнай амерыканскай рэспублікі. Я хацеў гэтага. Я стану прэзідэнтам Сонечнай сістэмы...

— Навошта вам я? — перабіў яго Бадзяй.

Камандор запнуўся, невідушчымі вачыма зірнуў на Бадзяя, сказаў:

— Мы больш за шэсцьдзесят гадоў жывем адасоблена. У нас нараджаюцца дзеці, якім, акрамя веры, патрэбна свежая кроў, што ўмацуе іх дух і волю, спыніць дачасную старасць.

— І вы спадзяецеся на нас? — шчыра здзівіўся Бадзяй.

— На вашу разважлівасць. Адмовіцеся — будзе горш. Згодзіцеся — дапаможаце сваім людзям. Усё залежыць асабіста ад вас, капітан. Вас, чалавека з такім славутым мінулым, паслухаюць усе нашыя, я не баюся гэтага слова, палоннікі. А вы, капітан, станеце адным з кіраўнікоў калоніі.— І закончыў разважліва, быццам спачуваючы, аднак пагрозліва: — Урэшце, можна абысціся без згоды. Прымусіць. А Бадзяя...— Хуан не дагаварыў.— Мне, вядома, не хочацца гэтага. Я па натуры гуманіст.

— Людзі майго часу,— сказаў Бадзяй з гонарам,— вольныя, як нейтрына.

— Паглядзім, капітан Бадзяй... А пакуль я для вас аднаго зраблю выключэнне... Вось праважаты,— камандор выглянуў за дзверы і некага гукнуў, і адразу ў адсек, сагнуўшыся ў нізкім паклоне, зайшоў юнак.— Не думайце прапагандаваць яго. Вашу мову ў нас ведаюць толькі старэйшыны. Астатнія абыходзяцца нязначным запасам слоў, якімі некалі карысталіся зямныя дзікуны. Прымітыўна? Затое надзейна. Радыёпраграмы з Зямлі даходзяць сюды.— Махнуўшы, як на развітанне, рукою, камандор выйшаў.

Бадзяй уважліва паглядзеў на свайго праважатага, ці наглядчыка: хто ведае, якія інструкцыі ён атрымаў ад камандора. Бледны, сутулаваты, з пустымі, бяздумнымі вачыма. Бадзяй аж скалануўся, так стала яму прыкра за скалечанае, абкрадзенае жыццё гэтага бесслаўнага раба. А юнак стаяў абыякавы да ўсяго, пакорлівы, сцішаны.

Бадзяй крыху супакоіўся. Ён разумеў, што ў яго становішчы галоўнае — не разгубіцца. Зноў нагадалася прапанова камандора. Дзівакі! Мераюць усіх на сваю мерку! Ды любы з экіпажа «Талнаха», любы пасажыр — гэта такі ж чалавек, як і ён, Бадзяй. Ніводзін з іх не стане нявольнікам або саўдзельнікам чорнай змовы. Яны хутчэй прымуць смерць. Каб побач былі Рэпс, Плыга і Чаўр! З імі ён абавязкова знайшоў бы выхад з гэтага становішча. Аднак яны былі вельмі далёка, у тым рэальным свеце, да якога, здаецца, адсюль былі многія парсекі шляху. І самае горшае — сябры, нават сам начальнік Службы бяспекі Чаўр, паддаліся на падман. Значыць, трэба выбірацца самому. Бадзяй агледзеў шэрыя і голыя сцены адсека.

— Камандора! — уладна сказаў ён наглядчыку.

Юнак уздрыгнуў і пільна зірнуў на Бадзяя.

— Паклічце камандора,— яшчэ раз сказаў Бадзяй.





Наглядчык, нарэшце зразумеўшы, чаго ад яго хочуць, выглянуў за дзверы. Там стаяў вартавы. Бадзяй усміхнуўся, што яго так сцерагуць.

Прайшло хвілін пяць, пакуль з'явіўся камандор.

— Вы згодны? — насцярожана запытаў ён.

— Трэба ведаць, на што згаджацца,— Бадзяй рашыў, што ў яго становішчы не грэх пахітраваць.— Гэта адно. І другое. Сярод пасажыраў быў хлопчык...

Пачуўшы пра Юрася, камандор скрыгатнуў зубамі.

— Ён малы,— Бадзяй не звярнуў увагі на рэакцыю субяседніка,— я нясу адказнасць за яго перад бацькамі.

— Гэты малы заслужыў шыбеніцу,— раздражнёна сказаў камандор.— Праз яго мы страцілі такі планеталёт... Але,— ён малітоўна склаў рукі,— міласэрнасць наша бясконцая. Ён будзе з вамі.

— Дзякуй,— адказаў Бадзяй.

Камандор выканаў абяцанне. Неўзабаве Бадзяй пачуў за дзвярыма Юрасёў голас. Хлопчык нешта, відаць, хацеў дагаварыць там, але словы ў адсек даносіліся глуха і іх нельга было разабраць.

Нарэшце дзверы адчыніліся. Юрась спыніўся на парозе, аглядаючы новае памяшканне. Некалькі дзён, што ён правёў у сутарэнні, неяк змянілі яго. Твар схуднеў, пад вачыма ляглі чорныя плямы. І позірк, заўсёды ясны, дапытлівы, нібы згас, прыглушаны нейкім унутраным болем. Бадзяева сэрца сціснулася ад жалю і гневу.

— Юрась! — паклікаў ён.

Хлопчык уздрыгнуў і сарваўся з месца. Ён не прывык яшчэ да лёгкай вагі свайго цела і апынуўся пад столлю. Смеючыся ад радасці, што бачыць яго, Бадзяй схапіў Юрася і прыцягнуў да сябе.

— Ты ведаеш што-небудзь пра астатніх? — спытаў ён у хлопчыка.

— Спачатку мы былі разам. Потым нас падзялілі на групы. Пасажыраў асобна ад экіпажа. А мяне адвялі да дзяцей. Іх чалавек дваццаць. Пакой такі доўгі, светлы, не тое што ў вас. І сад ёсць. За шкляной сценкай. Мы хадзілі туды. Зямля, кусты, дрэвы, трава. Як сапраўднае ўсё. Толькі дзеці нейкія дзіўныя: сноўваюцца, як сонныя. Ні кніг, ні цацак. Хацеў быў я з імі пагаварыць — глядзяць на мяне, як на дзівака, і нічагусенькі не разумеюць... Куды гэта мы трапілі, Ян Янавіч?

— Каб я ведаў... Лічы, што ў палон.

Вочы Юрася на імгненне ўспыхнулі — прыгода ажывіла яго, хаця ён і не разумеў яе сэнсу.

— Палон? — перапытаў Юрась.— А хіба палон бывае?

— Як бачыш.

— А навошта мы ім?

— Бачыш, хлопчык,— Бадзяй падбіраў словы, каб Юрась мог зразумець, што ўсё ж такі адбылося.— Яны некалі жылі на Зямлі, але ім не спадабалася наша жыццё. Яны ўцяклі...

— Але ж яны могуць вярнуцца.

— Не хочуць. Верхаводы не хочуць. А астатнія, пэўна, і не ведаюць, што ёсць Зямля на свеце.

— І дзяцей не вучаць?

— Яны ўсё яшчэ спадзяюцца напасці на Зямлю. А пакуль рашылі нападаць на планеталёты.

— Як піраты? — павесялеў Юрась.

— Горш. Іх мэта — знішчыць або падначаліць сабе людзей, зрабіўшы іх такімі ж, як вось гэты.— Бадзяй паказаў на юнака-вартавога, які абыякава стаяў, прыхінуўшыся да сцяны.— Камандор Хуан, так завуць іх старэйшага, хоча, каб мы яму памагалі.

— Не дачакаецца,— усклікнуў Юрась і сціснуў кулакі: — Мы перашкодзім ім. Праўда, Ян Янавіч?

— Гэта небяспечна,— сказаў Бадзяй і раптам падумаў, што дарэмна ўзяў да сябе Юрася. Ці мае ён права рызыкаваць яго жыццём? Рана ці позна зямляне ўсё роўна знойдуць гэтае сховішча, вызваляць вязняў. Юрась, напэўна, дачакаецца гэтага дня, калі будзе разам з дзецьмі. А калі Бадзяй зробіць хлопчыка сваім саўдзельнікам, гэта для яго скончыцца кепска. Але і назад адразу не адашлеш: выкліча падазрэнне.

— Я не баюся,— крануў Бадзяя за рукаў Юрась.— Я не хачу быць, як яны.

— Ты разумны хлопчык, Юрась. Мы з табой нешта прыдумаем яшчэ,— стараўся супакоіць яго Бадзяй.— Мне дазволілі экскурсію па гэтым падзямеллі. Пойдзем разам?

У мінулы раз, калі Бадзяя вялі сюды, ён не паспеў добра разгледзець ні памяшканне, ні дарогу. Тады яму запомніўся доўгі бруднага колеру калідор, слаба асветлены цьмянымі жоўтымі плафонамі. І мноства паваротаў. Зараз у калідоры было святлей. І паваротаў нібы паменшала. Ад дзвярэй новага бадзяевага жытла калідор, падобны на тунель, разыходзіўся ўбакі і цягнуўся так далёка, што не было відаць ні аднаго, ні другога канца.

Бадзяй зірнуў на праважатага. Той стаяў, абыякава чакаючы, што будзе рабіць Бадзяй. Узяўшы Юрася за руку, Бадзяй пайшоў па калідоры.

Канструктары і будаўнікі гэтага сховішча добра скарысталі малую вагу тутэйшых парод. Амаль нідзе не было мацаванняў. Абліцаваныя мяккім пласцікам вертыкальныя сцены і скляпеністая столь не мелі ніводнай падпоркі, лёгка ўтрымліваючы шматметровыя каменныя пласты. Нават час, здавалася, не пакінуў тут свайго адбітку. Усё выглядала не новым, але і не старым, не надта прыгожым і разам з тым надзейным.

Зрэдку ў сценах Бадзяй бачыў дзверы. Некаторыя былі цяжкія, сталёвыя, з малюнкамі перакрыжаваных маланак або голых чарапоў — даўніх сімвалаў смерці. Напэўна, там знаходзіліся энергетычныя ўстаноўкі. Потым пачалі трапляцца бакавыя хады. Некаторыя з іх былі цёмныя, і Бадзяю не ўдавалася разгледзець, што там. Перад іншымі стаялі нават вартавыя, такія ж бледныя, сутулаватыя, з пуставатымі вачыма, як і яго праважаты, толькі ўзброеныя промневымі пісталетамі. Бадзяй зацікавіўся, што яны ахоўваюць, і, дайшоўшы да наступнай варты, спыніўся. Ён чакаў, што яго прагоняць. Аднак праважаты нешта сказаў вартаўнікам на сваёй скрыпучай, як іржавае жалеза, мове, і тыя расступіліся. Бадзяй зірнуў на іх. У вачах у аднаго быццам бліснулі цікаўныя іскрынкі. Бадзяй павесялеў і завярнуў у адкрыты бакавы ход.

Памяшканне, куды прывёў іх ход, было падобна на вялікую круглую бетаніраваную камеру. Столь яе нагадвала перавернутую чашу і была вышэйшая, чым у калідоры. Агледзеўшыся, Бадзяй заўважыў пасярэдзіне стол. З падлогі да яго ішлі кабелі і правады, на першы погляд хаатычна пераплеценыя. Яны збягаліся ў адзін пук і хаваліся ў круглай адтуліне, зробленай у сцяне. Бадзяй падышоў бліжэй да стала. Гэта быў, напэўна, пульт — столькі тут змяшчалася цыферблатаў і клавішаў. Каменная падлога пад нагамі ў Бадзяя дробна дрыжала, і ў памяшканне даходзіў ледзь чутны гул, які бывае звычайна, калі працуюць машыны.

Бадзяй не памыліўся. Прайшоўшы на другі бок камеры, ён апынуўся перад новымі дзвярыма. Праважаты паспешліва націснуў кнопку ў сцяне, і дзверы рассунуліся. За імі адкрылася машынная зала. Людзей тут не было. Вытворчасць была аўтаматызаваная. Круціліся барабаны, шыпелі кампрэсары. Ад іх цягнуліся мяккія шлангі, воддаль злучаючыся з тоўстай цвёрдай трубой. Ці не тут здабывалі з мінералаў кісларод? І Бадзяй зразумеў, чаму яго прапусцілі сюды. Гаспадары хацелі паказаць, што яны могуць існаваць вечна, незалежна ад астатняга свету.





У гэтым Бадзяй яшчэ больш пераканаўся, калі праважаты прывёў яго ў штрэк металургічнай вытворчасці. Пахваліцца гаспадары сапраўды мелі чым. Тут усё было пастаўлена на сучасную аснову. Металы выплаўляліся, хаця і ў невялікай колькасці, але ў партатыўных устаноўках. Яны забяспечвалі калонію камандора Хуана матэрыяламі, неабходнымі для аднаўлення і рамонту машын і памяшканняў.

Да трэцяй залы праважаты толькі падвёў зямлян, спыніўшы іх ля празрыстых дзвярэй. Там, за дзвярыма, падсвечанае з бакоў, плёскалася самае сапраўднае возера. Даўшы Бадзяю і Юрасю палюбавацца гэтым сапраўды незвычайным і рэдкім відовішчам, праважаты адвёў іх назад. Пакланіўшыся, ён пакінуў іх адных.

— А мы пакуль не простыя палоннікі,— усміхнуўся Бадзяй.— Бачыў, як кланяецца? — Потым пасур'ёзнеў: — Вады, паветра, металу ў іх хапае. А з харчамі, відаць, няважна, інакш паказалі б.

— Нам у тым дзіцячым інтэрнаце давалі рыбу і нейкую кашу, вельмі падобную на хларэлавую.

— Мяне кормяць прадуктамі, якія былі на «Талнаху». Значыць, сапраўды тут у іх справы неважнецкія,— заключыў Бадзяй.— Дзе ж мы знаходзімся?

— На Энцэладзе ці Мімасе,— нечакана для Бадзяя сказаў Юрась.— Я бачыў Сатурн,— і, нахіліўшыся да бадзяевага вуха, хлопчык расказаў пра ўзарваны планеталёт і пра корцік, які ён пакінуў там.

Бадзяй толькі развёў рукі. Для Юрася гэты палон быў, як прыгода, гульня. А яна ж можа скончыцца і трагічна... Але ці меў права ён, старэйшы, палохаць дзіця? Не, хай будзе так, як ёсць.

— Мы павінны даведацца дакладна, дзе знаходзімся,— рашыў ён даць Юрасю занятак.— Ты ведаеш, як гэта вызначыць?

Юрась нахмурыўся, доўга маўчаў. Бадзяй не прыспешваў яго. Раптам твар хлопчыка засвяціўся ўсмешкай.

— Гэта проста,— і ён выцягнуў з кішэні бліскучы шарык.— Тытан. Мне яго падарыў Мікола. Ну... сябар школьны. Семдзесят пяць грамаў. Калі я выцягну руку — гэта будзе метр восемдзесят. Вось вам хранометр. У мяне не забралі. Засякайце, колькі шарык будзе падаць. А тады я зраблю разлікі.

Яны тройчы праверылі, колькі падаў шарык. Юрась зрабіў разлікі. Гэта мог быць толькі Мімас.

— Гэтак ты, пакорпаўшыся, можа і перадатчык у кішэні знойдзеш,— пажартаваў Бадзяй, зусім не думаючы, што знаходзіцца не так ужо далёка ад ісціны.

— Не,— спахмурнеў Юрась.— Вось толькі прыёмнічак аднахвалевы,— і ён выцягнуў маленькую, як гарошынка, ракавіну.

— І не адабралі?

— Ён у вуху быў.

— Часам, не на касмічнай хвалі? — Бадзяй не сумняваўся, што Юрась разумее яго: касмічнай хваляй звычайна карысталіся касманаўты, пакідаючы на час карабель для перагавораў паміж сабой і з караблём. Яна была заўсёды пастаянная.

— А што, трэба? — ажывіўся Юрась.— Дык я паспрабую. Толькі з пустымі рукамі цяжка...

— Гэта мы зробім у час, адведзены для сну. На ўсякі выпадак... Каб нашы гаспадары не падгледзелі...

Ім прынеслі абед. А можа — вячэру. Тут быў нейкі свой распарадак дня. Рыбу і хларэлавую кашу. «А яны не дурні,— падумаў Бадзяй,— зда-

гадаліся, што Юрась мне раскажа. Можа, падслухалі нават шэпт? Але не, інакш што-што, а прыёмнічак адабралі б».

Пад'еўшы, яны ляглі на шырокую пакрытую мяккім пластыкам лаўку. Хлопчык схаваўся за бадзяевай спіной і пачаў настройваць прыёмнік. Але раптам пагасла святло.

— От ліха! — не стрымаўся Бадзяй.

— Ян Янавіч,— дакрануўся да яго пляча Юрась.— Я ж усё на памяць ведаю. Мы з Міколам паспрачаліся, што я магу з завязанымі вачыма...

«Ну і малайчына, хлопец!»— падумаў Бадзяй. І ў яго зноў сціснулася сэрца...

## IX

Бадзяй прачнуўся ад цішыні. Было ціха, як на планеталёце, які заходвае нармальную сілу цяжару. Што здарылася? Звычайны перапынак або?.. Бадзяю падумалася, што, можа, усё гэта неяк звязана з пошукамі «Талнаха». Некалі падводныя лодкі выключалі рухавікі і кладліся на грунт, каб ніводным гукам не выдаць сябе. А хіба прыборы на паверхні Мімаса не заўважаць ваганні, якія ідуць ад магутных установак, што стаяць у сутарэннях? Гэта было б здорава, каб Чаўр са сваімі хлопцамі з'явіўся сюды! Бадзяй успамінаў тэкст паведамлення, падпісаны Чаўрам, і не мог пагадзіцца, што Чаўр здаўся так хутка. Ён верыў, што Чаўр будзе шукаць.

Варухнуўся Юрась, спытаў:

— Вы не спіце?

— Не зважай на мяне,— адказаў Бадзяй.— Бачыш, святла няма, так што пераварочвайся на другі бок і спі.

— Зараз,— пазяхнуў Юрась і намацаў бадзяеву далонь.— Пакладзіце ў вуха.

Бадзяй сціснуў пальцы, каб не выпала часам ракавінка, пагладзіў хлопчыка па галаве і ўставіў гарошынку ў вушную ракавіну.

Эфір маўчаў, не было чуваць нават звычайных шумоў. Бадзяй падумаў, што Юрась нешта недарабіў, і незаўважна задрамаў. Ён быццам апынуўся на Гарыстай планеце жоўтага Сонца. Яе горы, якія выпіралі нават пасярод акіянаў, былі пакрыты густымі зялёнымі лясамі. Планета перажывала сваю першую маладосць. На ёй яшчэ не з'явіліся палярныя снегавыя шапкі, усюды было аднолькава цёпла, і жыццё, нібы ловячы імгненне, расцвітала бурна, нястрымна. Яно прымала самыя неверагодныя формы. Напэўна, у свой час так было і на Зямлі. Побач з карлікавымі дрэвамі раслі паўкіламетровыя волаты, у ствале якіх можна было б схаваць вышынны дом. Лёталі агромністыя двуххвостыя птушкі, вельмі падобныя на катамараны. Тут можна было натрапіць на расліну, якая раптам пачынала паўзці, або на куст, што на справе быў жывёлінай.

Усюдыход-амфібія даставіў Бадзяя і Чаўра на гару-востраў, які адзінока ўзвышаўся сярод вадзяной пустыні. Як ні дзіўна, у тутэйшых морах жыцця было мала. Быццам дачакаўшыся нарэшце часу, усё жывое рушыла прэч з вады. Нават на астравах было амаль пустынна.

Бадзяй ужо не помніць, што ім спатрэбілася на тым востраве. Чаўр застаўся ва ўсюдыходзе, а Бадзяй выйшаў на бераг. Ён ішоў, прабіраючыся праз густыя кусты, якія раслі толькі каля вады, і любаваўся яркай сінявой бязвоблачнага неба.

Атмасфера на планеце была, увогуле, прыдатнай для чалавека, але ўсё-такі чужая, і Бадзяй быў апрануты ў лёгкі ахоўны касцюм. Гермашлем замінаў бачыць усё наўкола, і, напэўна, таму Бадзяй не згледзеў, як ззаду, з куста, высунулася доўгая, эластычная і ўчэпістая, як шчупальцы кальмара, рука, ухапіла яго, і ён, паспеўшы толькі войкнуць, апынуўся ў цемнаце. Прывыклыя да яркага светлага дня, вочы не хутка разгледзелі, што гэта — пячора. Яго круціла, ламала магутная сіла, ён супраціўляўся, як мог, і клікаў Чаўра, раптам здзівіўшыся, што шлемафон маўчыць. Але што гэта? Вось што значыць сон! Столькі гадоў прайшло, Бадзяй добра памятае, што шлемафон так і не ажыў, бо Чаўр спачатку забіў страшыдла, а потым паправіў сапсаваную антэну. А ў сне ўсё наадварот: страшыдла трымае яго ў сваіх руках, ціснe на сэрца, нібы хоча вырваць з грудзей, і ён чуе недзе побач голас Чаўра. Але каму ён гэта гаворыць? Адкуль узяўся памочнік Шарлан: «Абследуй выяўленыя пустоты»?

Бадзяй сеў. Успыхнула святло. Яно ўключалася аўтаматычна, варта было ўстаць з ложка. Вельмі балела сэрца. Мусіць, праз гэта і прысніўся такі сон. Бадзяй уздыхнуў і зірнуў на Юрася. Хлопчык пацмокваў пухлымі губамі. Бадзяй азірнуўся, шукаючы, дзе б памыцца і... У пакоі выразна прагучала: «Пачнем з квадрата А-4». Гэта зноў было, як працяг сну, бо голас належаў Чаўру. «Вар'яцею я, ці што?»— мільганула ў Бадзяя ў галаве. «Там могуць быць людзі». Бадзяй у знямозе сеў на ложак, хацеў закрыць далонямі вушы, каб не чуць нічога, і раптам палец натыкнуўся на нешта чужое, што чамусьці сядзела ў вуху. І тады ўспомніў: гэта Юрасёў прыёмнік, ён ловіць чаўравы перагаворы. Выратавальнікі не ведаюць, дзе шукаць. Як даць аб сабе знаць? Як памагчы ім? Калі Чаўр тут, ён абавязкова знойдзе гэтае сховішча, як бы глыбока яно ні знаходзілася. Тэхнічна гэта не надта складаная справа. Выяўляць пустоты ў зямной кары людзі ўмелі яшчэ ў дваццатым веку.

Аднак ці ўдасца Чаўру і яго хлопцам пранікнуць сюды без згоды гаспадароў. Бо інакш — разгерметызацыя памяшканняў і імгненная смерць для ўсяго жывога... Значыць, Чаўру трэба памагчы. Бадзяй устаў. Ён яшчэ не бачыў, як гэта зрабіць, але ведаў, што павінен зрабіць.

Увайшоў вартаўнік. Ён паводзіў сябе, як і ўчора. Схіліўшыся ў паклоне, падаў снеданне. Бадзяй падумаў, што камандор і яго паплечнікі хочуць адседзецца, затаіўшыся. Тым лепш, што яны нічога не робяць.

Бадзяй, пабудзіўшы Юрася, пастукаў у дзверы.

— Хочам пагуляць,— сказаў Бадзяй.

Вартаўнік схіліўся і моўчкі выйшаў.

— От дзікуны! — абурэўся Юрась.— Нават людское мовы не ведаюць!

Аднак неўзабаве з'явіўся ўчарашні праважаты. Відаць, Хуан яшчэ спадзяваўся на Бадзяя.

На гэты раз Бадзяй і Юрась пайшлі ў другое крыло калідора. Тут быў адміністрацыйны цэнтр. Неўзабаве шлях перарэзалі сталёвыя дзверы на ўсё шырыню калідора. Вартавы тут не стаяў, таму што адчыніць іх было, відаць, не так проста. Праважаты спыніўся, і адразу ў дзвярах запаліўся зялёны агеньчык. Нейкі час ён свяціўся, як вока, потым міргнуў раз-другі і згас. І адразу за дзвярыма пачулася тонкая песня электрычнага рэле. Дзверы папаўзлі ў сцены, адчыняючы ўваход. За імі таксама нікога не было.

— Аўтаматыка...— усміхнуўся Бадзяй.

А гаспадары рашылі не таіцца ад яго: відаць, яны ганарыліся сваім прытулкам. Калідор крута павярнуў управа. Бадзяй пачуў, як за імі пстрыкнуў замок. Яны апынуліся ў цемры. Потым процілеглая сцяна замігцела тысячай іскарак, якія паступова раслі, зліваючыся ў суцэльную светлавую гаму.

— Экран...— шапнуў Юрась.

Так, гэта быў экран. «Кіно, ці што, будуць паказваць»,— падумаў Бадзяй. Але памыліўся. Хутка на экране ўзніклі абрысы незнаёмага пейзажу — голыя ўзгоркі. Сярод чорных і шэрых скал пераліваліся шматкі зеле-

наватых аблокаў. Паступова там, за экранам, пачало святлець, і нарэшце паказаўся акрайчык сатурнавага кольца. Раптам відовішча прапала. На экране зноў замігцелі іскрынкі.

— Назіральны пункт,— сказаў Бадзяй уголас.

Успыхнула святло.

— Вы не памыліліся, капітан.

Бадзяй павярнуў у бок, адкуль пачуўся голас. За пультам ля сцяны сядзеў камандор.

— Адсюль,— сказаў ён,— мы назіраем за паверхняй. А гэта,— паказаў ён рукой на пульт, на панелі якога віднеліся шматлікія цыферблаты, сігнальныя лямпачкі, кнопкі,— наш цэнтр кіравання ўсімі службамі калоніі. Канечне, кожны вузел мае аўтаномныя сістэмы. Але цэнтр усяго — тут.— Пераможна зірнуўшы на Бадзяя, камандор сказаў: — Я вас не затрымліваю, знаёмцеся далей.

— З задавальненнем,— адказаў Бадзяй і пайшоў да дзвярэй, якія адчыніліся адразу, ледзь ён наблізіўся да іх.

Некалькі пераходаў, і Бадзяй з Юрасём апынуліся на невялікай шасцівугольнай плошчы. Тут скрыжоўваліся выхады з тунеляў.

Уздоўж сцен стаялі лаўкі. Зірнуўшы на стомленага хлопчыка, Бадзяй паказаў на іх. Юрась адкінуўся на спінку лаўкі, закрыў вочы. У паветры не хапала кіслароду, дыхаць было цяжка. І Бадзяй зноў пашкадаваў, што ўзяў Юрася. Забыўшыся, што праважатыя не разумее, ён спытаў:

— Дзяцей вы трымаеце таксама на галодным пайку?

— Вы дрэнна пра нас думаеце, капітан,— раптам пачуў Бадзяй з чорнай скрыначкі, якую працягнуў яму праважатыя. Бадзяй насцеражыўся — яму зусім не патрэбен быў гэты радыёкантакт з камандорам. Добра, што яны з Юрасём нічога лішняга не сказалі.

Адпачыўшы, пайшлі далей. Праважатыя не пярэчыў, і Бадзяй паварочваў у любы ход. Праўда, цікавага тут было мала. Толькі ля аднаго ўваходу Бадзяй заўважыў аж трох вартавых. Ён хацеў быў ужо накіравацца туды, але раздумаў, прайшоў міма і раптам пачуў, што Юрась цягне яго за руку. Ён нахіліўся. Юрась прыпаў да яго вуха і шапнуў:

— Там выхад. Нас тут вялі.

Ледзь дабраўшыся да ложка, Юрась адразу заснуў. А Бадзяй увесь час, пакуль хлопчык спаў, не ўставаў з крэсла. Ён думаў, як і чым памагчы Чаўру знайсці іх.

Тым часам эфір на паверхні ажыў зноў. Відаць, удзельнікі пошукаў нарэшце ўстанавілі дакладна, дзе знаходзіцца сховішча, і падышлі да яго.

— Аднак яны раскошна ўладкаваліся! — Бадзяй пазнаў голас Шарлана.— Вунь які лабірынт выкапалі! Краты!

— Кусучыя краты,— гэта ўжо гаварыў Чаўр.

— Мы павінны знайсці ўваход,— зноў сказаў Шарлан.

— Ты памятаеш Анды? — спытаў Чаўр.— Не думаю, каб яны вынайшлі што іншае. Агледзь пячоры.

— Вам гэта нічога не дасць.— Бадзяй уздрыгнуў ад нечаканасці. Ён забыўся, што за перагаворамі шукальнікаў можа сачыць і камандор. І зараз ён уключыўся ў размову.

— А-а...— Чаўр адразу зразумеў, чыя гэта рэпліка, і шчыра здзівіўся:— Вы, што, збіраецеся супраціўляцца?

— Мы вас не звалі сюды,— адказаў Хуан.— Гэта наша планета...

— І захапілі зямны карабель...— перабіў яго Чаўр.

— Што? — у голасе камандора прагучала такое натуральнае здзіўленне, што Бадзяй ледзьве сам яму не паверыў.— Вы, мабыць, жартуеце?

— Слухайце вы, як вас там! — Чаўр ледзь стрымліваў сябе.— Не тлуміце нам галавы, адкрывайце сваё сховішча. Інакш...



— Вы адкрыеце самі,— закончыў за яго камандор, не тоячы іроніі.— Мы ж загінем. Але перш, чым гэта здарыцца, я пашлю на Зямлю радыёграму. Мы жылі тут ціха і мірна, а вы ўварваліся, як драпежнікі, і яшчэ пагражаеце нам.

— Даю вам тры гадзіны. Але тады я ўжо не адказваю за ваш лёс.

Эфір змоўк.

Бадзяй пасядзеў яшчэ некалькі хвілін. План выспеў у яго галаве. Ён толькі не быў упэўнены, што яго ўдасца ажыццявіць. Але паспрабаваць трэба было. Камандор Хуан мог, ратуючы сябе, знішчыць усіх палонных.

Вартавы прынёс міскі з ежай. Ён быў, як звычайна, раўнадушны, вялаваты. Бадзяй здагадаўся, што камандор не праінфармаваў сваіх служак аб падзеях на паверхні. Яны выканаюць яго любы загад. Марудзіць было нельга.

— Перавядзіце малога ў больш людскае месца,— паказаў ён на Юрася, калі яны пад'елі.

У чорнай скрыначцы, якую вартавы паклаў на стол, прасіпела:

— Капітан, мы ж з вамі дамовіліся. Зараз па яго прыйдуць. А вас прашу да мяне, не марудзячы.

— Здарылася нешта важнае? — Бадзяй спытаў, не спадзеючыся на адказ.

— Так,— на дзіва яму, сказаў камандор.— Мне трэба ваша рашэнне неадкладна.

— Я правяду хлопца і зайду.

— Толькі хутчэй. У мяне мала часу.

Напэўна, камандор забыўся аддаць новы загад праважатаму. Бо, калі, адвёўшы Юрася ў дзіцячы сектар, Бадзяй павярнуў у тунель, у які вёў уваход з паверхні, праважатыя не запярэчыў, а гэтак жа, як хадзіў раней, абыякава пасунуўся за Бадзяем. Той акінуў яго позіркам і ўздыхнуў. Юнак быў досыць кволы, і справіцца з ім было не вельмі цяжка. Ад гэтай думкі Бадзяю стала ніякавата. Ён ніколі ў сваім жыцці не ўзнімаў руку на чалавека.

Ля дзвярэй у штрэк, што вёў да выхаду, стаялі вартавыя. Такія ж маладзенькія, як і яго праважатыя. Дзверы былі зачыненыя. Бадзяй спыніўся, думаючы, як іх адчыняюць. За спіной вартавых ён заўважыў тры кнопкі. Чаму тры? Адчыніць? Зачыніць? Трывога? Якая для чаго? А што за гэтымі дзвярыма? Хутчэй за ўсё, тунель, шлюзавы. Не марудзячы, бо



вартавыя пачалі ўжо глядзець на яго падазрона, Бадзяй працягнуў руку да другой кнопкі. Бліжэйшы вартаўнік адмоўна заківаў галавой, маўляў, нельга, і засланіў шчыток. Ён не ўстрывожыўся, і гэта парадавала Бадзяя, што кнопка зачыняе дзверы.

Бадзяй зірнуў у вочы вартавому, усміхнуўся і, паказваючы на першую кнопку, закрыў вушы. Вартавы паківаў галавой. Кнопка азначала сігнал трывогі. У гэты час праважаты дакрануўся да бадзяевага пляча і дастаў з кішэні тую самую скрыначку.

— Дзе вы там ходзіце? — ужо са злосцю спытаўся камандор.

— Прабачце, скора вярнуся.— Бадзяй не хацеў яго раздражняць.— Ужо іду.

Вартавыя пазіралі то на скрыначку, то на Бадзяя. Яны таксама пазналі голас камандора і ўжо больш даверліва глядзелі на гэтага дзіўнага чужынца, які, напэўна, уяўляўся ім Бадзяй.

Усміхаючыся, каб не выклікаць падазронасці, Бадзяй зрабіў крок да вартавых, схапіў іх за каўняры і стукнуў лбамі. Потым выхапіў у праважатага пісталет і націснуў трэцюю кнопку.

Дзверы павольна рассунуліся. Бадзяй націснуў суседнюю кнопку і хуценька ўскочыў у тунель. Дзверы гэтак жа павольна зачыніліся.

Ён не памыліўся, гэта быў шлюзавы адсек: на сценах віселі скафандры. Бадзяй схапіў самы большы з выгляду і нацягнуў на сябе. Скафандр быў старой канструкцыі, аднаму ўправіцца з ім было вельмі цяжка. Ён патраціў хвілін пяць, пакуль зашпіліўся. Перш, чым накінуць гермашлем, трэба было запасціся кіслародным балонам. Бадзяй азірнуўся і ўздрыгнуў: балонаў не было, іх, пэўна, прынасілі з сабой.

Нібы пацвярджаючы здагадку, нябачны дынамік голасам камандора сказаў:

— Вы звар'яцелі, капітан. Выхад са шлюза на паверхню даю толькі я.

Камандор стараўся гаварыць жартам, але Бадзяй адчуў ягоную трывогу.

— Я не вярнуся, камандор,— адказаў ён.

— Паглядзім! — у голасе была пагроза.

Пагасла змрочнае святло, і ў непраглядной цемры Бадзяй пачуў шыпенне. Адразу стала цяжэй дыхаць. Ён здагадаўся, што камандор аддаў загад адпампаваць паветра.

— Вы не ведаеце людзей, камандор,— сказаў Бадзяй і накінуў гермашлем. Гэта давала яму ў барацьбе некалькі лішніх хвілін.

— Гэй вы! — пачуў ён раптам голас Чаўра.— Можа, надумаліся ўжо?

— Тры гадзіны не скончыліся,— адказаў камандор.— Мы ўсё яшчэ раімся.

Бадзяю вельмі хацелася крыкнуць: «Не вер яму, начальнік Чаўр!» Але ён мог толькі слухаць.

Канчалася паветра і ў скафандры. «Ну, што ж...» — сказаў сам сабе Бадзяй і вобмацкам пайшоў да выхаду. Не даходзячы крокаў дзесяць, ён узняў пісталет і пусціў прамень. Яркая ўспышка асляпіла. Зажмурыўшы вочы, Бадзяй вадзіў і вадзіў промнем па дзвярах, аж пакуль не адчуў, што зарад скончыўся. Тады ён адкрыў вочы. Там, дзе былі нядаўна дзверы, зззяла вялікая бліскучая зорка. «Сонца!» — узрадаваўся Бадзяй і падаўся туды, да яго святла.

Нехта бег яму насустрач, нешта крычаў, але ён ужо не мог разабраць слоў. Ён чуў голас Чаўра і радаваўся, што на гэты раз менавіта ён, Бадзяй, памог Чаўру.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Віктар БАРУШКА
- Анатоль БЕЛАШЭЎ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Міхаіл КРЭСІН
- Павел ПЯТРОВІЧ
- Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ
- Уладзімір КАЗБЯРУК
- Гары ЦЮРК
- Яўхім ІВАНОВІЧ
- Анатоль СЕРБАНТОВІЧ
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Вячаслаў РАГОЙША
- Іван САЧАНКА
- Мікола БАЦЯН
- Віктар МАРТЫНАЎ
- Арнольд МІХНЕВІЧ
- Яўген РАПАНОВІЧ
- Леанід АЛЯКСЕЕЎ
- Міхаіл СУПАНЕЎ
- Макс ШАВЕЛЬ
- Георгі ЮРЧАНКА





На Краснай плошчы. Малюнак Мікалая Жукава.

*Бальшавіцкая савецкая рэвалюцыя падрэзвае карэнні прыгнечання і няроўнасці жанчын так глыбока, як не дзярзала падрэзаць іх ні адна партыя і ні адна рэвалюцыя ў свеце. Ад няроўнасці жанчыны з мужчынам па законе ў нас, у Савецкай Расіі, не засталося і следу. Асабліва гнюсная, подлая, крывадушная няроўнасць у шлюбным і сямейным праве, няроўнасць у адносінах да дзіцяці скасавана Савецкай уладай поўнасцю.*

*Гэта — першы толькі крок да вызвалення жанчыны. Але ніводная з буржуазных, хоць бы і найбольш дэмакратычных, рэспублік не асмелілася зрабіць і гэты першы крок.*

*У. І. Ленін. „Міжнародны дзень работніц". 1921 г.*







● Віктар БАРУШКА

# ЛЕНІНСКІМ КУРСАМ

Высокі, вельмі высокі тэмп нашага сучаснага жыцця. І мы прывыкаем да гэтага.

Цяпер ужо цяжка ўявіць, што калісьці шматпавярховыя дамы будаваліся не год-паўтара, а пяць або сем і нават больш гадоў. Яшчэ нядаўна трактарны завод выпускаў усяго тры-чатыры машыны ў суткі, а не сотні, як цяпер. Так увачавідкі мяняецца тэмп жыцця. І мяняюць яго нашы людзі, рабочы клас.

Неўзабаве срод палескіх балот пад Мазыром узнікне яшчэ адзін нафтакамбінат. Пройдзе колькі гадоў, і ў Мінску будзе метро. Мы не сумняваемся, што так і будзе. Веру гэту ў нашы перамогі дае гераічны рабочы клас.

Царская Расія намнога адставала ад развітых дзяржаў свету. На душу яе насельніцтва прыпадала ў год усяго паўтара пуда (25 кілаграмаў) чыгуну, гэта ў чатыры разы менш, чым у Англіі, у пяць разоў — чым у Германіі, у сем разоў — чым у Бельгіі, у дзесяць разоў менш, чым у ЗША! На долю сялян Расіі металу, а значыць і вырабаў з яго, прыходзілася толькі чатыры кілаграмы. Беларускім сялянам і гэтага не выпадала.

Звыш 74 працэнтаў насельніцтва царскай Расіі не ўмелі ні чытаць, ні пісаць, а ў нас, у Беларусі, граматы не ведалі кожныя восем жыхароў з дзесяці.

Нялёгка было ў тыя далёкія часы ўявіць, што будзе ў нашай краіне праз паўстагоддзя.

У вострых сутычках са сваімі ідэйнымі праціўнікамі — правымі апартуністамі і трацкістамі, якія адмаўлялі магчымасць пабудовы сацыялізма ў адсталай, разбуранай Расіі, У. І. Ленін распрацаваў план сацыялістычнага будаўніцтва, які ўлічваў эканамічныя і сацыяльныя ўмовы краіны, указваў канкрэтныя шляхі для ператварэння яе ў магутную сацыялістычную дзяржаву.

Уладзімір Ільіч валодаў выключнай здольнасцю глядзець з вышыні будучыні на сучаснае, бачыць усё тое, што можа і павінен дзень сённяшні даць дню заўтрашняму. Малюючы контуры будынка новага свету, ён падкрэсліў умову будучай перабудовы — стварэнне буйнай сацыялістычнай індустрыі на аснове электрыфікацыі ўсёй краіны. «Толькі тады, — гаварыў У. І. Ленін, — калі краіна будзе электрыфікавана, калі пад пра-

мысловасць, сельскую гаспадарку і транспарт будзе падведзена тэхнічная база сучаснай буйнай прамысловасці, толькі тады мы пераможам канчаткова».

Індустрыялізацыя ўсёй краіны — аснова, рашаючае звяно ў барацьбе за перамогу сацыялізма, за пабудову камунізма. У нас створана магутная сучасная індустрыя, і на гэтай аснове змянілася ўсё аблічча сацыялістычнай Радзімы. Разам з усім савецкім народам і працаўнікі Савецкай Беларусі з радасцю і гонарам могуць сказаць, што іхні ў мінулым занядбаны край балот і лясоў за гады Савецкай улады ператварыўся ў краіну заводаў і фабрык, высакаразвітай прамысловасці. Індустрыялізацыя нашай рэспублікі — сапраўдны подзвіг, вынік самаадданай працы, гераічнай барацьбы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

Для будаўніцтва новых фабрык і заводаў трэба было многа грошай і абсталявання. А дзе іх было ўзяць? Пытанне гэтае востра стаяла перад усёй краінай. Троцкі, Каменеў і іншыя ворагі ленінізма прапаноўвалі шырока адчыніць дзверы замежнаму капіталу (здаць у канцэсію многія заводы, атрымаць вялікія пазыкі за мяжой) і павялічыць падаткі на сялян. Па сутнасці, гэта азначала адмаўленне ад індустрыялізацыі і будаўніцтва сацыялізма, бо наша краіна трапіла б у кабалу да капіталістаў і, з другога боку, мы падарвалі б саюз рабочага класа і сялянства — аснову Савецкай улады.

Партыя, у тым ліку і камуністы Беларусі, адверглі дамаганні праціўнікаў індустрыялізацыі. Партыя трымала курс на індустрыялізацыю без дапамогі з боку, на індустрыялізацыю за кошт сваіх унутраных накапленняў і найстражэйшай эканоміі. Яна кіравалася ўказаннем У. І. Леніна: «Калі мы захаваем за рабочым класам кіраўніцтва над сялянствам, то мы атрымаем магчымасць цаной найвялікшай і найвялікшай эканоміі гаспадаркі ў нашай дзяржаве дабіцца таго, каб усякае самае нязначнае зберажэнне захаваць для развіцця нашай буйнай машыннай індустрыі, для развіцця электрыфікацыі...»

На ўсіх этапах сацыялістычнага будаўніцтва рабочыя нашай рэспублікі не шкадавалі сваіх сіл і сродкаў для стварэння сучаснай індустрыі. Яны наладжвалі суботнікі і нядзельнікі, паходы за эканомію сыравіны, матэрыялаў і электраэнергіі, збіралі металалом, спаборнічалі за павышэнне прадукцыйнасці працы, рацыяналізацыю вытворчасці, укараненне новай тэхнікі, хутчэйшы ўвод новых магутнасцей. У першых радах энтузіястаў у нагу з камуністамі ішлі камсамольцы і моладзь. Яны самаадданa змагаліся на будоўлях першых пяцігодак — Асінбудзе, Гомсельмашы. З руін і попелу яны ўзнімалі пасля Вялікай Айчыннай вайны разбураныя нямецкімі фашыстамі заводы і электрастанцыі. Яны былі піянерамі пасляваенных гігантаў — аўтамабільнага, трактарнага заводаў, Бярозаўскай ДРЭС, Наваполацкага нафтаперапрацоўчага...

Цяпер прамысловасць Беларусі дае ў 80 з лішнім разоў прадукцыі больш, чым да рэвалюцыі — або за чатыры дні столькі, колькі раней за ўвесь год. З канвеераў яе прадпрыемстваў сыходзяць кожныя 7 мінут трактар, кожныя 20 мінут — аўтамашына і металарэжучы станок, кожныя 26 мінут — сіласаўборачны камбайн, кожныя 5 мінут — тысяча падшыпнікаў, кожныя 4 мінуты — матацыкл і хатні халадзільнік, кожныя 11 мінут — тона хімічнага валакна. За адну мінуту выпускаецца радыёпрыёмнік, тэлевізар, 333 квадратных метры тканін, 213 пар панчох, 65 пар скуранога абутку.

Такі размах і тэмпы беларускай індустрыі. Рэспубліка, насельніцтва якой складае 3,7 працэнта насельніцтва краіны, дае 6 працэнтаў агульнасаюзнай вытворчасці грузавых аўтамабіляў, 13 працэнтаў металарэжучых станкоў і веласіпедаў, 18 працэнтаў — падшыпнікаў, звыш 19 працэнтаў — трактароў, больш як 20 працэнтаў матацыклаў.

Гіганты машынабудавання і вялікай хіміі, электраэнергетыка і прыборабудаванне — вось што перш за ўсё вызначае цяпер індустрыяльнае аблічча Савецкай Беларусі.







Ударная камсамольская будоўля ў Наваполацку. Ідзе мантаж калон цэха нітрылакрылавай кіслаты.
Фота Г. Усламава (БелТА).

Машынабудаванне, напрыклад, дае найбольш значны аб'ём прадукцыі, маючы досыць разнастайную галіновую структуру, якой могуць пазайздросціць многія высакаразвітыя капіталістычныя краіны. Гэта — аўта- і трактарабудаванне, станкабудаванне, сельскагаспадарчае машынабудаванне, вытворчасць будаўнічых машын, цэнтрабежных помпаў, кавальскапрэсавага, ліцейнага, пад'ёмна транспартнага і іншага абсталявання. Толькі за апошнія дзесяць год прадпрыемствы гэтых галін у нашай рэспубліцы стварылі і наладзілі выпуск звыш тысячы новых узораў машын, апаратаў, абсталявання.

Вялікі гонар Беларускай рэспублікі — магутныя аўтамабілі. Нашы «мазы» — машыны з эмблемай белавежскага зубра — перавозяць па шасейных магістралях Радзімы каля пятай часткі ўсіх аўтагрузаў. А гіганты-самазвалы жодзінскага БелАЗа! Ім няма роўных ў свеце ні па магутнасці, ні па якасці — гэта адзначылі сваімі вышэйшымі прызамі міжнародныя выстаўкі. На змену 27-тонным машынам прыйшлі ўжо 40-тонныя, а цяпер праходзяць выпрабаванні 75-тонны асілак і толькі што выпушчаны 120-тонны волат з газатурбінным рухавіком.

У Мінску і Віцебску, Гомелі і Оршы, Маладзечне і Баранавічах



**На будоўлі Беларускага шыннага камбіната. Перадавая брыгада мантажнікаў— В. Дзямідаў, Г. Панятоўскі і М. Крачко.**

Фота **Ю. Лыскова (БелТА).**

размешчаны буйныя сучасныя станкабудаўнічыя прадпрыемствы — заводы, якія ствараюць заводы. Яны выпускаюць металарэжучыя станкі-аўтаматы, паўаўтаматы, аўтаматычныя лініі самага рознага прызначэння. Па аб'ёме гэтай прадукцыі рэспубліка займае трэцяе месца ў краіне пасля Расійскай Федэрацыі і Украіны, а па вытворчасці станкоў на душу насельніцтва Беларусь перагнала такія краіны, як Італія, Францыя, Англія, ЗША. І нашы станкабудаўнікі бяруць верх у гэтым спаборніцтве не толькі колькасцю, — яны не адстаюць у тэхнічным прагрэсе: свае станкі аснашчаюць вельмі дакладнымі падліковымі прыладамі, адчувальнымі прыборамі, праграмным кіраваннем.

Хімічная прамысловасць, якой, па сутнасці, зусім не было да рэвалюцыі, цяпер развіваецца ў нас самымі шпаркімі тэмпамі. У строй дзеючых уступаюць навейшыя хімічныя прадпрыемствы. Мы іх добра ведаем: гэта нафтаперапрацоўчы завод у Полацку і завод штучнага валакна ў Светлагорску, Гомельскі суперфасфатны і Бабруйскі завод гумава-тэхнічных вырабаў, азотнатукавы ў Гродна і лакафарбавы ў Лідзе. На чарзе новыя прадпрыемствы — чацвёрты калійны ў Салігорску, камбінат сінтэтычнага валакна (лаўсану) у Магілёве, шынны ў Бабруйску, нафтахімічны пад Мазыром. Беларусь становіцца краінай вялікай хіміі.

Хутка крочыць уперад і энергетыка. У 1913 годзе магутнасць усіх электрастанцый Беларусі складала 5,3 тысячы кілават, а выпрацоўвалі яны энергіі ўсяго 3 мільёны кілават-гадзін, або па 0,43 кілават-гадзіны на душу насельніцтва.

Камуністы, рабочыя і сяляне Беларусі сваімі намаганнямі і працай рабілі ўсё, каб ажыццявіць вялікі ленінскі запавет — стварыць у Краіне Саветаў густую сетку электрастанцый. Цяпер у рэспубліцы дзейнічае шэраг буйных цэнтраў энергетыкі — мінскія і полацкія цеплаэлектрацэнтралі, Васілевіцкая, Смалявіцкая, Бярозаўская ДРЭС і іншыя. Усе яны ўваходзяць у адзіную энергасістэму, злучаную з энергасістэмамі паўночнага захаду СССР і міжнароднай «Мір».

Магутнасць электрастанцый рэспублікі складае каля 2,5 мільёна кілават, а выпрацоўка энергіі ў мінулым годзе дасягнула амаль 13 мільярдаў кілават-гадзін.

Электраэнергетыка дазволіла перавесці эканоміку рэспублікі на навейшую тэхнічную базу, стварыць развітую цяжкую індустрыю. Яна пранікла ва ўсе галіны гаспадаркі, аблегчыла і зрабіла больш прадукцыйнай працу людзей, трывала ўвайшла ў быт і культуру народа, паскараючы наш рух да камунізма.

У бліжэйшы час уступяць у строй новыя электрастанцыі ў Магілёве, Бабруйску, Гродна. На поўную сілу запрацуе лукомльскі электрагігант. У перспектыве — будаўніцтва некалькіх цеплаэлектрастанцый і атамнай станцыі.

У электрыфікацыі, у стварэнні





цяжкай прамысловасці Уладзімір Ільіч Ленін бачыў галоўны змест індустрыялізацыі. Іх ён разглядаў не як самамэту, а як сродак развіцця ўсіх галін эканомікі, лёгкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі і ўздыму на гэтай аснове дабрабыту працоўных.

«Калі б мы маглі, — марыў У. І. Ленін, выступаючы вясной 1919 года на VIII з'ездзе партыі, — даць заўтра 100 тысяч першакласных трактароў, забяспечыць іх бензінам, забяспечыць іх машыністамі (вы выдатна ведаеце, што пакуль гэта — фантазія), то сярэдні селянін сказаў бы: «Я за камунію» (г. зн. за камунізм)».

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі з поспехам ажыццёўлена гэтая ленінская мара. Толькі адзін Мінскі трактарны завод даў краіне звыш 700 тысяч першакласных машын. Велізарны трактарны парк знаходзіцца на ўзбраенні працаўнікоў беларускай вёскі — семдзесят пяць тысяч сталёвых коней. У іх распараджэнні — звыш 50 тысяч грузавых аўтамабіляў, 19 тысяч збожжаўборачных камбайнаў, многа іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. У вёсках рэспублікі выкарыстоўваецца звыш 130 тысяч электрарухавікоў. Механізацыя і аўтаматызацыя трывала ўваходзіць у сельскагаспадарчую вытворчасць. Лепшыя жывёлагадоўчыя фермы, асабліва ў вёсках Гродзеншчыны, цяпер ужо нагадваюць цэхі фабрык або лабараторыі. Падача корму жывёле, уборка памяшканняў і іншыя работы выконваюць механізмы.

У калгасах і саўгасах з году ў год расце і сетка прамысловых прадпрыемстваў для перапрацоўкі прадуктаў паляводства і жывёлагадоўлі, рамонту абсталявання, вырабу будаўнічых матэрыялаў. Сельскагаспадарчая вытворчасць становіцца адной з індустрыяльных галін. Многія прафесіі, якія раней лічыліся гарадскімі, атрымліваюць сталую сельскую прапіску.

Да паўвекавога юбілею Савецкай Беларусі закончана электрыфікацыя ўсіх вёсак, усіх населеных пунктаў з васьмю і больш дварамі. У калгасе «Новы быт» пад Мінскам упершыню ў дамах сельскіх



**Лукомльскі электраволат дзейнічае. Наладку паветраных выключальнікаў вядуць слесар І. Кулак і наладчык В. Маскалёў.**

Фота **Г. Усламава (БелТА).**

працаўнікоў устаноўлены кухонныя электрапліты.

Прыгажэе і знешні выгляд беларускіх вёсак. Услед за калгасамі імя Калініна Нясвіжскага раёна, «Гвардыя» Берастовіцкага раёна, «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна дзесяткі і сотні іншых гаспадарак ствараюць пасёлкі гарадскога тыпу. Так крок за крокам, паступова і няўхільна сціраюцца ў нас грані паміж горадам і вёскай, паміж рабочымі і сялянамі, мацнее іх братні саюз і дружба. І гэта — лепшы адказ на паклёп буржуазных ідэолагаў, у тым ліку асеўшых на Захадзе беларускіх нацыяналістаў, якія сцвярджаюць, што індустрыялізацыя краіны і калектывізацыя сельскай гаспадаркі нібыта давялі да галечы наша сялянства, што ў СССР існуюць нейкія спрэчкі і варожасць паміж гарадскімі рабочымі і працаўнікамі вёскі.

Рост прамысловасці, увод у дзеянне мноства сучасных буйных



**На Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна апаратчыцы Святлана Раманава і Таццяна Сізоненка атрымалі першы лаўсан.**
Фота **Н. Жалудовіча (БелТА).**

прадпрыемстваў, якія выпускаюць самую разнастайную прадукцыю, патрабавалі значна расшырыць у рэспубліцы фронт навукова-даследчых работ, стварыць шэраг навуковых цэнтраў, адкрыць сетку тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў для падрыхтоўкі кадраў. За кароткі тэрмін у нас вырасла вялікая армія спецыялістаў і высокакваліфікаваных рабочых, якія смела рухаюць наперад вытворчасць.

Прайдзіце, напрыклад, па цэхах Мінскага аўтазавода. Сустрэнецеся тут і з вядомым сталяварам Героем Сацыялістычнай Працы Дзмітрыем Іванавічам Барашкіным, і з прадстаўнікамі малодшага пакалення рабочых — наладчыкам Уладзімірам Зарэцкім, слесарам-інструментальшчыкам Мікалаем Пармонам, электрыкам Іванам Іўчыкам і іх таварышамі. Пагутарыце з імі. Вам цяжка будзе пакінуць думку аб тым, што перад вамі не інжынеры. І не толькі тэхнічным кругаглядам яны нагадваюць інжынера, а і характарам працы. Немалую частку рабочага дня яны аддаюць разумовай працы, рабоце з чарцяжамі. Ды і па заробку яны могуць паспаборнічаць з інжынерамі. Адсюль і дабрабыт, і багатыя магчымасці для духоўнага росту.

Велізарныя пераўтварэнні, што адбыліся за гады Савецкай улады ў Беларусі, сталі магчымымі дзякуючы распрацаванай У. І. Леніным нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі, якая згуртавала народы нашай шматмоўнай Радзімы ў адзіны калектыў, што вядзе барацьбу за пабудову новага свету.

І сапраўды. Пачынаецца недзе сярод балот каля невядомых Шацілак або Чыжэвіч, на беразе Лукомля або ў Гродна новая будоўля, і адразу на дапамогу спяшаецца ўся краіна. Масква і Ленінград, Украіна і Урал, Прыбалтыка і Сібір, Грузія і Малдавія пасылаюць беларускім будаўнікам людзей, накіроўваюць эшалоны з матэрыяламі і механізмамі, металам і абсталяваннем. Менавіта так будаваліся ўсе нашы заводы, электрастанцыі, камбінаты, закладваліся шахты, адкрываліся нафтапромыслы.

У сваю чаргу, і Беларусь не застаецца ў даўгу перад братнімі народамі, адпраўляючы ім на дапамогу сваіх людзей, машыны, лес, цэмент, станкі. Мы ж ведаем: будзе хутка расці эканоміка Казахстана — будзе павышацца дабрабыт і працоўных Беларусі, Эстоніі, Расіі, усіх астатніх рэспублік. У дружбе народаў, у інтэрнацыяналізме — наша сіла.

Сустракаючы 100-годдзе з дня нараджэння Леніна, мы гаворым яму сёння: **«З вашым імем, Уладзімір Ільіч, мы стварылі ў роднай Беларусі моцную індустрыю, змянілі аблічча сваіх гарадоў і вёсак, выраслі і ўзмужнелі, знайшлі сапраўднае шчасце. З вашым імем мы смела і дружна ідзём уперад, да камунізма!»**



**Яшчэ адна ўдарная камсамольская — Пінскі камбінат верхняга трыкатажу. На ўчастку катонных машын.**
Фота **І. Змітровіча (БелТА).**



# Масква, Крэмль, Леніну...

**Гэтых лістоў на адзін і той жа адрас былі сотні, тысячы... Уладзіміру Ільічу Леніну пісалі з усіх куткоў маладой рэспублікі Саветаў, у тым ліку і з Беларусі.**

**Лісты ішлі з франтоў грамадзянскай вайны, са студэнцкіх аўдыторый, са школ, з гарадоў і вёсак. Да Леніна звярталіся за парадай, з прапановамі і думкамі, выказвалі яму і яго паплечнікам-бальшавікам сваю шчырасць і падтрымку, запрашалі ў госці, пыталіся пра здароўе, віншавалі са святам. Калі правадыр захварэў, людзі з трывогай сачылі за яго здароўем, жадаючы хутчэйшага выздараўлення.**

**Нельга без хвалявання чытаць лісты да Уладзіміра Ільіча, напісаныя моладдзю тых гадоў. У іх — дыханне юнацтва, авеянага ветрам рэвалюцыі, непахісная рашучасць змагацца за ленінскую справу, за справу партыі.**

**Мы падаем дзесяць лістоў Уладзіміру Ільічу Леніну ад першых беларускіх камсамольцаў, несаюзнай моладзі і ад піянераў.**

**Ад дзяцей г. Магілёва**

29 студзеня 1919 года.

Таварышу Леніну.

Мы, дзеці пралетарыяту горада Магілёва губернскага, цераз наш аддзел народнай асветы ў дзень нашага свята, перад пачаткам занятказ у пераўтворанай воляй рабочага класа школе, вітаем Вас, правадыр наш, нястомны змагар за светлае новае жыццё.

Няхай жывуць носьбіты чырвоных сцягоў, што лунаюць над новай, свабоднай працоўнай школай!

### Ад моладзі Гомельскага чыгуналіцейнага завода

Масква, Крэмль, Леніну. 2 жніўня 1922 г.

Мы, маладыя рабочыя трэцяга Гомельскага савецкага завода пры Гомметале, азнаёміўшыся на сваім сходзе 31 ліпеня з інфармацыяй таварыша Сямашкі на чырвонаармейскай канферэнцыі горада Масквы аб стане здароўя таварыша Леніна, шлём свайму любімаму правадыру пралетарскае прывітанне і цвёрда верым, што хутка яго сілы дазволяць яму зноў прыняць удзел у справах кіравання рэспублікай і што ён доўга яшчэ будзе стаяць на чале нашых кіраўнікоў на карысць сусветнай рэвалюцыі.

Няхай жыве сусветная пралетарская рэвалюцыя!

Няхай жыве яе правадыр таварыш Ленін!

### Ад дзіцячай камуны г. Гомеля

Масква, Крэмль, Леніну. 7 лістапада 1922 г.

Удзельнікі ўрачыстага адкрыцця доследнай школы-камуны імя пятай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі пад шэфствам губвыканкома, прадстаўнікі рабочых арганізацый Гомеля, навучэнцы і настаўнікі шлюць Вам, дарагі Ільіч, палымянае прывітанне. Наша дзіцячая камуна будзе верна захоўваць запаветы Кастрычніка.

### Ад сходу рабочай моладзі паліграфвытворчасці г. Мінска

20 сакавіка 1923 г.

Рабочая моладзь паліграфвытворчасці гор. Мінска, сабраўшыся 20 сакавіка ў ліку 200 чалавек на ўрачысты вечар, прысвечаны двухгадоваму юбілею ячэйкі КСМБ пры 1-й савецкай друкарні, шле Вам, дарагі правадыр, сваё гарачае прывітанне і жадае Вам хутчэйшага выздараўлення, каб Вы маглі прадаўжаць сваю работу на карысць працоўных усяго свету.

### Ад VII Гомельскага губернскага з'езда РКСМ

Масква, Крэмль, Леніну. 22 чэрвеня 1923 г.

Дэлегаты VII губернскага з'езда камсамола, якія кожны дзень з затоенай трывогай сочаць за газетным бюлетэнем і з радасцюназіраюць марудны, але верны ход твайго выздараўлення, спяшаюцца прывітаць цябе. Мы з нецярплівасцю чакаем твайго выздараўлення. Правадыр сусветнай рэвалюцыі павінен стаяць ля руля, і адначасова мы заяўляем, што падрыхтоўка змены, даручаная нам, ідзе добра, паспяхова, у баявым парадку, нашы рады растуць і мацнеюць. За адзін толькі апошні год наша гомельская арганізацыя вырасла ўдвая, вырасла ў пяцітысячную поўную сілы і рэвалюцыйнага энтузіязму армію. Гэта крэпасць наша побач з крэпасцю Кампартыі, узмацненнем змычкі горада з вёскай абяцае нам, нягледзячы на ўсе хітрыкі і падкопы сусветных драпежнікаў, перамогу.

Перамога за намі. Выздараўлівай жа ты, наш правадыр, і хутчэй вядзі нас да гэтай канчатковай перамогі.

### Ад вучняў 1-й гомельскай савецкай школы імя Леніна

27 кастрычніка 1923 г.

Дарагі Уладзімір Ільіч!

Мы, вучні 1-й гомельскай савецкай школы твайго імя, сабраўшыся на ўрачысты сход у гонар 5-й гадавіны савецкай школы, шлём табе гарачае прывітанне і пажаданне хутчэйшага выздараўлення.





На нашым сходзе мы ўспомнілі цябе, вялікі настаўнік і кіраўнік, чыім імем названа наша школа.

Мы ўсе, сабраўшыся тут, горача любім цябе, вялікі правадыр сусветнай рэвалюцыі, і абяцаем усе атрыманыя намі веды скарыстаць на карысць нашага вялікага Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

### Ад урачыстага сходу Віцебскага камсамола

29 кастрычніка 1923 г.

Цэнтральнаму Камітэту Расійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) і яе правадыру Уладзіміру Ільічу Леніну.

У дзень святкавання пяцігоддзя Усерасійскай арганізацыі РКСМ віцебскі камсамол на сваім урачыстым сходзе разам з дэлегацыямі ад Чырвонай Арміі, фабрык і заводаў шле сваёй кіраўніцы — Расійскай Камуністычнай партыі і яе правадыру Ільічу сваё гарачае камсамольскае прывітанне.

Гісторыя пяці гадоў існавання камсамола ёсць гісторыя незлічонага шэрагу рэвалюцыйных подзвігаў, гераічных сутычак расійскай рабочай і сялянскай моладзі з буржуазіяй.

Чырвоны сцяг нашай слаўнай Камуністычнай партыі стаў для камсамольцаў і для ўсёй рабочай і сялянскай моладзі адзіным сцягам, пад якім варта змагацца і паміраць. Цяпер рабочая моладзь у новых умовах існавання нашай рэспублікі з неаслабнай энергіяй ажыццяўляе запаветы партыі — вучобы і працы.

Сёння нам споўнілася пяць гадоў. Наперадзе шэраг гадоў упартай працы.

Камсамол перад тварам наспяваючых рэвалюцыйных падзей на Захадзе яшчэ ў сто разоў мацней і больш энергічна возьмецца за сваю штодзённую працу і вучобу, але адначасова мы заяўляем, што па першым закліку ў патрэбны момант уся пралетарская моладзь пад кіраўніцтвам нашай партыі гатова даць апошні і рашучы бой сусветнаму капіталізму.

Няхай жыве наша слаўная баявая партыя камуністаў!

Няхай жыве яе правадыр таварыш Ленін!

Няхай жыве германская рэвалюцыя!

### Рэзалюцыя агульнага сходу дзяцей рабочых і сялян — вучняў Добрушскай 9-гадовай школы імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Студзень.

Мы, вучні Добрушскай дзевяцігадовай школы імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, даведаўшыся пра смерць правадыра сусветнага пралетарыяту Уладзіміра Ільіча Леніна, выказваем свой глыбокі смутак з прычыны незаменнай страты, якую панёс рабочы клас усяго свету і, у прыватнасці, рабочая моладзь, і заяўляем аб сваёй гатоўнасці, згуртаваўшыся пад сцягам РКСМ, сустрэць грудзьмі ўсе выпрабаванні, якія выпадуць на долю пралетарыяту на шляху да светлай будучыні — камунізма, указаным незабыўным Уладзімірам Ільічом.

Вечная слава герою рэвалюцыі У. І. Леніну.

Помства і пракляцце сацыял-здраднікам, вялікай ахвярай злачынства якіх паў Уладзімір Ільіч.

### Ад сакратарыята Віцебскага губкома камсамола ў ЦБ юных піянераў ЦК РКСМ

Студзень.

Даведаўшыся пра смерць правадыра сусветнай рэвалюцыі дзядулі Ільіча, віцебская дружына юных піянераў на сваім агульным сходзе пастанавіла: прасіць ЦК перайменаваць спартакаўскія арганізацыі ў ленінскія і шырока асвятліць сярод дзяцей значэнне і справу Леніна, для чаго прасіць ЦБ у бліжэйшы час выдаць папулярнае выданне пра Леніна.

### Ад ячэйкі РКСМ аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік»

Цэнтральнаму Камітэту РКСМ. Студзень.

Ячэйка РКСМ аршанскага завода «Чырвоны Кастрычнік» выказвае найглыбейшае спачуванне з выпадку смерці нашага Ільіча, правадыра сусветнага пралетарыяту, і клянецца завяршыць пачатую ім справу.

# КАМРАД
# ОТА НАГЕЛЬ

Вялікі горад павольна ажываў. Берлінцы выйшлі са сваіх сховішчаў, знялі з балконаў і падаконнікаў белыя палотнішчы — адзнакі капітуляцыі, сталі атрымліваць харчовы паёк. Пачалася расчыстка руін: доўгімі ланцугамі выстройваліся жыхары горада ўздоўж вуліц, разбіраючы завалы бітай цэглы, друзу.

У парках буйна квітнеў бэз, пажылыя фраў вывелі на шпацыр сваіх схуднелых сэтараў і балонак. На скрыжаваннях вуліц газетчыкі бойка гандлявалі «Тэглішэ рундшаў», а на прымятых газонах сквераў ужо дурэлі непаседлівыя хлапчукі.

Перад савецкай ваеннай адміністрацыяй Берліна паўстала задача—забяспечыць горад палівам і харчам, пусціць у ход транспарт і прадпрыемствы, што засталіся непашкоджанымі. Трэба было абараніць насельніцтва і ад эпідэмій. У камендатуру — адзіны ў той час орган улады ў горадзе — ішлі ды ішлі наведвальнікі са сваімі просьбамі, прапановамі.

У адзін з першых мірных дзён Берліна і адбылася гэтая цікавая сустрэча.

У камендатуру цэнтральнага раёна Берліна зайшоў пажылы немец у паношаным фетравым капелюшы і шэрым плашчы-рэглане. Бледны, стомлены твар з высокім ілбом і маленькім рэзка акрэсленым падбародкам, глыбока запалыя вочы, сівізна на скронях — усё гаварыла пра тое, што гэты чалавек шмат перажыў.

— Прабачце, я хацеў бы бачыць каменданта, — прамовіў ён, звяртаючыся да афіцэра, які сядзеў за сталом і нешта пісаў.

— Я слухаю вас,— адказаў той. — Сядайце, калі ласка.

Немец стомлена апусціўся ў крэсла, зняў капялюш, дастаў насоўку. Мусіць, давала знаць хворае сэрца: ён часта і цяжка дыхаў.

— Я — Нагель. Мастак Ота Нагель,— абцёршы хусцінкай лоб, загаварыў ён.— Я нядаўна вызвалены з Маабіцкай гестапаўскай турмы, упершыню выйшаў з дому і — адразу да вас... Паслухайце мяне...

— Калі ласка, пан Нагель.

— Пан? О, не! Камрад Нагель,— усміхнуўшыся, паправіў наведвальнік. — Прашу вас называць мяне толькі так.

Камендант кіўнуў галавою:

— Я вас слухаю, таварыш Нагель...

Усё, што расказаў мастак, было такое важнае, што афіцэр адразу ж звязаўся з цэнтральнай камендатурай, атрымаў дазвол на сустрэчу з генералам і выехаў туды разам са сваім госцем. Не прайшло і гадзіны, як Ота Нагель сядзеў у кабінеце генерала М. Э. Бярзарына і зноў з усімі падрабязнасцямі расказваў пра тое, што прывяло яго ў камендатуру.

Ота Нагель быў даўнім і верным сябрам нашай краіны.

У маі трыццаць другога года, у час сваёй шостай паездкі ў Савецкі Саюз, ён наведаў у Маскве вядомага савецкага скульптара Мяркурава. Так, так, таго самага, які ў 1924 годзе здымаў пасмяротную маску з Уладзіміра Ільіча Леніна. Адбылася цёплая сустрэча. Мяркураў, высока ацэньваючы талент Нагеля, з сардэчнай павагаю паставіўся да госця з Берліна і ў гонар дружбы падараваў Ота Нагелю гіпсавы зляпак з твару Ільіча — дакладную копію маскі, што захоўваецца ў Цэнтральным музеі У. І. Леніна ў Маскве.

У 1933 годзе ў Германіі да ўлады прыйшлі фашысты. У краіне пачаліся жудасныя пагромы і рэпрэсіі. Кожны немец, западозраны ў прыхільнасці да камуністаў ці ў сімпатыях да краіны Саветаў, рызыкаваў не толькі свабодаю, але і жыццём.

Ота Нагель разумеў: падазрэнне або чый-небудзь данос і — фашысты знішчаць яго і сям'ю. Таму неяк ноччу, добра ўпакаваўшы свой скарб у ацынкаваную бляшанку, ён закапаў яе ў надзейным месцы.

Праз некаторы час гестапаўцы, якім была добра вядома прагрэсіўная дзейнасць берлінскага мастака, усё ж уварваліся ў яго дом. Вобыск не даў ніякіх вынікаў. Тым не менш, Нагель быў арыштаваны. Абвінавачвалі ў «камуністычнай прапагандзе». Гэтага ў тыя часы было дастаткова, каб расправіцца з чалавекам без суда і следства. Допыты чыніліся кожную ноч. Спачатку толькі вялі допыт — абразліва, груба. Потым пачалі біць. Білі так, што на целе не заставалася жывога месца. Аблівалі ледзяной вадою, ледзь апрытомніваў — зноў дапытвалі, зноў білі...

Часам вязню здавалася, што не падняцца ўжо яму, не пабачыць неба, сонца. Часам хацелася памерці, толькі б скончыліся пакуты... Але і ў такія хвіліны нішто не магло прымусіць мастака-антыфашыста, мужнага барацьбіта і чалавека, адмовіцца ад сваіх перакананняў.

Нарэшце «негаваркога інтэлігенціка», як абразліва звалі Нагеля фашысцкія малойчыкі, кінулі ў канцэнтрацыйны лагер.

Жыццё ў лагеры было падобна на пакутлівую смерць: катаржная праца на будаўніцтве аўтастрад, міска баланды ў суткі, халодны барак за калючым дротам, пабоі, карцэр. І так дванаццаць гадоў.

Чаго толькі не перажыў ён за гэтыя гады ў фашысцкіх засценках! Ён схуднеў, срэбрам пакрыліся скроні, глыбокія маршчыны ўзаралі твар, надарвалася сэрца. Але час не здолеў зламаць волі змагара.

— У самыя цяжкія дні там, у няволі, — расказваў Ота Нагель каменданту Берліна, — мару пра свабоду я звязваў з імем і вобразам Леніна. І ці толькі я адзін! Калі б вы бачылі, з якой любоўю мае сябры па лагеры, антыфашысты, вымаўлялі ў няволі словы ЛЕНІН і РАСІЯ, колькі надзей яны ўкладвалі ў гэтыя простыя і вялікія словы!

Ленін і Расія... Гэта было як світанне, што ідзе з усходу. Як чакаеш яго пасля доўгай жахлівай ночы, як верыш, што дзень, які ідзе за гэтым світаннем, будзе бязвоблачна-светлым!

Незадоўга да канца вайны Ота Нагеля перавялі ў Берлін, у самую жахлівую і страшную Маабіцкую гестапаўскую турму. На шчасце, падаспелі савецкія войскі, і вязні Маабіта, а сярод іх і Ота Нагель, выйшлі на волю.

— Свабода!— упершыню за час свайго расказу ажывіўся стары мастак.— Сапраўды, спачатку ў гэта цяжка было паверыць. Усё здавалася сном — чыстае неба над галавою, магчымасць без перашкод ісці, куды захочаш, выгляд стомленых, запыленых, але з харошай, прыязнай усмешкай на вуснах савецкіх салдат... Вы ведаеце, я нават заплакаў ад радасці. А потым проста з турмы, перш, чым заглянуць дахаты, паспяшаўся да месца, дзе была закапана запаветная бляшанка.

— Вы не можаце ўявіць, як я тады хваляваўся. Гіпсавая ж маска праляжала ў зямлі дванаццаць гадоў. Але, на шчасце, яна добра захавалася, і, калі дазволіце, я гатовы гэта паказаць вам.



Ота Нагель з жонкай перадаюць дарагую рэліквію генерал-палкоўніку А. П. Курачкіну. Гэты здымак зроблены 25 гадоў таму назад.

На прыём да прадстаўніка Савецкай ваеннай адміністрацыі ў Берліне генерал-палкоўніка А. П. Курачкіна Ота Нагель прыйшоў з жонкаю.

Перш, чым уручыць дарунак савецкаму генералу, Ота Нагель ад усяго сэрца паціснуў яму руку і сказаў:

— Я чуў, у сорак першым годзе, пры эвакуацыі Цэнтральнага музея Уладзіміра Ільіча Леніна з Масквы, загінулі некаторыя каштоўныя экспанаты музея. Можа, і пасмяротная маска Ільіча? Ці трэба казаць, як мне шкада расставацца з гэтым падарункам савецкага калегі і сябра. Але, калі ён хоць у некаторай меры здольны замяніць страчанае, вазьміце і перадайце гэта ў музей. Перадайце разам з маёй сардэчнай падзякай Савецкай Арміі за тое, што яна знішчыла фашызм і пазбавіла мільёны людзей ад гітлярызму.

●

Вось і ўся гісторыя, якую расказаў мне знаёмы афіцэр. Пазней я даведаўся, што чуткі пра згубленыя экспанаты Цэнтральнага музея У. І. Леніна былі памылковыя. Калі гэта высветлілася, гіпсавая маска Ільіча была звернута Нагелю, і цяпер яна захоўваецца ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

**Анатоль БЕЛАШЭЎ.**



# САМЫЯ ПРЫГОЖЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

● Фотарэпартаж Валянціна ЖДАНОВІЧА





Ніна Шапчук вырабляе за змену 280 метраў тканіны. Яна ўдарніца камуністычнай працы, дэпутат раённага Савета, важатая піянерскага атрада ў 29-й школе.



Гэта толькі ў песні сказана, што «на трактарным заводзе самыя прыгожыя дзяўчаты». Мінская Афрадыта — жанчына справядлівая і добрая — не паскупілася на прыгажосць і раўнамерна, шчодра рассыпала яе па ўсіх дзявочых тварах. Таму вельмі цяжка сказаць, дзе ў нашым горадзе найпрыгажэйшыя дзяўчаты.

Лягчэй сказаць, на якім прадпрыемстве прыгажунь больш. Вядома, там, дзе ўвогуле працуе больш дзяўчат. І вось тут трактаразаводцам нават песня не паможа, бо самае вялікае дзявочае прадпрыемства Мінска — камвольны камбінат імя 50-годдзя Кампартыі Беларусі. Каб пераканацца ў гэтым, варта пастаяць ля прахадной а трэцяй гадзіне дня, калі на камбінаце пераменка і дзве людскія ракі плывуць адна насустрач другой.



Марыя Сцяпанаўна Конанава. Яна ўзначальвае Мінскі камвольны.

Праз дваільна-мерныя машыны сёлета пройдзе больш за 17 мільёнаў метраў тканін. Сярод іх новыя — «Лада», «Руслан», «Лістапад» і іншыя.







Камсорг змены Галіна Сцешыц і сакратар камітэта камсамола ткацкай вытворчасці Ася Шаўкун заклапочаны, каб як мага лепш здала моладзь ленінскі залік.



Тамара Грынь — адна з васьмітысячнай арміі няўрымслівых камвольшчыц.

Упэўнены, што доўга ля прахадной вам не выстаяць. Імклівая плынь абавязкова скране вас з месца і панясе на сваіх хвалях, зразумела, да камбіната, бо такая яна чалавечая натура — хочацца ўбачыць нябачанае.

А паглядзець ёсць на што.

Пад высачэзнымі бетоннымі купаламі дрыжыць, ракоча, дробна і часта грукае сінявата-зялёнае паветра. Куды там кузня! Часальныя машыны, прадзільныя і ткацкія станкі граюць такую музыку, што з непрывычкі закладзе ў вушах. Затое вачам — любата. Геаметрычныя лініі верацён, шпуляў рассякаюць дрыготкую прастору на раўнюткія скібы. Паўкружжы шкляных пралётаў-ліхтароў перакінуліся над машынамі, як фермы мастоў, а паміж імі — бясконцыя ланцугі люмінесцэнтных свяцільнікаў. Менавіта бясконцыя, бо з аднаго канца цэха ледзь бачны другі канец і ўсе лініі там сыходзяцца, як на ілюстрацыі класічных законаў перспектывы. Нават колеры размеркаваны строга: сіні тут, чырвоны побач, белы і чорны сухавата падкрэсліваюць рытмічную спрошчанасць.

Было б сумнавата ў гэтым геаметрычна арганізаваным кветніку, каб не вясёлыя ўспышкі чырвоных у белы гарошак хусцінак, што мільгаюць паміж машынамі, каб не тыя кароткія ўсмешкі, што незнарок пасылаюцца разгубленаму экскурсанту, каб не прамяністыя позіркі чорных, блакітных, шэрых вачэй.







Люда Зайко на камбінаце зусім нядаўна.

І вось ужо бурыцца аднатонная геаметрыя машын, і знікае пачуццё фізічнай прыніжанасці перад жалезным арганізмам шумнай тэхнікі, і не бачыш ужо аднастайнай мітусні рычагоў. Перад вачыма — не прадукт рук чалавечых, а самі рукі.

Раптам з кінатэкі памяці вырваліся і наплывам пабеглі рухі і жэсты розных людзей. Івянецкі ганчар лашчыць, гладзіць, абдымае пальцамі камяк тлустай гліны, і яна то пухне ёмістым шарам, то выцягваецца высокай свечкай, а ў наступны момант нечакана ператвараецца ў глечык... Педантычны рух гумавай пальчаткі — і халодны скальпель кранаецца стомленага сэрца... І як два вялізныя матылі, дзве рукі ў белых манжэтах — на клавішах раяля ў шпаркім алегра.

Якімі б чароўнымі ні здаваліся гэтыя рухі, які б ні адавочны іх сэнс і вынік, але павольнае, мяккае — толькі арфістка так здолее — глісанда ткачыхі па нітках асновы, што плыве паміж пальцамі, куды больш матэрыяльнае і зразумелае.

А вось энергічныя і па-жаночаму закругленыя рухі прадзільшчыцы — ні то ілюзіён, ні то чарадзейства. Яна хуценька ступае ўздоўж станка і робіць вельмі празаічную рэч — вяжа вузлы. Толькі і ўсяго. Тонкі прамень святла бяжыць уздоўж верацён, і дзяўчына бачыць, дзе абарвалася нітка. А здаля не відаць ні таго праменьчыка, ні той ніткі. І таму яе рухі — гэта



*Каб маладыя маці працавалі спакойна, камбінат мае восем дзіцячых садоў. У адным з іх з дзецьмі пасябравала малады педагог Люба Шпектарава.*

па-балетнаму адшліфаваная пластыка, артыстычная, таямнічая, грацыёзная. Прафесіяналізм таго ж парадку, што і віртуозная ігра на скрыпцы. І смешна глядзець на руплівую грукатлівую машыну, якая з хуткасцю кур'ерскага цягніка круціць свае колцы. Увесь яе аўтаматычны спрыт нічога не варты ў параўнанні са спрытам вунь той лёгкай постаці, што перабягае ад станка да станка.

Відаць, таму на камвольным так многа прыгажунь, што заняты яны чыста жаночай справай, якая патрабуе ад іх грацыі і спрыту. І менавіта таму, што яны прыгажуні, такое шырокае кола іх інтарэсаў. Яны разам з в'етнамскімі студэнтамі ўніверсітэта вывучаюць біяграфію Уладзіміра Ільіча Леніна і гісторыю маладзёжных Саюзаў. Змена імя Веры Харужай у другім ткацкім цэху стварае пры камбінаце музей гераіні. У клубе «Радзіма» рыхтуюць групу лектараў да 25-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй. Лектары паедуць да хлебаробаў. Для трох падшэфных сельскіх школ набылі спартыўны інвентар. Кіруюць дзяўчаты клубам «Пошук-66», дзе выхоўваюць падлеткаў жылога мікрараёна, а 25 дзяўчат-камсамолак — піянерважатыя ў суседніх школах. Свае эстэтычныя веды дзяўчаты паглыбляюць на занятках у клубе «Бірусінка». Дадайце сюды мноства гурткоў самадзейнасці і спорт, аўтапрабегі, турысцкія паходы, абмен вопытам з калегамі Журавіцкай ткацкай фабрыкі і з камсамольцамі Мінскага трактарнага.

Многія дзяўчаты з камвольнага ўжо даўно выканалі пяцігадовы план. Сёння яны змагаюцца за эканомію кожнай ніткі, каб два дні — як надыдзе Ленінскі юбілей — працаваць за кошт сэканомленай сыравіны.

Вось на што здатныя сапраўдныя прыгажуні!





Рамантыка рэвалюцыйных паходаў хвалюе маладых работніц.

Ёсць у камвольшчыц час і на танцы. Самадзейны калектыў рыхтуе да пастаноўкі харэаграфічную кампазіцыю «Слава працы».





Такія сустрэчы ў музеі бываюць часта. На гэты раз з віцебскімі піянерамі гутараць адзін з першых камсамольцаў С. Іваноўскі і партызан-заслонавец Г. Угрумаў.

# НАРОДНЫ МУЗЕЙ

Амаль пяць гадоў існуе ў Віцебску народны музей У. І. Леніна. Яго адкрылі напярэдадні 95-й гадавіны з дня нараджэння правадыра. Актыўным стваральнікам, а цяпер членам Савета музея з'яўляецца мастак Давід Барысавіч Тэпер. Больш як пятнаццаць гадоў з вялікай любоўю збірае ён матэрыял пра жыццё і дзейнасць Леніна, сустракаецца з людзьмі, якія ведалі і бачылі Ільіча, вядзе перапіску з ленінскімі музеямі краіны. Сабраны сотні рэпрадукцый, фотадакументаў, кніг, значкоў, марак — гэта дарунак народнаму музею ад віцяблян.

Музей атрымаў таксама падарункі ад старых бальшавікоў, якія працавалі з Уладзімірам Ільічом: ад Лідзіі Аляксандраўны Фоціевай, Алены Дзмітраўны Стасавай, Сцяпана Казіміравіча Гіля — былога шафёра Леніна, Мікалая Якаўлевіча Іванова. Тут захоўваюцца арыгіналы карцін мастакоў П. Васільева і Н. Багаткіна, якія наведалі музей, творы з даравальнымі надпісамі ад У. Сярова, М. Жукава, скульптуры А. Андрэева. Падаравалі музею памятныя падарункі і касманаўты П. Бляеў і А. Ляонаў.

Калі б сюды ні прыйшоў, тут заўсёды людна. Ахвотна наведваюць музей акцябраты і піянеры, камсамольцы, рабочыя, студэнты, калгаснікі, воіны Савецкай Арміі. Пакідаюць свае запісы.

У музеі праводзяцца піянерскія зборы, камсамольскія сходы, гутаркі, ленінскія чытанні. Тут юныя ленінцы сустракаюцца з ветэранамі рэвалюцыі, удзельнікамі грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, ударнікамі камуністычнай працы.

Савет музея ўзначальвае член КПСС з 1924 года адзін з першых камсамольцаў Віцебска Сямён Міронавіч Іваноўскі. Актывісты музея — старыя бальшавікі, навуковыя супрацоўнікі, выкладчыкі гісторыі, работнікі партыйных і савецкіх арганізацый.

У гэтыя дні паток наведвальнікаў музея асабліва вялікі.

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ.**





# СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАГА КІНЕМАТОГРАФА

Міхаіл Лявонавіч Крэсін нарадзіўся ў 1890 годзе ў г. Нікалаеве. Сям'я была вельмі бедная і мнагадзетная. З дзесяці гадоў хлопчыку прыйшлося ісці працаваць да гаспадара. Чытаў і займаўся тайком ад усіх. Потым экстэрнам здаў экзамены і паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. З першых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі пайшоў працаваць у Наркамасветы.

У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР нядаўна знойдзены цікавы дакумент. Вось яго змест:

**«3.IV-24 г. Гэтым сведчу, што я ведаю па службе тав. Крэсіна як добрага кінематаграфіста і лаяльнага савецкага работніка. Працаваў ён у Наркамасветы на такіх адказных пасадах, як загадчык кінапададдзела Пазашкольнага аддзела яшчэ ў пецярбургскі перыяд, потым камісарам Скобелеўскага камітэта пры пераходзе гэтага камітэта ў рукі Савецкай улады. Пазней ён быў намеснікам старшыні кінакамітэта пры старшыні Д. І. Лешчанку. У апошні час ён служыў выконваючым абавязкі дырэктара «Паўночна-заходняя кіно». Лічу прыцягненне тав. Крэсіна да адказнай работы ў савецкім кіно вельмі пажаданым, асабліва з прычыны мізэрнай колькасці людзей, якія добра ведаюць кінасправу і ў цяперашні час заслугоўваюць поўнага даверу.**

**Нарком па асвеце А. Луначарскі».**

На пасведчанні з хваляваннем чытаем прыпіску:

**«Тав. Крэсіна ведала па рабоце ў пазашкольным аддзеле і падтрымліваю думку А. В. Луначарскага.**

**Н. Крупская».**

Так пачалася работа Крэсіна ў беларускай кінематаграфіі.

1 снежня 1926 года ён назначаецца загадчыкам вытворчасці студыі «Белдзяржкіно». У 1927—1929 гадах кіруе здыманнем фільмаў: мастацкіх — «Кастусь Каліноўскі», «Яго высакароддзе», «У вялікім горадзе», «Джэнтльмен і певень» і дакументальнага «Такая наша Беларусь». У той час у Беларусі, акрамя Ю. Тарыча, прафесіянальных кінаработнікаў не было. Міхаіл Крэсін, дзякуючы свайму вопыту, аўтарытэту, старым кінематаграфічным сувязям прыцягнуў у беларускае кіно вядомых кінематаграфістаў. Сярод іх былі: старэйшы кінааператар Мікалай Казлоўскі, рэжысёр У. Гардзін, які паставіў на «Белдзяржкіно» «Кастуся Каліноўскага», «Чатырыста мільёнаў» і «Песню вясны» (па аповесці Я. Коласа «На прасторах жыцця»), а таксама здымаўся ў ролі пана Вашамірскага ў фільме «Салавей» (па аповесці З. Бядулі), у «Канцэрце Бетховена» і іншых.

Першыя беларускія кінастужкі разам з Ю. Тарычам і У. Корш-Сабліным ствaралі рэжысёры М. Данской, Р. Рашаль, М. Авербах, у іх здымаліся Л. Леанідаў, М. Сіманаў, Б. Ліванаў, М. Чаркасаў.

Кінематаграфія рэспублікі ўзбагачаецца такімі вядомымі мастацкімі кінафільмамі, як гісторыка-рэвалюцыйны «Яго высакароддзе», першая нацыянальная камедыя «Джэнтльмен і певень», прыгодніцкі фільм «Хвоі гамоняць» («Атаман Аса») па аповесці беларускага пісьменніка Анатоля Вольнага «Два», а таксама першымі навукова-папулярнымі і мультыплікацыйнымі стужкамі «Спрэчка паміж дамамі» і «Бунт зубоў». У фільме «Кастусь Каліноўскі» ўпершыню паявіліся на экране беларускія акцёры Барыс Платонаў і Уладзімір Уладамірскі. Амаль усе гэтыя рэжысёры і акцёры потым сталі народнымі артыстамі СССР, папулярнымі ў народзе, а тады, у 20-ыя гады, большасць з іх рабіла толькі першыя крокі, і, запрашаючы іх на пастаноўку таго ці іншага фільма або на ролю, трэба было разгадаць вялікі талент. У той час М. Крэсіна часта папракалі, што ён праяўляе слабасць, давяраючы фільм «нікому не вядомым Данскому і Авербаху». Але каб не было гэтага даверу, хто ведае, ці атрымала б савецкае кінамастацтва такія вядомыя фільмы Данскога, як трылогія пра Горкага, «Вясёлка», «Сельская настаўніца», «Сэрца маці» і іншыя.

Беларускія фільмы паступова атрымлівалі прызнанне ўсесаюзнага і замежнага гледача. Фільм «У вялікім горадзе» дэманстраваўся ў Германіі, Фінляндыі, Латвіі. Але найбольшы поспех выпаў на долю «Яго высакароддзя». Гэты фільм ішоў на экранах Аўстрыі, ЗША, Германіі, Кітая, Фінляндыі, Аргенціны, Уругвая. «Кастуся Каліноўскага» ў Мінску за два тыдні паглядзела больш за трыццаць тысяч чалавек. Для таго часу гэта быў рэкорд.

Умовы, у якіх даводзілася працаваць першым беларускім кінематаграфістам, былі вельмі цяжкія. Для здымання «Яго высакароддзя» ўдалося заключыць дагавор з фабрыкай «Саўкіно» на арэнду трох павільёнаў з той умовай, што здыманне будзе ісці ў трэцюю змену, г. зн. з 23 гадзін. У павільёнах тэрмометр паказваў ніжэй нуля. Марк Данской пазней успомніць пра тыя часы: «У халодным, напалову разбураным будынку быў толькі адзін пакой. Там мы і сядзелі. Працавалі горача, без аглядкі, тыднямі не бывалі дома, самі гатавалі сабе ежу. Замест дроў служылі дублі карцін».

Чым толькі не даводзілася займацца загадчыку вытворчасці Міхаілу Крэсіну! Ён запрашаў на студыю рэжысёраў і апeратараў, разам з імі шукаў акцёраў, грымёраў, касцюмераў, купляў кінаплёнку, асвятляльную апаратуру, арандаваў павільёны, складаў каштарысы, каляндарныя планы, заказваў кінасцэнарыі, вёў усе фінансавыя справы. Але асноўным яго клопатам было стварэнне беларускай кінафабрыкі. У гэтым яму шмат памагаюць кіраўнікі ўрада Беларусі і, вядома, А. Луначарскі і Д. Лешчанка. Нарэшце, 23 чэрвеня 1927 года пытанне з фабрыкай было канчаткова вырашана: «Белдзяржкіно» атрымала памяшканне і размясцілася ў Ленінградзе на канале Грыбаедава, 90. Міхаіл Крэсін стаў дырэктарам кінафабрыкі, на якой пазней, у 30-я гады, было створана шмат цікавых кінафільмаў.

«Беларускі ўрад,— пісаў М. Крэсін,— быў задаволены стварэннем сваёй першай кінафабрыкі і кінакарцін на беларускія тэмы. Маю работу высока ацанілі, узнагародзіўшы Ганаровай граматай і каштоўным падарункам. У 1929 годзе мяне запрасілі рэжысёрам на ленінградскую кінастудыю «Саюзкіно». Быць рэжысёрам — мая даўняя мара. Я расстаўся, праўда, з болем у сэрцы, з любімым дзецішчам — кінафабрыкай «Белдзяржкіно».

Сярод рэжысёрскіх работ Міхаіла Лявонавіча найбольш вядомы фільм «Сэрца Саламона» («Інтэрнацыянал»), пастаўлены ў садружнасці з С. Герасімавым — пра класавую барацьбу ў вёсцы, будаўніцтва сялянскай камуны.

Пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле М. Крэсіна, акрамя «Белдзяржкіно», было створана чатыры студыі: кінакамітэт «Паўночназахкіно» (цяпер «Ленфільм»), «Кіно-Поўнач», трэцяя фабрыка Дзяржкіно, якая ўвайшла пазней у «Масфільм», і «Леннавучфільм», а таксама інстытуты: экраннага мастацтва, фатаграфіі і фотатэхнікі і кінакурсы пры студыі «Кіно-Поўнач», якія, дарэчы, скончыла народная артыстка БССР Г. Б. Абуховіч.

Да апошніх дзён свайго жыцця Міхаіл Крэсін (ён памёр у 1953 годзе) працаваў на ленінградскіх студыях як рэдактар і арганізатар вытворчасці. Народны артыст СССР Рыгор Рашаль, які ў дваццатыя гады працаваў на «Белдзяржкіно», так успамінае пра свайго першага дырэктара: «Глыбокую даніну павагі мне хочацца прынесці М. Л. Крэсіну. Вельмі важна, каб у цябе паверылі, і вельмі важна, каб хацелі памагчы. Мяне да гэтай пары здзіўляе і радуе тая смеласць, з якой Крэсін даверыў мне (па сутнасці, нават не кінааматару) пастаноўку складанай карціны. Уся тая цеплыня, якую недадавала нам надвор'е і неўладкаванасць студыі, з ліхвою кампенсавалася вясёлай заклапочанасцю, пастаянным саўдзелам ва ўсіх справах нашага дырэктара...»

Беларускія кінематаграфісты захоўваюць светлую памяць пра М. Л. Крэсіна, з імем якога звязаны першыя суровыя і слаўныя старонкі беларускага кінематографа.

**Ілья РЭЗНІК.**

# НА ЖЫЦЦЁВЫМ ШЛЯХУ

## З УСПАМІНАЎ КІНЕМАТАГРАФІСТА

Як думаеш, дык не так ужо многа і пражыта, але тое, што прыйшлося перажыць нашаму пакаленню, здаецца, не ўмесціш і ў стагоддзе. У дзяцінстве мы чулі далёкія водгукі «баксёрскай» вайны ў Кітаі, у маленстве перажылі руска-японскую вайну і рэвалюцыю 1905 года, у юнацтве — сталыпінскую рэакцыю і ўздым рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Як сёння помню пасяджэнне Дзяржаўнай думы (я быў тады сярод «гасцей» на хорах у зале пасяджэнняў Таўрычаскага палаца), на якім у адказ на пытанне сацыял-дэмакратычнай фракцыі бальшавікоў пра Ленскі расстрэл міністр унутраных спраў Макараў заявіў: «Так было, так будзе». Нібы ўчора гэта было, так ярка бачу перад сабой худы, злосны твар гэтага міністра, калі ён, ашалела падняўшы над галавой дрыготкія ад злосці рукі, заклікаў да вынішчэння крамолы; бачу, як старшыня Дзяржаўнай думы Радзянка прадастаўляе слова дэпутату ад бальшавікоў і ў гэтую ж хвіліну падымаюцца і выходзяць з залы ўсе царскія міністры на чале з Какоўцавым — гэтым спрытным царадворцам і вялікім хабарнікам.

Услед за гэтым пачалі разгортвацца падзеі яшчэ большай важнасці: забастоўка ў Пецярбурзе, першая сусветная вайна, Лютаўская рэвалюцыя. А потым... Потым, як радасны шквал, пранесліся адзін за адным незабыўныя дні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Я памятаю сустрэчу Леніна на Фінляндскім вакзале і яго выступленне на бранявіку, трэці кангрэс Камінтэрна, стваральны пафас першых пяцігодак. Але больш за ўсё помніцца тое, чым я жыў тады, — зараджэнне новай, савецкай культуры, у прыватнасці, такой яе галіны, як кінематаграфія. Пра гэта мне і хочацца падзяліцца сваімі ўспамінамі.

Народнаму камісарыяту асветы давялося сутыкнуцца з кінематаграфіяй амаль з першых дзён свайго існавання. У Петраградзе да рэвалюцыі існавала даволі развітая сетка камерцыйных кінатэатраў — іх налічвалася каля трохсот трыццаці. Месціліся яны ў невялікіх памяшканнях на 100—150 месц. Прагныя да нажывы кінадзялкі і спекулянты адкрывалі іх, дзе толькі маглі — у майстэрнях, чайных, складах.

Паралельна з прыватнымі фірмамі існавала вядомая ў той час



Міхаіл Крэсін.

«грамадская» арганізацыя — Скобелеўскі камітэт, які займаўся кінасправамі. Гісторыя ўзнікнення кінааддзела ў Скобелеўскім камітэце такая. У Ковенскай крэпасці служыў у 1913 годзе артылерыйскі афіцэр у чыне штабс-капітана — Мікалай Змітравіч Селівановіч. Будучы адукаваным чалавекам, ён выпісаў з Коўна фільмы і ўстанавіў у сваім палку кінапраекцыйны апарат. Салдаты ахвотна наведвалі кінасеансы: у тыя дні, калі дэманстраваліся фільмы, яны нават у горад не адпрошваліся. Калі ж фільм у прызначаны дзень па якой-небудзь прычыне не паказваўся, салдаты прасілі пусціць яго платна, за іх кошт.

Селівановіч, прыехаўшы ў Петраград на пабыўку, расказаў пра свой «вопыт» у Скобелеўскім камітэце. Дзялкі з камітэта, якім ідэя Селівановіча арганізаваць у рускай арміі манаполію на кінаўстаноўкі спадабалася, бо пахла вялікімі барышамі, вырашылі ўзяць справу ў свае рукі, а ад Селівановіча пазбавіцца. Так яно і выйшла. Селівановіч неўзабаве памёр, а Скобелеўскі камітэт павёў справу без яе ініцыя-

тара. Установа гэтая знаходзілася пад апекай цара, і вядома, якія фільмы яна паказвала салдатам.

Лютаўская рэвалюцыя ніякіх змен у справу не ўнесла. На экран прадаўжалі выходзіць усё тыя ж фільмы, але з назвамі, змененымі «пад рэвалюцыю». Пасля Кастрычніка кіраўнікі Скобелеўскага камітэта нейкім чынам умудрыліся атрымаць рэзалюцыю на права самастойнага існавання і прадаўжалі сваю «дабрачынную» дзейнасць. Яны выпусцілі хроніку «Разгром Устаноўчага Сходу», у якой паклёпнічалі на партыю бальшавікоў.

Назначаны камісарам у Скобелеўскі камітэт, я пачаў, не спяшаючыся, так сказаць, далікатна, прымаць справы. У першыя ж дні работы прыёмачнай камісіі былі выяўлены злоўжыванні, і я паехаў да старшыні ЧК Урыцкага з просьбай арыштаваць усё кіраўніцтва Скобелеўскага камітэта.

На маё здзіўленне, Урыцкі няласкава паставіўся да маёй прапановы.

— Вы добра, уважліва праверылі ўсе акалічнасці справы? А можа, мы арыштуем невінаватых? Я іх арыштую, калі вы настойваеце, але помніце, калі высветліцца, што яны невінаватыя, вы галавой адкажаце за гэта.

Ён шпарка хадзіў па сваім вялікім кабінеце, твар яго быў бледны і стомлены.

— Я цэлую ноч шукаў ворагаў у адным месцы, а яны аказаліся ў другім. Гэта чорт ведае што такое! Сапраўдны бальшавік павінен ведаць, дзе знаходзіцца вораг, і быць да яго бязлітасным. Але толькі да сапраўднага ворага. Зразумела?

Невялікага росту, у акулярах, якія часам спаўзалі на кончык носа, ён шпарка хадзіў па пакоі і, зрэдку спыняючыся і пазіраючы свайму субяседніку ў вочы, строга паўтараў:

— Трэба быць сумленным. Трэба быць сумленным.

Ён быў сапраўды сумленны, і ўвесь яго воблік гаварыў пра гэта. Гледзячы на яго, я думаў: вось чалавек, які шукае ісціну. Толькі ісціну.

Да рэвалюцыі ў Петраградзе не было кінафабрык. Кінавытворчасць была сканцэнтравана ў Маскве і часткова на поўдні — у Крыме і Адэсе. Кіруючы па заданню Н. К. Крупскай пададдзелам, задачай якога з'яўлялася наладжванне работы клубаў, дамоў цвярозасці, дабрачынных таварыстваў, я рашыў пазнаёміцца з работай «Пастаяннай камісіі народных чытанняў». Гэта была царская і богаўгодная ўстанова, якая выпускала вялікімі тыражамі кніжную макулатуру рэлігійнага напрамку. Камісія знаходзілася пад спецыяльнай апекай цара. Агледзеўшы яе «гаспадарку», я прыйшоў да вываду, што трэба выкінуць на сметнік усе вынікі яе дзейнасці, і ўжо збіраўся пакінуць гэтую ўстанову, як раптам заўважыў шчыльна зачыненыя дзверы. Што там за імі? Папрасіў адчыніць. Тое, што я ўбачыў, усхвалявала мяне: у пакоі стаяў праекцыйны кінаапарат, а на паліцах ляжала некалькі дзесяткаў фільмаў: «Руслан і Людміла» па Пушкіну, «Рудзін» па Тургеневу, «Дон Кіхот» па Сервантэсу і іншыя. «Пастаянная камісія» за грошы давала іх напракат у школы і на вечары.

Пра знаходку я далажыў Луначарскаму і Крупскай. Было вырашана павесці агітацыйную работу з дапамогай праекцыйнага апарата ў рабочых раёнах. З гэтага часу наш пададдзел атрымаў афіцыйную назву кінапададдзела Пазашкольнага аддзела Наркамасветы і на яго было ўскладзена вырашэнне пытанняў, звязаных з кіно.

Першы сеанс быў дадзены ў кінатэатры «Калізей». Мы паказалі фільм «Руслан і Людміла». У зале было вельмі холадна, гледачы стукалі нагамі аб падлогу, каб сагрэцца. Праслухаўшы лекцыю Луначарскага пра Пушкіна і паглядзеўшы фільм, рабочыя доўга не разыходзіліся, дзяліліся ўражаннямі пра фільм, пра лекцыю, пра дзень наступны...

Не гледзячы на тое, што да рэвалюцыі кінапрадпрыемствы знаходзіліся ў прыватных руках, у Расіі, побач з салоннымі ўльтрапсіхалагічнымі і ўра-патрыятычнымі кінастужкамі, былі створаны дзесяткі фільмаў, звязаных з вялікай літаратурай і вялікім мастацтвам. Было экранізавана многа твораў рускай і зарубежнай класікі. Так, напрыклад, рэжысёрам У. Гардзіным былі пастаўлены фільмы: «Дваранскае гняздо» па Тургеневу, «Вайна і мір», «Крэйцарава саната», «Анна Карэніна», «Ці многа чалавеку зямлі трэба» па Льву Талстому, «Здань» па Ібсену, «Дні нашага жыцця» і «Думка» па Л. Андрэеву, «Прывалаўскія мільёны» па Маміну-Сібіраку. Пратазанаў паставіў «Айца Сергія» па Льву Талстому, «Пікавую даму» па Пушкіну.

Фірма Ханжонкава стварыла спецыяльны аддзел навуковага фільма. Былі выпушчаны дзесяткі кінастужак, якія таксама мелі свайго гледача.

Зразумела, дарэвалюцыйная кінапрадукцыя не ідзе ды і не можа ісці ў параўнанне з рускім класічным мастацтвам — літаратурай, музыкай, жывапісам, скульптурай. Але ж трэба сказаць, што, з аднаго боку, зараджэнне кінематаграфіі супала з упадкам буржуазнай культуры, а з другога — яна адразу ж трапіла ў лапы кінадзялкоў і капіталістаў і па гэтых прычынах не паспела разгарнуцца як след. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, ужо ў 1915 годзе ў газеце «Театр» М. Горкі так гаварыў пра гэтае маладое мастацтва: «Я ўхваляю кінематограф будучыні, які, безумоўна, зойме выключнае месца ў нашым жыцці. Ён з'явіцца распаўсюджвальнікам шырокіх ведаў і папулярызатарам мастацкіх твораў. І калі кінематограф пранікне ў дэмакратычнае асяроддзе, лічачыся з патрабаваннямі і густам народу, калі ён стане «сеяць разумнае, добрае, вечнае» там, дзе гэта неабходна, тады яго роля будзе надзвычай высокая, а гэта, безумоўна, дасць кінематографу будучыню».

На першым часе мы ахвотна выкарыстоўвалі лепшае з таго, што пакінула нам дарэвалюцыйная кінематаграфія, і пераконваліся, што гэта прыносіць карысць. Не маючы яшчэ сваіх кінатэатраў, мы наладзілі дэманстрацыю фільмаў у адной з залаў Зімовага палаца (Мікалаеўскай). Перад пачаткам наладжваліся гутаркі ці даклады.

Адным з першых мерапрыемстваў пры адкрыцці Зімовага палаца быў вечар, прысвечаны работам старэйшага рускага майстра каляровай фатаграфіі прафесара Пракудзіна-Горскага. Яго тэарэтычныя і практычныя работы ў галіне каляровай фатаграфіі былі вядомы не толькі ў нас, але і за межамі Расіі. Гэтыя работы (аўтахром) далі значны штуршок развіццю каляровай фатаграфіі.



**А. Луначарскі, Д. Лешчанка і У. Маякоўскі выходзяць з будынка Наркамасветы. 1918 год.**

Па звычаях таго часу, перад пачаткам вечара павінен быў быць прачытаны даклад пра бягучы момант (дакладчык — Луначарскі). Выступленні А. В. Луначарскага карысталіся вялікай папулярнасцю, і тыя, хто прыйшоў паглядзець каляровыя фота Пракудзіна-Горскага, яшчэ з большым нецярпеннем чакалі выступлення Анатоля Васільевіча. І якое ж было наша здзіўленне, калі дакладчык загаварыў пра... каляровую фатаграфію. І загаварыў з глыбокім веданнем справы, як вялікі спецыяліст. Пазней я даведаўся, што Луначарскі атрымаў спецыяльную адукацыю і як хімік ведаў і любіў каляровую фатаграфію.

Я паслаў Луначарскаму запіску, у якой напомніў пра тэму даклада. Луначарскі прачытаў запіску і ў момант зарыентаваўся: «Усё, што я вам гаварыў пра каляровую фатаграфію і работы Пракудзіна-Горскага, вы зараз пабачыце на яго цікавых дыяпазітывах. На іх, на гэтых дыяпазітывах, паказаны цу-

доўныя куткі нашай Радзімы, якая сёння знаходзіцца ў наступным палітычным становішчы...» І пачаў расказваць пра палітычнае становішча маладой савецкай дзяржавы. Мы супакоіліся. Вечар прайшоў удала.

Акрамя Луначарскага і Крупскай, кінасправай цікавіўся Дзмітрый Ільіч Лешчанка. Гэта быў стары бальшавік, член партыі з самага яе заснавання, чалавек, блізкі да Леніна і яго сям'і, прафесар хіміі і вялікі знаўца фатаграфіі. Вакол яго, як сакратара Дзяржаўнай камісіі па асвеце, пачалі групавацца людзі, якія цікавіліся кіно. Лешчанка вельмі цікавіўся нашым кінапададдзелам, усяляк памагаў яму ў рабоце. Разам з ім мы пачалі рыхтаваць стварэнне дзяржаўнай кінаарганізацыі. І вось 10 красавіка 1918 года на калегіі Наркамасветы (тады яна называлася Дзяржаўнай камісіяй па асвеце) па нашаму дакладу было вынесена рашэнне аб утварэнні кінакамітэта. Старшынёй быў назначаны Д. І. Лешчанка.

Першым нашым клопатам стала стварэнне ў Петраградзе кінафабрыкі. У думках мы ўжо бачылі кінаатэльс, дзе здымаюць савецкія фільмы па сцэнарыях савецкіх аўтараў, навучальныя ўстановы, у якіх выхоўваюцца кадры савецкіх рэжысёраў, аператараў, акцёраў. Мы паспяшаліся перабрацца з будынка, дзе знаходзіўся Наркамасветы, у асабняк па Сергіеўскай (цяпер Чайкоўскага) — у гэтым асабняку была шкляная аранжарэя, якую можна было прыстасаваць пад кінаатэльс.

Гэта аранжарэя і была першай савецкай кінастудыяй. Праўда, у хуткім часе мы адчулі, што ў аранжарэі цесна, пачалі прыглядацца да таго будынка, дзе цяпер знаходзіцца студыя «Ленфільм». Але ён быў заняты. Тое, што мы ўбачылі, калі прыйшлі агледзець гэты дом, выглядала даволі камічна: увесь раскошны асабняк заняла шавецкая арцель. Па сценах пазалочанай гасцінай паміж люстрамі былі ўбіты цвікі, і на іх красаваліся загатоўкі, падэшвы, набойкі і г. д. Ва ўсім асабняку стаяў цудоўны пах скуры, з некаторых пакояў даносіліся песні пад акампанемент шавецкіх малаткоў.

Асабняк належаў фабрыканту крышталю Нячаеву-Мальцаву. Ці быў сам фабрыкант (пра яго ўспамінае генерал Ігнацьеў у сваёй кнізе «50 год у страі») аматарам муз ці хто-небудзь іншы — не ведаю, але мы знайшлі ў асабняку многа цікавых работ: роспісы сцен і столі, якія рабіў мастак Сяміраддскі, пакой, распісаны Айвазоўскім, а таксама работы іншых майстроў жывапісу і скульптуры. У аранжарэі, якая так цікавіла нас, раслі пальмы, білі рознакаляровыя фантаны, сюды, паводле сведчання старшага дворніка, на самую звычайную п'янку прыязджаў Мікалай II.

Дык вось у гэтай аранжарэі і прылеглых да яе дамах і быў створаны вельмі папулярны ў той час у Ленінградзе кінематаграфічны цэнтр.

Першым нашым клопатам было наладзіць работу кінахронікі. Сярод самых першых хранікальных стужак хочацца назваць здыманне пахавання Пляханава. Мы здымалі пахавальную працэсію ля Казанскага сабора, дзе на зары сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці Пляханаў удзельнічаў у паўстанні.

Асабліва старанна мы рыхтаваліся здымаць першы бальшавіцкі Першамай. Запомнілася, як Луначарскі тады сказаў: «Мы, рускія людзі, заўсёды ўмелі працаваць, змагацца, перамагаць і нават рабіць нядрэнныя рэвалюцыі, а вось весяліцца па-сапраўднаму , ад усёй душы і ўсім народам яшчэ не навучыліся. Трэба, каб 1 Мая стала радасным святам усяго народа».

Луначарскі сам напісаў сцэнарый народных масавых гулянняў. Мы здымалі першамайскую дэманстрацыю па горадзе, асобныя яркія эпізоды на Марсавым полі, на Няве, ля Смольнага і іншае.

Ніколі не забудзецца дзень адкрыцця другога кангрэса Камінтэрна ў Петраградзе. Ідуць дэлегаты кангрэса, акружаныя народам. Уперадзе — Уладзімір Ільіч Ленін. На яго твары ўрачыстая, радасная ўсмешка. Вось усе яны паварочваюць да Таўрычаскага палаца, і тут — адкуль ні вазьміся —







У. І. Ленін выступае на інтэрнацыянальным мітынгу, прысвечаным адкрыццю II кангрэса Камінтэрна. Петраград, 19 ліпеня 1920 года.

У. І. Ленін разам з дэлегатамі II кангрэса Камінтэрна на плошчы Ахвяр рэвалюцыі. Петраград, 19 ліпеня 1920 года.



выскоквае паўтаратонка, і на ёй — кінахранікёры. Гэта было так нечакана, што пярэднія рады адступіліся назад. Уладзімір Ільіч ацаніў старанне заўзятых кінахранікёраў: ён спыніўся, затрымаўшы гэтым самым дэманстрацыю, і даў магчымасць кінематаграфістам зрабіць сваю справу. Гэта прадаўжалася некалькі імгненняў, і дэлегаты кангрэса накіраваліся ў Таўрычаскі палац.

Празмеру старанны таварыш, што стаяў пры ўваходзе ў палац, з захапленнем пазіраючы ў твар Леніну, разгублена сказаў: «Ваш білет». Уладзімір Ільіч дастаў з бакавой кішэні дэлегацкі білет і паказаў строгаму «начальству».

Кінахранікёры здымалі ў часе работы кангрэса і ў перапынках паміж пасяджэннямі. Вось дэлегаты выходзяць з палаца падыхаць свежым паветрам. Ідзе Ленін, за ім — Горкі, па летняму стрыжаны, без сваёй шавялюры. Ільіч спускаецца з прыступкаў ганка, Горкі на нешта ў далечыні заглядзеўся. Усім вядомы гэты здымак Леніна і Горкага ля Таўрычаскага палаца ў час работы другога кангрэса Камінтэрна.

А потым быў мітынг на плошчы ля Зімовага палаца. Ленін гаворыць пра рэвалюцыю, пра гераізм народу, пра яго будучыню. Я стаяў блізка каля Леніна і, не адрываючыся, глядзеў то на яго натхнёны твар, то на людзей — уся плошча ад краю да краю была запоўнена народам. У той час не было цяперашняй радыётэхнікі, і Ленін гаварыў сваю прамову з маленькай простай трыбуны. Дзесяткі тысяч людзей, затаіўшы дыханне, лавілі кожнае яго слова. Кінааператары на чале з Эдуардам Цісэ зафіксавалі гэты гістарычны мітынг.

На трыбуне ўжо другі прамоўца, а Ленін за спінамі арганізатараў мітынгу спускаецца з трыбуны: яго ўжо чакае машына. Ён бяжыць да машыны, іменна — бяжыць... Я гляджу на яго, любуюся яго лёгкасцю, бадзёрасцю, і мне здаецца — доўга, доўга будзе жыць наш Ільіч...

Апошні раз здымалі Ільіча ў Крамлі на чацвёртым кангрэсе Камінтэрна. Ленін убачыў Д. І. Лешчанку, які стаяў ля кіназдымачнага апарата, і загаварыў з ім. Аператар М. Казлоўскі ў гэты момант паспеў зазняць Уладзіміра Ільіча.

Шмат гадоў я ведаў Анатоля Васільевіча Луначарскага. З першых дзён стварэння Наркамасветы працаваў пад непасрэдным яго кіраўніцтвам.

Народны камісарыят асветы ў першыя гады займаўся пытаннямі, якімі ў далейшым займаліся спецыяльныя міністэрствы: пытаннямі мастацтва, кінематаграфіі, вышэйшай адукацыі. На прыём да яго прыходзілі і маці пакрыўджанага вучня, і акадэмік, і мастак, і педагог. Вось перад ім ляжыць вокладка першага нумара часопіса «Пламя» (1918 год). Мастак і рэдактар чакаюць, што скажа ён пра малюнак. Анатоль Васільевіч, прыжмурыўшы вочы, узіраецца ў вокладку, потым гаворыць: «У гэтым месцы трэба было б даць крыху болей жоўтага, а вось тут чорнага...» Зрабілі так, і полымя на вокладцы загарэлася ярчэй.

На прыёме ў наркома — дырэктар гімназіі, былы сапраўдны стацкі саветнік. Гутарка працягваецца дзве гадзіны. Стары педагог пакідае кабінет наркома збянтэжаны і зніякавелы. Ён пераканаўся, што не «дзікія вандалы» сядзяць цяпер у будынку міністэрства асветы, а людзі высокакультурныя. І яму стала сорамна за сваіх калег-сабатажнікаў, за чыноўнікаў свайго былога дэпартамента і за сваё мінулае.

Анатоль Васільевіч быў чалавек незвычайнай працавітасці. Раніцай ён прымае ў Зімовым палацы па пытаннях мастацтва. Адсюль едзе ў Смольны — на пасяджэнне Саўнаркома. Роўна ў тры гадзіны дня ён адкрывае калегію Наркамасветы. К шасці гадзінам імчыцца на мітынг, які наладжваецца на якім-небудзь караблі. У восем гадзін у Доме Чырвонай Арміі яго лекцыя «Уводзіны ў філасофію». У дзесяць гадзін ён зноў у Зімовым палацы, зноў пытанні мастацтва, і г. д. Нарэшце ў дзве гадзіны ночы праводзім яго дамоў. Аднойчы мне неяк давялося прыехаць да яго ў дзве гадзіны ночы. Гэта было ў 1920 годзе ў яго крамлёўскай кватэры. І што ж? Анатоль Васільевіч сядзеў *каля раяля* і слухаў ігру зусім юнага таленавітага піяніста, які не мог трапіць да яго ў іншы час. А між тым, па словах яго асабістай сакратаркі-стэнаграфісткі Ганны Іванаўны, Анатоль Васільевіч, акрамя ўсіх службовых спраў, часта «нагаворваў» літаратурныя працы каля двух друкаваных аркушаў у дзень. Пасля яго смерці было падлічана, што ён напісаў і надрукаваў звыш 50 тамоў.

Так, гэта быў па-сапраўднаму таленавіты чалавек. Перагортваючы за абедам якую-небудзь кнігу, ён да канца абеду ўжо добра ведаў яе змест. Яго выступленні экспромтам па любых пытаннях праходзілі лёгка, таленавіта, цікава. Веданне замежных моў узбагаціла яго, стварыла яму вядомасць за межамі нашай Радзімы. У час знаходжання ў Савецкім Саюзе Бернарда Шоу, на вечары, прысвечаным яго 75-годдзю, Луначарскі зрабіў у Калоннай зале даклад на англійскай мове аб творчасці пісьменніка. Бернард Шоу тут жа сказаў, што ён упершыню за сваё доўгае жыццё чуў такі таленавіты даклад.

З дазволу Анатоля Васільевіча, я папрасіў шаноўнага госця запісаць на плёнку свае ўражанні аб Савецкім Саюзе. Гутарка праходзіла ў вясёлым, жартаўлівым тоне — як заўсёды ў Шоу. Ён пагражаў, што сапсуе плёнку, нагаворыць непатрэбшчыны, але я сказаў, што мы гатовы на такую рызыку. Здыманне пачалося. Запомніўся пачатак яго прамовы перад апаратам: «Вашы каралеўскія высокасці, лэдзі і лорды, работніцы і рабочыя, сяляні і сяляне! Да вас звяртаюся адсюль, з цудоўнай краіны Леніна».

Для мяне былі асабліва цікавыя нашы гутаркі з Анатолем Васільевічам на кінематаграфічныя тэмы. Луначарскі не толькі цікавіўся кінематаграфіяй, ён ведаў і любіў яе. Ён напісаў сцэнарый для першага савецкага фільма. Называўся гэты сцэнарый, а потым і фільм — «Падсяленне». У той час, пра які расказваецца ў фільме, савецкія арганізацыі



Д. Лешчанка ў фільме «Падсяленне».

перасялялі з сутарэнняў у цэнтральныя гарадскія кватэры рабочых, цеснячы ўладальнікаў вялікіх кватэр. Гэта была вельмі складаная праблема. У сцэнарыі Луначарскага сям'ю рабочага падсялілі ў кватэру прафесара. Гаспадар кватэры быў абураны: гэтае падсяленне, думаў ён, пагражае яму шматлікімі непрыемнасцямі. Але выйшла наадварот — сям'я рабочага аказалася самай мірнай і добрасуседскай. Ідучы на фронт, рабочы развітваецца з прафесарам, як з добрым сябрам.

У фільме, пастаўленым рэжысёрам А. Панцялеевым, было шмат наіўнага, вобразы былі дадзены схематычна, агульным контурам, але ж ідэя яго біла ў цэль, а гэта было вельмі важна. Ролі ў фільме выконвалі артыст акадэмічнага тэатра Лерскі і, — па дзіўнай выпадковасці, — Д. І. Лешчанка.

Чалавек шырока адукаваны, таленавіты прамоўца, публіцыст і паэт з размахам і густам сапраўднага мастака, нястомны прапагандыст і стваральнік новай сацыялістычнай культуры — такім мне запомніўся Луначарскі.

Маё знаёмства з Надзеждай Канстанцінаўнай адбылося вельмі проста. Як толькі Наркамасветы пасяліўся ля Чарнышовага моста, я зайшоў да Надзежды Канстанцінаўны разам з сакратаром Наркамасветы, маёй даўняй знаёмай. Надзежда Канстанцінаўна сустрэла мяне ветліва, запыталася, што я

хацеў бы рабіць у яе аддзеле. Я і сам не ведаў, што. Тады яна сказала: «Ведаеце што, прыходзьце заўтра, паслязаўтра, так некалькі дзён, прыгледзьцеся да таго, што тут у нас робіцца, падумайце і, калі вырашыце, скажаце мне. А то, як бачыце, мы робім новую справу, і цяжка адразу ўсё паставіць на сваё месца». Сказана гэта было так задушэўна і проста, што я згадзіўся і пачаў кожны дзень хадзіць у яе аддзел. Падоўгу сядзеў у кабінеце Надзежды Канстанцінаўны, бываў на інструктыўных нарадах яе памочнікаў, услухоўваўся ва ўсё і ўглядаўся, і ў вельмі кароткі час вызначылася мая работа, мая жыццёвая сцежка. Я стаў кіношнікам. Потым, праз шмат гадоў, сустракаючыся з Надзеждай Канстанцінаўнай ужо ў Маскве, мы ўспаміналі пачатак нашай работы і радаваліся развіццю самага важнага з мастацтваў — кіно.

Гады сумеснай работы з Надзеждай Канстанцінаўнай былі самымі светлымі ў маім жыцці. Прайшоўшы вялікую жыццёвую і партыйную школу, Надзежда Канстанцінаўна была вельмі чулым, вельмі задушэўным таварышам. Яна заўсёды праяўляла асабістыя, нейкія пяшчотныя клопаты пра чалавека, застаючыся пры гэтым строга прынцыповай. Яе хвалявала наша кожная, нават самая малая, няўдача або чыя-небудзь хвароба. А сціпласць яе не ведала межаў. Вось стаім мы ўсе разам у чарзе ў наркамасветаўскай сталовай. Хто-небудзь прапануе: «Дазвольце, Надзежда Канстанцінаўна, я пастаю за вас у чарзе». «Не трэба: я цвёрда стаю на сваіх нагах».

Калі немцы пачалі наступаць на Рыгу, піцерскіх дзяцей эвакуіравалі на Волгу. Колькі душы ўклала ў гэтую справу Н. К. Крупская! Ідзе яна неяк па калідоры Наркамасветы і бачыць заплаканага хлопчыка. Хто такі? Адкуль ён тут? Хлопчык расказаў, што бацька на фронце, маці памерла, а яго не эвакуіруюць, бо яму ўжо дванаццаць гадоў. Доўга хадзіла Надзежда Канстанцінаўна з аднаго пакоя ў другі і вось нарэшце вярнулася ў свой кабінет вясёлая і задаволеная. «Прыстроіла хлопца. Паедзе старэйшым групы, як бы кіраўніком», — і хораша, светла ўсміхнулася.

Акрамя пазашкольнага аддзела, Надзежда Канстанцінаўна кіравала Дзяржаўным вучоным саветам (ГУСам), створаным па яе ініцыятыве.

Сціпла апранутая, простая ў абыходжанні з людзьмі, жонка і паплечніца У. І. Леніна, Н. К. Крупская ніколі не давала адчуваць сваю перавагу над іншымі. Яна многа расказвала нам пра гады сваіх вандраванняў, спачатку з сям'ёй бацькі — беднага ваеннага служачага, потым — з Уладзімірам Ільічом.

Аднойчы ў гутарцы з Надзеждай Канстанцінаўнай я даведаўся, як станоўча адазваўся Уладзімір Ільіч пра адзін з нашых першых фільмаў — «Цудатворац».

Сцэнарый яго напісаў стары літаратар Андрэй Зорын, які пасля Кастрычніка ўступіў у партыю і з асаблівай любоўю працаваў у кіно. Я не памятаю імён герояў гэтага фільма, таму назаву іх умоўна — Ваня і Груша. А сюжэт такі. Жыве ў сваім маёнтку ў акружэнні старых прыжывалак памешчыца, а ў той памешчыцы служыць прыгожая дзяўчына Груша. Грушу кахае весялун і любімец усёй вёскі Ваня. Маладыя людзі сустракаюцца патаемна і ўжо думаюць пра вяселле, але ў Грушу закаханы таксама ўпраўляючы — нядобры і злосны чалавек. Даведаўшыся, што Ваня кахае Грушу, упраўляючы і пані аддаюць Ваню ў салдаты. Праходзіць нейкі час, і наведаць Ваню прыязджае яго дзядзька. Ён расказвае, што пасля таго, як Ваню аддалі ў салдаты, да Грушы стаў хадзіць упраўляючы. Аднойчы, калі ён пачаў асабліва ёй надакучаць, яна ўдарыла яго. Тады яе адсцябалі бізунамі і паслалі даглядаць панскую жывёлу. У Ваневага бацькі за нядоімкі забралі карову, а маці ляжыць хворая.

Не паспеў Ваня пагаварыць з госцем, як яго паклікалі на дзяжурства. Дзяжурыць трэба было ля святога абраза, які прывезлі ў полк. Стаіць Ваня перад абразом, а ў галаве яго рояцца неспакойныя думкі: то ён бачыць, як б'юць бізунамі Грушу, то, — як вядуць з бацькавага двара карову... Абраз жа ззяе дарагімі камянямі, дражніць сваёю раскошай... Эх, было не было! Ваня ўскідае штык, і вялікі зіхатлівы камень — у яго руках. Зноў ідзе змена вартавых. «У час майго дзяжурства ўсё ішло як след. Вось толькі святая дзева сваёю ўласнаю ручкай дала мне дыямент». Развадзяшчы аслупянеў. Ваню вядуць да фельдфебеля. «У чым справа?» «Усё ішло добра. Дыямент дала ўласнаю ручкай». Фельдфебель — у морду, але салдат стаіць на сваім. Яго вядуць да ротнага. Ён зноў сваё: «Дыямент дала сваёю ручкай»; да палкавога — «...сваёю ручкай». Салдата саджаюць у турму. Да яго прыходзіць бацюшка: «Я ведаю, як гэта ўсё робіцца. Цудаў на свеце не бывае». «Сваёю ручкай...» А між тым чутка пра цуд пайшла гуляць па горадзе і ўжо да Пецярбурга дакацілася. Там рашаюць перадаць справу ў свяцейшы сінод. А сіноду — што рабіць? Трэба прызнаць цуд — гэта царкве гонар зробіць. Так і вырашаецца справа ў сінодзе: прызнаць абраз цудадзейным, а салдату даць 25 рублёў узнагароды і адпусціць на пабыўку ў родную вёску. Заключныя кадры: па снежнай раўніне мчаць сані з салдатам, а ў саборы ля абраза вісіць скрыначка і людзі, хрысцячыся на абраз, кідаюць у скрыначку грошы.

Фільм спадабаўся Леніну як узор антырэлігійнай прапаганды. У ім не было грубага націску, дзея развівалася натуральна і цікава, людзі двух светаў былі паказаны вельмі рэалістычна. «Вось гэта іменна тое, што нам патрэбна», — сказаў Уладзімір Ільіч Надзеждзе Канстанцінаўне, а яна перадала гэтыя яго словы нам. Гэта было вышэйшай пахвалой для стваральнікаў фільма. Хацелася працаваць, ствараць фільмы, вартыя нашай вялікай эпохі.

Мікалай Феафанавіч Казлоўскі — адзін з самых першых рускіх кінааператараў. На пачатку нашага стагоддзя жыў у Кіеве і быў уладальнікам фатаграфіі на Крашчаціку. Ён цудоўна валодаў аб'ектывам і святлом, пэндзлем і палітрай мастака і быў вельмі папулярны ў Кіеве. Вялікая прыём-



**Кінааператар Мікалай Казлоўскі сярод ленінградскіх кінематаграфістаў.**

ная ў яго майстэрні была заўсёды поўная заказчыкаў, і жыў ён вельмі нават нябедна. Але вось аднойчы да яго зайшоў незнаёмы чалавек і папрасіў дазволу перад публікай прадэманстраваць карцінкі. У першую ж нядзелю майстэрня Мікалая Феафанавіча была перапоўнена. Людзі ўбачылі небывалае: перад іх вачыма на экране рухаліся, як жывыя, людзі, машыны, коні. Калі сеанс закончыўся, Мікалай Феафанавіч доўга гутарыў з чалавекам, які паказваў карцінкі. А потым... потым фатаграфія была закінута. Не прайшло і двух тыдняў, як Мікалай Феафанавіч купіў кіназдымачны апарат. Разабраў яго, вывучыў. А праз некалькі дзён, зняўшы крыжовы ход на Крашчацiку, прадэманстраваў яго ў сваёй майстэрні. Поспех быў выключны. Камандуючы ваеннай акругай, які быў на праглядзе, папрасіў зняць ваенныя манеўры, якія ў той час ішлі. Мікалай Феафанавіч згадзіўся, здымкі адбыліся, але з іх нічога не атрымалася. Чаму? Новы кінааператар гэтага зразумець не мог. Аднак ён зразумеў другое: фатаграфіяй ён болей займацца не будзе. Ён закрывае сваю майстэрню і адпраўляецца з сям'ёй шукаць шчасця на новай дарозе.

Масква. Цяжкае, напаўгалоднае жыццё. Мікалай Феафанавіч вывучае новую для яго справу. На Пятроўцы ў невялікім фотаатэлье ён ставіць і здымае «Казку пра залатую рыбку». Ханжонкаў, які ў той час пачаў разгортваць сваю дзейнасць, быў уражаны гэтай работай, а галоўнае — магчымасцю рабіць карціны пры такой нескладанай тэхніцы. «Вось бачыце, — гаварыў ён сваім супрацоўнікам, — можна рабіць фільмы і без фабрыкі, а вы ўсё патрабуеце ў мяне фабрыку».

Поспех акрыляе людзей. Уваскрос духам і Мікалай Феафанавіч. Паявіліся тузы-фінансісты, каб закабаліць новага здольнага мастака. Адным з іх быў вядомы Дранкоў. Ён прыцягнуў у сваю кампанію багатага маскоўскага купца Талдыкіна, і яны адкрылі кінафабрыку.

Перад Казлоўскім адкрыўся новы свет — свет мастацтва. Ён наведвае тэатры, шмат чытае, знаёміцца з майстэрнямі мастакоў, вывучае тэхніку кіно. Ён едзе ў Ясную Паляну да Льва Талстога, праводзіць у яго некалькі дзён і здымае нарыс пра вялікага пісьменніка. Бывае ў Рэпіна, у Леаніда Андрэева. Усё больш і больш акрэсліваецца яго творчы почырк. У сваіх работах і работах рэжысёраў, з якімі яму даводзілася працаваць, ён шукае мастацкую праўду.

М. Ф. Казлоўскі зняў першыя савецкія мастацкія фільмы: «Цудатворац», «Айцец Сергі», «Смутак бясконцы». Яго пасылаюць на Генуэзскую канферэнцыю, і ён прывозіць адтуль надзвычай цікавы матэрыял — здымкі работы канферэнцыі, партрэты палітычных дзеячаў, хроніку пра забастоўкі рабочых на буйнейшых прадпрыемствах Італіі.

Мікалай Феафанавіч з'яўляецца настаўнікам і выхавацелем цэлай плеяды рэжысёраў, вядомых цяпер усяму свету. З ім працавалі на першых сваіх фільмах Даўжэнка, Данской, Рашаль, Пятроў, яго асістэнтамі былі тады зусім яшчэ маладыя, а цяпер вядомыя аператары Кальцаты, Мартаў і іншыя. Дабрадушны, чулы, сціплы, ён не ведаў стомы ў рабоце. Ужо ў сямідзесяцігадовым узросце ён забраўся з кінаапаратам на самую вяршыню Ісакіеўскага сабора, папрасіў зрабіць яму там, на велізарнай вышыні, мосцік для кінаапарата і зняў з гэтага мосціка кадры, якія яму былі патрэбны.

Адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі замежныя фірмы, цэнячы Казлоўскага як таленавітага кінааператара, не адзін раз прапаноўвалі яму пакінуць сваю радзіму і перайсці да іх. Але Мікалай Феафанавіч з абурэннем адмаўляўся ад гэтых прапаноў — ён мог жыць і працаваць толькі на радзіме, толькі дзеля славы айчыннага кінамастацтва, у якім ён пакінуў свой глыбокі след.

XIII з'езд партыі прыняў разгорнутае рашэнне па пытаннях кінематаграфіі. Была намечана ідэйная і арганізацыйная праграма дзейнасці на гэтым фронце. «З'езд пацвярджае рашэнне XII з'езда аб






Рыгор Рашаль.


Віктар Шклоўскі.

неабходнасці ўзмацнення савецкай кінематаграфіі вопытнымі работнікамі, даручае ЦК у бліжэйшы ж час узмацніць кінасправу дастатковай колькасцю камуністаў як па лініі гаспадарчай, так і па лініі ідэалагічнай».

У той час людзей, якія ведалі і любілі кінасправу, было яшчэ мала, але мы шукалі іх усюды, і яны ішлі да нас. У 1925 — 1926 гадах, будучы дырэктарам і мастацкім кіраўніком маскоўскай кінафабрыкі, я з радасцю вітаў паяўленне на нашай фабрыцы Івана Пыр'ева, Марка Данскога, Рыгора Рашаля, якія неўзабаве занялі віднае месца ў савецкай кінематаграфіі. На гэтай жа фабрыцы пачыналі працаваць Віктар Шклоўскі, Новікаў-Прыбой і шэраг іншых пісьменнікаў.

Вось, напрыклад, як паявіўся ў нас Рашаль.

— Што гэта ў вас?

— Гэта павільён.

— Тут здымаюць фільмы?

— Тут.

— Давайце зробім «Недарасля» дыбам.

— Навошта ж дыбам... Ды і хто вы? Дзе працуеце?

— Я рэжысёр тэатра.

— Калі і дзе можна паглядзець вашу пастаноўку?

— Сёння вечарам.

— Прыйду.

А на другі дзень мы прапануем Р. Рашалю даць сваё лібрэта і экспазіцыю будучага сцэнарыя. Лібрэта спадабалася. Рашаль атрымоўвае першую пастаноўку і вопытных майстроў — аператара Казлоўскага і мастака Махліса — у дапамогу.

Так паяўляецца новы савецкі кінарэжысёр Рыгор Рашаль і яго першы фільм «Паны Скацініны».

... — Я — Шклоўскі. Вы мною цікавіліся?

— Так. Хацеў бы вас прасіць працаваць у мастацкім савеце фабрыкі. Ды, здаецца, і Вы намі цікавіцеся?

— Так. Цікаўлюся. Якія будуць мае функцыі?

— Па-першае, навучыцца ў нас таму, чаго Вы не ведаеце, але што Вам неабходна ведаць. Па-другое, мы павялі наступленне на кінематограф. Станавіцеся ўдзельнікам наступлення.

— Згодзен. Буду працаваць з ахвотай. Але давядзецца частку літаратурнай працы пакінуць. Таму цікаўлюся, колькі будуць плаціць...

— Сто пяцьдзесят рублёў у месяц.

— ???

— Што — многа?
— Мала.
— Сто пяцьдзесят, пры ўмове работы па-фабрычнаму.
— Сёння еду ў Растоў, праз тыдзень вярнуся. Падумайце...
— Добра. І Вы падумайце.
Праз тыдзень зноў сустрэча.
— Перадумалі?
— Не. Хачу працаваць з вамі, але гэта абуральныя адносіны да маіх фінансаў. А ўсё астатняе мне падабаецца. Я згодзен.

Віктар Шклоўскі быў адным з самых актыўных работнікаў фабрыкі. За першы ж год сваёй работы ён многаму навучыўся, і многа яго творчых планаў было ажыццёўлена. Былі ў нас з ім спрэчкі, вялікія, прынцыповыя, але ён сваёй работай прыносіў фабрыцы вялікую карысць. «Крылы халопа» рэжысёра Юрыя Віктаравіча Тарыча з Леанідавым у ролі Івана Грознага і іншыя фільмы мелі ў яго асобе энергічнага і страснага прыхільніка.

А вось як паявіўся ў нас яшчэ адзін рэжысёр.

— Міхаіл Лявонавіч, нам удалося зрабіць палову фільма за свой кошт. Мы купілі плёнку, усе сцэны знялі на натуры без дэкарацый, а цяпер у нас няма грошай, каб закончыць работу. Давайце зробім так: наш фільм стане ўласнасцю вашай фабрыкі, але дайце нам магчымасць давесці яго да канца.

Праглядаем адзнятае. Здольныя хлопцы, добрая выдумка, густ, пачуццё меры, але сцэнарый слабы, ва ўсёй рабоце адчуваецца нейкая паспешлівасць і адсутнасць вопыту — як і грошай. Увесь матэрыял бракуем, але ідэя стварэння маладзёжнага фільма захапляе і нас.

— Хто вы?
— Я — Данской. Скончыў юрыдычны факультэт, працаваў у пракуратуры. Але мяне вельмі цікавіць кінематограф.
— Якую работу Вам даць?
— Не ведаю.
— Для пачатку Вы — сакратар мастацкага савета.

Ён энергічны, «кусаецца», злуецца, заўсёды незадаволены. Але разумны і ўсё асэнсоўвае творча. Вучыцца на сваіх памылках, хоць і злуецца. І вось ён ужо ў Ленінградзе на фабрыцы «Белдзяржкіно». Яму давяраецца першая пастаноўка. Так паявіўся яшчэ адзін кінарэжысёр — Марк Данской. Многа было пацешнага і цікавага на пачатку яго работы. Вось ён убягае да мяне ў кабінет:

— Зманціраваліся, нарэшце, кадры! Яна выходзіць з дому, і яе сустракаюць на вуліцы... Ур-ра!

А вось стары Казлоўскі гаворыць яму і Рашалю на здыманні «Яго высакароддзя»:

— Здымаць не буду.
— Чаму?
— Акцёры іграюць дрэнна, і мізансцэна недапрацавана.
— А вам якая справа?
— Здымаць не буду. Папрацуйце яшчэ з акцёрамі. Я не бачу і не адчуваю гэтую сцэну.

Рашаль і Данской паціскаюць плячыма, але работа з акцёрамі прадаўжаецца, і сцэна становіцца цікавейшай.

Пра кожную фразу сцэнарыя, пра кожны кавалак зазнятага матэрыялу вядзем падрабязныя гутаркі. Вырашаецца пытанне светапогляду, вядуцца заўзятыя спрэчкі з фармалістамі. Паяўляюцца тэорыя тыпажу, тэорыя масы. У дзелавой, творчай атмасферы расце і мацнее савецкая кінематаграфія. Такія майстры старой школы, як Гардзін, Іваноўскі, Пратазанаў, Казлоўскі, Панцялееў, Ягораў, а таксама плеяда маладых майстроў, адразу вывелі савецкае кіно на вядучае месца ў свеце. Ужо ў 1924 годзе Анры Барбюс пісаў: «Калі ўспамінаеш, што ў нашых краінах кінематаграфія дасягае толькі чыста матэрыяльных поспехаў і, нягледзячы на ўсе тэхнічныя багацці, якія яна мае, уяўляе сабою нейкае гнілое стаячае балота, — ствараецца ўражанне, што мы топчамся на адным месцы, у той час як Савецкая Расія ў гэтай галіне, як і ва ўсіх іншых, пайшла далёка ўперад. Толькі вялікая ідэя можа ўдыхнуць жыццё новаму мастацтву».

**Міхаіл КРЭСІН.**






# 1970

## КРАСАВІК

**1**

40 гадоў назад (1930) уступіў у строй Гомсельмаш — Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання.

70 гадоў з дня нараджэння (1900) Іосіфа Яфімавіча Голубева, доктара ветэрынарных навук, прафесара Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

**12**

10 гадоў назад (1960) адкрыўся V з'езд мастакоў Беларусі.

Дзень касманаўтыкі.

**14**

50 гадоў з дня нараджэння (1920) Аляксея Нічыпаравіча Карпюка, беларускага пісьменніка.

**15**

50 гадоў з дня нараджэння (1920) Міколы Ракітнага (Мікалая Ісакавіча Новікава), беларускага пісьменніка.

**22**

**100 гадоў з дня нараджэння (1870) Уладзіміра Ільіча ЛЕНІНА, заснавальніка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, правадыра працоўных усяго свету.**

**27**

25 гадоў з часу прыняцця (1945) БССР у склад членаўустаноўцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Дэлегацыя БССР падпісвае статут ААН.





І. Я. Голубеў.



А. Н. Карпюк.

М. І. Ракітны (Новікаў).





Музей-кватэра Леніна. Тут кватараваў Ільіч у 1894—1895 гадах.

Пятро ДУРЧЫН. ПА ЛЕНІНСКІХ МЯСЦІНАХ. Серыя літаграфій.



Зала пасяджэнняў у Таўрычаскім палацы.



Палац Кшасінскай у Ленінградзе.



Іван БЯЛЯЕЎ. Прадвесне ў Ждановічах.



Уладзімір ХАЛУЕЎ. Салдаты рэвалюцыі.

# ТЫМ, ХТО АБРАЎ БІЯЛОГІЮ

Гэта некалі было, што біялогія займалася толькі апісаннем раслiннага ды жывёльнага свету і мала цікавілася пытаннямі будовы жывой матэрыі. Цяпер яна стала сапраўднай **навукай пра жыццё,** бо фізіка і хімія на сучасным узроўні іх развіцця ўзброілі біялогію новымі магутнымі сродкамі даследавання матэрыі на малекулярным узроўні. Вось чаму малекулярная біялогія і біяхімія здольны сёння рабіць даволі буйныя адкрыцці.

Зусім заканамерная і тая павышаная зацікаўленасць, якую праяўляе моладзь да біялогіі. І вышэйшая школа, адчуўшы гэтую зацікаўленасць, пайшла насустрач тым дзяўчатам і юнакам, хто абраў сабе за мэту жыцця біялогію.

Толькі два гады назад у вышэйшых навучальных установах біялагічнага, медыцынскага і сельскагаспадарчага профілю быў уведзены экзамен па біялогіі. Гэтае рашэнне Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР не было выпадковым. Незадоўга да яго сярэднія школы перайшлі на новыя праграмы па біялогіі. Быў выдадзены новы падручнік, які значна адрозніваўся ад старых падручнікаў. Безумоўна, такія крокі садзейнічалі таму, што біялагічнае навучанне нашай моладзі выйшла на новы ўзровень.

І ўсё ж, як паказалі ўступныя экзамены 1968—1969 гадоў, выпускнікі сярэдніх школ больш-менш упэўнена разбіраюцца ў пытаннях, звязаных з будовай і жыццём раслін, жывёл і чалавека, але слаба ведаюць заканамернасці развіцця жывой прыроды. Студэнты першага курса нашага ўніверсітэта з цяжкасцю засвойваюць асноўныя палажэнні тэорыі эвалюцыйнага развіцця арганізмаў, абмену рэчываў і энергіі ў арганізме, сінтэзу арганічных рэчываў у клетцы і зародкавага развіцця арганізма. Гэта тлумачыцца, мусіць, тым, што выкладчыкі сярэдняй школы недастаткова клапоцяцца аб развіцці ў школьнікаў біялагічнага мыслення. Не хапае яшчэ і дадатковай літаратуры па біялогіі. Вучням даводзіцца засвойваць прадмет толькі па падручніку.

Праграма па біялогіі для тых, хто паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, складаецца з чатырох раздзелаў: батанікі, заалогіі, анатоміі і фізіялогіі чалавека і агульнай біялогіі.

Усім, хто марыць стаць біёлагам, трэба ўлічыць памылкі, што дапускалі іх папярэднікі. Выявіць іх памагае разбор пытанняў, якія задаваліся на кансультацыях у нашым універсітэце, а таксама аналіз адказаў абітурыентаў на экзаменах.

Па батаніцы было, напрыклад, зададзена на кансультацыях 132 пытанні. Выявілася слабае засваенне наступных раздзелаў: будова конуса нарастання ліста раслін; будова кветкі, суквеццяў, насення і пладоў, сістэматыка бактэрый, водарасцяў і грыбоў; палавое размнажэнне папаратнікаў, голанасенных і кветкавых раслін; дыханне і пераўтварэнне рэчываў у раслiннай клетцы; нуклеінавыя кіслоты і сінтэз бялкоў у клетцы; карнявое харчаванне раслін; салёнасць асяроддзя і яго значэнне для жыццядзейнасці жывёл і раслін; асаблівасці абмену рэчываў у раслiннай клетцы і г. д.

Па раздзеле заалогіі было толькі дваццаць пяць пытанняў. Яны, галоўным чынам, датычылі тыпаў чарвякоў, малюскаў і хордавых. Прыкладна гэтулькі ж пытанняў было па анатоміі і фізіялогіі чалавека. Нас прасілі расказаць пра будову органа слыху, пра будову і функцыі нервовай сістэмы і органаў кровазвароту. Большасць пытанняў па агульнай біялогіі закранала генетыку і селекцыю. У прыватнасці, многія прасілі растлумачыць законы Мендэля, шматгібрыднае скрыжаванне, закон чыстаты гамет. Пыталіся таксама, што такое ген, шматграннасць і цэнтры паходжання культурных раслін па Вавілаву.





У часе экзамену па раздзеле батанікі абітурыенты часам давалі блытаныя адказы пра будову генератыўных органаў раслін — кветкі, плода, насення. Яны не заўсёды маглі адрозніць плод ад насення, лічачы іх за адно і тое ж: аднасілі, напрыклад, да пладоў качан капусты або корань морквы ці бурака. Гаворачы пра марфалогію суквеццяў, нічога не маглі сказаць пра іх біялагічнае значэнне. Многія даволі цьмяна ўяўлялі размнажэнне хвойных, папаратнікаў. Не маглі ахарактарызаваць галоўныя сямействы кветкавых раслін, назваць іх асноўных прадстаўнікоў, вызначыць іх марфалагічныя прыкметы.

Выпускнікі гарадскіх школ амаль не знаёмы з асноўнымі сельскагаспадарчымі раслінамі, якія вырошчваюцца ў Беларусі, не маюць уяўлення пра ўраджайнасць, сістэму ўгнаенняў і г. д.

У раздзелах праграмы па заалогіі, анатоміі і фізіялогіі чалавека абітурыенты слабей за ўсё ведаюць асаблівасці размнажэння і жыццёвыя цыклы многіх беспазванковых жывёл і, галоўным чынам, тых, у якіх прысутнічае змена палавога і беспалавога пакаленняў (малярыйны плазмодзій, паліп абелія і інш.), часта не могуць растлумачыць біялагічнае значэнне вялікай колькасці жаўтка ў яйцаклетцы птушак і малое ўтрыманне яго ў яйцаклетцы млекакормячых, а таксама прычыну цеплакроўнасці птушак і млекакормячых.

Блытаныя адказы даваліся таксама на пытанне, якія сасуды называюцца артэрыямі, а якія венамі, як пабудавана нервовая сістэма, якая розніца паміж залозамі ўнутранай і знешняй сакрэцыі.

Шмат слабых адказаў было на пытанні з раздзела агульнай біялогіі. У першую чаргу гэта датычыла генетыкі, селекцыі, узнікнення жыцця на зямлі, паходжання чалавека, фактараў эвалюцыі арганічнага свету, асноўных палажэнняў эвалюцыйнай тэорыі Ч. Дарвіна. Абітурыенты не маглі растлумачыць розніцу паміж індывідуальным і гістарычным развіццём арганізмаў, слаба ўяўлялі біялагічны сэнс і працэс мітоза і мейоза, змену гаплоіднай і дыплоіднай фаз. З вялікімі цяжкасцямі адказвалі на пытанні аб спадчыннасці і зменлівасці, сэнсе фена- і генатыпу, асіміляцыі і дысіміляцыі як адзіных і разам з тым супрацьлеглых працэсах. Не маглі яны таксама растлумачыць будову нуклеінавых кіслот, іх ролю для сінтэзу бялка ў клетцы, сінтэз ДНК пры падрыхтоўцы клетак да дзялення.

Экзаменатараў не задавальнялі адказы на пытанні пра этапы развіцця біялогіі, галоўныя біялагічныя тэорыі, а таксама пра айчынных савецкіх і асабліва сучасных біёлагаў і іх ролю ў развіцці гэтай навукі, пра сувязь біялогіі з сельскай гаспадаркай, медыцынай, а таксама з рыбаводчай, паляўнічай і іншымі галінамі народнай гаспадаркі.

Тым, хто хоча паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову біялагічнага, сельскагаспадарчага і медыцынскага профілю, трэба больш старанна і глыбей вывучаць асноўныя пытанні біялогіі.

**Павел ПЯТРОВІЧ,**
**дэкан біялагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

# РАШЭННЕ ЗАДАЧ ПА ФІЗІЦЫ

**1.** Спачатку ракета будзе рухацца ўверх роўнапаскорана з паскарэннем $a_1 = a - g$ За час $t_1 = 2$ мін. яна набудзе хуткасць $v_1 = a_1 t_1 = (a - g) t_1$ і ўзнімецца на вышыню $h_1 = \frac{(a - g) t_1^2}{2}$. Затым ракета пачынае рухацца запаволена.

Час руху ракеты запаволена:

$$t_2 = \frac{v_1}{g} = \frac{a - g}{g} t_1.$$

---

Умовы задач гл. у № 2 часопіса.

За гэты час ракета пройдзе шлях

$$h_2 = \frac{v_1^2}{2g} = \frac{(a-g)^2 t_1^2}{2g}.$$

Агульная вышыня ўзняцця ракеты

$$h = h_1 + h_2 = \frac{(a-g)\,t_1^2}{2} + \frac{(a-g)^2 t_1^2}{2g} = \frac{a\,(a-g)\,t_1^2}{2g}.$$

$$h = 864 \text{ км}.$$

Ракета будзе падаць на зямлю на працягу часу $t_3$.

$$t_3 = \sqrt{\frac{2h}{g}} = \frac{t_1}{g}\sqrt{a\,(a-g)}.$$

Агульны час палёту ракеты

$$t = t_1 + t_2 + t_3 = t_1 + \frac{a-g}{g}\,t_1 + \frac{t_1}{g}\sqrt{a\,(a-g)} = t_1\frac{a+\sqrt{a\,(a-g)}}{g}.$$

**Адказ: $h = 864$ км, $t \approx 15$ мін.**

2. Рух па кругавой арбіце адбываецца пад дзеяннем толькі сілы прыцягнення

$$F = \gamma\frac{mM}{(R+h)^2},$$

прычым, спадарожнік валодае нармальным (цэнтраімклівым) паскарэннем, якое вызначаецца па формуле

$$a = \frac{v^2}{R+h},$$

Тады $\gamma\dfrac{mM}{(R+h)^2} = \dfrac{mv^2}{R+h}$.

Адкуль $v^2 = \gamma\dfrac{M}{R+h}$.

Памнажаючы лічнік і назоўнік правай часткі апошняга ўраўнення на $R^2$, атрымаем

$$v^2 = \gamma\frac{M}{R^2}\cdot\frac{R^2}{R+h}.$$

Велічыня $\gamma\dfrac{M}{R^2}$ роўна паскарэнню свабоднага падзення $g_0$ ля паверхні Зямлі. Значыць,

$$v^2 = g_0\frac{R^2}{R+h},$$

або

$$v = R\sqrt{\frac{g_0}{R+h}}.$$

Перыяд абарачэння T спадарожніка па кругавой арбіце радыуса $R+h$ вызначаецца па формуле

$$T = \frac{2\pi\,(R+h)}{v}.$$

**Адказ: $v = 7{,}1\cdot10^3$ м/сек, $T \approx 7{,}1\cdot10^3$ сек.**

3. Калі абазначыць праз $k$ каэфіцыент, які паказвае страту энергіі мяча пры кожным удары, то $p = 1 - k$ пакажа тую частку энергіі, якую будзе мець мяч пасля ўдару. Калі спачатку мяч валодаў энергіяй $w = mgh$, то пасля першага ўдару яго энергія будзе роўна $w_1 = mgh\cdot p$, пасля другога ўдару $w_2 = mgh\cdot p^2$, пасля трэцяга ўдару $w_3 = mgh\cdot p^3$ і г. д. Такім чынам, пасля першага ўдару мяч узнімаецца на вышыню $h_1 = ph$, пасля другога ўдару на вышыню $h_2 = p^2h$, пасля трэцяга ўдару — на вышыню $h_3 = p^3h$ і г. д. Час падзення мяча да першага ўдару

$$t_0 = \sqrt{\frac{2h}{g}},$$

час руху паміж першым і другім ударамі

$$t_1 = 2\sqrt{\frac{2h_1}{g}} = 2\sqrt{\frac{2hp}{g}},$$

паміж другім і трэцім ўдарамі

$$t_2 = 2\sqrt{\frac{2h_2}{g}} = 2\sqrt{\frac{2h}{g}p^2},$$

паміж трэцім і чацвёртым ударамі

$$t_3 = 2\sqrt{\frac{2h_3}{g}} = 2\sqrt{\frac{2h}{g}p^3}.$$

Аналагічным чынам можна запісаць і час руху паміж любымі двума паслядоўнымі ўдарамі.

Агульны час руху мяча:

$$t = t_0 + t_1 + t_2 + t_3 + \ldots = \sqrt{\frac{2h}{g}} + 2\sqrt{\frac{2h}{g}p} + 2\sqrt{\frac{2h}{g}p^2} + 2\sqrt{\frac{2h}{g}p^3} + \ldots = \sqrt{\frac{2h}{g}} + 2\sqrt{\frac{2h}{g}p}\,(1 + \sqrt{p} + \sqrt{p^2} + \ldots).$$

У дужках знаходзіцца сума членаў бясконца ўбываючай геаметрычнай прагрэсіі.

Як вядома, $1 + \sqrt{p} + \sqrt{p^2} + \sqrt{p^3} + \ldots = \dfrac{1}{1-\sqrt{p}}$.

Тады $t = \sqrt{\dfrac{2h}{g}} + 2\sqrt{\dfrac{2h}{g}p}\cdot\dfrac{1}{1-\sqrt{p}} = \sqrt{\dfrac{2h}{g}}\left(1 + \dfrac{2\sqrt{p}}{1-\sqrt{p}}\right) = \sqrt{\dfrac{2h}{g}}\cdot\dfrac{1+\sqrt{p}}{1-\sqrt{p}}$.

Ведаючы, што $p = 0{,}81$; $\sqrt{p} = 0{,}9$, лёгка падлічыць агульны час руху мяча.

**Адказ: $t \approx 12$ сек.**

4. Абазначым даўжыню меднай і жалезнай лінеек пры тэмпературы $t$ адпаведна праз $l_{1t}$ і $l_{2t}$. Тады

$$l_{1t} = l_{01}(1 + \alpha_1 t)$$
$$l_{2t} = l_{02}(1 + \alpha_2 t),$$

дзе $l_{01}$ і $l_{02}$ — адпаведныя даўжыні гэтых жа лінеек пры 0° C.

Па ўмове задачы

$$l_{2t} - l_{1t} = l_{02} - l_{01} = \Delta l$$

з улікам апошніх роўнасцей атрымліваем:

$$\frac{l_{01}}{l_{02}} = \frac{\alpha_2}{\alpha_1}.$$

Першапачатковыя даўжыні лінеек павінны быць адваротна-прапарцыянальныя каэфіцыентам лінейнага расшырэння.

Рашаючы сістэму ўраўненняў

$$\frac{l_{01}}{l_{02}} = \frac{\alpha_2}{\alpha_1},\quad l_{02} - l_{01} = \Delta l,$$

знаходзім, што

$$l_{01} = \frac{\Delta l\alpha_2}{\alpha_1 - \alpha_2};\quad l_{02} = \frac{\Delta l\alpha_1}{\alpha_1 - \alpha_2}.$$

Пасля падстаноўкі лічбавых значэнняў атрымаем:

$$l_{01} = 0{,}24 \text{ м};\ l_{02} = 0{,}34 \text{ м}.$$

5. Разгледзім масу паветра, якое знаходзіцца ў пакоі пры ўмовах $P_1$, $V_1$, $T_1$, і параўнаем яе з нармальнымі ўмовамі, выкарыстаўшы ўраўненне Клапейрона:

$$\frac{P_1V_1}{T_1} = \frac{P_0V_0}{T_0} = \frac{P_0m_1}{T_0\rho_0}.$$

Адкуль

$$m_1 = \frac{P_1V_1T_0\rho_0}{T_1P_0}.$$

Пры павышэнні тэмпературы аб'ём і ціск не мяняюцца, але маса паветра ў пакоі зменіцца і стане роўна $m_2$.

$$\frac{P_1V_1}{T_2} = \frac{P_0V_0}{T_0} = \frac{P_0m_2}{T_0\rho_0}$$

Адкуль $\Delta m = m_1 - m_2 = \frac{P_1V_1T_0\rho_0}{P_0T_1} - \frac{P_1V_1T_0\rho_0}{P_0T_2} = \frac{P_1V_1\rho_0T_0}{P_0} \cdot \frac{T_2 - T_1}{T_1 \cdot T_2}$

Падстаўляючы лічбавыя значэнні (шчыльнасць паветра бяром з табліц $\rho_0 = 1{,}29\ \frac{кГ}{м^3}$), атрымаем **адказ:**

$$\Delta m = 6{,}35 \text{ кг.}$$

**6.** Напружанне на кандэнсатары падзяляецца на дзве часткі $U = U_1 + U_2$, дзе $U_1$ — напружанне на першай пласцінцы, $U_2$ — напружанне на другой пласцінцы.

Праз кандэнсатар пройдзе ток

$$I = \frac{U_1}{R_1} = \frac{U_2}{R_2},$$

дзе $R_1$ і $R_2$ — супраціўленні шкляной і мармуровай пласцінак.

Тады $U_2 = U_1 \frac{R_2}{R_1} = \frac{U_1 \cdot \frac{1}{\gamma_2} \cdot \frac{d_2}{S}}{\frac{1}{\gamma_1} \cdot \frac{d_1}{S}} = U_1 \cdot \frac{\gamma_1 d_2}{\gamma_2 d_1}.$

Ведаючы, што $U = U_1 + U_2 = U_1 \frac{\gamma_1 d_2}{\gamma_2 d_1} + U_1 = U_1 \frac{\gamma_1 d_2 + \gamma_2 d}{\gamma_2 d_1}$;

знаходзім $U_1 = U \frac{\gamma_2 d_1}{\gamma_1 d_2 + \gamma_2 d_1}$.

Пасля вылічэнняў атрымаем $U_1 \approx 962$ в.

Адкуль вынікае, што $U_2 = U - U_1 \approx 38$ в.

**7.** Калі $I$ — агульны ток у ланцугу, а $I_1$ — ток, які праходзіць па гальванометры, дык

$$r_ш = \frac{U_1}{I - I_1},$$

дзе $U_1$ — падзенне напружання на гальванометры.

Зразумела, што $U_1 = I_1 \cdot R_1$.

Ток у тэрмапары

$$I = \frac{E - I_1 \cdot R_1}{r_0},$$

дзе $E - I_1R_1$ — падзенне напружання на тэрмапары, $r_0$ — супраціўленне тэрмапары.

Падставіўшы значэнні $U_1$ і $I$ ў першую формулу, атрымаем $r_ш = \frac{I_1 r_0 R_1}{E - I_1 (R_1 + r_0)}$;

**Адказ:** $r_ш = 0{,}1$ **ома.**

**8.** Промні, якія ідуць ад асветленых прадметаў, што знаходзяцца на дне, трапляючы на паверхню вады, цалкам адбіваюцца і трапляюць у вока вадалаза, калі вугал падзення роўны гранічнаму вуглу поўнага ўнутранага адбіцця або больш за яго:

$$\frac{\sin\alpha}{\sin 90} = \frac{1}{n} \text{ або } \sin\alpha = \frac{1}{n}.$$



Мал. 1

Адлегласць AB роўна адлегласці ад вадалаза да бліжэйшых да яго прадметаў, якія ён бачыць адлюстраванымі ад вады. Як відаць з малюнка 1,

$AC = DE = (h - l)\,\mathrm{tg}\,\alpha$, дзе $h = CO$.

$S - AC = h\,\mathrm{tg}\,\alpha$.

Рашаючы сумесна сістэму ўраўненняў, знаходзім шукаемую глыбіню: $h = \frac{l}{2} + \frac{S}{2} \cdot \frac{1}{\mathrm{tg}\,\alpha}$,

дзе $\mathrm{tg}\,\alpha = \frac{\sin\alpha}{\cos\alpha} = \frac{1}{\sqrt{n^2 - 1}}$



Тады $h = \frac{1}{2}(l + S\sqrt{n^2 - 1})$.

Пасля таго, як падставілі лічбавыя значэнні, атрымаем

$$h \approx 7{,}5 \text{ м.}$$

**9.** Абазначым адлегласць ад светлавой кропкі, якая свеціцца, да верхняй паверхні пласцінкі праз $l$, а ад гэтай паверхні да адлюстроўка праз $l_1$. Ход промняў пры ўзнікненні адлюстроўка паказаны на мал. 2. З малюнка відаць, што



Мал. 2

$$l_1 = \frac{a + 2b}{\mathrm{tg}\,\alpha},$$

дзе $a = l\,\mathrm{tg}\,\alpha$, $b = d\,\mathrm{tg}\,\beta$,

адкуль $a + 2b = l\,\mathrm{tg}\,\alpha + 2d\,\mathrm{tg}\,\beta$.

Тады $l_1 = l + \frac{2d\,\mathrm{tg}\,\beta}{\mathrm{tg}\,\alpha}$.

Пры малым вугле падзення $\alpha$ $\frac{\mathrm{tg}\,\beta}{\mathrm{tg}\,\alpha} \approx \frac{\sin\beta}{\sin\alpha} = \frac{1}{n}$.

У гэтым выпадку

$$l_1 = l + \frac{2d}{n};$$

**Адказ:** $l_1 \approx 23$ **см.**


**Вікенці ВАРЫКАШ**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута.**


## *На чарзе гутарка пра тое, як падрыхтавацца да экзаменаў па гісторыі.*



*130 гадоў з дня нараджэння Францішка Багушэвіча*

# РЭХА ДУДКІ БЕЛАРУСКАЙ

Амаль у самым цэнтры Кракава, на рагу вуліц Страшэўскага і Зверынецкай, сярод старых і новых камяніц стаіць прысадзістая мураванка пад чырвонай чарапіцай. Калі трамвай выкіруецца за рог вуліцы і схаваецца ў Плантах, — зялёных прысадах, — чуваць, як у мураванцы прыглушана грукаюць друкарскія машыны. Гэта друкарня колішняга кракаўскага выдавецтва, заснаванага польскім пісьменнікам Уладзіславам Анчыцам. Адсюль, з гэтай друкарні, у канцы мінулага стагоддзя пайшло ў шырокі славянскі свет некалькі беларускіх кніг. Адна з іх асабліва дарагая і блізкая сэрцу кожнага беларуса. Гэта — «Дудка беларуская» Мацея Бурачка.

Цікавая і павучальная гісторыя выдання «Дудкі беларускай» — першага зборніка вершаў Францішка Багушэвіча. Мужыцкі адвакат ведаў, што кнігу на беларускай мове не надрукуеш у царскай Расіі. Многія цэнзары трымаліся яшчэ таго погляду, які выказваў адзін кіеўскі прафесар на сваіх лекцыях: «Для дзяржаўных інтарэсаў добра было б спаліць украінскую і беларускую літаратуру, як яны толькі з'явіліся на свет». Прыходзілася шукаць выдаўца за межамі Расіі, бо «Дудка» была не толькі беларускім словам, але яшчэ і словам пра векавечную крыўду беларускага селяніна. Вуснамі Ф. Багушэвіча гаварыў не проста прыгнечаны мужык, а беларускі народ, які падымаўся на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае правы.

«Дудка беларуская» з'явілася ў друку пры дапамозе і садзеянні вядомага польскага вучонага Яна Карловіча, які прыхільна ставіўся да творчай працы беларускага паэта і меў шырокія сувязі ў выдавецкім свеце. Захаваўся ліст Ф. Багушэвіча да Я. Карловіча з Вільні, датаваны 9(21) лістапада 1890 года: «Сардэчна дзякую шаноўнаму пану за абяцанне надрукаваць рукапіс, які я паслаў поштай праз кніжны магазін у выглядзе заказной пасылкі». Рукапіс трапіў у Кракаў, але выданне яго зацягвалася. У ліпені 1891 года Ф. Багушэвіч разам з Я. Карловічам прыехаў у Кракаў. Трэба думаць, што беларускі паэт наведаў даўнюю сталіцу Польшчы не толькі, каб прысутнічаць на з'ездзе прыродазнаўцаў, але і з жаданнем «падварушыць» справу з «Дудкай». Праз некаторы час, 23 жніўня 1891 года, Ф. Багушэвіч скардзіўся польскаму сябру, што ў карэктуры зборніка вельмі многа памылак. Першае выданне «Дудкі беларускай» з'явілася ў верасні 1891 года, аб чым сведчыць рэгістрацыя ў вераснёўскім нумары кракаўскага бібліяграфічнага даведніка.

Аўтарскіх рукапісаў зборніка не захавалася, таму дакладная дата напісання большасці твораў невядома. У лістах Ф. Багушэвіча да Я. Карловіча ёсць толькі першапачатковыя варыянты вершаў «У судзе», «Воўк і авечка», «Думка» і «Мая дудка», а таксама звесткі пра гісторыю і час напісання казкі «Хцівец і скарб на святога Яна», якія даюць падставу гаварыць, што «Дудка беларуская» напісана ў 1886—1890 гадах. Аўтограф верша «Думка» (спачатку ён называўся «Якась яно будзе!») дапамог удакладніць канцоўку твора, дзе, каб не займаць асобнай старонкі, былі «адсечаны» два апошнія радкі. Цяпер страфа выглядае так:

Ну ды рана—позна, тыкі мне здаецца,
Кожны занудзіцца, дадому прыб'ецца
**Паглядзець, як людзі ў бядзе сабе радзяць,**
**Абсядуцца ў дому і лад заправадзяць.**

«Дудка» Ф. Багушэвіча карысталася вялікім поспехам у беларускага чытача. Кнігу перапраўлялі цераз мяжу тайком, разам з іншай нелегальнай літаратурай. Сябар Ф. Багушэвіча — Зігмунт Нагродскі, які працаваў у Віленскай краме сельскагаспадарчых прылад, надзяляў «Дудкаю» пакупнікоў-сялян. Першае выданне зборніка ў колькасці трох тысяч экземпляраў хутка разышлося. Неўзабаве спатрэбілася новае выданне, і З. Нагродскі ахвяраваў на яго 100 рублёў і пераслаў у выдавецтва Анчыца. Другое выданне «Дудкі» друкавалася таксама лацінкай і дакладна паўтарала першае, з'явілася яно ў чэрвені 1896 года. Праўда, як сведчаць польскія кры-


DUDKA

BIAŁARUSKAJA

MACIEJA BURACZKA.

KRAKÓW


SMYK

BIAŁARUSKI

SZYMONA REUKI

POZNAN

1894

Першыя выданні кніг Ф. Багушэвіча.



Кракаў. Тут друкавалася «Дудка беларуская».

ніцы з перасылкай тыражу на Беларусь узнiклі цяжкасці, бо на таможнях сталі прыдзірліва правяраць літаратуру. Астатак тыражу другога выдання «Дудкі» трапіў на беларускую зямлю ўжо ў дні рэвалюцыі 1905 года.

Трэба думаць, што за мяжою выдадзена было нелегальнае ананімнае выданне твораў Ф. Багушэвіча «Песні» (1904), аснову якога складалі творы са зборніка «Дудка беларуская». Тонкая, своеасаблівая папера, удалае паліграфічнае афармленне, заведама здзеклівыя звесткі пра месца выдання і цэнзурны дазвол («Дазволена цэнзураю 17 снежня 1903 года. Спб, сінадальная друкарня»)—усё выразна сведчыла, што «Песні» выдаваліся дзесьці за мяжою, відаць, у Лондане (там у 1903 годзе выйшла некалькі агітацыйных брашур).

Толькі ў 1907 годзе з'явілася новае выданне «Дудкі» ў Расіі. Яе выдала пецярбургская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». «Дудка» выйшла ў падпіской серыі «Беларускія песняры» адначасова на добрай паперы і ў прыгожай вокладцы і ў звычайным выданні (агульны тыраж складаў 4 300 экземпляраў). Але Пецярбургскі камітэт па справах друку 24 кастрычніка 1908 года не толькі наклаў на «Дудку» арышт, але і ўзбудзіў судовую справу супраць аўтара—нябожчыка Ф. Багушэвіча. Пад арыштам «Дудка» і «Смык» знаходзіліся больш за два гады, і 25 лістапада 1910 года адбыўся працэс над Ф. Багушэвічам. Пецярбургская судовая палата зняла сваю забарону. Гэтая «літасць» царскага суда каштавала выдавецкай суполцы ажно дзве сотні рублёў, якія пайшлі на «падмазку» дзяржаўнай машыны ці ў кішэню ўплывовага чыноўніка.

Праз некалькі гадоў у выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» выйшла новае выданне «Дудкі» (1914). А ўсяго за няпоўныя 25 год (з 1891 па 1914) з'явілася пяць выданняў «Дудкі беларускай». З'ява небывалая для беларускай кнігі. Яна сведчыла пра незвычайную папулярнасць паэтычнага зборніка Ф. Багушэвіча.

«Дудка беларуская»—гэта паэтычны маніфест Ф. Багушэвіча, смелы пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання народу. Праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці, жывыя і дасціпныя старонкі народнага побыту, яркі вобраз беларускага селяніна—усё гэта рабіла «Дудку» выдатнейшай кнігай айчыннай паэзіі мінулага стагоддзя.

Пераеўся хлеб да крышкі,
Бульбы толькі як пасеяць,
І прыварку ані лыжкі,
І скаціна,—хоць развеяць;

Ні саломкі, ні то сена,
Хоць бы на раз для скаціны;
А тут дроў ані палена,
А тут яшчэ нарадзіны!..

Такога простага і суровага малюнка яшчэ не ведала беларуская літаратура. Ф. Багушэвіч, як ніхто іншы, бачыў, што «Мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы», бо «крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі». Але паэт не толькі сумаваў над народнай нядоляй, ён верыў у лепшую будучыню і ў адным з лепшых вершаў («Думка»), што ўвайшоў у «Дудку», пісаў, што надыдзе і такі час, калі

Перастанем плакаць мы над сваёй доляй!

«Дудку» Ф. Багушэвіча прыхільна сустрэлі ў славянскім свеце, выхад яе адзначыў польскі, рускі і ўкраінскі друк. Першы водгук з'явіўся ў маі 1892 года на старонках кракаўскага часопіса «Пшэглёнд повшэхны». У артыкуле «З мясцовай літаратуры» Цітус Сaподзька пісаў: «Гэта быццам чуллівае рэха скаргі, якая далятае з далёкай і амаль забытай літоўскай (г. зн. беларускай—**С. А.**) правінцыі паміж Дзвіной, Дняпром і Прыпяццю».

Неўзабаве звесткі пра «Дудку» трапляюць у афіцыйныя рускія выданні Беларусі. Газета «Витебские губернские ведомости» змясціла 7 красавіка 1894 года рэцэнзію вядомага беларускага фалькларыста Е. Раманава





на першую кнігу Ф. Багушэвіча (рэцэнзія была перадрукавана ў тым жа годзе і «Гродненскими губернскими ведомостями»). На думку рэцэнзента, «Дудка» мае «немалаважную цікавасць і паказвае, што ў аўтара ёсць як паэтычная жылка, так і неабходная наглядальнасць». Е. Раманаў лічыць, што кніга Ф. Багушэвіча—радасная з'ява, бо яна сведчыць пра абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў. Але пры разглядзе «Дудкі» Е. Раманаў робіць заўвагі, з якімі нельга пагадзіцца: грамадская тэма, сацыяльны пратэст не слабасць зборніка, а якраз яго самы моцны бок. Цяжка меркаваць пра тое, ці была прыдзірлівая ацэнка лепшых твораў зборніка («У астрозе», «Дурны мужык, як варона», «Мая дудка» і іншых) яго сапраўдным перакананнем.

Магчыма, аўтар пад такой звышдыпламатычнай заслонай выкарыстаў афіцыйнае выданне, каб пазнаёміць беларускую грамадскасць з кнігай на роднай мове, якая лічылася афіцыйна забароненай. Пра тое, што Е. Раманаў ставіў задачу папулярызаваць кнігу Ф. Багушэвіча, сведчыць публікацыя ў канцы рэцэнзіі поўнага тэксту верша «У судзе» на беларускай мове.

Не стаў яшчэ здабыткам нашага літаратуразнаўства і той цікавы факт, што на выхад у свет «Дудкі беларускай» адгукнуліся і ў Галіцыі. З'яўленне зборніка Ф. Багушэвіча выклікала выданне брашуры А. С. Петрушэвіча «Новы «самостойны» рускі народ» (Львоў, 1892). Аўтар брашуры ідзе ўслед за рускай афіцыйнай «навукай» і лічыць, што няма ні беларусаў, ні беларускай мовы, таму нібыта «кракаўскаму Мацею Бурачку не ўдасца для палітычных мэт праз фанетыку і польскі правапіс стварыць беларускі народ і літаратуру». На такім вось узроўні, наіўна і прасталінейна, вядзе Петрушэвіч палеміку з «Прадмовою» да «Дудкі», якую прыводзіць у сваёй брашуры на мове арыгінала амаль цалкам. Ён называе Ф. Багушэвіча «польскім палітыкам», абвінавачвае яго ў беларускім сепаратызме, але вымушаны адзначыць і моцныя бакі «Дудкі»: «Надрукаваныя ў ёй вершы Мацея Бурачка вызначаюцца сваім гумарыстычным зместам і характарызуюць беларускі просты народ у яго нацыянальным жыцці-быцці...»

Вершы «Дудкі» часта траплялі на мове арыгінала ў розныя польскія, рускія, украінскія, а пасля і беларускія выданні: газеты, часопісы, альманахі. З надзеяю, радасцю і хваляваннем чытаў «Дудку» вясковы грамацей, творы Ф. Багушэвіча завучвалі на памяць, неўзабаве яны загучалі на літаратурных вечарах у Вільні і Пецярбурзе.

Рэха «Дудкі» кацілася па шырокіх абшарах беларускай зямлі, яно абуджала народ ад векавечнага сну, уздымала на барацьбу за шчасце і права «людзьмі звацца». Звонкі голас багушэвічавай «Дудкі» абудзіў не адно пакаленне беларускіх паэтаў да творчай працы. «Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею, за тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею»,—пісаў Адам Гурыновіч. «Ты, «Дудка», грай і мне голас дай!»—усклікала Цётка. А Янка Купала проста адзначаў, што «рэвалюцыйныя пракламацыі і «Дудка беларуская» Багушэвіча» зрабілі яго беларускім паэтам.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# З БІЯГРАФІІ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

**Хмаркі цёмныя, мае братанькі!**
**Вецер гоне вас без дарожанькі,**
**І нідзе ж для вас няма хатанькі...**

**Так і аўтара гэтай песні Францішка Багушэвіча лёс ганяў па свеце на працягу многіх гадоў. Вільня — Пецярбург — Лідскі павет — тайныя шляхі паўстанцкага атрада — Не-**

жын. Пасля заканчэння Нежынскага юрыдычнага ліцэя дваццацівасьмігадовы Багушэвіч пачаў сваю самастойную службовую дзейнасць на пасадзе дробнага канцылярскага чыноўніка.

Архіўныя дакументы, і, у прыватнасці, фармулярныя спісы, падрабязна паведамляюць пра ўсе яго перамяшчэнні па службе. А было іх шмат. У студзені 1869 года Багушэвіч становіцца выканаўцам абавязкаў («исправляющим должность») памочніка справавода пятага стала Чарнігаўскага губернскага праўлення. З канца чэрвеня да канца кастрычніка ён ужо выконвае абавязкі судовага следчага 1-га ўчастка Кралявецкага павета, а з 4-га лістапада да 15-га верасня наступнага... 1870 года займае такую ж пасаду ў Старадубскім павеце.

Цяжкім было ўзыходжанне ў той час па службовай лесвіцы для чалавека, які не жадаў выслужвацца, імкнуўся захаваць сваю годнасць і пры гэтым не мог разлічваць на падтрымку дастаткова ўплывовых асоб. І Багушэвіч усюды лічыўся або кандыдатам у памочнікі, або памочнікам, або выканаўцам абавязкаў. У снежні 1870 года яго камандзіруюць у дапамогу судоваму следчаму 2-га ўчастка Чарнігаўскага павета. Тут ён працаваў толькі 37 дзён.

У студзені 1871 года Багушэвіч атрымаў першы свой адпачынак на два месяцы і, не дачакаўшыся канца яго, пайшоў у адстаўку з 4-га сакавіка. Сваю просьбу аб звальненні ён матываваў хваробай, таксама як і ў 1861 годзе заяву аб звальненні з Пецярбургскага ўніверсітэта і затым, пазней, у 1884 годзе, заяву аб вызваленні ад абавязкаў судовага следчага. Але кожны раз, бясспрэчна, у яго былі іншыя прычыны, якія прымушалі прымаць такія рашэнні. Можна меркаваць, што на гэты раз ён проста не мог мірыцца з частымі перамяшчэннямі і адсутнасцю перспектывы.

Чатыры з палавінай месяцы Багушэвіч застаўся без пасады. Што ён рабіў у гэты час — невядома. Ясна толькі, што ранейшыя ўмовы яго не задавальнялі, аднак лепшага нічога знайсці ён не мог і ўжо ў ліпені таго ж года вяртаецца на службу. Праўда, на гэты раз загадам па ведамству Міністэрства юстыцыі ён быў закінуты аж у Валагодскую губерню ў Гразавецкі павет для выканання абавязкаў судовага следчага 2-га ўчастка. І зноў пачалася тая ж самая работа.

Але вось што цікава: чаму Багушэвіч трапіў так далёка? Ці не па ўласным жаданні? І ці не пралівае на гэтае рашэнне хоць нейкі прамень святла тая акалічнасць, што ў Валагодскай губерні ў ссылцы знаходзіліся ўдзельнікі паўстання 1863 года? Ці не імкнуўся Багушэвіч, карыстаючыся сваім службовым становішчам, устанавіць з імі нейкі кантакт або хаця б прасачыць за іх лёсам? Магчыма, у архіўных матэрыялах былой Валагодскай губерні захоўваюцца дакументы, якія маглі б раскрыць яшчэ адну невядомую старонку біяграфіі беларускага паэта, кантактаў паміж перадавымі дзеячамі беларускага і польскага народаў.

Нядоўга Багушэвіч служыў у Валагодскай губерні. Загадам ад 7-га мая 1872 года ён быў пераведзены на пасаду выканаўцы абавязкаў судовага следчага Борзенскага павета Чарнігаўскай губерні. Але на гэтым яго вандроўкі і перамяшчэнні не канчаюцца. У чэрвені 1874 года яго залічылі ў дэпартамент міністэрства юстыцыі і адкамандзіравалі на пасаду выканаўцы абавязкаў (зноў!) судовага следчага 1-га ўчастка Канатопскага павета ў Нежынскай судовай акрузе. І толькі ў студзені 1882 года «найвышэйшым» загадам ён быў прызначаны судовым следчым. У Канатопе Багушэвіч працаваў да выхаду ў адстаўку, да сакавіка 1884 года.

На Украіне, як паведамлялі сучаснікі Багушэвіча, пачалася яго літаратурная дзейнасць. Не ведала пра яго настроі найвышэйшае начальства, калі ўзнагароджвала яго ордэнам святога Станіслава 3-й ступені (1876 год), святой Анны 3-й ступені (1883 год).

У час вымушаных вандровак, а таксама службы ў судовых установах, Багушэвіч збярог пачуццё нянавісці да прыгнёту, сацыяльнай несправядлівасці, нацыянальнага ўціску, пачуццё адданасці роднай зямлі. І калі ён пісаў пазней:

> А хоць сілай навет адарвалі б з дому,
> Калісьці вярнуўся б, як мядзведзь да лому,—

то ён, перш за ўсё, мог мецъ на ўвазе сваё мінулае. Бо і ён вымушаны быў кінуць родную зямлю. Але вярнуўся, каб ужо больш не ўцякаць. Нават і тады, калі яму прапаноўвалі ў 1887 годзе выгадную пасаду члена акруговага суда ў Любліне.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**



# ПРА ГЭТА ТРЭБА ПІСАЦЬ



**Інтэрв'ю з нямецкім пісьменнікам ГАРЫ ЦЮРКАМ**

«Час мёртвых вачэй», «Даліна сямі месяцаў», «Лотас на палаючай сажалцы», «Вецер памірае ў джунглях», «Белыя агні Ганконга», «Засохлы язмін», «Смерць і дождж» — гэтыя сем раманаў нямецкага пісьменніка Гары Цюрка я ўбачыў на стэндах выстаўкі кніг ГДР у Мінску, якая была прысвечана 20-годдзю рэспублікі. Нават па саміх назвах можна здагадацца, што геаграфія твораў пісьменніка шырокая.

Раман «Смерць і дождж» мне давялося прачытаць на рускай мове ў «Раман-газеце». Ён напісаны пра вайну ў В'етнаме. Палымяная публіцыстычнасць, рэзка акрэсленыя сімпатыі і антыпатыі ў самім сюжэце твора яскрава выяўляюць аўтарскую пазіцыю ў дачыненні да апісаных падзей. Як жывы, паўстае на старонках гэтага рамана вобраз сумленнага нямецкага журналіста Штайнвальда.

Здарылася так, што на кніжную выстаўку ў Мінск прыехаў Гары Цюрк. І ўжо асабіста ад яго я даведаўся, што сваю першую кніжку — зборнік апавяданняў «Ноч і ранак» — ён выдаў у 1950 годзе, што нарадзіўся ён 8 сакавіка 1927 года, жыве ў Веймары і што Гары — гэта скарочанае ад Гаральт, а Цюрк таму, што яго продкі ўдзельнічалі ў Балканскай вайне на баку балгараў і вярнуліся адтуль з турчанкамі. «Вось і празвалі іхніх дзяцей туркамі (па-нямецку «цюркен»),— усміхаецца пісьменнік.— Так і прыжылося прозвішча».

Пісьменнік гасцяваў у Мінску тры дні. Знаёмства з горадам, наведванне літаратурных музеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа, мясцін, звязаных з жыццём Героя Савецкага Саюза Фрыца Шменкеля, сустрэча са студэнтамі інстытута замежных моў, прыём у Саюзе пісьменнікаў Беларусі — адзін гэты пералік сведчыць, што знаходжанне пісьменніка ў Мінску нельга назваць гасцяваннем у звычайным сэнсе гэтага слова, бо гэта былі дні актыўнай і напружанай работы. У апошні вечар мы мелі вольную часіну, і Гары Цюрк здолеў адказаць на пытанні, якія цікавілі мяне і, спадзяюся, цікавяць маладых беларускіх чытачоў, знаёмых з творчасцю Гары Цюрка.

— Як і калі Вы прыйшлі ў літаратуру?

**— Пасля другой сусветнай вайны я атрымаў у ГДР магчымасць авалодаць прафесіяй журналіста. Гэта была мая запаветная мара. І ў мяне ўзнікла жаданне расказаць пра тое, што я перажыў. Так паступова адна за адною пачалі ствараццца кнігі.**

— Ваш прыезд у Мінск звязан толькі з кніжнай выстаўкай ці былі яшчэ іншыя меркаванні?

**— У Мінск я прыехаў у сувязі з Выстаўкай кніг ГДР. Мне хацелася сустрэцца са студэнтамі інстытута замежных моў, дзе сярод навучэнцаў ёсць многа маіх чытачоў. Апрача таго, я хацеў сабраць звесткі пра дзейнасць нямецкага антыфашыста Фрыца Шменкеля, які ў час Вялікай Айчыннай вайны змагаўся на баку партызан і загінуў як герой. Дарэчы, ці шмат у вас напісана пра Фрыца Шменкеля?**

— Не вельмі. У нас больш вядома пра Рыхарда Зорге.

**— І ў нас таксама. Жыццёвы шлях Шменкеля павінен стаць узорам для моладзі ГДР. Я хачу стварыць фільм пра Фрыца Шменкеля.**

— У нас добра ведаюць фільмы «Зусім сакрэтна» і «Замёрзлыя маланкі», пастаўленыя на кінастудыі ДЭФА па вашых сцэнарыях. У сваіх творах Вы неаднаразова звяртаецеся да падзей вайны. Чым выклікана такая ўвага да гэтай тэмы? Якія цяжкасці сустракаеце Вы пры яе асваенні?

**— Я напісаў раман пра другую сусветную вайну з мэтай памагчы майму пакаленню канчаткова парваць з мінулым. Гэта было вельмі патрэбна. Пазней,— пасля таго, як я аб'ездзіў многія краіны Азіі,— мне ўдалося напісаць некалькі кніг пра вызваленчую барацьбу азіяцкіх народаў, якія вялі і вядуць справядлівыя войны. Гэтыя войны маюць сусветна-гістарычнае значэнне, яны азначаюць канец эпохі каланіялізму і сведчаць пра паспяховае змаганне маладых свабодных дзяржаў супраць імперыялізму. Пра гэта трэба пісаць, каб кожны ясна ўяўляў сабе гэтыя падзеі. Цяжка пранікнуць у глыбіню псіхалагічных асаблівасцей чужаземных народаў, азнаёміцца як след з іхняй культурай, жыццёвым укладам і нацыянальнай праблематыкай. Усё гэта патрабуе інтэнсіўнага вывучэння і дасканалых ведаў. Але поспех работы апраўдвае клопаты. Кнігі павінны выхоўваць чытачоў у духу інтэрнацыяналізму. Гэта вельмі важная задача, асабліва для нямецкага пісьменніка. Так, напрыклад, акцыі ў знак салідарнасці ГДР з В'етнамам сталі найбольш значнымі праявамі інтэрнацыяналізму ва ўсёй гісторыі Германіі, і я, як пісьменнік, ганаруся тым, што ўдзельнічаў у гэтай справе.**

— Якія творы савецкай літаратуры пра Айчынную вайну Вам найбольш спадабаліся?

**— На мяне асабіста найбольшае ўражанне зрабілі такія творы, як «Яны змагаліся за Радзіму» М. Шолахава, трылогія К. Сіманава — «Таварышы па зброі», «Салдатамі не нараджаюцца» і «Жывыя і мёртвыя», «Таполя на тым беразе» С. Галаваніўскага, «Валакаламская шаша» А. Бека, «Партызанская рэспубліка» П. Калініна, «У цяжкі час» і «Танкі атакуюць» М. Попеля, «У Генеральным штабе» С. Штэменкі. Цяпер з цікавасцю чытаю мемуары маршала Г. Жукава. Я прачытаў многа іншых кніг савецкіх пісьменнікаў пра другую сусветную вайну, але тыя, якія я тут назваў, аб'ядноўваюць у сабе, на маю думку, лепшыя якасці праўды жыцця і сілу мастацкага слова.**

Назаўтра раніцай я праводзіў Гары Цюрка ў аэрапорт. Чырванабокі АН-10 узяў курс на Маскву. Далей пісьменніка чакаў Берлін і, нарэшце, Веймар — горад Гётэ і Шылера, горад пісьменнікаў, мастакоў і музыкантаў і горад, кіламетраў за дзесяць ад якога, нібы па злой іроніі лёсу, знаходзіцца Бухенвальд, гэты вечны напамінак пра ахвяры другой сусветнай вайны.

Інтэрв'ю браў
**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**








**А. Я. ЖУРАЎ. Ленін — моладзі. Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1969.**

# ЛЕТАПІС ГЕРАІЧНЫХ СПРАЎ

Пра Леніна напісана і пішацца нямала. Ленінскае жыццё невычарпальнае. З цікавасцю возьме ў рукі юны чытач і новую кнігу А. Журава «Ленін — моладзі». Яна пра тое, як на розных этапах камуністычнага будаўніцтва камсамол змагаўся за ажыццяўленне ленінскіх запаветаў, пра велізарны ўклад, які заўсёды робіць савецкая моладзь у агульную справу.

Аўтар абвяргае сцверджанне буржуазных гісторыкаў, нібыта Ленін у дакастрычніцкі час мала цікавіўся праблемамі маладога пакалення. На самай справе, Ленін заўсёды захапляўся энергіяй і актыўнасцю моладзі, выразна вызначаў яе ролю ў агульнай рэвалюцыйнай барацьбе.

Высока ацэньваючы рэвалюцыйнасць маладога пакалення, Ленін у той жа час патрабаваў ад старэйшых таварышаў крытычных адносін да дзейнасці моладзі, умелага і тактоўнага растлумачэння яе памылак. Ліслівасць і дэмагогія, панібрацтва і заігрыванне, гаварыў Ленін, гэта прынцыпы і метады буржуазных дзеячаў і палітычных авантурыстаў. Іменна так спрабаваў дзейнічаць Троцкі, які імкнуўся супрацьпаставіць моладзь старэйшаму пакаленню, камсамол — партыі.

Цэнтральнае месца ў кнізе адводзіцца III з'езду РКСМ, на якім У. І. Ленін сказаў сваю гістарычную прамову «Задачы саюзаў моладзі». Аўтар падрабязна спыняецца на той абстаноўцы, у якой праходзіў з'езд. Чытач адчуе атмасферу высокага грамадзянскага пафасу і палітычнага ўздыму, якія тады панавалі ў маладзёжным руху.

За два гады, што прайшлі пасля I з'езда РКСМ, камсамол вырас, разгарнуў шырокую дзейнасць сярод моладзі ў горадзе і вёсцы. У асяроддзі камсамольцаў вяліся гарачыя спрэчкі аб тым, якой павінна быць маладзёжная арганізацыя. На Украіне група актывістаў, якія называлі сябе «класавікамі», лічыла, што ў камсамол трэба прымаць толькі рабочую моладзь. У Беларусі ідэі «класавікоў» зрабілі свой адмоўны ўплыў на работу Гомельскай і Віцебскай арганізацый. Пад уплывам Троцкага, які называў моладзь «дакладным барометрам партыі», узнікла небяспечная апартуністычная плынь — авангардызм. У 1919 годзе ў камсамоле ўтварылася апазіцыйная група на чале з В. Л. Дунаеўскім. Былі і іншыя маладзёжныя арганізацыі, дзейнасць якіх насіла апартуністычны і нацыяналістычны характар.

Зразумела, што камсамольскія арганізацыі чакалі ад з'езда адказу перш за ўсё на пытанне, якім павінен быць галоўны напрамак работы ва ўмовах пераходу да мірнага будаўніцтва.

І трэці з'езд даў гэты адказ, вызначыўшы на доўгі час галоўныя задачы камуністычнага саюза моладзі. Аўтар падрабязна расказвае пра ход з'езда, перадае тое вялізнае ўражанне, якое зрабіла на дэлегатаў прамова У. І. Леніна. А. Жураў прыводзіць факты, якія сведчаць, што да выступлення перад камсамольцамі Ленін рыхтаваўся загадзя, старанна вывучаў абстаноўку ў маладзёжным руху. І зусім невыпадкова, што яго прамова з'явілася праграмнай, асвятляла самыя істотныя праблемы жыцця і практычнай дзейнасці камсамола.

Аўтар вядзе шырокую размову пра вучобу і выхаванне моладзі, пра тое, што значыць вучыцца камунізму, пра адносіны да культурнай спадчыны і практычны ўдзел моладзі ў сацыялістычным будаўніцтве. Гаворачы пра тое, якімі павінны быць камсамольцы ў маральных адносінах, аўтар падкрэслівае, што У. І. Ленін асабліва быў непрымірымым да парушэнняў камуністычнай маралі і фактаў амаральных паводзін. Ён патрабаваў, каб моладзь выхоўвалася ў духу свядомай дысцыпліны і арганізаванасці. Моладзь, гаварыў Ільіч, павінна расці не толькі пісьменнай і культурнай, але і ўмець працаваць, быць гатовай выканаць любую работу, разглядаючы яе як практычны ўдзел у будаўніцтве камунізма.

У сваёй прамове на III з'ездзе РКСМ У. І. Ленін выклаў і абгрунтаваў праграму камсамола. Камсамол — гэта памочнік партыі, ён павінен кіравацца дырэктывамі камуністычнай партыі, але ў той жа час і сам праяўляць ініцыятыву ў рабоце.

З пачуццём гордасці чытаюцца старонкі, прысвечаныя геранчным справам савецкай моладзі ў гады грамадзянскай вайны, у перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі, у гады Вялікай Айчыннай вайны. З цікавасцю чытач пазнаёміцца са справамі камсамольцаў-беларусаў, якія ў геранчны летапіс камсамола ўпісалі не адну слаўную старонку.

Завяршаецца кніга расказам пра камсамольцаў сённяшняга дня. Кніга цікавая, карысная, надзённая. Трэба пажадаць, каб яе прачытаў кожны камсамолец, кожны старшакласнік.

**Яўхім ІВАНОВІЧ.**




**Валянцін ЛУКША. АТАВА.**
**Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969.**

# ДАРОГІ АДКРЫТЫЯ І НЕАДКРЫТЫЯ

Валянцін Лукша не навічок у літаратуры. Дзве кніжкі вершаў і кніжка прозы — такі яго творчы багаж. А за плячыма — сотні дарог, якія вадзілі маладога паэта ў самыя розныя куткі краіны. Аб гэтым гаворыць ён сам:

Я з паходнай кайстраю нямала
Вёрст прайшоў
і раніцай і ўвечар
Ад бярозак краю Калевалы
Да сібірскіх хваль шыракаплечых.
Ды ніколі сэрца не шукала
Засені —
ад стомы адпачыць,—
Сто дарог
жыццё
наканавала
Тых,
Што на планеце мне адкрыць.

Паверыўшы ў словы паэта, чакаеш ад яго адкрыцця новага, якое ён павінен прынесці са «ста адкрытых дарог». На жаль, «дарожныя вершы» атрымаліся ў В. Лукшы эскізныя, замалёвачныя. Ён здолеў заўважыць толькі некаторыя штрыхі тайгі, сібірскіх рэк, аднак не змог узняцца да мастацкага абагульнення. Таму і «Чыркнуў гром на скалах...», і «Расамаха», і «Сівер» успрымаюцца, як накіды да будучых твораў, наспешна занатаваныя ў блакнот, каб да іх з цягам часу вярнуцца.

Сівер
кроў у жылах кедраў студзіць,
За плячо зіму сівую будзіць,—

піша паэт. Добрыя радкі. Але далей ідзе:

Праскуголяць на світанні ўпарта
Лайкі каля перасохлых нартаў.
Зранку ўсё пабеліць пад арэх
Цёплы пух —
Таёжны першы снег.

Нядобра ў лірычнай замалёўцы скуголіць. І дзе тут упартасць, калі лайка праскуголіла і змоўкла? А «пабеліць пад арэх» — гэта і зусім цяжка ўявіць, бо колер снегу і арэха розны.

Найбольш удаліся В. Лукшу вершы пра сына. Іх у кнізе тры. Адзін з іх хочацца прывесці поўнасцю:

У маці ад шчасця,
нібы крылы выраслі.
Сакочуць суседкі:
— А сын — бацька выліты!
Бацька
каляску «Ракету» купляе...
Хай сын прывыкае.

Тут ёсць усё: і вера ў будучыню, калі сын паляціць у сапраўднай ракеце да неабжытых планет, і заклапочанасць лёсам дзіцяці, і цеплыня. Маленькая замалёўка набыла грамадзянскае гучанне.

Верш «Ягорка» таксама ўдаўся. Прачытаеш яго, і адразу бачыш дзіцячы сад, дзе мішкі на галаву вышэйшыя за дзяцей. Праўда, яго крыху псуюць «казачныя сонечныя сны і яркія машыны». А найбольш—канцоўка:

Спіць Ягорка
На Прыдзвінскай вуліцы
Горада гаспадаром.

Адразу ўспамінаецца верш Рыгора Барадуліна. дзе цаліннік

...на прэм'еру павядзе
Упершыню сваю сяброўку.
З ёй седзячы плячо ў плячо,
Хлапчына, поўны захаплення,
Убачыць гэтых гледачоў
Героямі на новай сцэне...

Той жа паэтычны ход, тая ж сітуацыя. І наогул, барадулінскія інтанацыі часта гучаць у вершах В. Лукшы. Гэта можна прасачыць на творах «Яхкае ганчак на жоўтым вогнішчы», «Пераправа» («уткнула хваля ў жвір халодны нос») і іншых.

Павучыцца ў такога майстра паэтычнага слова, як Р. Барадулін, не шкодзіць нікому з маладых паэтаў. Але ж вучоба — гэта не капіраванне паэтычных ходаў і вобразаў. Самастойнае ж паэтычнае мысленне ў В. Лукшы яшчэ вельмі недасканалае. Яго вобразам і пераасэнсаванням нестае думкі, а часам і густу:

Бульдозеры —
матадоры.
Салярка —
рудая кроў.
Лес,
што сякуць пад корань,
Як ранены бык,
зароў.

Ці:

У хлопца на цяльняшцы —
чорны пот.

Калі б В. Лукша ўважліва пачытаў Э. Хемінгуэя, ён бы не напісаў: «Бульдозеры — матадоры», «лес — бык», бо на арэне наступае бык, а не матадор. Відаць, гэта атрымалася таму, што лес не можа наступаць, бо ён неадухоўлены. Наконт «саляркі — крыві» можна сказаць толькі тое, што параўнанне гэтае банальнае, зашмальцаванае ад частага ўжывання безгустоўнымі вершаплётамі, якія матор называюць сэрцам, бензін і салярку — крывёю.

Непаслядоўнасць і недакладнасць — ахілесава пята В. Лукшы.

«Мяне дарога
зноўку кліча ўдалеч»,—

гаворыць ён у вершы «Маці», і чакаеш, што размова пойдзе пра Сахалін ці Чукотку, а чытаеш:

У заінелы
прыдняпроўскі лес.
Вось дык далеч!

Вершаў пра Нафтаград у кнізе некалькі. У адным з іх В. Лукша клянецца, што

Напалам —
апошні акраец,
Напалам —
трохпудовы ранец,
Напалам —
і шчасце і гора.
Нафтаград —
мой ласкавы горад.

А праз старонку сустракаеш радкі:

Мне
плечы муліць спяцоўка,
Як палахліўцу
плечы вінтоўка.

У заключэнне хацелася б сказаць некалькі слоў пра верш «Стаяць на рэйдзе нашы брыганціны!» Дакладней кажучы, гэта песня, якую я часта слухаю па радыё на рускай мове. У кнізе яна даецца на беларускай. З якой мовы на якую яна перакладзена — невядома. Як песня, твор успрымаецца. Выручае добрая музыка Ігара Лучанка. А верш... Няхай прабачыць аўтар, нешта падобнае можна часцяком сустрэць, гартаючы літаратурныя старонкі раённых газет...

Няўдалая і назва кнігі — «Атава». В. Лукша, відаць, хацеў сказаць, што гэта яго другі паэтычны ўкос. Атаву ж косяць восенню, калі ідуць дажджы. Дасушваюць яе, развесіўшы на платах, пад страхой павецяў і пунь. І ўсё роўна яна сыраватая, і яе спяшаюцца скарміць коням і каровам раней, чым сена. Як кажа народная мудрасць: атаўка — добрая сену прыбаўка, але не ўмеў яе скасіць Саўка.

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ.**




**І. БАС. ЛІТАРАТУРНЫЯ ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ, ДАСЛЕДАВАННІ.**
**Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1969.**

# ЗАХАПЛЕННЕ ПОШУКАМ

Часам з цікавасцю чытаеш невялікі допіс у газеце ці часопісе і, ахоплены гэтай цікавасцю, не звяртаеш увагі на тое, кім ён выканан. Факт, неспадзяваны або па-новаму пададзены, бярэ ў палон, і забываеш пра таго, хто адшу-

жаў гэты факт у жыцці ці на паліцах бібліятэкі або архіўнага сховішча. А потым глядзіш, гэты факт, памножаны на смеласць думкі і дасціпнасць домыслу, становіцца ўжо тым грунтам, на якім вырастаюць нарысы, эсэ, манаграфіі. Бывае, што ў спасылках на крыніцы сустрэнеш набранае петытам імя першаадкрывальніка, першапраходцы. Бывае, што і спасылка адсутнічае.

Такім першапраходцам у нялёгкай справе даследавання гісторыі нашай нацыянальнай культуры, чалавекам, занятым «чарнавой» работай, з'яўляецца Ісідар Бас, які вось ужо на працягу дваццаці з лішнім год перабірае архіўныя скарбы, перагортвае падшыўкі перыядычных выданняў, перачытвае кнігі самых даўніх гадоў выдання. І робіць усё гэта з бескарыслівай мэтай — па магчымасці найбольш усебакова і вычарпальна даследаваць многія засведчаныя і не засведчаныя яшчэ гісторыяй з'явы беларускай літаратуры, прасачыць іх узаемасувязь з братнімі літаратурамі, у першую чаргу, з рускай, бо тут гэтыя сувязі былі найбольш плённыя і трывалыя. Вынікам такой работы з'явілася кніга, у назве якой выяўлен і змест і характар яе: «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні».

У кніжцы дзве часткі. Першая, найбольш грунтоўная, прысвечана даследаванню некаторых спрэчных пытанняў, звязаных з вытокамі рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя, а больш дакладна — з такімі выдатнымі яе помнікамі, як сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Гаворачы пра вытокі гэтых паэм, даследчык выяўляе добрае веданне беларускага фальклору і да кожнай больш-менш значнай сітуацыі паэм знаходзіць адпаведнік у народных казках. Аўтар даследуе элементы парадзіравання, якія да «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе» вядомы былі ў сатырычнай літаратуры XVI—XVII стагоддзяў («Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»).

Цікавыя меркаванні І. Баса і наконт тэксталогіі, аўтарства і часу з'яўлення паэм. Вядома, што паэма «Тарас на Парнасе» ўпершыню была надрукавана ў газеце «Минский листок» у 1889 годзе. Але, як заўважае даследчык, тэкст гэты «надзвычай скажоны. Рыфма і памер верша не вытрыманы, логіка сюжэта парушана». Прасочваючы ўсе вядомыя да гэтага часу публікацыі паэмы, аўтар звяртае ўвагу на розначытанні, каб зрабіць вывад, што найбольш акуратна паэма была выдадзена ў Магілёве (1900 і 1902), Віцебску (1898 і 1904), Вільні (1909), а таксама выдавецтвам «Наша хата» (1909). Што датычыць «Энеіды навыварат», дык вывад даследчыка больш катэгарычны і адназначны: трэба прытрымлівацца «таго зместу паэмы, які вядомы па публікацыі Я. Карскага, бо ён больш навукова тэксталагічна абгрунтаваны і блізкі да арыгінала». За арыгінал жа аўтар прапануе браць публікацыю В. Равінскага, зробленую ў «Смоленском вестнике» (1890), прапануе на падставах, якія не выклікаюць сумнення, бо пацверджаны сведчаннямі ўнука В. Равінскага — Канстанціна Іпалітавіча Равінскага, які працаваў публіцыстам па сялянскіх пытаннях, быў членам Смаленскага гісторыка-археалагічнага музея.

Праўда, калі І. Бас спрабуе запярэчыць імкненням некаторых даследчыкаў устанавіць прамую залежнасць беларускай «Энеіды навыварат» ад украінскай, створанай І. Катлярэўскім, катэгарычнасці тут бракуе і вывад пра тое, што «беларускі аўтар успрыняў паэму ўкраінскага аўтара творча, напоўніў змест свайго твора нацыянальнымі элементамі, мясцовым каларытам», недастатковы, каб зняць западозранні ў перайманні.

Кніга І. Баса напісана, аднак, не з мэтай паставіць усе кропкі над «і», а найперш — **звярнуць увагу** на недаследаванае ці маладаследаванае ў шырокім абсягу пытанняў, звязаных з гісторыяй беларускай літаратуры. І ў гэтым плане яна каштоўная багаццем тых гіпотэз і меркаванняў, што пры далейшым вывучэнні могуць прынесці багаты плён.

Даследаванне «Следчай справы аб па́даючым на крошынскага плебана ксяндза Магнушэўскага падазрэнні ў сувязях з крошынскімі сялянамі», зробленае І. Басам вельмі старанна, дае яму падставы, па-першае, унесці істотную папраўку ў напісанне прозвішча паэта **«Не Бахрым, а Багрым»!** Па-другое, устанаўліваецца імя па бацьку паэта — Іосіфавіч. І па-трэцяе, і гэта самае галоўнае: робіцца вывад аб існаванні паэтычных рукапісных зборнікаў Паўла Багрыма, які пакуль што вядомы толькі як аўтар адзінага верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Гэты вывад робіцца пасля азнаямлення са следчымі справамі аб непадпарадкаванні сялян м. Крошына і з выдадзенай на польскай мове ў Познані ў 1858 годзе кнігай «Аповесці майго часу, або літоўскія прыгоды», дзе прыведзены ўспаміны пра тое, як «Багрым прачытаў 6—7 вершаў», якія не спадабаліся прадстаўнікам афіцыйных улад, бо яны «ўвесь час пераглядаліся паміж сабой», а «праз некалькі дзён паэта аддалі ў салдаты».

Перагортваць падшыўкі старых газет, камплекты пажоўклых часопісаў, перачытваць старыя кнігі, перакідваць папкі архіўных фондаў — гэта не марны занятак, калі чалавек ставіць перад сабой пэўную мэту і ўнутрана падрыхтаваны да здзяйснення яе. Такім унутрана змабілізаваным да росшукаў важных фактаў прадстае перад чытачом І. Бас у сваёй кнізе, дзе гэтыя росшукі засведчаны.

Здавалася б, што жыццё і творчасць Янкі Купалы ды Якуба Коласа найбольш вывучаны і даследаваны. Але, пасля азнаямлення з дарэвалюцыйнымі перыядычнымі выданнямі, І. Бас прыходзіць да высновы, што «далёка не ўсё, напрыклад, вядома пра літаратурна-грамадскае асяроддзе, у якім мужнеў і набіраўся сілы іх талент», што «не ўсё ўлічана літаратуразнаўствам і з таго, што пісала тады крытыка пра Купалу і Коласа».

Раздзел «У пачатку вялікага шляху» ставіць за мэту даследаваць першае рэцэнзаванне твораў Купалы, якое вялося ў газетах, што выдаваліся на рускай мове («Минский курьер», «Минское эхо», «Минское слово», «Виленский вестник», «Северо-западная жизнь» і іншыя). Даследуючы рэцэнзіі ў газетах самых розных накірункаў, І. Бас атрымлівае магчымасць зрабіць удакладненне часу выхаду з друку «Жалейкі»: **«не пазней чэрвеня, а магчыма і раней — вясною 1908 года...» у сакавіку.**

Спыніўшыся на артыкулах, аглядах, бібліяграфічных заметках Д. Бохана, які супрацоўнічаў у газетах «Голос провинции», «Северо-Западный край», на выступленнях «Нашай нівы» з артыкуламі С. Палуяна, М. Багдановіча, Л. Гмырака і іншых даследчыкаў, І. Бас лічыць надзённай задачай нашага літаратуразнаўства ўважліва вывучыць усе «матэрыялы, якія маюцца ў розных перыядычных выданнях дарэвалюцыйнай Расіі і звязаны ў той ці іншай меры з першым дзесяцігоддзем творчасці заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры». Аўтар кнігі «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні» паказвае ў гэтай справе добры прыклад, адкрываючы нам усё новыя і новыя не прачытаныя яшчэ старонкі нацыянальнай літаратуры.

Шчыра кажучы, не заўсёды І. Бас бярэцца несці цяжкую ношу першаадкрывальніка да канца. Часам ён не бянтэжыцца, каб спыніцца на палавіне дарогі і напісаць выбачліва: «Параўноўваючы розныя варыянты верша, вельмі цяжка сказаць што-небудзь аб тым, які быў першапачатковы тэкст «Уваскрэшання Хрыстова». Магчыма, што бліжэй да арыгінала стаіць беларуская рэдакцыя». Метадам «а хто яго ведае?», «а можа?» не надта шмат чаго высветліш, і ён мае права толькі як дапушчэнне, пакуль не назбіралася дастаткова фактычнага матэрыялу. Але ж, маючы перад сабой розныя запісы «Уваскрэшання Хрыстова» (і беларускія, і ўкраінскія, і рускія), варта было пільна даследаваць моўную тканіну твора, не спадзеючыся на каго-небудзь. А што гэты твор моцна зацікавіў даследчыка, відаць хоць бы з яго дасканалага і грунтоўнага вывучэння генезісу верша.

Няправільна было б лічыць І. Баса чалавекам, закапаным па вушы ў адны архіўныя скарбы. Яго цікавіць літаратурны працэс ва ўсіх сваіх праявах — гістарычных і сённяшніх. Гэта можна адчуць, пабываўшы на лекцыях, якія ён чытае слухачам Вышэйшай партыйнай школы ў Мінску. Гэта адчуваеш і чытаючы запісаныя ім жывыя ўспаміны людзей, якія ведалі Францішка Багушэвіча — выдатнага беларускага паэта-дэмакрата.

Сабраныя І. Басам па драбочках звесткі пра жыццё Францішка Багушэвіча ў Кушлянах, пра яго адносіны да сялян, дапаўняюць сціплы партрэт песняра новымі вельмі выразнымі рысамі.

«Адзеты паэт быў у боты з шырокімі халявамі, у чорныя штаны. Летам на ім была белая кашуля. Часта выязджаў Багушэвіч у поле на белым кані». Гэта з успамінаў кушлянскага жыхара І. О. Каспяровіча. Але гэта была не гульня ў дэмакратыю, а сам змест жыцця паэта, які «меў маленькі фальварак, сам працаваў на гаспадарцы, касіў, займаўся і іншымі гаспадарчымі справамі» (А. А. Лозан). Кушлянскія жыхары не ўтойваюць што-небудзь істотнае. Той жа І. О. Каспяровіч прыпамінае, што ў гаспадарцы Багушэвіча было 200 дзесяцін зямлі. 50 з іх было адведзена пад ворыва. Каб апрацаваць зямлю і рабіць што іншае на гаспадарцы, ён наймаў звычайна чатыры чалавекі. Да іх ён ад-

носіўся вельмі добра і кожнаму на свята што-небудзь спраўляў з адзення.

Пра высокую гуманнасць свайго земляка сведчыць С. К. Альхімовіч: «Багушэвіча сяляне вельмі паважалі. Бывала, ідзе па дарозе, сустрэне каго-небудзь з сялян, спыніцца, паздароўкаецца за руку, запытае пра жыццё. Размаўляў ён з імі на беларускай мове, даваў чытаць свае вершы».

Іх няшмат, запісаных І. Басам успамінаў кушлянскіх сялян пра славутага земляка. Але ў іх толькі факты, факты вельмі ўражлівыя і для біёграфаў, і для гісторыкаў, і для тых, хто наважыцца засведчыць вобраз Ф. Багушэвіча ў мастацтве.

Мінула 130 гадоў з дня нараджэння выдатнага сына Беларусі, а мы не маем не толькі навуковай біяграфіі яго, але і звычайнага папулярнага біяграфічнага нарыса. А можа, варта было б падумаць і пра мастацкі кінафільм, прысвечаны жыццю чалавека, з чыім імем звязана развіццё рэалізму і народнасці ў беларускай літаратуры?

Адзін толькі сказ: «Да Багушэвіча прыязджалі госці з Вільні, з Варшавы», а для даследчыка гісторыі гэта новы імпульс пошукаў. Кніга Ісідара Баса дае шмат такіх імпульсаў. Але абмежаваць яе значэнне толькі гэтым было б неправамерна, бо кніга выяўляе апантанасць аўтара пошукамі, адкрыццём маладаследаваных мясцін на літаратурнай карце Беларусі. Кніга напісана жыва, проста, цікава, без аніякай прэтэнзіі на акадэмічнасць. І гэта зусім не зніжае вартасці кнігі, а, наадварот, пацвярджае тую неаспрэчную ісціну, што і пра складаныя, часам вельмі заблытаныя факты гісторыі можна пісаць проста і захоплена. Для гэтага патрэбна адно — натхненне. Аўтар натхнёны пошукамі, і таму яго невялікая кніжка зацікавіць не толькі літаратуразнаўцаў, настаўнікаў-славеснікаў, студэнтаў-філолагаў, але і шырэйшае кола чытачоў — усіх, хто не абыякавы да культуры свайго народа.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



**І. РАЛЬКО. БЕЛАРУСКІ ВЕРШ. Старонкі гісторыі і тэорыі. Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1969.**

# ДАСЛЕДУЕЦЦА БЕЛАРУСКІ ВЕРШ

Яшчэ на пачатку XX стагоддзя вядомы беларусазнаўца прафесар Я. Карскі звярнуў увагу грамадскасці на тое, што беларусы ў добрым суседстве жывуць з рускімі, палякамі, літоўцамі, латышамі, украінцамі, яўрэямі і засвойваюць, апрача роднай, і іх мовы, міжвольна становяцца паліглотамі. На падставе гэтага ён адводзіў беларускай нацыі значную ролю ў будучай гісторыі гуманітарных навук, прарочыў ёй «філалагічны лёс».

Час ідзе, многае мяняецца. Сёння беларусы вядомы свету не толькі (і, скажам шчыра, не столькі) плёнам сваім у галіне гуманітарных даследаванняў. І, тым не менш, дасягненні беларускіх вучоных, у прыватнасці філолагаў, не ў апошнюю чаргу прадвызначаюцца іх заўсёднай арыентацыяй у курсе самых навейшых навуковых пошукаў калег-суседзяў.

Іван Ралько, свабодна скарыстоўваючы багаты фактычны матэрыял паэзіі не толькі ўсходніх, але і заходніх і нават паўднёвых славян, апіраючыся на шматлікія, цяперашнія і даўнейшыя, працы рускіх, польскіх і ўкраінскіх даследчыкаў верша, імкнецца вырашыць, галоўным чынам, дзве задачы. Задача першая (у пастаноўцы самога даследчыка): «Паколькі ў работах выдатных рускіх вучоных Б. Тамашэўскага, Л. Цімафеева і іншых праблеме эвалюцыі сілабічнага верша ў напрамку сілаба-тонікі не надаецца належнай увагі, мы рашылі хоць бы ў нейкай ступені ліквідаваць гэты недахоп у вывучэнні рускага і беларускага вершаскладання». Задача другая: вывучыць такую «надзвычай цікавую з'яву не столькі рускага, колькі беларускага і ўкраінскага вершаскладання, як працэс пераўтварэння народнапесеннай творчасцю сілабічнага ў сваёй аснове 14-складовага леанінскага верша ў музычна-танічны (так званы «каламыйкавы» верш)», прасачыць «эвалюцыю гэтага верша ў верш акцэнтны (двухакцэнтны) у творчай практыцы двух нацыянальных паэтаў — Шаўчэнкі і Купалы».

Ужо з самога акрэслення праблем добра відаць, што кніга І. Ралько — гісторыка-тэарэтычнае асэнсаванне шляхоў, якія прайшоў усходнеславянскі верш увогуле. Гэта і зразумела, бо разглядаць гісторыю станаўлення беларускага верша ў адрыве ад рускага, украінскага і польскага — значыць ісці на свядомае жывасячэнне моцна ўзаемазвязанага, часам аднолькавага працэсу.

Праца І. Ралько прыемна вылучаецца з шэрагу іншых не толькі вастрынёю, нават нейкай асаблівай завостранасцю пастаўленых задач, але і арыгінальнасцю іх вырашэння, навізною і доказнасцю высноў. Даследчык падчас пераглядае ранейшыя, здавалася б, аксіяматычныя сцверджанні, займае сваю пазіцыю ў сутыкненні навуковых думак і поглядаў.

Апошнім часам у нашай навуцы пра літаратуру з лёгкай рукі вядомага літаратуразнаўцы Л. Цімафеева запанавалі, мякка кажучы, аднабаковыя адносіны да ролі Сімяона Полацкага ў гісторыі ўсходнеславянскай паэзіі. І. Ралько выяўляе недакладнасць статыстычных падлікаў і заўважае, што «ёсць падстава лічыць неправамерным выказванне Цімафеева і аб тым, што для сілабічнай паэзіі XVII стагоддзя ў цэлым пераносы нехарактэрныя». Аднак, разважае далей даследчык, памылка Л. Цімафеева яшчэ і ў тым, што ён гіпербалізуе ролю пераносаў у стварэнні размоўнага тыпу верша, г. зн. такога, дзе надзвычай выразна выступаюць інтанацыі жывой гутарковай мовы. Гэтае разважанне таксама падмацавана канкрэтным даследаваннем вершаў С. Полацкага і А. Кантэміра.

Але дзе ж, у чым прычына памылкі Л. Цімафеева? Аказваецца, у час напісання «Нарысаў тэорыі і гісторыі рускага верша» (1958 год) беларускім літаратуразнаўцам М. Прашковічам яшчэ не была знойдзена ў архівах Масквы і Ленінграда пераважная большасць твораў С. Полацкага ранняга, беларускага, перыяду творчасці (1648—1664). А менавіта ж у гэты час «народная беларуская мова нярэдка амаль поўнасцю выцясняе элементы царкоўнаславянскай нават з так званых духоўных вершаў». Што датычыць маскоўскага перыяду творчасці пісьменніка (1664—1680), то С. Полацкі проста не мог, каб і хацеў, «преступити» пісьмовыя традыцыі Маскоўскай Русі. Трэба памятаць, што пятроўская эпоха была яшчэ наперадзе, а адзінамагчымай літаратурнай мовай Русі таго часу з'яўлялася мова царкоўнаславянская.

Аргументавана, лагічна, доказна вядуцца, бадай, усе навуковыя спрэчкі ў кнізе І. Ралько. Праўда, часам эмоцыі маладога даследчыка ўсё ж ламаюць межы цвярозай развагі, парушаюць спакойна-тактоўны тон выказвання («Кшыжаноўскі глыбока памыляецца», «нельга лічыць сур'ёзным яго вывад» і г. д.). Аднак гэта здараецца рэдка, і звычайна ў такіх выпадках амаль заўсёды большая праўда на баку не самога даследчыка, а яго апанента.

Самыя цікавыя старонкі кнігі І. Ралько прысвечаны разгляду акцэнтнага верша Шаўчэнкі і Купалы. Ва ўкраінскага і беларускага паэтаў ёсць так званыя «каламыйкавыя» вершы. Не толькі памер іх, але нават сістэма вершаскладання, у якой яны напісаны, пакуль што вучонымі канчаткова не вызначаны. Некаторыя даследчыкі лічылі іх сілабічнымі (В. Перацц), альбо ўмоўна-сілабічнымі (М. Рыльскі), іншыя (М. Багдановіч і яго паслядоўнікі) — сілаба-танічнымі. Яркім прыкладам шаўчэнкаўскага «каламыйкавага» верша з'яўляюцца наступныя радкі, якія, як узор, прыводзяць многія даследчыкі:

Вітре буйний, вітре буйний,
Ти з морем говориш.
Збуди його, заграй ти з ним,
Спитай синє море.

М. Багдановіч тут у першых трох радках бачыў харэй — амфібрахій — ямб, у апошнім — ямб і два харэі. Украінская даследчыца рытмікі Шаўчэнкі Т. Сідарэнка, удакладняючы па-свойму Багдановіча, разглядае апошні радок як два амфібрахіі. Большасць літаратуразнаўцаў наогул не спрабуюць вызначыць памер верша, абмяжоўваючыся канстатацыяй «тэндэнцыі да харэічнага рытму». Чыя ж тут праўда?

І. Ралько, уважліва прасачыўшы гісторыю вывучэння шаўчэнкаўскага верша, развіваючы думкі Ф. Калесы і А. Розенберга, катэгарычна заяўляе: «На нашу думку, імкненне даследчыкаў уціснуць своеасаблівыя шаўчэнкаўскія рытмы ў вузкія схемы сілаба-тонікі неправамернае». І гэта — не скараспелае меркаванне. Падставу сказаць такое дало даследчыку, перш за ўсё, вывучэнне сінтаксісу верша Кабзара ў цеснай сувязі з яго рытмічнымі, эўфанічнымі і інтанацыйнымі ўласцівасцямі. «Каламыйкавы» верш, канкрэтызуе сваю думку вучоны, «гэта, бясспрэчна, акцэнтны верш, у рытмарадах якога патрэбна лічыць не склады, не

стопы (ямбы, харэі, амфібрахіі), а толькі колькасць моцных акцэнтаў, прыпадаючых заўжды на сэнсава найбольш значныя словы».

У прыватнасці, нагаданы вышэй верш Шаўчэнкі, як заўважае аўтар, гэта не што іншае, як танічны верш з двума моцнымі акцэнтамі ў кожным радку. Гэтаксама ў паасобных частках паэмы Янкі Купалы «Безназоўнае», вершы якой разглядаліся дагэтуль выключна з пазіцый сілаба-тонікі, яскрава відаць колькасная ўпарадкаванасць моцных націскаў пры поўнай свабодзе іх размяшчэння ў рытмарадзе:

Беларýсь / на куцé
Ў хáце сваёй / сéла,—
Чарка мéду / у руцэ́,
Пазірáе / смéла.

Гэта — яскравы ўзор купалаўскага акцэнтнага верша.

Больш таго, І. Ралько даводзіць: вершы Шаўчэнкі, якія, па словах М. Рыльскага, «не падыходзяць ні пад якія агульнапрынятыя формы», таксама напісаны ў рэчышчы тонікі. Даследчык у сувязі з гэтым справядліва папраўляе асобныя палажэнні тэарэтычных прац некаторых украінскіх даследчыкаў — Я. Шабліоўскага, Г. Сідарэнка і іншых, якія знайшлі ўвасабленне і ў «Гісторыі ўкраінскай літаратуры».

Аднак І. Ралько не абмяжоўваецца толькі ўстанаўленнем «імя» верша. Ён старанна прасочвае яго радаслоўную. Акцэнтны верш Шаўчэнкі, як і Купалы, бярэ вытокі ў народнапесенным творчасці. «Каламыйкавы» народны верш — гэта, у сваю чаргу, своеасаблівая мадыфікацыя літаратурнага леонінскага (8+6) верша, які прыйшоў з лацінскай паэзіі непасрэдна ці праз Польшчу, Чэхію або адну з паўднёва-славянскіх краін. Але акцэнтны верш Шаўчэнкі — не копія народнапесеннага, а самастойны від літаратурнага верша, у слова і рытм якога арганічна ўвайшоў музычна-песенны напеў. І зрабіў яго надзвычай меладычным, інтанацыйна выразным, эўфанічна багатым.

Толькі не зусім згаджаешся з даследчыкам *адносна самой назвы «каламыйкавага»* верша. Відаць, яго правільней было б называць не акцэнтным, а **акцэнтна-сілабічным** (складовым). У адрозненне ад звычайнага танічнага верша (напрыклад, У. Маякоўскага) «каламыйкавы» верш строга прытрымліваецца прынцыпу роўнаскладовасці (8+6=8+6). Апрача гэтага, у ім ёсць сталая цэзура, і не толькі ў канцы, але і ў сярэдзіне васьміскладовага радка,— прыкмета верша сілабічнага. Верш Шаўчэнкі, з'явіўшыся для свайго часу наватарскім, новым, паяднаў асноўныя якасці сілабікі і тонікі. Гэта павінна знайсці адлюстраванне і ў самой яго назве.

Скорагаворкай і з меншай доказнасцю напісаны заключныя старонкі кнігі І. Ралько, дзе гутарка ідзе пра свабодны верш, традыцыі купалаўскага верша ў творчасці М. Танка, А. Куляшова, А. Пысіна і іншых сучасных беларускіх паэтаў. Даследчык чамусьці называе родапачынальнікам верлібра бельгійца Эміля Верхарна, хоць на шмат дзесяцігоддзяў раней ім пісаў Уолт Уітмен. Дарэчы, І. Ралько лічыць пераклад верша Э. Верхарна «Паўстанне», здзейснены М. Багдановічам, першым прыкладам верлібра ў беларускай паэзіі. На самай жа справе, у «Паўстанні» добра відаць строга вытрыманы разнастопны дактыль.

Не да канца ўзважанымі здаюцца спробы даследчыка падзяліць верлібр на віды; непрыдатны для навуковага карыстання і яго тэрмін «дысметрычны свабодны верш» (нібыта можа быць «метрычны» верлібр!).

Вельмі часта рэцэнзіі заканчваюцца даравальнымі словамі: «Аднак, нягледзячы на пералічаныя недахопы...» Калі я закончу сваю размову гэтак жа, то толькі таму, што гэта праўда, а не даніна рэцэнзенцкаму штампу. Несумненна, кніга І. Ралько — істотны ўклад у вывучэнне верша, і не толькі беларускага.

**Вячаслаў РАГОЙША.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ
## ў асабістай бібліятэцы Ільіча —
## пра гэта мы раскажам у бліжэйшых нумарах.



# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

У юнацкія гады, будучы яшчэ камсамольцам, Кузьма Чорны, аўтар тады некалькіх апавяданняў, пакідае вучобу ў БДУ і ідзе на журналісцкую работу ў газету «Беларуская вёска». Ён працуе там з 1924 да 1928 года. У газеце і дадатку да яе «Чырвоны сейбіт» друкаваліся ў гэты час апавяданні, артыкулы, фельетоны, нарысы маладога пісьменніка.

Былы селькор «Беларускай вёскі», цяпер вядомы пісьменнік Алесь Пальчэўскі, у сваёй кнізе «Былі ў маці сыны» піша, што Кузьма Чорны, акрамя ўсяго іншага, вёў у газеце вялікую работу з пачаткоўцамі. Пра гэта ж гаворыць, успамінаючы тыя часы, і Максім Лужанін. «Людзей да К. Чорнага гарнулася шмат,— зазначае паэт,— найчасцей прыезджых аўтараў». Пісьменнік Макар Паслядовіч, які працаваў у тыя гады ў газеце, расказаў неяк мне: «Так, я быў у тыя гады з Міколаем Карлавічам у «Беларускай вёсцы». «Паштовая скрынка» газеты і дадатку — яго ідэя. Ён і вёў яе пастаянна ў гэтых выданнях...»

Перамога Кастрычніка, культурная рэвалюцыя, бурныя тэмпы індустрыялізацыі і калектывізацыі спрыялі небываламу духоўнаму ўздыму мас. Былы парабак, бядняк браў пяро і пісаў няроўнымі літарамі ліст у рэдакцыю пра новае, што заўважаў у жыцці. У пачаткоўца было многа бадзёрасці і энергіі, але не заўсёды хапала літаратурнай і палітычнай пісьменнасці, каб расказаць пра ўбачанае. Тут і прыходзіла яму на дапамогу «Паштовая скрынка». Гэта быў сапраўдны ўніверсітэт, дзе моладзь набывала самыя неабходныя навыкі і вучылася разумець свае памылкі, недахопы і прапагандаваць праз газету парасткі новага.

Кузьма Чорны ўважліва ставіўся да кожнага селькора, да кожнага пачаткоўца-паэта ці апавядальніка. Пісьменнік многім аўтарам раіць вучыцца вершаскладанню ў сталых паэтаў, больш чытаць і пільна назіраць за жыццём, выбіраць той жанр літаратуры, які для аўтара больш падыходзіць: **«У вашым вершы няма ні рытму ні рыфмы, ні нават пэўнага стылю,**— піса́ў Кузьма Чорны селькору Гур'еву. — **Гэта звычайная проза, разбіта на радкі. Напрыклад:**

**Сяляне да яго з вакон**
**Ды з запытаннем:**
**«У чым справа, дзядзька,**
**Скажы нам міленькі?»**

Падобныя «вершы» прысылалі ў рэдакцыю многія селькоры. Вось якія парады даваў ім К. Чорны: **«Верш слабы. Да друку не падыходзіць. Пішыце лепш карэспандэнцыі. Па-першае, забіта тэма, аб чым вы пішаце. Па-другое, вершам горш выкажаце тое, аб чым вы пішаце. Вось радкі з вашага верша:**

**А ён тады ім у адказ:—**
**Ня чулі ж вы?..**
**Сягоння ў ноч якраз**
**У мяне два дзеравы ўкралі.**

**Не ведаю,**— працягвае пісьменнік,— **ці гэта верш, ці гэта проза. Сказаў бы сатыра, дык няма гладкасці, тонкага гумару, ды што гаварыць аб радку, калі ўвесь верш слабы. Лепш пішыце карэспандэнцыі. Або калі здольны вы пісаць, пішыце прозай. А дзеля таго, каб пісаць вершы, трэба добра ведаць тэхніку складання вершаў. Чытайце вершы «маладнякоўцаў», якія друкуюцца ў часопісах «Беларускі піонэр», «Маладняк» і іншых».**

Кузьма Чорны імкнуўся шчыра і адкрыта ўказаць аўтару на добрыя і слабыя бакі яго твора. Селькору Янку Крывіцкаму ён, напрыклад, піcаў: **«Ваш верш «Годзе жыць нам у цямноце» не пойдзе. Думкі вашы лепш за ўсё выказвайце прозай, а то вам, відаць, цяжка выказваць іх вершам. Нават словы вы псуеце для рыфмы, напрыклад: «асвет» (мусі быць замест асвета).**

**Верш — гэта мастацтва, а для гэтага мала пісаць рыфмаваныя радкі, трэба, каб у вершы было пачуццё, тады толькі ён можа мець вартасць».**

Работа кансультанта вымагала добрага ведання паэзіі 20-х гадоў, бо знаходзіліся часам такія аўтары, што перапісвалі амаль цалкам ужо надрукаванае і дасылалі ў рэдакцыю як свой твор. Чорны лёгка лавіў такіх за руку. Селькору **Д. Х.**, напрыклад, ён пісаў: **«Ваш верш мала чым розніцца ад вер-**

**ша «Да моладзі» М. Чарота. У Чарота, напрыклад:**

> **Вас, брацця, у няволі вітаем,**
> **Мы прыйдзем да вас на ўспамогу і г. д.**

**А ў вас:**

> **Ты брацціяў у няволі вітаеш,**
> **прыходзіш да іх на ўспамогу**
> **і інш.»**

У 20-я гады, калі толькі пачынала нараджацца новая, савецкая літаратура, Кузьма Чорны ўсім сваім талентам спрыяў яе развіццю. Ён шукаў і знаходзіў зярняткі таленту і памагаў ім вырасці коласам. **«Вёска павінна даць сапраўдных глыбокіх мастакоў слова,**—гаварыў ён,—**якія б паказалі ў сваёй творчасці наша жыццё з усёю глыбінёю нашых радасцей і пакут. Цяпер, калі з вялікімі цяжкасцямі нараджаецца і ўстанаўляецца новая вёска, калі ломяцца і крышацца старыя светапогляды сярод сялянства, цяпер, *як ніколі раней, глыбокія задачы* стаяць перад літаратурай. І от з малады вясковых аўтараў павінны вырасці такія якраз пісьменнікі, якія ў сваіх творах выявяць усе глыбіні гэтага вялікага працэсу».**

Кузьма Чорны вучыць літаратурную моладзь сур'ёзна ставіцца да пісьменніцкай працы, праўдзіва адлюстроўваць рэчаіснасць, напамінае, што праца пісьменніка «гэта не значыць сеў і напісаў». Ён неаднаразова падкрэслівае, што трэба добра ведаць тое, пра што бярэшся пісаць, аналізаваць факты, думаць і разважаць над імі, каб літаратура вырашала складаныя пытанні жыцця, была сапраўды «жыццебудаўніцтвам». **«Вы пішаце, што на абшарах Беларусі шмат балот. Усе яны пакрыты вадой, сярод вады расце асака і інш. Нашто тое пісаць, што і так даўно вядома? Напішыце лепш, як у вас з асушкай гэтых балот, ці ёсць меліярацыйныя таварыствы і як яны працуюць»,**—раіць ён селькору **Б. М.** Пісьменнік напамінае пра высокую адказнасць аўтара за той матэрыял, які будзе надрукаваны ў газеце.

Парады Чорнага маладым пісьменнікам шматгранныя. Яны датычаць усіх пытанняў, якія стаялі тады перад літаратурнай моладдзю. Тут і заўвагі *пра дрэннае веданне мовы*, няўменне будаваць сюжэт, пра голую канстатацыю фактаў. За чатыры гады работы ў «Беларускай вёсцы» і дадатку К. Чорны апусціў у «Паштовую скрынку» каля дзвюх тысяч адказаў.

Чытаючы матэрыялы «Паштовай скрынкі», нельга не заўважыць, як К. Чорны «агітаваў за прозу». Ён лічыў, што прозай можна сказаць больш, шырэй разгарнуць задуму. І трэба заўважыць, што парады «пісаць прозай» знаходзілі водгук сярод яго карэспандэнтаў. У 1927 годзе, у № 17 «Чырвонага сейбіта», Кузьма Чорны пісаў: **«У параўнанні з ранейшым часам досыць значны працэнт усяго літаратурнага матэрыялу, што надсылаецца з вёскі, падае на прозу... Тут большы (чым у вершах) працэнт аўтараў імкнецца *больш-менш* сур'ёзна падысці да тэмы, стараючыся нават часам сумленна падумаць у сваім творы аб якім-небудзь глыбокім пытанні сучаснага вясковага жыцця. Канешне, толькі некаторая частка вясковых аўтараў падыходзіць так да сваіх літаратурных спроб. І сярод прозы немалая частка ёсць такой, якая напісана нядбайна, неахайна і, нарэшце, яшчэ прыслана ў рэдакцыю з грозным патрабаваннем абавязкова надрукаваць яе. Даведаўшыся, што такі твор н е в ы д р у к а в а н ы, аўтар пачынае вельмі крыўдзіцца на рэдакцыю, даводзячы, што той факт, пра які *напісана ў яго літаратурным допісе*, ёсць «факт жыццёвы»; пры гэтым аўтар ускладае на рэдакцыю абавязкі зусім перакройваць і перапісваць яго твор, зусім змяняць яго. Гэта значыць—аўтар дасць тэму, а рэдакцыя павінна сама, паводле гэтай тэмы, напісаць аўтару, за яго подпісам, апавяданне».**

Затое, як радаваўся Чорны, калі яму трапляла ў рукі што-небудзь вартае, таленавітае. **«Ваш літаратурны малюнак «Досвітак»,**—з цеплынёй пісаў ён С. Ліхадзіеўскаму,—**звяртае ўвагу на Вашу таленавітасць. Малюнак гэты ёсць вельмі ўдзячная тэма *для большага ці нават вялікага апавядання*. Надзвычайна цікавая тэма—абнаўленне рэвалюцыяй жыцця. У вашым малюнку яна пададзена вельмі добра, мастацкасць малюнка зусім знішчае ўсякую голую і немастацкую агітацыйнасць. Псуе ўражанне толькі схематычнасць. Асабліва ў самым канцы. Малюнак (паколькі ён толькі малюнак, а не апавяданне, няма вострага разгорнутага сюжэта) будзе выдрукаваны ў газеце. Калі ў Вас ёсць больш творы, напісаныя прозай, прысылайце іх у рэдакцыю «Чырвонага сейбіта».**

Кузьма Чорны раіць літаратурнай моладзі паказваць духоўны рост сваіх персанажаў у шчыльным адзінстве з рэвалюцыяй ва ўсім грамадстве, вобразна адлюстроўваць тыя новыя з'явы, якія адбываюцца наўкола нас, у жыцці. **«Апавяданне «Ссыпшчына» напісана літаратурна пісьменна,**—зазначыў пісьменнік С. Вясковаму.—**Вельмі ўдала развіваецца сюжэт, трапна пададзены гутаркі сялян, няма нічога лішняга, непатрэбнага дзеля самога твора. Толькі расчароўвае развязка апавядання. Няўжо вясковая грамада гэткая «спрэс» дзікая, што сяляне ссыпалі пастуху збожжа і пасля ўсёю вёскаю пачалі адбіраць назад, здзекуючыся з пастуха? Гэта маглі зрабіць 2—3 хуліганы, а не ўся вёска, як адзін чалавек. Літаратурны твор трэба, каб меў мастацкую праўду».**

У некаторых лістах пісьменнік звяртаў увагу карэспандэнтаў «Беларускай вёскі» на іх палітычную несвядомасць, забабоннасць. Таму часта лісты да селькораў Кузьмы Чорнага насілі асветніцкі, дыдактычны характар. Так, напрыклад, селькор Шынкус прыслаў у рэдакцыю верш пад назвай «Я каталік», дзе выказваў думку пра тое, што чалавек не можа жыць без бога, малітваў, веры і г. д. У адказ яму Чорны пісаў наступнае: **«У Вас у вершы «Я каталік» шмат няправільных думак... Вы пішаце, што Вам не патрэбны нацыі, бо кожная з іх мае бога. Гэта няправільна, бо нацыя не ёсць нешта суцэльнае, а яна падзяляецца на класы, на групы... Далей Вы пішаце, што ў Вас нарадзіўся ў грудзях нейкі новы бог і Вы хочаце быць яму паслушны. Што гэта за бог, чаму трэба быць яму паслушным, невядома. Мы, бязбожнікі, ніякіх новых багоў замест старых не ствараем, ні з навукі, ні з жыцця».**

Усё гэта сведчыць пра тое, што пісьменнік надзвычай уважліва адносіўся да твораў маладых, што дасылаліся ў «Беларускую вёску» і літаратурны дадатак «Чырвоны сейбіт», што, менавіта, ужо тут нараджаўся чулы дарадчык пачаткоўцаў, той настаўнік, які працаваў пазней з літаратурнай моладдзю, будучы загадчыкам кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Парады ў «Паштовай скрынцы» Кузьмы Чорнага раскрываюць нам яшчэ адну малавядомую старонку літаратурнай дзейнасці гэтага шчодрага таленту, паказваюць, як дбаў гэты патрыёт аб развіцці роднай літаратуры, рабіў усё, што ад яго залежала, дзеля яе росквіту.



Паштовая скрынка

Пачынаючым паэтам.

**На апошняй старонцы «Беларускай вёскі» друкавалася «Паштовая скрынка», якую вёў Кузьма Чорны.**

**Штрыхі гісторыі**

У сваім малавядомым артыкуле «Пісьменнік пісьменніку брат» К. Чорны заклікаў паэтаў і празаікаў быць роднымі братамі літаратурнай моладзі, не шкадаваць часу для яе вучобы. Гэта цудоўны запавет. На жаль, няма цяпер у нашым друку паштовых скрынак, рэдка калі надараюцца парады пачаткоўцам. Чаму забыты гэтыя выдатныя традыцыі? Ці не пара іх аднавіць?

**Іван САЧАНКА,**
**аспірант факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

**Інтэрв'ю з вядомым матэматыкам Героем Сацыялістычнай Працы Мікалаем ЯРУГІНЫМ— у бліжэйшых нумарах.**

**Адзін час урач Мікалай Паўлавіч БАЦЯН з групай савецкіх медыкаў знаходзіўся ў рэспубліцы Малі. У сваім дарожным блакноце ён занатаваў уражанні аб гэтай паездцы, аб побыце і звычаях мясцовага насельніцтва.**

# «МЫ, ЯК ДЗЕЦІ...»

### З МАЛІЙСКАГА БЛАКНОТА

Мы ляцім у Афрыку. «ІЛ-18» узняўся ў зорнае марознае неба і ўзяў кірунак на Паўднёвы Захад.

Роўна гудуць маторы. Мілыя сцюардэсы стараюцца развеяць трывожныя думкі. Начная пасадка ў Бялградзе з кароткім адпачынкам у аэрапорце, і зноў — у дарогу. За ілюмінатарам у густой цемры паблісквае Міжземнае мора. На ім бачны ланцужкі карабельных агнёў. Раніцу сустракаем у Алжыры. За некалькі гадзін прыляцелі ў Афрыку.

Шматгадзінны палёт над Сахарай. У пасажыраў мінорны настрой. Пад крылом самалёта пустыня. Зямля чырвоная да болю ў вачах, ні азярца, ні рэчкі, ні паселішча...

Але вось сталі бачны ніткі караванных дарог, невялікія селішчы. Мы ляцім над Рэспублікай Малі.

Вёскі, статкі жывёлы. Рака Нігер з густымі зараснікамі ўздоўж берагоў. І, нарэшце, горад Бамака.

Першае ўражанне з вышыні птушынага палёту — гэта мноства зеляніны. Пасля пустыні яна вельмі радавала.

Шустры аўтобус прывёз нас у гасцініцу «Гранд Атэль». Тут жывуць людзі з розных краін. У іх розны колер скуры і вельмі стракатае адзенне. На першым паверсе гасцініцы — вялікі рэстаран з танцавальным садам. Халодныя і «гарачыя» напіткі, піва дакарскае, з Берага Слановай Косці, еўрапейскае, разнастайныя закускі. Тут жа пошта, міжнародны тэлефон. Вечарам у танцавальным садзе грае музыка, і моладзь танцуе еўрапейскія танцы, а падчас і афрыканскія.

Па еўрапейскіх маштабах Малі — гэта вялікая краіна, яна займае тэрыторыю большую, чым Францыя, Італія, Заходняя Германія і Партугалія разам узятыя. Размешчана блізка да экватара. Пустыня Сахара — большая частка яе тэрыторыі. Малі не мае марскіх берагоў. Вада тут — самы каштоўны прадукт зямлі, крыніца жыцця людзей і жывой прыроды. Рака Нігер і часткова рака Сенегал ствараюць неабходныя ўмовы для развіцця сельскай гаспадаркі.

Па берагах рэк імклівае жыццё прыроды наглядаецца цэлы год. У сухі і гарачы час — у лютым, сакавіку, красавіку, маі і чэрвені — трава сохне, многія дрэвы губляюць лісце і падобны з выгляду на калючкі. У гэты час узнікаюць пажары. Гарыць саванна. Мора агню... У белым небе спякотнае сонца, а на зямлі вогненны шторм. Шукаюць паратунку звяры, птушкі, змеі, насякомыя. Многія з іх гінуць. Толькі тэрміты выжываюць у глыбіні сваіх каменных сховішчаў.

Клімат у Малі гарачы. У Бамака ў гарачыя месяцы тэмпература дасягае 45 градусаў нават у цяню, а ў горадзе Гао ўзнімаецца да 50 градусаў. Высокая вільготнасць паветра. У перыяд дажджоў яна дасягае 98 працэнтаў. Дажджы тут навальнічныя, ліўневыя. Перад навальніцай пачынаецца пыльная бура, вецер ломіць дрэвы, разбурае паселішчы. Потым — навальнічны лівень. З неба льецца паток вады. За тры гадзіны вуліцы горада, двары становяцца каналамі і азёрамі. Шуміць, раве ў канавах мутная вада. Але выгляне сонца, і вада адразу знікае. Зямля пачынае пацець, становіцца душна, як у напаленай лазні.

Рэспубліка Малі — краіна жывёлагадоўчая. У сельскай гаспадарцы занята большасць насельніцтва. Сяляне гадуюць буйную рагатую жывёлу, авечак, коз, коней, аслоў, вярблюдаў, свіней. Галоўнай сельскагаспадарчай культурай з'яўляецца арахіс. У поймах рэк расце бавоўна і рыс. Культывуюцца таксама сорга, кукуруза, батат. Значную ролю ў эканоміцы краіны адыгрывае рыбная лоўля на рэках Нігер і Сенегал.

Прамысловасць краіны яшчэ слабая. Ёсць невялікія заводы па ачыстцы рысу і бавоўны, па перапрацоўцы скуры, а таксама маслабойні. У Бамака працуюць ужо кандытарская і запалкавая фабрыкі, заводы — мылаварны і безалкагольных напіткаў, бойня. Няблага развіты саматужныя промыслы: ткацтва, вытворчасць упрыгожванняў.

Малі — краіна многанацыянальная. Насельніцтва яе складае звыш чатырох мільёнаў чалавек. Тут жывуць бамбара, пёль, туарэгі, дагоны і іншыя народнасці. Белых пасяленцаў мала. Асноўная народнасць — бамбара. Гэта людзі з чорнай скурай, кучаравымі валасамі, моцнага складу і высокага росту. Туарэгі — з цёмна-карычневай скурай, больш тонкімі рысамі твару. Таму яны здаюцца больш элегантнымі. Тут мы пабачылі і белых неграў. Гэта людзі-альбіносы. Усе рысы, уласцівыя неграм, захоўваюцца, аднак скура ў іх пяшчотна-ружовая, вочы бялёсыя, валасы пшанічныя, але таксама кучаравыя.

Большасць насельніцтва — непісьменнае. Асноўнай мовай з'яўляецца гаворка народнасці бамбара. Аднак пісьменнасці ў яе няма.

Французская мова з'яўляецца дзяржаўнай. Але яе ведаюць толькі служачыя, гандляры ды тыя, хто вучыўся ў школе.

Сталіца краіны — горад Бамака — даволі вялікая, размешчаная на раўніне ў вярхоўях ракі Нігер. Тут жыве дзвесце тысяч жыхароў. У асноўным, гэта людзі з чорнай скурай, але ёсць арабы, ліванцы, французы.

У Бамака шмат вечназялёных дрэваў — платаны, пальмы, алеандры, акацыі, папайя. Калі яны расцвітуць, горад здаецца суцэльным зялёным лесам.

Цэнтральныя вуліцы горада Бамака пакрыты асфальтам. Вельмі прыгожыя вілы і асабнякі. Яны выглядаюць казачна. Фантаны і басейны патанаюць сярод трапічнай расліннасці. Галоўныя вуліцы ноччу заліты неонавым святлом.

Кварталы, дзе жыве просты люд, іншыя. Тут, у асноўным, гліняныя пабудовы без вокан і без дзвярэй. Ежу тут звычайна гатуюць на жароўнях у дварах і на вуліцах. Таму ў гэтых кварталах ноччу стаіць густы едкі дым, перамешаны з пылам.

У горадзе многа рынкаў. Гандаль, у асноўным, прыватны. З прадуктаў на рынку ёсць рознае мяса, яйкі розных гатункаў. Заўсёды можна купіць цудоўную рыбу. Свежая гародніна прадаецца круглы год. Тут гандлююць усім і ўсюды. Уздоўж вуліц на цыноўках прадаюць цыгарэты, мыла, запалкі, корань для жвачкі і чысткі зубоў, арахіс, арэх кола. Ёсць рынкі, дзе гандлююць ноччу. Такі рынак нагадвае табар, асветлены жароўнямі і свечкамі. У магазінах прадуктаў мала. Кансервы, віны, масла, хлеб, мяса, цукеркі, макароны і іншыя прадукты галоўным чынам прывозныя.



Бамака. Школа мастацтваў.

У Малі патрэба ў абутку і адзенні невялікая. Таму гэтых тавараў заўсёды ў продажы дастаткова.

У Бамака многа транспарту. Патокі аўтамашын, аўтобусы, матацыклы, веласіпеды ўсіх марак свету. Многа таксі. Тут едуць хто на чым. На падводах, запрэжаных коньмі і асламі. Па вуліцах гуляюць козы, авечкі, сабакі. Тут усё ў руху. У гадзіны «пік» цяжка перайсці вуліцу.

У горадзе ёсць некалькі адкрытых кінатэатраў. Ідуць фільмы прыгодніцкія, бандыцка-сексуальныя, шпіёнскія. Гледачы рэагуюць ажыўлена. Бары, танцавальныя сады ўпрыгожваюцца рознакаляровымі агнямі. Але гэта ўсё ў старым Бамака.

Расце прыкметна і новы горад. Узвышаецца высотны корпус новага атэля, які ўзводзяць сумесна югаслаўскія будаўнікі і спецыялісты ААР. Цудоўны стадыён з плавальным басейнам і вялікай спартыўнай залай падарыў Савецкі Саюз. Нашы будаўнікі ўзвялі вучэбны комплекс.

На ўскраіне Бамака, на гары Калуба, размешчаны палац прэзідэнта, а побач — шэраг урадавых устаноў. Адсюль бачны ўвесь горад, шумны, неспакойны.

Але самае цікавае ў Малі — гэта людзі. Яны жыццярадасныя, поўныя аптымізму. Могуць гутарыць між сабой, ідучы па розных баках вуліцы. Нярэдка ба-



Прадавец вады з Цімбукту.



Сняданак ільвянят.

чыш, як двое маладых людзей едуць побач на мапедах і гучна размаўляюць. Малійцы — народ рослы. Большасць мужчын дасягае двух метраў. Паходка плаўная, мяккая, пастава гордая. Адзенне ў жанчын — шырокія балахоны з яркага каляровага нейлону з разнастайнымі ўзорамі. Многа тканін з малюнкамі алфавіту, крылатымі выразамі афрыканскіх дзеячаў, партрэтамі прэзідэнтаў і г. д. І такім шляхам культура і палітыка ўкараняюцца ў быт.

Носяць малійцы і еўрапейскае адзенне, асабліва моладзь. Але мне здаецца, што малійскія дзяўчаты ў міні-спадніцах не такія прывабныя, як у нацыянальным адзенні.

У Бамака нас ведалі. Бывала, сустрэнуць на вуліцы і голасна вітаюць. «Добры дзень, доктар!» або «Добры дзень, таварыш!» Усе малійцы ад малога да старога вітаюцца поціскам рукі. На вуліцы падчас бяжыць гурт дзяцей, абганяе цябе і крычыць «добры дзень» пафранцузску, а затым просіць: «Дай сто франкаў».

На гаворцы народнасці бамбара малійцы вітаюць адзін аднаго так: «Добры дзень! Як здароўе? Як муж? Як жонка? Як дзеці? Як ідуць справы?» І, атрымаўшы на ўсе пытанні станоўчы адказ, гавораць: «Дзякуй!»

Іслам — рэлігія малійцаў. Яна дзяржаўная. Дэвіз Малі: «Адзін бог, адзін народ, адна вера». Ёсць і каталіцкія місіі ў кожным раёне краіны і ў самім Бамака. Але веруючыя каталікі — гэта, у большасці, людзі белыя.

Цікава праходзяць у Малі святы. Яны наладжваюцца ў гадавіну ўтварэння рэспублікі і ў гонар прыезду ў краіну прэзідэнта іншай дзяржавы. Палову дня ў сталіцы не працуюць. Амаль усе жыхары горада за некалькі гадзін да сустрэчы госця выстройваюцца ўздоўж галоўнай вуліцы, што ідзе ад аэрапорта. Многія магазіны і крамы зачыняюцца, мала людзей і на базары. Вакол чутны гукі тамтамаў, латочнікі падвозяць газіроўку. Жанчыны і дзяўчаты нясуць ваду на галовах у вёдрах і збанах і частуюць усіх, хто хоча піць.

На свяце граюць аркестры, жанчыны спяваюць афрыканскія песні. Пад гэтае музычна-песеннае суправаджэнне адна з жанчын выходзіць танцаваць. Яна праплывае некалькі разоў па пляцоўцы, размахваючы хусцінкай, а затым кідае яе аднаму з мужчын. Абраннік таксама ходзіць па крузе і памахвае хусцінкай, а потым кідае яе іншаму. Гэты танец спакойны, ён нагадвае адлёт жураўлёў у вырай.

Але вось наступае душная афрыканская ноч. Ціха. Толькі трашчаць цыкады і шалясцяць крыламі кажаны. Апоўначы сціхае шум гарадскога транспарту, толькі зрэдку чутны свісткі патрулёў. Чорнае неба ўсеяна буйнымі зоркамі, якія ўтвараюць Паўднёвы Крыж і іншыя незнаёмыя нам сузор'і.

Малійскія вёскі туляцца да ручаёў, лагчын. Яны, звычайна, невялікія, некалькі хацін. Хаты глінабітныя, круглыя, без вокан, страха ў выглядзе шатра пакрыта трысняговым. Некалькі такіх хацін, размешчаных па крузе, утвараюць двор. Пасярод двара калодзеж, невялікая гліняная бочка з трысняговым надстрэшшам, у якой захоўваецца зерне і іншыя прадукты. У двары ёсць камінак для прыгатавання ежы. Побач з вёскай сяляне вырошчваюць бананы, мангавыя сады, сеюць кукурузу, арахіс, гародніну. Каровы тут маленькія, гарбатыя, а авечкі — вялікія.



Бамака. Будаўніцтва стадыёна.

Зямлю сяляне апрацоўваюць у асноўным матыкамі. У перыяд дажджоў усё бурна расце без догляду, а ў сухую гарачую пару ўсё гіне ад недахопу вады. Каб на працягу года вырошчваць гародніну, сялянам трэба многа і цяжка працаваць. Сельскагаспадарчыя прадукты сяляне выносяць у вялізных кашах бліжэй к дарозе, каб спадарожным транспартам адвезці на базар у горад. У сярэдняй частцы Нігера, ніжэй Бамака, дзе рака разліваецца на многа рукавоў, створаны дзяржаўныя сельскагаспадарчыя аб'яднанні. Там апрацоўка зямлі вядзецца сучаснымі сельскагаспадарчымі машынамі.

У Малі добра развіты ручныя промыслы. У садах і ўздоўж вуліц працуюць ткачы. Яны нацягваюць аснову ад дрэва да дрэва на адлегласць у дваццаць пяць метраў і ткуць каляровыя доўгія паясы шырынёй у дваццаць сантыметраў. Гэтыя паясы пасля сшываюць і атрымліваюць нацыянальную стракатую тканіну, якая служыць жанчынам замест спадніцы. Тут жа, побач, рамантуюць веласіпеды, мапеды, робяць сеннікі, падушкі. І ўсюды гандлююць сувенірамі. Калі зойдзеш у невялікую краму, здаецца, трапіў у музей цудоўнага старажытнага мастацтва. Бліскучыя фігуры багоў, людзей, жывёл, страшыдлаў з чорнага і чырвонага дрэва. Усё гэта зроблена з вялікай дасціпнасцю. Тут жа самыя розныя вырабы з кракадзілавай і змяінай скуры: сандалеты, пантофлі, кашалькі, сумкі, кошыкі, папругі, паясы і г. д. Ляжаць скуры леапардаў і іншых звяроў. Прыгожыя дываны. Гэта казачны, непаўторны свет, і цяжка сказаць, што зроблена лепш...

Яшчэ запомніліся мне малійскія рыбакі. У Нігеры водзіцца розная рыба — самы, рыба-сабака і капітан-рыба. Яна бывае ўсялякая: тонкая і доўгая, як страла, шырокая, як патэльня, тоўстая, як бервяно, зубастая і без зубоў, з луской і без лускі. Але ўся рыба тлустая і смачная. А ловяць яе самымі прымітыўнымі снасцямі. Кручкі робяць з цвікоў, сеткі старыя, падраныя, а чаўны-пірогі палапленыя. У рэчцы рыбе цесна, яна плешчацца, як ў ванне. Нашы хлопцы спінінгам лавілі рыбу-капітана па пяцьдзесят кілаграмаў вагой. Праўда, на такой



Малійская жанчына.

Маладажоны.





Туарэг з «Чарадзейнага горада».

рыбалцы бывае і небяспечна: дужая рыбіна можа перавярнуць лодку, а рыбасабака можа пакусаць.

Многа цікавага ў Рэспубліцы Малі. Краіна са старажытнасці крочыць у сучаснасць. Транзістары даносяць навіны з усяго свету ў кожную сям'ю. У моладзі вялікая прага да ведаў. Хто скончыў школу, працягвае вучыцца ў тэхнічным вучылішчы ці едзе ў Еўропу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Шмат малійскіх студэнтаў вучыцца ў нас, у Савецкім Саюзе.

Малійцы, бывала, распытвалі ў нас пра зіму. Яны здзіўляліся, як гэта можна жыць у завею. А мы сумавалі без зімы, без снегу. Мы ўспаміналі нашы лясы, палеткі, залітыя сонцам, і яшчэ больш любай была нам наша радзіма.

Малійцы гавораць: «Мы, як дзеці, нам толькі сем гадоў. А вось калі нам будзе пяцьдзесят, як вам, мы таксама станем дарослыя і дужыя». Хочацца верыць, што Рэспубліка Малі прыйдзе да сваёй светлай будучыні.

**Мікола БАЦЯН.**



**Савецкія спецыялісты Уладзімір Клімаў і Уладзімір Слабадзянюк сярод малійскіх сяброў.**

залатыя россыпы слоў

● **Віктар МАРТЫНАЎ**
● **Арнольд МІХНЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ

## СТАРОНКІ СЛОЎНІКА

### СТАРАБЕЛАРУСКАЯ МОВА

Руская, беларуская і ўкраінская мовы склаліся ў чатырнаццатым-пятнаццатым стагоддзях, калі ўсходнія славяне апынуліся ў межах розных дзяржаў: Маскоўскага княства і Вялікага княства Літоўскага. Былое адзінства старажытнарускай пісьмовай мовы, якая ўзнікла на аснове старaславянскай (старабалгарскай), распалася, і ўсё большую ролю пачалі адыгрываць мясцовыя (лакальныя) дыялекты. Яны, вядома, склаліся значна раней, але іх уплыў на пісьмовую мову ў старажытнарускі перыяд быў такі слабы, што дыялектную аснову мясцовых варыянтаў старажытнарускіх помнікаў нельга нават вызначыць. Адсутнасць дыялектных рыс у старажытнарускай мове тлумачыцца яе цвёрдымі нормамі і старaславянскімі традыцыямі, якія падтрымліваліся ў помніках рэлігійнага характару. Такім чынам, фіксацыю ў старабеларускай пісьмовай мове асобных фанетычных з'яў, не ўласцівых старажытнарускай мове, нельга трактаваць як адлюстраванне беларускіх моўных новаўтварэнняў. Гэтыя з'явы ўзніклі раней, але знайшлі адбітак у пісьмовай мове толькі ў чатырнаццатым-пятнаццатым стагоддзях.

Мы вызначаем узрост нашых гарадоў паводле першых звестак пра іх у летапісах, але заўсёды ўлічваем, што сапраўдны ўзрост вызначаецца часам іх заснавання і ідзе да таго далёкага мінулага, якое мы называем дагістарычным. Тое ж самае можна сказаць і пра асобныя фанетычныя з'явы, час фіксацыі якіх у помніках не супадае з іх сапраўдным узростам. Да такіх з'яў адносяцца, перш за ўсё, так званае цеканне-дзеканне, зацвярдзенне *ц, р* і шыпячых, аканне, узнікненне прыстаўных галосных, пераходы: *в>у, ў, е>о* і г. д.

Дзеканне-цеканне справядліва лічыцца найбольш характэрнай рысай беларускай сістэмы зычных. Хоць яно вядома і некаторым іншым славянскім мовам, асаблівасці беларускага дзекання-цекання носяць лакальны характар. Сутнасць гэтай з'явы ў тым, што зычныя *д, т* перад галоснымі пярэдняга рада набываюць дадатковую фрыкацыю і пераходзяць да $д^з$, $т^с$ (параўнайце беларускае *дзень, цень* і рускае *день, тень*). У помніках гэтая з'ява адлюстроўваецца ў чатырнаццатым-пятнаццатым стагоддзях, калі польская пісьменнасць інтэнсіўна ўплывае на распад старажытнарускіх норм і паўднёваславянскіх традыцый.

Зусім аналагічна і аканне, як асобны тып вымаўлення ненаціскных галосных *а, о, е,* фіксуецца ў пісьмовых помніках з чатырнаццатага стагоддзя, але сістэмнае яго вывучэнне вымушае нас аднесці аканне да перыяду, калі націскное *о* яшчэ адрознівалася ад ненаціскнога моцнага ъ, гэта значыць, да часу не пазней дванаццатага стагоддзя. Мы тут не закранаем пытанне пра больш старажытнае, магчыма, яшчэ праславянскае паходжанне дзекання-цекання і акання.

Зацвярдзелыя шыпячыя мы знаходзім у беларускіх помніках пятнаццатага стагоддзя. У адрозненне ад рускай мовы, у беларускай зацвярдзенне ахапіла ўсе шыпячыя — простыя і афрыкаты. Асабліва характэрна для нашай мовы зацвярдзенне *р*, якое фіксуецца ў помніках з чатырнаццатага стагоддзя. З трынаццатага стагоддзя назіраецца ў беларускіх помніках пераход *в>у, ў* і *л>ў* (параўнайце беларускае *лоўля, воўк* і рускае *ловля, волк*). Што датычыць галосных, то і тут наглядаецца шэраг пераўтварэнняў: узнікненне прыстаўных галосных перад пачатковымі складамі з слабымі рэдукаванымі (параўнайце беларускае *іржавы, аўторак* і рускае *ржавый, вторник*), пераход у становішчы паміж зычнымі *ръ, лъ, рь, ль>ры, лы* (параўнайце беларускае *крывавы, глытаць* і рускае *кровавый, глотать*) і г. д.

Апрача фанетыкі, іншымі моўнымі галінамі, у якіх праяўляецца своеасаблівасць

---

Пачатак гл. з № 2 1969 г.

мовы, з'яўляюцца словаўтварэнне і лексіка. Беларускае словаўтварэнне, у адрозненне ад словаўтварэння іншых славянскіх моў, характарызуецца суфіксальнымі формамі тыпу *памагаты, араты; гультай; сядзіба, сяліба; сейбіт, носьбіт; галеча, пустэча, сінеча* і г. д. Некаторыя з гэтых форм ёсць і ва ўкраінскай мове. Што ж да лексікі, то беларуская мова мае шэраг лексем, якім няма адпаведных у блізкароднасных рускай і ўкраінскай мовах (*золак, здань, асілак, гушчар, летуценне, кнігаўка, сябра* і г. д.). Паходжанне гэтых форм і слоў з'яўляецца найважнейшай праблемай беларускай этымалогіі. Апрача лексічных новаўтварэнняў, беларуская мова адрозніваецца ад сваіх суседзяў шэрагам лакальна абмежаваных запазычанняў, перш за ўсё, з балтыйскіх моў. Апошнія ўзаемадзейнічалі з беларускай і як старажытны субстрат, і як тэрытарыяльна сумежныя на паўночным захадзе. У старабеларускіх пісьмовых помніках мы знаходзім значную колькасць балтызмаў, асабліва ў помніках з сумежных тэрыторый, і, у першую чаргу, у актах, дзе адлюстравана штодзённая агульнанародная мова.

Пачынаючы з шаснаццатага стагоддзя, расце ўплыў польскай лексікі, з якой была запазычана найбольшая ў старажытны час колькасць слоў. Германізмы, як нам зараз вядома, пранікалі ў старабеларускую мову праз старапольскую. Толькі невялікая іх частка паходзіць з так званай балтыйска-нямецкай мовы, г. зн. мовы немцаў Прыбалтыкі.

Трэба сказаць некалькі слоў пра цюркізмы ў старабеларускай мове. Большасць з іх пранікла праз рускую і ўкраінскую мовы, аднак пэўная колькасць татарызмаў прыйшла ў старабеларускую мову непасрэдна з мовы так званых літоўскіх татар, палонных або добраахвотнікаў, якія стваралі пасяленні на беларускіх землях у часы існавання Вялікага княства Літоўскага. Цікава, што літоўскія татары ў шаснаццатым стагоддзі забылі сваю мову і перайшлі на беларускую і польскую. Яны стварылі каштоўныя помнікі старабеларускай мовы, напісаныя арабскім пісьмом, так званыя «кітабы».

●

АДТУЛІНА. Прыстаўка *ад-* і суфікс адзінкавасці *-ін-*. Праславянскае **tulъ* (старажытнарускае *тулъ* — калчан) мае адпаведнікі: старажытнаіндыйскае *тунах* — калчан для стрэл і, магчыма, старажытнаверхненямецкае *дола* — труба, выток.

АЛЕЙ. Запазычанае слова, першакрыніцай якога з'яўляецца лацінскае *олеум* — аліўкавае масла.

БАЙКА. Назоўнік, утвораны ад дзеяслова **bajati,* параўнайце ўкраінскае *баяти* — расказваць, балгарскае *бая* — варажыць, заклінаць словамі, польскае *бае (<баяць)* — байкі, казкі, грэчаскае *фэмі* — я кажу, лацінскае *фарі* — казаць, *фабула* — прамова, казанне, байка, фабула, армянскае *бан* — слова, гаворка.

ВАНДРАВАЦЬ. Праз польскае *вэндро́ваць* з нямецкага *вандэрн* з тым жа значэннем.

ВОРАГ. Слова агульнаславянскае і праславянскае. У некаторых дыялектах яно мае значэнне — д'ябал, нячысты. Праславянскае **vorgъ,* вытворнае ад **vьrgati* — штурхаць, гнаць (рускае *отвергать*). Параўнайце лацінскае *ургео* — штурхаю. Такім чынам, першаснае значэнне для праславянскага **vorgъ* — выгнаннік. З іншай агаласоўкай старaславянскае *извръгъ, изврагъ,* як і старажытнарускае *извьргъ, извapoгъ,* якія, безумоўна, паходзяць ад праславянскага дзеяслова **izъ-vьrgati.*

ВОЦАТ. Запазычанне (магчыма, праз германскае пасрэдніцтва) з лацінскага *ацэтум* — кіслае віно, вінны воцат.

ГАНДЛЯР. З нямецкага *гэндлер* — той, хто гандлюе.

ГІБЕЦЬ. Праславянскае **gybnonti* (беларускае *гінуць,* рускае *гибнуть*) з іншай суфіксацыяй *(-non-).* Беларускае слова, магчыма, ідзе да формы **gyběti.* Праславянскае **gybnonti (*gyběti)* аднаго паходжання з праславянскім **gybati* (рускае *на-гибать* і інш.), **gybnonti* > старaславянскае *гънонти* (беларускае *гнуць*). Семантычны пераход *гнуцца>гібець* адлюстраваны, напрыклад, у вядомых радках Пушкіна: Ура, мы ломим, гнутся шведы...

ДАХ. З нямецкага *дах* з тым жа значэннем — страха.

ДНО. Праславянскае **dъno<*dъbno.* Параўнайце сербахарвацкае *дубок* — глыбокі, *дубіна* — глыбіня, літоўскае *дубус* — глыбіня, *дубті* — апускацца, *дауба* — яр, роў.



ЕНК. Корань той самы, што і ў дзеяслове *екатаць* — *-ек-*. Наяўнасць насавога гука указвае на тое, што слова *енк* у беларускай мове — гэта паланізм. Праславянскае **enk, *j-enk.* Параўнайце чэшскае *ек* — высокі крык, лямант, сербахарвацкае *ек* — адбітак гуку, рэха, балгарскае *эк* — тое ж.

ЖУРЫЦЦА. У гэтым жа значэнні ўкраінскае *журити, журитись,* сербахарвацкае *журити се* — спяшацца, славенскае *журити* — прымушаць, прыспяшаць. Параўнайце з іншай агаласоўкай кораня сербахарвацкае *гурати* — штурхаць і славенскае *гурати* — напружваць, мучыць. Роднаснае з славянскімі старажытнаіндыйскае *гхорах* — імклівы, жудасны.

ЗНЯНАЦКУ. Запазычанне з польскага *зненацка* — раптам, неспадзявана (першаснае значэнне — павольна, паступова). Корань *-де-* (параўнайце: *надзея, адзенне, ладзецца* і г. д.) выступае ў форме *-ц-* у выніку фанетычных працэсаў, якія адбыліся ў слове.

ІСЦІ. У гэтым слове гук *с* узнік у выніку дысіміляцыі *дт>ст*: *ісці<ідті,* як *весці<ведті.* Гук *д* у неазначальнай форме старажытнарускага дзеяслова *ідті* з'явіўся пад уплывам асабовых форм *іду, ідзеш* і г. д. Праславянская форма інфінітыва — **iti,* корань *і-* (параўнайце лацінскае *i-re* — ісці, *i* — ідзі). Мінулы час дзеяслова *ішоў* (<праславянскага **šьdlъ*) утворан ад дзеяслова *ходіті* (з чаргаваннем *ход-/шед-*). Гук *і* ў форме *ішоў* узнік па аналогіі з формамі *ішла, ішлі,* дзе ён развіўся ў выніку страты рэдукаванага гука пасля *ш: шьла>ішла.* Значыць, гэта *і* зусім іншае, чым у слове *ісці.*

КОСКА. Паходзіць ад *каса* (сельскагаспадарчая прылада). Параўнайце іх вонкавы выгляд. Сувязь са словам *каса* пацвярджаецца і назвай іншага знака прыпынку — *двукоссе < дву-косье.*

ЛАНЦУГ. Запазычанне: праз польскае *ланьцух* з новаверхненямецкага *ланнцуг*< сярэдневерхненямецкага *ланнэ — ланцуг + цуг < цыен* — цягнуць.

ЛІХТАР. З нямецкага *лёйхтэр<ліхт* — святло.

ЛЯМАНТ. Праз польскае *лямэнт* з лацінскага *ламэнтум* — рыданне, галашэнне.

МЛЫН. Хоць слова па сугуччы адразу і нагадвае дзеяслоў *малоць,* але паходжанне яго зусім іншае. Дзеяслоў *малоць* — праславянскі, а назоўнік *млын* — вельмі старое запазычанне з лацінскага *мулінум* — млын (параўнайце італьянскае *муліно,* французскае *мулэн,* нямецкае *мюле* — млын). Запазычанне пацвярджаецца гістарычна: славяне не ведалі ветраных і вадзяных млыноў, а малолі на жорнах.

НЯЎРЫМСЛІМЫ. Літоўскае дыялектнае *рімсті* — успакойвацца > беларускае *рымсціць* — чакаць, цярпець. Значыць, *няўрымслівы* — неспакойны, нецярплівы.

ПІВА. Аддзеяслоўнае ўтварэнне: *піва < піць,* як *паліва < паліць,* рускае *топливо<топить.* У старажытнарускай мове *піва* мела значэнне «ўсё, што п'ецца». Сучаснае значэнне — вынік пазнейшай дыферэнцыяцыі назваў напояў.

ПРАЖЫЦЬ. Слова агульнаславянскае і праславянскае. Параўнайце чэшскае *пражіті* — паліць, пячы. Праславянскае **pražiti* таго ж кораня, што і праславянскае **pragnonti* (беларускае *прагнуць*). Сюды ж літоўскае *спрогті* — лопацца, трашчаць, *спрогела* — вуглі ў попеле, *спрагеті* — лопацца ад жару, пражыцца. Пачатковае індаеўрапейскае гукаспалучэнне *spr* заканамерна спрашчаецца ў *pr* на славянскай глебе.

РЫМАР. Праз польскую мову з нямецкага *рімер~рімэн* — рэмень.

РЭЧ. Першаснае значэнне — *мова, слова > рэч* у розных славянскі мовах. Рэч < < **rekti* ~ тахарскае *ракэ, рэкі* — слова.

СІЛКАВАЦЦА. Суфіксальнае ўтварэнне ад гіпатэтычнага назоўніка **silъkъ* (параўнайце польскае *посілэк* — сілкаванне). Корань *сіл-* (у словах *сіла, знясілены,* рускім *усилие* і г. д.). Першаснае значэнне дзеяслова *сілкавацца* — набірацца сілы, параўнайце аналагічную семантычную сувязь назоўніка *моц* і размоўнага дзеяслова *падмацавацца.*

СЦІСЛЫ. Так званы дзеепрыметнік на *-л-* ад дзеяслова *сціскаць, сціснуць,* корань якога *-ціс-* знаходзіцца ў аблаўтных адносінах да *-цес-* (у слове *цесны*).

СЭНС. Праз польскае *сэнс* з лацінскага *сэнсус* < *сэнтіо* — я адчуваю.

ТЛО. Асабліва характэрнае значэнне, якое мае гэтае слова ў беларускіх і польскіх дыялектных — *попел*. Гэта наводзіць на думку, што калісьці *тлом* называлі выкарчаваны і выпалены ўчастак зямлі. Адсюль выраз *да тла выпаліць*, адсюль таксама яшчэ праславянскі дзеяслоў **tьlěti* (беларускае тлець). Гэту этымалогію падтрымлівае і імя багіні ўрадлівасці старажытных лацінян — *Теллус*. Праславянскае **tьlo*, такім чынам, звязана з тэрміналогіяй падсечна-агнявога земляробства.

ТЫТУНЬ. Запазычанне з цюркскага *тютюн* — табака для курэння, з дысіміляцыяй галосных, як у *чыгун* < цюркскага *чюйюн, чугун*.

УТУЛЬНЫ. Ад *туліць* — хаваць, берагчы. Апошняе слова агульнаславянскае. Параўнайце яшчэ польскае *туліць* і *ўтульны*. Семантычныя пераходы, як у рускіх *приютить* — *приют* — *уютный*.

ФУТРА. Запазычана праз польскае *футро* з тым жа значэннем з сярэдневерхненямецкага *фуотер* — падбіўка, падкладка.

ЦІКАВЫ. З польскага *цекавы*<*цячы, цяку*. Да развіцця значэння параўнайце чэшскае *текаві* — зменлівы, *блукальны*<*текаті* — бегаць, блукаць.

ЧАСТАВАЦЬ. Параўнайце польскае *ченстоваць, почэнстунэк* з тымі ж значэннямі. Дзеяслоў *частаваць* паходзіць ад праславянскага **čenstь* — частка, і першым яго значэннем было «дзяліць ежу на часткі».

ШПАРКІ. Магчыма, з польскага *шпаркі* ў тым жа значэнні. Польскае слова, у сваю чаргу, ідзе да праславянскага **sporъ* — хуткі, шпаркі. Параўнайце беларускае *спорны, спор* — прадукцыйнасць працы, прыбытак (у выразах *спарней працаваць, спору вам у працы* і г. д.).

ШРОТ. Запазычанне з нямецкай мовы, дзе *шрот* мае значэнні і шрот, і груба змеленая мука ці крупы<*шротэн* — буйна малоць, мелка драбіць, крышыць.

● ● ●

# ПАСЕЛІШЧА І ЯГО НАЗВА

У лексіцы беларускай мовы, як і ў любой іншай мове, немалое месца займаюць імёны, прозвішчы, назвы рэчак, азёраў, мораў, паселішчаў, калгасаў, саўгасаў, фабрык, заводаў, устаноў, арганізацый і г. д.

Гэта ўласныя назоўнікі.

Неабходнасць не блытаць адно паняцце з другім змушала людзей даваць ім назвы. Так было здавён даўна, так яно ёсць і цяпер.

...Вось чалавек асталяваўся каля лесу. Пачаў асвойваць аблогу, сеяць збажыну, каноплі, лён. Паставіў хаціну. Пры ёй неўзабаве ўзняліся другая, трэцяя, чацвёртая — нарадзілася яшчэ адно паселішча. Напачатку без назвы, проста паселішча. Ды аставацца безыменным яно не магло: новае паселішча трэба было адрозніваць ад суседніх. І з'явілася назва: Залессе. Найверагодней, што гэтую назву далі не самі залясяне, а тыя людзі, для якіх новае паселішча стаяла за лесам. Так узніклі і назвы Загор'е, Задарожжа, Замосце, Зарэчча. Ад месца, дзе асядаў першы чалавек, паходзяць Дуброва, Пустошка, Пяскі. Другія людзі не аралі зямлі — яны рабілі гаршкі, сярпы, пілавалі дошкі, шылі боты. І паселішчы былі названы па іх занятку, па іх прафесіі: Ганчары, Кавалі, Пільнікі, Шаўцы.

Хоць ландшафт з цягам часу змяніўся, дуброву высеклі, рэчка прабіла сабе прамейшае рэчышча і вёска аказалася збоку, на месцы былой пустошкі са свідравіны б'е нафтавы фантан, ганчары, кавалі, пільнікі і шаўцы павыміралі, а іх нашчадкі маюць іншы занятак — назвы паселішчаў захаваліся і да нашага часу і здольны падказаць нам, дзе якія дрэвы раслі (Бярозкі, Вербы, Вяззе, Граб'е, Дубкі, Іўе, Сосны, Тапольнае), дзе якія хмызнякі і травы былі пашыраныя (Асокі, Вераскі, Крапіўнае, Лапухі, Папаратнае, Чамярын, Хмелеўка), дзе якія грыбы можна было збіраць (Апенькі, Баравікі, Масленкі, Сыраежкі), дзе якія звяры гадаваліся (Алень, Бабры, Барсукі, Ваўкі, Вепры, Зайцы, Мядзведзь), дзе якія сельскагаспадарчыя культуры вырошчвалі (Гарахі, Канопля, Ячменішкі). Яны з далёкага мінулага нясуць нам інфармацыю пра нашых продкаў, пра ўклад народнага жыцця. Называючы, скажам, паселішчы Курляндзікі, Ліцвякі, Ляхі, Маскалі, Прусы, Татаршчына, Шведы, мы здагадваемся, што іх першыя насельнікі былі не беларусы.

Аднак жа тое, што нам часам здаецца звычайным, простым і бясспрэчным, на самай справе бывае умоўным, супярэчлівым. Нельга, напрыклад, сцвярджаць агульна і катэгарычна, нібы назвы паселішчаў Барсукі, Ваўкі, Зайцы, Мядзведзь бяруць пачатак толькі ад назваў жывёл, а Шведы, Ляхі, Чэхі паказваюць толькі нацыянальнае паходжанне людзей, што некалі там жылі. Гэтыя назвы могуць быць мянушкавыя ці патранімічныя: хіба мала сярод беларускіх прозвішчаў такіх, як Барсук, Заяц, Мядзведзь, Лях, Швед?..

Паселішчы, што людзі: яны нараджаюцца, набываюць імёны, часам мяняюць іх, жывуць і паміраюць. Праўда, жыццё паселішчаў намнога даўжэйшае за жыццё чалавечае. Пісьмовыя помнікі сцвярджаюць, што Полацк быў ужо ў 861, Брэст у 1019, Віцебск у 1021, Мінск і Орша ў 1067, Гомель у 1142 гадах. Гэта старыя, з векавой гісторыяй, паселішчы. А ёсць і маладыя, якія ўзніклі зусім нядаўна. Вырас, скажам, на тэрыторыі Мінскага раёна пасёлак Акадэміі навук БССР — яму, як і немаўляці, далі новае імя: Сосны (1961 год), нарадзіўся ў Зялёналужскім сельсавеце Мінскага раёна пасёлак Навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі — і яго назвалі Лясны (1966 год). Або возьмем гарады Салігорск, Наваполацк, добра вядомыя сягоння і ў Беларусі і далёка за яе межамі.

Развіццё прамысловасці, павелічэнне колькасці людзей, рост адміністрацыйных і культурна-асветных устаноў прыводзяць да таго, што горад патрабуе сабе новай плошчы. Адкуль узяць гэтую плошчу? Часцей за ўсё яе бяруць за кошт далучэння навакольных паселішчаў (дарэчы, нярэдка забываюць пры гэтым, што ў самім горадзе не ўся зямля рацыянальна выкарыстана). Так, толькі ў пасляваенныя гады да Мінска адышлі вёскі Будзілава, Вількаўшчына, Вольшава, Вялікае Сціклева, Вялікая Слепня, Дражня, Зацішша, Малая Сляпянка, Маляўшчына, Мядзведжына, Сакалянка, Шчотаўка, Шэйпічы, Курасоўшчына, Грэбелька, Дворышча, Маляўкі, Цівалі, Чыжоўка, Чырвоная Слабада. Да Гомеля адышлі Верхні Брылёў, Ціценка, Прудок, Якубаўка, Ляшчынец, Ніжні Брылёў, Масцішча, Паўлава, Хутар Сеўрукоўская, Падгорная, Сонечны. Да Полацка — Кароўнікі. Гэта самае можна сказаць пра Гродна, Брэст, Магілёў, Пінск.

Многія паселішчы знікаюць пад час войнаў. З гадоў Вялікай Айчыннай вайны ўсе добра памятаюць Арадур і Лідзіцэ. У нас жа вёсак, знішчаных фашыстамі і не адроджаных пасля вайны, як засведчана магілкамі Хатынскага мемарыяльнага комплексу, сто трыццаць шэсць (усяго знішчана дзевяць тысяч дзвесце вёсак, дзвесце дзевяць гарадоў і гарадскіх пасёлкаў; забіта два мільёны дзвесце трыццаць тысяч чалавек — кожны чацвёрты жыхар рэспублікі...). Ста трыццаці шасці назваў не стала на пасляваенных картах Беларусі.

Да знікнення назваў вядзе таксама ссяленне з хутароў і аб'яднанне невялікіх паселішчаў у большыя. За некалькі апошніх гадоў, напрыклад, у Княгінінскім сельсавеце Мядзельскага раёна не стала фальваркаў Бор, Будкі, Скабяі, Фарнопаль, засценкаў Ашнарава, Асавок, маёнтка Салавей: усе яны мелі па некалькі хат і пераехалі ў суседнія, большыя, вёскі. Такая з'ява характэрная і для іншых мясцін рэспублікі.

Пры аб'яднанні большы населены пункт, да якога далучаецца меншы, як правіла, захоўвае сваю ранейшую назву ці бярэ з яе асноўны элемент, а назвы меншых паселішчаў выходзяць з ужытку і паступова забываюцца.

Часам пры аб'яднанні новае паселішча атрымлівае новую назву. Так, у Брэсцкай вобласці вёскі Старая Голя і Новая Голя, што зліліся ў адну, сталі называць вёскай **Пагранічная** (Камянецкі раён); у Віцебскай вобласці вёскі Пашы і Жарабцы — вёскай **Вішнявец** (Браслаўскі раён), вёскі Лежні Малыя і Лежні Вялікія — вёскай **Бярозніца** (Віцебскі раён), вёскі Кручок і Канец — вёскай **Альховец** (Гарадоцкі раён); у Гомельскай вобласці вёскі Курганне і Макрэнь — вёскай **Дружбічы**, а вёскі Новая Жэзленка і Старая Жэзленка — вёскай **Зялёная** (Буда-Кашалёўскі раён), вёскі Новая Быч і Старая Быч — вёскай **Акцяброва** (Рагачоўскі раён); у Магілёўскай вобласці вёскі Глупікі І і Глупікі ІІ — вёскай **Мірная** (Мсціслаўскі раён); у Мінскай вобласці вёскі Більдзікі і Кулакоўцы — вёскай **Зарэчная** (Дзяржынскі раён), вёску Жыватлодавічы, пасёлкі Крыжы і Прагрэс назвалі вёскай **Першамайск** (Любанскі раён), вёскі Блячына і Брыкаўшчына — вёскай **Садовая**, а вёскі Вялікая Балвань і Малая Балвань — вёскай **Загорная** (Нясвіжскі раён).

Нялёгкае мінулае беларуса, які аж да Кастрычніцкай рэвалюцыі не меў ні нацыянальных, ні эканамічных, ні палітычных правоў, знайшло вельмі яркае выяўлен-

не і ў назвах паселішчаў. Вось некаторыя з іх: **Балваны, Блошнікі, Бяздзелічы, Бясхлебічы, Галяшы, Гараваха, Дурневічы, Жарабцы, Жываглодавічы, Забулдычына, Звягі, Кабыляк, Каравінец, Каростаўка, Кнураўка, Лапці, Мартышкі, Мацюкі, Мямлі, Няўбілы, Падсвіны, Паршэвічы, Пярхайлы, Плюгаўка, Пляшыўцы, Свіналупы, Трыбухі, Ушыўцы, Халуі, Храновае, Цыцкавічы, Чухвары, Язвы...**

А побач — **Амерыка, Венецыя, Ерусалімка, Еўропа, Каўказ, Палесціна, Таўрыя...** Не бяда, што тая Амерыка (фальварак пана Сталеўскага) мела 47 дзесяцін зямлі і дзевяць жыхароў; у Венецыі (засценак графа Касакоўскага) на 20 дзесяцінах жыло пяцёра мужчын і дзве жанчыны; у Еўропе (маёнтак пана Нарбута) на 395 дзесяцін прыпадала васемнаццаць чалавек; Каўказ (засценак пана Гальдштэйна) займаў 10 дзесяцін, а на іх было чацвёра мужчын і дзве жанчыны. На Беларусі, у Крайскай воласці Вілейскага павета, было нават сваё Эльдарада (фальварак пана Таразевіча). Такія назвы — не проста пусты выдумак гаспадароў. Яны даваліся не толькі для таго, каб вылучыць панскае паселішча сярод мужыцкіх, але і з пэўным разлікам. Калі, скажам, граф Касакоўскі гаварыў: «Мы нядаўна вярнуліся з Венецыі» або Сталеўскі, знаёмячыся, заўважаў: «Праз два дні еду ў Амерыку», а Нарбут, п'янеючы, шаптаў на вуха суседцы-манерніцы: «Цяпер і пагуляць можна: жонка з дзецьмі ў Еўропе» ды яшчэ Гальдштэйн хваліўся: «Я — гаспадар Каўказа!» — гэта гучала, гэта рабіла ўражанне...

Вядома, старыя назвы, якія сведчылі пра галечу і нізкі культурны ўзровень народу, зневажалі людзей, абражалі чалавечую і нацыянальную годнасць. Гэтыя назвы не маглі быць прыняты новым, сацыялістычным укладам жыцця. І ўрад рэспублікі, падтрымліваючы хадайніцтвы мясцовых партыйных і савецкіх органаў, паступова скасоўваў старыя, зневажальна-абразлівыя, назвы паселішчаў і прысвойваў ім новыя імёны, сугучныя часу і новым умовам жыцця людзей. Вось некалькі прыкладаў. У Быхаўскім раёне вёску Царкоўны Асавец назвалі вёскай **Чырвоны Асавец,** у Чэрыкаўскім раёне пасёлак Маёнтак — пасёлкам **Камунар,** у Лоеўскім раёне вёску Папоўка — вёскай **Першамайск,** а пасёлкі Дзягцянка і Голае — пасёлкамі **Чырвоная Зара** і **Вішнёўка,** у Іванаўскім раёне вёску Смярдзяча вёскай **Дружба...**

Праўда, не заўсёды перайменаванні рабіліся ўдала. Не радуюць драгічан **Сірэнеўка** (былая вёска Калонія Навіна), браслаўчан **Малькі** (былая вёска Трыбухі), случан **Гуляева** (былая вёска Каты), палачан **Ліпавая** (былая вёска Галадніца)... Сярод новых назваў ёсць і **Васточная** (былая вёска Цуцкі Пастаўскага раёна), і **Заветная** (былая вёска Гапоны Сенненскага раёна), і **Каўровая** (былая вёска Дзяругі Аршанскага раёна), і **Лучазарная** (былая вёска Серакаротня (Сенненскага раёна), і **Рошча** (былая вёска Гнілякі Глыбоцкага раёна), і **Сцяпная** (былая вёска Ахруткі Лёзненскага раёна). А колькі стала **Знамяў, Рассветаў, Северных...**

Насуперак практыцы і зацверджанай інструкцыі, узаконьваецца няправільная перадача беларускіх назваў на рускай мове: вёску **Кастрычніцкая** (былое Кабылле Вілейскага раёна) чамусьці трэба называць па-руску вёскай **Октябрьская,** вёску **Паўднёвая** (былая Нехацяеўка Гомельскага раёна) — вёскай **Южная,** вёску **Сцяг** (былая Быкі Добрушскага раёна)— вёскай **Знамя,** вёску **Усход** (былая Блеўка Бялыніцкага раёна) — вёскай **Восток.** Хоць тут жа побач зусім правільная перадача: **Журавінка** (былая вёска Сываратка Дзяржынскага раёна)—**Журавинка, Крыніца** (былая вёска Кабыльнікі Воранаўскага раёна) — **Крыница.**

Адну і тую ж назву часам атрымлівае некалькі паселішчаў. Імя **Садовая** далі былым вёскам Фальварак Сенненскага раёна, Маёнтак Рагачоўскага раёна, Бабнёва Навагрудскага раёна, Блячына і Брыкаўшчына (аб'ядналіся ў адну) Нясвіжскага раёна; назву **Дружба** — былым вёскам Скорбічы Брэсцкага раёна. Яркі I і Яркі II (аб'ядналіся ў адну) Аршанскага раёна, Калатуны Ашмянскага раёна, Рылаўшчына Мінскага раёна.

Праўда, можна спаслацца на тое, што ў Беларусі ёсць ужо выпадкі, калі назвы вёсак паўтараюцца, супадаюць. Паводле падлікаў В. Жучкевіча, на тэрыторыі нашай рэспублікі 110 паселішчаў носяць імя Буда, Буды; 43 — Гута; болей за 40— Баяры; каля 40 — Стайкі; болей за 20 — Карма; 17 — Рэчыца... Ды старыя імёны нараджаліся стагоддзямі, часцей за ўсё незалежна адно ад аднаго, стыхійна, без таго ўзроўню інфармацыі, які маем сягоння, а тут за дзень узнікаюць дзесяткі **Вішнёвых, Калінавых, Малінавых, Рабінавых і г. д.**

Нараджэнне, жыццё і смерць зведалі не адны беларускія паселішчы ды іх назвы. Гэтая дыялектычная заканамернасць уласціва таксама паселішчам іншых краін і народаў. Гісторыя, напрыклад, захавала звесткі, што ў 720 годзе да нашай эры ў Паўднёвай Італіі быў заснаваны горад Сібарыс. Ён рос, развіваўся і стаў адным з самых вялікіх ды багатых гарадоў старажытнасці. Пра багацце Сібарыса пачалі складаць легенды, а людзей спешчаных, што жывуць у раскошы і бяздзейнасці, сталі называць сібарытамі. Горад пражыў амаль два стагоддзі і ў 510 годзе быў разбураны у выніку асады. Неўзабаве воды ракі, якая пасля землетрасення змяніла сваё рэчышча, затапілі руіны — і Сібарыс знік зусім. З цягам часу забылася нават





месца, дзе знаходзіўся горад. Цэлых восем гадоў група італьянскіх і амерыканскіх археолагаў шукала легендарны Сібарыс. Амаль за паўтары тысячы гадоў ён аказаўся пад пяціметровым пластом зямлі. Нядаўна пачаліся раскопкі горада.

Хоць у Беларусі населеных месц і паменела, наша рэспубліка даволі густа ўкрыта паселішчамі: на 207 600 квадратных кіламетраў іх прыпадае 29 342, што дае ў сярэднім па адным на сем квадратных кіламетраў. Усе без выключэння населеныя месцы зарэгістраваны. У сельсавецкіх кнігах можна знайсці назву населенага пункта, колькасць двароў і колькасць насельніцтва, адлегласць да цэнтраў сельскага і раённага Саветаў, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі. Кожны раз перад выбарамі назвы паселішчаў раёна падаюцца на старонках раённых газет. Але часам пры перанясенні на паперу назвы населеных пунктаў скажаюцца.

Перада мной пісьмо А. Жалкоўскага: «Мяне даўно непакояць скажэнні ў напісанні былога цэнтра Васілішкаўскага раёна **Астрыны,** што зараз у Шчучынскім раёне. Я там вучыўся ў школе, працаваў. Здаўна людзі называлі мястэчка Астрыной. Пасля вызвалення па-руску яго сталі называць Острыно. Адсюль чамусьці і на беларускай мове пачалі пісаць па-іншаму: «Астрыно, Острына, Вострына...» Хтосьці, хутчэй за ўсё не дужа пісьменны, няправільна перадаў на рускай мове беларускую назву. Яна трапіла ў даведнікі, на карты, зрабілася, як кажуць, афіцыйнай і нават паўплывала на беларускае слова. З канчаткам «-о» наша Астрына перастала скланяцца і перайшла жыць у сям'ю слоў «бюро», «дэпо», «кіно», «метро»...

Знявечаных беларускіх геаграфічных назваў не так ужо і мала. На Светлагоршчыне, калі верыць картам і даведнікам, з'явіліся **Асташкавічы, Хлебава Паляна** (ці нават **Гладкая Паляна), Зубліцкая Буда, Ліпнякі, Малынь, Паганцы, Рэдзькава, Сапейкі, Сталка, Стружкі...** Такіх назваў там ніхто не ведаў і не ведае. Былі і ёсць станцыя **Астанкавічы,** вёскі **Глебава Паляна, Зубарэўская Буда, Ліпнікі, Малын, Пагонцы, Радкоў, Сапейкаў, Скалка, Стужкі.** На Полаччыне старое мястэчка **Гомля** змянілі ў вёску **Гомель.** Карты, даведнікі, газеты — усе сцвярджаюць: Гомель. На штампе і на пячатцы (у Гомелі цэнтр сельскага Савета) напісана: «Выканком Гомельскага сельсавета...» А мясцовыя людзі трымаюцца старой назвы: ідуць з Гомлі, едуць праз Гомлю, бываюць у Гомлі, маюць родзічаў за Гомляй. Нават на плошчы ў Полацку, адкуль ходзяць аўтобусы, у графіку запісаны маршрут «Полацк — Гомля».

Ф. Янкоўскі ў адным з артыкулаў піша: «На Ушаччыне ёсць вёска (былое мястэчка) **Чэрсвя.** А ў абодвух канцах вуліцы надпіс на дошчачках: **«Чарсвяды».** Заехаўшы ў Чэрсвю, мы спыталіся: «Гэта Чарсвяды?» — «Не, нашы даражэнькія. Тут, як жывём мы, як жылі бацькі і дзяды нашы,— заўсёды была Чэрсвя, а Чарсвяды?.. Нехта, мусіць, каб пасмяяцца, павесіў гэтыя «чартведы»...— І людзі паказалі на слупкі, на якіх «вісяць Чарсвяды».

Дошчачак то з перакручанымі, то з непісьменнымі, ні па-руску, ні па-беларуску зробленымі, надпісамі нямала ў нашых вёсках. Едзеш, скажам, з Даўгінава на Плешчаніцы праз **«Жардяжжа»,** вяртаешся з Плешчаніц у Даўгінава праз **«Жердяжье».** Тое самае па дарогах Куранец — Касцяневічы (за два з паловай кіламетры перад Касцяневічамі на адным баку дарожнага паказальніка: **«Путрічы»,** на другім — **«Путричы»),** Крывічы — Мядзела (**«Наўры»** замест **«Наўрані», «Даўжане»** замест **«Даўжані», «Шкальнікова»** замест **«Шкленікова»).**

Непісьменнасць не толькі на дошчачках. Яе знойдзеш на шыльдах дзяржаўных устаноў, на штампах і нават на гербавых пячатках. З Асіповіцкага раёна Галіна Паўлаўна Лабанок паведамляе: «Вёска называецца **Вяззе.** Вывеска на сельскім Савеце «Вяззеўскі», і ўвесь час раённая газета «Запаветы Ільіча» піша «Вяззеўскі сельскі Савет» і «Вяззеўская сярэдняя школа». На пячатцы ж «Вязскі сельскі Савет» і «Вязская сярэдняя школа...» Бывае і яшчэ цікавей. У вёсцы **Далёкае,** што на Браслаўшчыне, ёсць школа, бальніца і сельсавет. У кожнай з устаноў свой штамп, а на штампе свая назва: «Далекская сярэдняя агульнаадукацыйная працоўная політэхнічная школа з вытворчым навучаннем...», «Далецкая сельская ўчастковая больніца...», «Выканаўчы камітэт Далекаўскага сельскага Совета...»

Несуадпаведнасць, мякка кажучы, бачна і тады, калі беларускія геаграфічныя назвы чытаеш на рускай мове. Вёскі **Вялікарыта** (Маларыцкі раён), **Вялікі Бор** (Хойніцкі раён), **Вялікія Лукі** (Баранавіцкі раён) зусім правільна транслітуюцца, як **Великорита, Великий Бор, Великие Луки.** Адсюль і сельсаветы **Великоритский, Великоборский, Великолукский.** Затое вёскі **Вялікая Ліпаўка** (Хоцімскі раён), **Вялікія Аўцюкі** (Калінкавіцкі раён), **Вялікія Дольцы** (Ушацкі раён), **Вялікія Нямкі** (Веткаўскі раён) па-руску чамусьці пішуць **Большая Липовка, Большие Автюки, Большие Дольцы, Большие Немки,** а сельсаветы называюць: **Великолиповский, Великоавтюковский, Великодолецкий, Великонемковский.**

Апошнія гады ў нашых геаграфічных назвах, калі яны перадаюцца на рускай мове, пашыраецца падваенне зычных: **Коссово, Осса, Плисса** (і **Пліса**), **Плюссы, Улла, Глусск** (і **Глуск**), **Гресск** (і **Греск**), **Россь.** Хоць гэта падваенне нічым не апраў-

данае, яно настойліва замацоўваецца даведнікамі і картамі. Відаць, на такое напісанне паўплывалі вытворныя рускія словы: **Глусский, Гресский, Росский, Плисский.**

Перайначаныя беларускія геаграфічныя назвы *можна пералічаць і пералічаць*: Будслаў, Зельва, Маладзечна, Міёры, Мядзель, Навагрудак, Параф'янава, Радашковічы, Скідэль, Слуцк замест **Будслаўе (як і Заслаўе), Зэльва, Маладэчна, Мёры, Мядзела, Наваградак, Пархвенава, Радашкавічы, Скідаль, Слуцак.** Адны правільныя назвы бытуюць сярод мясцовых людзей і зрэдку трапляюць у літаратуру, другія захоўваюць сваё законнае імя толькі ў вуснах народу, а афіцыйна жывуць іх знявечаныя двайнікі.

Адкуль ўзяліся гэтыя пераробкі-перакруты? Бо доўга чужымі мовамі пісалі беларускія назвы ў дакументах і ў літаратуры, на розных картах. Гэта рабіла беларускую назву зусім непазнавальнай ці прышчэплівала ёй формы, не ўласцівыя роднай мове. Да гэтага часу на Браслаўшчыне пішуць на польскі манер назвы хутароў **Ахрамаўшчызна, Вечараўшчызна, Гадаўшчызна, Камараўшчызна** і г. д., а ва ўсёй літаратуры — **Езёры, Міёры, Параф'янава.** Хоць тут ні націск, ні суфікс, ні графіка не беларускія. Таму і няма сягоння ўстойлівага напісання ні ў беларускай, ні ў рускай мовах шмат якіх нашых паселішчаў.

На якія думкі наводзіць роздум над назвамі нашых паселішчаў?

Першае: наспела пільная патрэба мець геаграфічны слоўнік, пра які ўжо не раз ішла гаворка ў перыядычным друку. Такі слоўнік памог бы станаўленню і нармалізацыі беларускіх назваў.

Другое: пераймяноўваць старыя паселішчы ці падбіраць імёны новым, што нараджаюцца ў наш час, трэба з пачуццём вялікай адказнасці. Бо, як справядліва сцвярджае вядомы тапаніміст У. Ніканаў, «яшчэ і сягоння перайменаванні часам прыдумваюць у канцылярыях, нават не пагаварыўшы з самім насельніцтвам, тады як у гэтай справе вырашаць павінен голас грамадскасці». Шырокае абмеркаванне кожнага перайменавання павінна стаць абавязковай нормай. Тады будзе болей гарантыі, што перастануць нараджацца новыя назвы, горшыя за старыя.

Яўген **РАПАНОВІЧ.**

**Дарагія сябры!
Надышоў час падумаць пра тое,
каб прадоўжыць падпіску
на
«МАЛАДОСЦЬ»
да канца года.**



# ГАЮЧЫ КАЛОДЗЕЖ



**У пячорах на Пскоўшчыне ёсць манастыр. Гэта — своеасаблівы помнік гісторыі. Сваёй назвай ён абавязаны пячорам, у якіх, як апавядае легенда, сярод лясной глухамані жылі людзі.**

**Пячорскі манастыр узнік у глыбокай старажытнасці, аднак першыя гістарычныя звесткі пра яго адносяцца да 1392 года. У свой час манастыр быў важным стратэгічным пунктам. Менавіта з-за стратэгічных меркаванняў цар Пётр І загадаў пабудаваць вакол яго велізарную каменную сцяну, якая і цяпер здзіўляе сваёй магутнасцю.**

**У двары манастыра знаходзіцца калодзеж, выкапаны многа стагоддзяў назад. Манахі аб'явілі яго ваду «святой». У свой час па яе прыязджалі з усіх куткоў Расіі. Многа ўжываў «святой» вады царскі двор. На самай жа справе гэта звычайная мінеральная вада.**

Ян **МАЙСТЭРС.**

# ВІЦЕБСКІЯ КУР'ЁЗЫ

Неяк я раскрыў вялікі тоўсты сшытак — успаміны чалавека, які ў гады чорнай мікалаеўскай рэакцыі служыў у Беларусі. Мы часта не ўяўляем сабе тую эпоху дзікага, а часам і... камічнага цемрашальства, эпоху, у якую загінулі Пушкін, Лермантаў, Грыбаедаў. Тупасць чыноўнікаў нават у Пецярбурзе даходзіла да абсурду. А што гаварыць пра правінцыю... Тут яна была бязмежная. Вось гэтая «камічная» тупасць надзвычай яскрава пададзена ў дзвюх невялікіх сцэнках з неапублікаваных мемуараў М. П. Багалюбава — унука А. М. Радзішчава (па маці) і брата вядомага мастака-марыніста, які разам са сваім дзядзькам А. А. Радзішчавым, грамадзянскім губернатарам Віцебскай губерні, прыехаў у Віцебск у 1846 годзе.

У той час Віцебск быў рэзідэнцыяй не толькі грамадзянскага губернатара, але і ваеннага губернатара ўсяго Заходне-рускага краю, у які ўваходзілі Віцебская, Магілёўская і Смаленская губерні. Ваеннаму генерал-губернатару падпарадкоўваліся, натуральна, усе грамадзянскія губернатары.

●



Доўгі санны шлях ад Пецярбурга да Віцебска дзядзька А. А. Радзішчаў і пляменнік М. П. Багалюбаў правялі ў размовах і жартах. На станцыях новага віцебскага губернатара, вядома, не затрымлівалі, коней мянялі хутка. Аднак дзядзька і пляменнік ехалі ў Віцебск з апаскай. І было чаго.

Дзіўныя рэчы расказвалі пра генерал-губернатара князя А. М. Галіцына. З ім, напрыклад, адбыўся яшчэ ў Туле, дзе ён быў да гэтага за губернатара, та-



кі выпадак. Праз Тульскую губерню правозілі звярынец. Разнеслася па губерні вестка, што ў час кармлення з клеткі ўцёк дзікі звер. А. М. Галіцын не замарудзіў разаслаць цыркуляр усім спраўнікам і станавым прыставам: «злавіць і даставіць жывога або мёртвага». І вось у час храмавога свята станавы прывёз забітага ім звера і паклаў у чаканні ўзнагароды на гарадской плошчы ля сабора, дзе пад той час шпацыраваў губернатар. Натоўп не мог рашыць, што гэта за дзікі звер. Не вырашыў гэтага і губернатар, які выйшаў на плошчу ў суправаджэнні мясцовых чыноў. Тады інспектар урачэбнай управы, нейкі Геслер, сказаў: «Гэта, несумненна,— амерыканская гіена!» Генерал-губернатар урачыста падзякаваў станавому і загадаў выдаць яму тут жа грашовую ўзнагароду.

Праз нейкі час у горад прыехаў вядомы пісьменнік-славянафіл Хамякоў. Яго фурман падышоў да забітай гіены і ахнуў, пазнаўшы ў ёй нядаўна купленага Хамяковым пародзістага харта-сабаку.

Мы не ведаем, як сустрэліся абодва губернатары, але характар Галіцына праявіўся хутка.

У Віцебскім губернскім праўленні ішлі таргі на пастаўку прыпасаў для гарадскіх бальніц. У самы іх разгар раптам усе замітусіліся: асобы кур'ер ад генерал-губернатара запатрабаваў губернатара да сябе. Таргі спынілі. А. А. Радзішчаў зашпіліў мундзір на ўсе гузікі, прымацаваў шпагу, паехаў у дом яго светласці...

— «А-а-а-а! Добры дзень, Апанас Аляксандравіч! — прывітаў Радзішчава прынцыпал, падаючы руку і прапануючы садзіцца.— Што параблясце?

— Таргі раблю ў губернскім праўленні на бальнічныя патрэбы, Ваша сіяцельства!..

— А я, ведаеце, хацеў пагаварыць з вамі пра варон!

— Як гэта пра варон, Ваша сіяцельства? Пра якіх?..

— Ды пра гарадскіх варон, а асабліва пра тых, што ў маім садзе жывуць. Іх развялося так многа, што не даюць спакою: з раніцы пачынаюць крычаць пад акном...

— Магчыма, у Вашага сіяцельства ёсць на прыкмеце нічым не занятыя людзі, якім ці не пажадана будзе даручыць распрацоўку гэтага пытання, а мне няма калі,— гаворыць губернатар, ледзь стрымліваючы сябе ад злосці.

— Я нікога не маю на прыкмеце,— адказвае «яго сіяцельства» разгублена.

— Загадайце паліцмайстру, каб ён знайшоў такога незанятага спецыяліста,— заканчвае губернатар, адкланьваючыся.

— Ну, так! Так! Выдатная думка!— падхоплівае Галіцын, узяўшыся за званочак і выклікаючы камердынера...»

Тэрміновая аўдыенцыя скончана!

●

Новы 1848 год. Еўропа ўзбуджана рэвалюцыяй, наспяваюць барыкадныя баі. А ў царскай Расіі? Вось як сустракалі гэты год гогалеўскія тыпы ў Віцебску. Першае студзеня. Вялікая прыёмная зала ў доме генерал-губернатара. Наборны паркет, вялізная люстра, чырвонае дрэва, бронза... Вядома, нязменны партрэт на ўсю сцяну гасудара-імператара Мікалая І з яго характэрнымі «ільдзістымі» вачыма. Штурхатня, вясёлы, але прыглушаны гоман чыноўнікаў у мундзірах з залатымі гузікамі (ёсць і немундзірныя, фрачнікі,— мясцовыя памешчыкі). Усе яны з'ехаліся павіншаваць «яго светласць» з Новым годам. Віншуюць адзін аднаго. Размовы круцяцца вакол толькі што праведзеных каляд. Усе пазіраюць на высокія дзверы кабінета, адкуль вось-вось з'явіцца «сам». З кабінета даносяцца гучныя галасы. Туды толькі што запрасілі грамадзянскага губернатара А. А. Радзішчава і генерала М. О. Без-Карніловіча, які ўжо некалькі гадоў кіруе геадэзічнай здымкай губерні. А цяпер дадзім слова М. П. Багалюбаву...



«Але вось адчыняюцца дзверы кабінета, натоўп перапалохаўся, змоўк і пачаў строіцца ў правільныя шарэнгі. Але, замест князя, таропка выйшаў камердынер, схаваўся за другімі дзвярыма, вярнуўся з той жа паспешлівасцю ў кабінет з чырвонай вяровачкай, якой абвязваюць пучкі гусіных пер'яў. За дзвярыма чулася вясёлая гаворка і смех трох генералаў, але прычыны ніхто не ведаў. Нарэшце, выйшаў князь, а за ім А. А. Радзішчаў і М. О. Без-Карніловіч. Урачыстае прадстаўленне скончылася так жа хутка, як і з'яўленне прынцыпала. Зала апусцела.

— Скажыце, дзядзя, для чаго спатрэбілася вяроўка?

— А гэта, мілы друг, для таго, каб вырашыць дзяржаўнае пытанне аб параўнаўчай таўшчыні трох генералаў.

— Як гэта?

— Ды так. Вельмі проста. Калі ўвайшоў Без-Карніловіч, то князь заўважыў, што ён уваходзіў у дзверы не прама, а некалькі бокам, і ўслед за гэтым зайшла гаворка, хто з нас трох самы тоўсты.

— Хто ж яе пачаў?

— Вядома, князь! Каму ж больш! Без-Карніловіч ніяк не хацеў згадзіцца, што ён самы таўсцейшы, а князь настойваў на вырашэнні пытання катэгарычна, і вось, каб вырашыць спрэчку беспаваротна, вяроўка і спатрэбілася.

— Хто ж каго перасягнуў?

— Князь аказаўся танчэйшы за ўсіх, а Без-Карніловіч — самы тоўсты».

Вось так за дзвярыма, пакуль чыноўнікі з хваляваннем чакалі князя, салідныя генералы забаўляліся, абмерваючы свае аб'ёмы.

**Леанід АЛЯКСЕЕЎ**,
кандыдат гістарычных навук.

# САМАЕ

## ЛЁГКАЕ...

Якое самае лёгкае дрэва ў свеце? Многія, не задумваючыся, адкажуць: коркавае. Не. У Паўднёвай Амерыцы — у Эквадоры — расце дрэва, якое завецца бальса. Яно ў два разы лягчэйшае за коркавае. Удзельная вага бальсы — 0,12. Бальса (па-іспанску — пліта) мае белую аксамітную драўніну, добра рэжацца і колецца. У крамах, што гандлююць сувенірамі, можна ўбачыць тоненькія беленькія дошчачкі таўшчынёй не больш 4—5 мм. На адваротным баку намаляваны акварэллю беласнежная вяршыня Чэмбарэла і пальмы, адлюстраваныя ў заліве.

Бальса не толькі лёгкая. У яе многа і іншых каштоўных уласцівасцей. Бальсавымі плітамі выкладваюць сцены вагонаў-леднікоў, халадзільнікаў, інкубатараў. Па цеплаізаляцыйных якасцях яны вышэй за лямец і многія іншыя матэрыялы.

На эквадорскіх аэрадромах можна сустрэць самалёты з бальсавай драўніны. На азёрах і рэках і нават у моры часта ўбачыш плыты і паромы з бальсавага дрэва. Славуты плыт «Кон-цікі», на якім група смельчакоў перасекла Атлантычны акіян, быў зроблены з бальсавых бярвенняў. Даўжыня гэтых бярвенняў каля пяці метраў, на тарцы месціцца чаравік 42 памеру. Бальсавае бервяно можа падняць і панесці адзін чалавек, а было б яно дубовае ці бярозавае, дык спатрэбілася б пяць чалавек.

## МОЦНАЕ...

З даўніх часоў вырабы з слановай косці прыцягвалі ўвагу прыхільнікаў мастацтва. Некалькі гадоў назад у слановай косці з'явіўся сапернік. Гэта арэхі пальмы фітэлефас макракарпа. Цэлымі месяцамі блукаюць зборшчыкі арэхаў па балотах, зрываючы плады велічынёй з чалавечую галаву. Доўгі час на гэтыя арэхі ніхто не звяртаў увагі. Але вось аднойчы хтосьці заўважыў, што ядры пераспелых арэхаў белыя і цвёрдыя, як слановая косць. Выявілася, што яны не менш даўгавечныя, чым слановыя біўні.

Ядры гэтых арэхаў не баяцца вільгаці, не страчваюць сваёй белізны нават пры мыцці ў пральных машынах, не разбураюцца ні ад гарачыні, ні ад холаду. Ім хоць бы што самы круты кіпецень.

З гэтых арэхаў у Эквадоры пачалі выраблять розныя цацкі і аздобы. У магазінах можна купіць шахматы, мініяцюрныя вазачкі, каралі, гузікі. Іх цяжка адрозніць ад вырабаў з слановай косці.

**Барыс РОЗЕН.**

# ШТО ТАМ, ЗА ДАЛЯГЛЯДАМ...

Шасцідзесятыя гады прынеслі нам нямала спартыўных перамог. Упершыню чалавек прабег сто метраў менш чым за 10 секунд, кінуў молат — самы цяжкі з лёгкаатлетычных снарадаў — за 75 метраў. Бразільскі футбаліст Эдсан Арантэс да Насімента, якога любоўна завуць усе Пеле, забіў свой тысячны гол.

Але цікавая рэч: у 60-я гады, гады прынцыпова новай вылічальнай тэхнікі, усё менш паяўляецца ахвотнікаў складаць спартыўныя гараскопы. Павыводзіліся дзівакі, якія, не выходзячы са свайго пакоя, браліся складаць табліцы сусветных рэкордаў на дзесяць гадоў наперад. І хоць цяпер можна было б узброіцца навуковымі метадамі прагназіравання, за гэтую няпэўную справу мала хто бярэцца. Таму што іменна 60-я гады з новай сілай раскрылі перад намі невычарпальныя магчымасці чалавечага арганізма, і рубяжы, якія невыразна вbelieve... 

Спартсмены старэйшага пакалення памятаюць дасягненне кіяўляніна Якава Куцэнкі, які незадоўга перад вайной першы з савецкіх цяжкавагавікоў падняў у суме трох рухаў 400 кілаграмаў. А летась такую суму набраў «міні-волат» — атлет паўлёгкай вагі японец Іасінобу Міякэ. На пачатку 60-х гадоў нашы асілкі Юры Уласаў і Леанід Жабацінскі адчынілі перад штангістамі дзверы ў клуб «500», дзе збіраліся атлеты, якія ў суме трохбор'я мелі па 500 кілаграмаў.

Услед за волатамі-цяжкавагавікамі ў 1968 годзе ў гэты клуб прабіўся першы паўцяжкавагавік—савецкі атлет Ян Тальтс. А летась у «Советском спорте» з'явіўся шматзначны загаловак: «Сярэдневагавікі стукаюцца ў клуб «500».

Рубяжы бяруцца адзін за другім. Крокі рэкордаў зусім не запавольваюцца, хоць, здавалася б, што, чым большая вага штангі, тым больш упарта яна павінна супраціўляцца атлету. Прычын такога прагрэсу ў гэтым відзе спорту нямала. Тут і ўдасканаленне сістэмы трэніровак, і дакладнасць выканання кожнага цяжкаатлетычнага практыкавання — жыму, рыўка, штуршка, і больш упарадкаваная арганізацыя пошуку талентаў, і павышэнне ролі псіхалагічнай падрыхтоўкі для барацьбы на памосце. Але галоўнае, на мой погляд, гэта з'яўленне атлета новага тыпу.

Якім ён мне ўяўляецца, гэты сучасны асілак? Сваімі прыроднымі якасцямі, чыста фізічнымі здольнасцямі ён, магчыма, і не вышэй за атлетаў ранейшага тыпу. Тым таксама сілы ставала. Цяперашні чэмпіён у цяжкай атлетыцы вызначаецца, перш за ўсё, сваім духоўным багаццем. Ён перастаў быць проста матэрыялам у руках трэнера, нават самага вопытнага і дасведчага — ён стаў яго аднадумцам. Адным немым воклічам «Трымаць!», калі штанга над галавой, але вырываецца з рук, яму нічога не дакажаш. Ён імкнецца асэнсаваць увесь трэніровачны працэс у цэлым і кожнае дзеянне ў паасобку. Яму трэба зразумець, што, як і чаму ён робіць. Ён не ва ўсім згаджаецца з трэнерам, часам спрачаецца з ім, і разам яны шукаюць адзіна прымальныя для яго шляхі да рэкордаў.

Атлет новага тыпу дзёрзкі. Лічбы ўжо не дзейнічаюць на яго магічна. Кілаграмы і сумы, якія ўчора здаваліся недасягальнымі, фантастычнымі, зусім яго не палохаюць. Магутная штанга, да якой раней і падыходзіць баяліся, не здаецца яму лютым ворагам, і ён усё часцей думае: «А чаму б і не мне адолець яе?» Апошняе, мне здаецца, вельмі важна. Бягун, плывец, канькабежац могуць быць гатовы да рэкорднага выніку, могуць імкнуцца да яго, але ні ў момант старту, ні на фінішы яны не скажуць, ці будзе рэкорд. І ніхто не мае права папракнуць іх, калі атака не ўдалася. Штангіст жа, выходзячы на памост, ведае, якую вагу яму давядзецца падняць. Ён ведае, што зараз, у гэтую мінуту, яму трэба ўступіць у барацьбу за рэкорд і адступаць няма куды. Пагадзіцеся, што для гэтага, акрамя сілы, патрабуецца ўменне ў найкарацейшы прамежак часу сканцэнтраваць усе свае намаганні фізічныя і маральныя. У гэтым са штангістамі можна параўнаць хіба толькі тых, хто скача ў вышыню і з шастом. Ім таксама загадзя вядомы вынік, на які яны ідуць. Для гэтага патрэбна рашучасць, смеласць і, калі хочаце, дзёрзкасць.



Усе якасці атлета новага тыпу асабліва ярка ўвасобіліся ў эстонцы Яне Тальтсу. Ён уважлівы і чулы да парад трэнера і ў той жа час надзвычай самастойны і ў трэніроўках, і на спаборніцтвах. Адкрыўшы дарогу «паўцяжкавагавікам» у клуб «500», устанавіўшы цэлую серыю бліскучых сусветных рэкордаў, Ян знайшоў мужнасць адмовіцца ад іх, адмовіцца ад рэваншу з фінам Каарла Кангасніемі, якому ўступіў на Алімпіядзе ў Мехіка, і, фактычна, пачаць усё спачатку, перайсці ў наступную вагавую катэгорыю— першую цяжкую. Гэта было вынікам дакладнага і цвярозага аналізу сваіх магчымасцей і перспектывы. Тальтс разумеў, што цаной вялізных намаганняў і першнаперш пакутлівага змяншэння вагі ён мог бы яшчэ паспрачацца з фінам, адваяваць у яго не адзін рэкорд. Але тады б ён вельмі многа страціў у тэмпах і магчымасцях для росту, якія яму дае першая цяжкая вага. І Тальтс адважыўся.

Менш за год яму спатрэбілася, каб стаць чэмпіёнам свету ў новай вагавой катэгорыі, і столькі ж, каб падняць штангу, якая для людзей, чыя вага не перавышае 100 кілаграмаў, здавалася проста непадступнай — 212,5 кілаграма. (Заўважым, што больш паднімалі ў свеце толькі чатыры чалавекі — волаты з уласнай вагою 130 і больш кілаграмаў.)

Шмат агульнага з Тальтсам мае Віктар Куранцоў — алімпійскі чэмпіён у Мехіка, атлет, які адчувае сябе вінаватым, калі яго выхад на памост не ўвенчваецца сусветным рэкордам.

Магчыма, запярэчаць, што Тальтс і Куранцоў — імёны не новыя, іх ведаюць не першы год. Але прыгадаем іншае. Раней год, які ішоў следам за алімпійскім, звычайна, быў непрыкметным. Для кагосьці алімпіяда станавілася апошнім стартам, хтосьці дазваляў сабе адпачынак, а моладзь, якая спадзявалася на наступную алімпіяду, яшчэ не паспявала зрабіць заяўку. Гэта лічылася заканамерным.

Нічога падобнага ў мінулым пасляалімпійскім годзе не адбылося. Не паспеў аціхнуць шум мексіканскіх баталій, як ленінградзец Барыс Сяліцкі, які толькі што стаў уладальнікам вышэйшага алімпійскага тытула, падняў рэкордную для сярэдневагавікоў штангу ў штуршку — 190,5 кілаграма. Гэта прагучала як заклік для астатніх. Рынуўся на штурм сваіх рэкордаў Каарла Кангасніемі. Іосінобу Міякэ, які аб'явіў, што пакідае спорт, раптам вярнуўся на памост і ажыццявіў запаветную мару ўсіх паўлёгкавагавікоў — 400 кілаграмаў у суме трохбор'я.

Летась на ўвесь голас заявілі пра сябе маладыя атлеты, якіх раней было амаль не чуваць. Балгарын Младан Кучаў устанаўлівае сусветны рэкорд у жыме для атлетаў паўлёгкай вагі. Іранец Насрола Дэхнаві, яшчэ не выйшаўшы з юніёрскага ўзросту, б'е «свежаспечаны» сусветны рэкорд румына Фіці Балаша ў тым жа руху для лёгкавагавікоў. Самы лёгкі з усіх чэмпіёнаў свету — львоўскі атлет Уладзіслаў Крышчышын —авалодвае трыма рэкордамі ў новай вагавой катэгорыі — найлягчэйшай. І ўжо з зусім небывалай вастрынёю разгортваецца барацьба сярэдневагавікоў. Пачалося з та-



Генадзь Рабаконь.




Рафаіл Белянкоў.

го, што на першынстве Савецкага Саюза ні алімпійскі чэмпіён Сяліцкі, ні яго дублёр кіяўлянін Уладзімір Бяляеў не змаглі дасягнуць поспеху. Чэмпіёнам стаў малавядомы атлет Уладзімір Колатаў. Потым на спартакіядзе Узброеных Сіл СССР у Кіеве ваеннаслужачы з Мінска Арнольд Галубовіч устанаўлівае два сусветныя рэкорды: жым — 170 кілаграмаў, а сума трохбор'я — 490 кілаграмаў. Здавалася, у сярэдневагавікоў з'явіўся новы лідэр. Але дзе там! Нікому не вядомы рыжанін Генадзь Іванчанка набірае суму 492,5 кілаграма. Сёй-той спачатку аднёсся да яго выніку скептычна: трэба будзе яшчэ паглядзець, што гэта за кілаграмы, якія падняў Іванчанка. Але неўзабаве на камандным першынстве СССР у Львове пры аўтарытэтнейшых арбітрах Генадзь паляпшае сваю суму на 2,5 кілаграма, ды яшчэ «адначасова» б'е сусветны рэкорд у штуршку — 191,5 кілаграма. Да гэтага застаецца дадаць серыю рэкордаў у жыме шведа Ханса Бетэнборга і выдатны штуршок савецкага юніёра харкаўчаніна Барыса Паўлава — 191 кілаграм, які некаторы час лічыўся сусветным рэкордам. Такога масавага штурму рэкордных вышынь не помняць нават самыя педантычныя статыстыкі і тонкія знаўцы цяжкай атлетыкі. І што характэрна — арганізавалі гэты штурм тыя, хто год назад, да алімпіяды, зусім не значыліся ў спісах мацнейшых.

Яшчэ нядаўна ўсё гэта не мела б асаблівай цікавасці для беларускага чытача па той простай прычыне, што атлеты нашай рэспублікі да штурму вышынь сусветнага і нават усесаюзнага маштабаў ніякіх адносін не мелі. Цяпер мы, не ўтойваючы задавальнення, можам заўважыць: мінулы год змяніў становішча карэнным чынам. Справа не ў адным Галубовічу. Упершыню ў складзе зборнай Савецкага Саюза на чэмпіянаце свету быў беларускі штангіст Валеры Шары — сябар, аднаклубнік і сапернік Галубовіча. Ён заваяваў сярэбраны медаль у штуршку і бронзавы ў рыўку. Мінскі спартакавец Рафаіл Белянкоў перамог на камандным першынстве Савецкага Саюза сярод атлетаў лягчэйшай вагі і палепшыў рэкорд краіны ў жыме. Ён цяпер — галоўная надзея нашых трэнераў у гэтай вагавой катэгорыі. Віцяблянін Генадзь Рабаконь на тых жа спаборніцтвах быў першым сярод цяжкавагавікоў з сумай сусветнага класа — 550 кілаграмаў. У іх дасягненнях вялікая заслуга нашых трэнераў — Рыгора Гальдштэйна, Паўла Зубрыліна, Мікалая Кастылёва.

Але хочацца вярнуцца да спартыўнага лёсу Арнольда Галубовіча, бо ён хоць і не зусім звычайны, але, тым не менш, характэрны. Мне давялося бачыць першыя крокі Галубовіча ў цяжкаатлетычным спорце. Пяць гадоў назад у рэспубліканскі камітэт па фізкультуры і спорту (тады Саюз спартыўных таварыстваў і арганізацый) прыйшло салдацкае пісьмо. Аўтар настойліва ўпрошваў дапусціць яго да ўдзелу ў першынстве Беларусі сярод юніёраў. І навічок перамог усіх лёгкавагавікоў.

Самародкаў-самавукаў мне даводзілася бачыць на цяжкаатлетычным памосце і раней. Як правіла, яны вызначаліся вялікай сілай ад прыроды, але былі, як кажуць спартсмены, «захістаныя». У пагоні за аб'ёмам мышцаў яны забываліся пра іх эластычнасць, пра здольнасці да хуткага скарачэння і таму паспяхова выконвалі толькі адно практыкаванне, чыста сілавое — жым. Галубовіч жа быў развіты вельмі гарманічна, валодаў ня͏дрэннай тэхнікай іншых рухаў, хоць даходзіў да ўсяго сваім розумам. Адчувалася, што хлопец умее трэніравацца свядома, прадумана.

Праз два гады зноў сустрэліся з Арнольдам. Ён служыў ужо ў Мінску, быў майстрам спорту, але да гэтага звання аднёсся вельмі сціпла. Відаць было, што ён думае пра большае, менавіта думае, а не проста марыць. Вынікі яго раслі вельмі паспядоўна, і таму рэкордныя кілаграмы Арнольда Галубовіча не выглядалі якімсьці адкрыццём. Ён ішоў да іх свядома, настойліва і смела.

Калі думаць пра тыя кілаграмы, што прадстаіць падняць чэмпіёнам наступнай, мюнхенскай, Алімпіяды 1972 года, то становіцца нават крыху боязна. І радасна. Радасна, бо гэта будзе новае праяўленне сілы чалавека, моцы яго духу, умення змагацца з таямнічай сілай зямнога прыцягнення і перамагаць яе. А, перш за ўсё, гэта азначае «сябе перадолець» — так аднойчы коратка, але выразна сфармуляваў сутнасць цяжкаатлетычнага спорту вялікі штангіст нашага часу Юры Уласаў.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**
Фота **Д. Церахава.**



Раздзел вядзе міжнародны майстар Макс ШАВЕЛЬ

# УНІВЕРСАЛЬНЫ ЧЭМПІЁН СВЕТУ



**Андрыс Андрэйка, Ісэр Куперман** (сядзяць). **Анатоль Гантварг, Макс Шавель, Вячаслаў Шчогалеў** (стаяць).

Званне чэмпіёна свету разыгрываецца вось ужо семдзесят гадоў, і толькі адзін з «шашачных каралёў» меў права насіць тытул «універсальнага».

Чаму ж так атрымалася? Скажам адразу — вінавата формула вызначэння мацнейшага шашыста. Справа ў тым, што кожныя два гады, а часам і часцей, чэмпіён свету адстойвае сваё званне ў барацьбе з тымі, хто здолеў кінуць чэмпіёну выклік і перамог у адборачных турнірах. Адзін жа раз у чатыры гады, звычайна, у год высакосны, наладжваецца Вялікі алімпійскі турнір, у якім прымаюць удзел чэмпіён свету і пераможцы нацыянальных чэмпіянатаў розных краін, якія ўваходзяць у міжнародную шашачную федэрацыю. Пераможцу прысвойваецца званне чэмпіёна свету, а той, хто страціў гэтае званне, мае права выклікаць новага чэмпіёна на матч-рэванш. У прамежках паміж Алімпійскімі турнірамі адбываецца турнір прэтэндэнтаў, пераможца якога гуляе матч на званне чэмпіёна свету.

Нялёгкі шлях да перамогі. Трэба вытрымаць напал турнірнай барацьбы, падабраць да кожнага партнёра свой, асаблівы, прыём гульні. Да таго ж, статыстыка сведчыць, што самае цяжкае — перамога не ў Вялікім алімпійскім турніры, дзе непасрэдна даецца званне чэмпіёна свету, а ў матчы з дваццаці партый над прэтэн-

дэнтам. Многім такое сцверджанне здасца дзіўным. Але вось што паказвае статыстыка.

На працягу ўсёй шашачнай гісторыі сыграна каля дваццаці матчаў за званне чэмпіёна свету. Чэмпіёны здолелі выйграць толькі палову з іх, а калі ўзяць вынікі такіх матчаў за апошнія дваццаць гадоў, можна пераканацца, што амаль заўсёды перамога была на баку прэтэндэнтаў. Таму шашыста, які перамог на Алімпійскім турніры і папярэдне здолеў захаваць гэтае званне пасля гульні ў матчы з прэтэндэнтам, і называюць — «універсальным» чэмпіёнам.

З часу, калі савецкія спартсмены актыўна ўключыліся ў барацьбу за тытул чэмпіёна свету па шашках, неаднаразова перамагаў і адстойваў сваё званне ў матчах кіяўлянін Ісэр Куперман, двойчы атрымліваў перамогу ў Алімпійскіх турнірах Вячаслаў Шчогалеў, і, нарэшце, у 1968 годзе ў італьянскім горадзе Бальцана быў увенчаны лаўровым вянком гросмайстар з Рыгі Андрыс Андрэйка. Гросмайстар Куперман, які з гэтага часу стаў экс-чэмпіёнам, заняў у турніры другое месца. Згодна з правіламі міжнароднай шашачнай федэрацыі, ён вырашыў выкарыстаць свае правы на матч-рэванш.

Шашачная грамадскасць з цікавасцю чакала гэтай сустрэчы «на вышэйшым узроўні». На працягу апошніх гадоў чэмпіён свету і экс-чэмпіён сустракаліся ў розных спаборніцтвах трыццаць шэсць разоў. Яшчэ незадоўга да Алімпійскага турніра Андрэйка ў якасці пераможцы матча прэтэндэнтаў выклікаў на матч Купермана, але прайграў з лікам 9:11. Цяпер яны памяняліся месцамі: ужо Куперман павінен быў распрацоўваць новыя стратэгічныя планы для перамогі над новым чэмпіёнам.

Матч адбыўся. Вынікі вядомы ўсім. Таямніцы падрыхтоўкі раскрыты трэнерамі абодвух партнёраў. І можна толькі здзіўляцца, з якой псіхалагічнай праніклівасцю падышлі абодва шашысты да гэтага вельмі адказнага спаборніцтва! У часе матчаў мацнейшых звычайна не гавораць пра спартыўную форму і пра тэарэтычныя веды партнёраў — само па сабе зразумела, што іх натрэніраванасць і веды дасягнулі вышэйшага ўзроўню. У матчах роўных па майстэрству ігракоў рашаючым бывае ўменне правільна размеркаваць сілы на ўсёй дыстанцыі з дваццаці партый, уменне адчуць і выкарыстаць той момант, калі праціўнік не чакае новага стратэгічнага падыходу. У гэтых адносінах падрыхтоўка чэмпіёна свету была вельмі прадуманай і пераўзышла ўсе чаканні прэтэндэнта.

У выпадку нічыйнага ліку (10:10) званне чэмпіёна свету застаецца за ранейшым яго ўладальнікам. Можна было меркаваць, што такая ўмова будзе моцна ўплываць на барацьбу: чэмпіён будзе імкнуцца да разменаў, а прэтэндэнт пойдзе на любыя ўскладненні, каб толькі не ісці на размен. Аднак гэтага не здарылася, і першыя партыі матча праходзілі ў складанай манеўранай барацьбе, прычым прэтэндэнт даволі часта ўжываў разменныя працягі і, здавалася, зусім не пярэчыў супраць нічыйнага заканчэння шэрагу партый. Паступова напал змагання рос. Праўда, чэмпіёну свету ўдавалася па-майстэрску гасіць полымя камбінацыйнай гульні, але партнёры разумелі, што рашаючыя партыі матча будуць сыграны ў самыя бліжэйшыя дні.

Першым адважыўся рэзка змяніць ход барацьбы чэмпіён. У восьмай партыі ён перайшоў да актыўнай атакі камандных пунктаў дошкі, і ўжо ў мітэльшпілі пасля недакладнага ходу прэтэндэнта трывала захапіў ініцыятыву. Прэтэндэнт, бачна было, не чакаў сутыкнуцца з такім агрэсіўна настроеным партнёрам і, замест таго, каб, улічваючы характар пазіцыі, дамагацца нічыйнага выніку, яшчэ больш абвастрыў гульню пераводам яе ў рэчышча камбінацыйных ускладненняў. Аднак Андрэйка разгадаў усе пасткі партнёра і, робячы серыю адзіна магчымых хадоў, прывёў партыю да выйгрышнага становішча. Прэтэндэнт, які да таго ж апынуўся ў моцным цэйтноце, быў вымушаны пры дапамозе некалькіх ахвяр прабівацца ў дамкі. У гэты напружаны момант сустрэчы, гуляючы на цэйтнот праціўніка, чэмпіён свету робіць узапар два памылковыя хады, ствараючы на дошцы нічыйную пазіцыю. Але прэтэндэнту ўжо не ўдалося выкарыстаць гэту нечаканую «паслугу» — кантрольны сцяжок на ягоным гадзінніку апусціўся.

Гэта перамога дала чэмпіёну свету значную перавагу ў ліку і добрыя шансы на перамогу ў матчы. Але ў наступнай партыі ён дапусціў шэраг недакладнасцей і нечакана апынуўся амаль што перад пройгрышам, толькі вельмі ўчэпістая з яго боку абарона зрабіла вынік нічыйным.

Рашаючыя падзеі матча былі ў трынаццатай і пятнаццатай партыях. Тут чэмпіён іграў лёгка і вельмі вынаходліва, дэманструючы майстэрства абараняцца і здольнасць пераходзіць у патрэбны момант у атаку. Якраз у гэтых партыях Андрэйка здолеў перамагчы і гэтым канчаткова атрымаў пераканаўчую перавагу ў матчы.

Заключныя партыі, па сутнасці, нічога не маглі ўжо змяніць і прывялі толькі да выніку 11,5:8,5 у карысць чэмпіёна свету. Андрэйка стаў першым з савецкіх гросмайстраў, які атрымаў перамогу і ў Алімпійскім турніры і ў матчы з прэтэндэнтам, г. зн. стаў «універсальным» чэмпіёнам.





● Георгі ЮРЧАНКА

# ПАРОДЫІ

Сяброўскія шаржы Міхася Лісоўскага.

## НЯЛАДДЗЕ



Вам, пэўна, дзіўна, што са мной
няладдзе —
А гэта адбываецца са мной.
Яўген КРУПЕНЬКА.

Я раўнавагу незаўважна страціў
І не магу яе ўжо адшукаць:
Зіма, мароз,— а мне грыбы збіраць бы,
Вясна, цяпло,— а мне б на лыжы стаць.

Я за сабою назіраю ўпотай
І покуль што сябе не зразумеў:
То мройна ціснуць сум і адзінота,
То ўвесь Сусвет абняў бы, каб прымеў;

То я блакноты спісваю з запалам,
То мой па століі блукае пагляд;
То хочацца мне спорваць гнёзды галак,
То цягне ўкрасці ў кошкі кацянят.

Жыву даўно ў няведамай уладзе,
Як ад жыцця аддзелены сцяной...
Вам, пэўна, дзіўна, што са мной няладдзе,
Але ж няладдзе ўсё-такі са мной!..

## ПРЫРУЧЫЦЕ МЯНЕ



Я непрыручанаю птушкай
Жыву між сполахаў і дрэў.
Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.

Надзеі прывіднай не гушкай,
Не кідай поглядаў здалёк.
Жыву, як птушка-весялушка,
Як лёгкакрылы матылёк.

Замкнула сэрца я маланкай
І ў мора кінула ключы...
О, дзе ён той, што майскім ранкам
Мяне здалее прыручыць?..

# нашы аўтары

●

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў мястэчку Мір на Гродзеншчыне. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Працуе рэдактарам на Мінскай студыі тэлебачання.
Аўтар зборнікаў «Асколкі і росы», «Поўня», «Абнаўленне».

●

**ФАМІН Уладзімір** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Старынка Мсціслаўскага раёна. Скончыў Мінскую вышэйшую партыйную школу. Працуе ў рэдакцыі газеты «Мінская праўда».

●

**ПІШЧЫКАВА Клара** нарадзілася ў 1933 годзе ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

●

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Старына Ушацкага раёна. Скончыла Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага.
Выйшлі з друку кніжкі «Сакавік», «Абутая ёлачка», «Купалка», «Калі помніць аб сонцы», «Харастзо» і іншыя.

●

**РЫБАК Алесь** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Макаўчыцы Дзяржынскага раёна на Міншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе ў аддзеле апублікавання актаў Вярхоўнага Савета пры сакратарыяце Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

●

**ЛОБАЧ Святлана** нарадзілася ў 1939 годзе ў мястэчку Плешчаніцы Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР.

●

**ЯРАЦ Віктар** нарадзіўся ў 1948 годзе ў пасёлку Чырвоны Мост Рэчыцкага раёна. Працаваў у рэдакцыі Рэчыцкай райгазеты, цяпер — студэнт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта.

●

**БАРУШКА Віктар** нарадзіўся ў 1921 годзе ў г. Мярэфа Харкаўскай вобласці. Член КПСС. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Закончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Працаваў карэспандэнтам «Праўды» па заходніх абласцях БССР, цяпер — загадчык аддзела прапаганды газеты «Советская Белоруссия».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 3**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктар **Марыя Васілеўская.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, ГСП, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **2-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **2-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **2-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **2-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/I-70 г. Падпісана да друку 26/II-70 г
АТ 26146. Тыраж 14 319 экз. Зак. 670. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**






**Валянцін ЦІХАНОВІЧ.** У Белавежскай пушчы. Афорт.